Праваабарончы цэнтр «Вясна»

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў 2012 годзе

## АГЛЯД-ХРОНІКА

Мінск, 2013

# СІТУАЦЫЯ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ Ў 2012 ГОДЗЕ

## АГЛЯД-ХРОНІКА

Аўтар-складальнік: Таццяна Рэвяка

Рэдактар і аўтар уступнага артыкула:
Валянцін Стэфановіч

Кніга падрыхтавана на падставе аглядаў сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі за кожны месяц 2012 года. Кожны з месяцовых аглядаў уключае аналіз важнейшых падзей, якія ўплывалі на выкананне правоў чалавека за дадзены перыяд, а таксама найбольш яўныя і характэрныя факты парушэнняў, зафіксаваных за гэты час.

Агляд падрыхтаваны на падставе асабістых зваротаў ахвяр парушэнняў правоў чалавека, фактаў, зафіксаваных праваабаронцамі, а таксама агучаных у адкрытых крыніцах інфармацыі.

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі Юліі Дарашкевіч, Дзмітрыя Брушко, Сяргея Гудзіліна, Настассі Лойка, інтэрнэт-сайтаў http://photo.bymedia.net, http://nn.by, http://euroradio.fm, http://www.svaboda.org, http://volkovysk.by, http://gazetaby.com, http://mfront.net, http://www.reuters.com, http://belsat.eu/be, belhouse.org, архіва Праваабарончага цэнтра «Вясна».

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

# ЗМЕСТ


Уступ 9

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі.**
**Студзень 2012 года** 19

Палітычна матываваны крымінальны пераслед 19
Пераслед і ціск на праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі 21
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання, нездавальняючыя ўмовы ўтрымання 23
Смяротнае пакаранне 25
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў 25
Абмежаванні свабоды слова 27
Выкананне свабоды сходаў 29
Сітуацыя з выкананнем свабоды асацыяцый 31

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі.**
**Люты 2012 года** 32

Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 33
Пераслед і ціск на праваабаронцаў 35
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання, нездавальняючыя ўмовы ўтрымання 36
Смяротнае пакаранне 36
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 38
Палітычна матываваныя адлічэнні з вучобы 40
Абмежаванні свабоды слова 41
Абмежаванне свабоды сходаў 43
Сітуацыя з выкананнем свабоды асацыяцый 45

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі.**
**Сакавік 2012 года** 47

Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 48
Смяротнае пакаранне 50
Гвалтоўныя знікненні 51

Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання, нездавальняючыя ўмовы ўтрымання 52
Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння 53
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 54
Абмежаванні свабоды слова 58
Абмежаванне свабоды сходаў 59

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Красавік 2012 года** 61
Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 62
Смяротнае пакаранне 65
Гвалтоўныя знікненні 66
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання 67
Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння 67
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 69
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі 72
Абмежаванне свабоды сходаў 73

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Травень 2012 года** 76
Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 77
Смяротнае пакаранне 79
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання 80
Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння 80
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 82
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі 86
Абмежаванне свабоды сходаў 87
Свабода асацыяцый 88

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Чэрвень 2012 года** 90
Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 92
Пераслед праваабаронцаў 94
Палітычна матываваны прызыў у войска, незабеспячэнне права на альтэрнатыўную грамадзянскую службу 95
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання 96
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 98
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі 100
Абмежаванне свабоды сходаў 101

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Ліпень-жнівень 2012 года** 124
Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 127
Пераслед праваабаронцаў 131
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання 134
Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян 136
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 138
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў 145
Абмежаванне свабоды сходаў 148

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Верасень 2012 года** 154
Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 156
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання 160
Смяротнае пакаранне 163
Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі 164
Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян 166

Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 166
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў 173
Абмежаванне свабоды сходаў 177

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Кастрычнік 2012 года** 179
Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед 182
Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання 185
Смяротнае пакаранне 186
Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі 187
Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян 187
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 188
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў 192
Абмежаванне свабоды сходаў 196
Абмежаванне свабоды асацыяцый 198

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Лістапад 2012 года** 200
Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў 203
Смяротнае пакаранне 207
Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі 208
Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян 210
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 211
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў 213
Абмежаванне свабоды сходаў 216
Абмежаванне свабоды асацыяцый 218

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Снежань 2012 года** 219
Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў 221
Смяротнае пакаранне 225
Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі 226
Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян 227
Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні 228
Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў 232
Абмежаванне свабоды сходаў 235
Абмежаванне свабоды асацыяцый 239

**ДАДАТКІ**

Дадатак 1. Рэзалюцыя Савета па правах чалавека ААН «Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі» 240
Дадатак 2. Меркаванні Працоўнай групы па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека ААН адносна справы Алеся Бяляцкага 242
Дадатак 3. Выніковы дакумент Працоўнай сустрэчы праваабарончых арганізацый Рэспублікі Беларусь у сувязі з прапановай Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выказаць меркаванне па пытанні нацыянальнай установы па правах чалавека 260
Дадатак 4. Адказ Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб нацыянальнай установе па правах чалавека» 262

**ЗАЯВЫ, ЗВАРОТЫ, ПЕТЫЦЫІ**

1. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з патрабаваннем неадкладнага вызвалення Сяргея Каваленкі 263
2. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» супраць катаванняў, пагроз, шантажу і іншых недапушчальных спосабаў ціску і ўздзеяння на палітвязняў 264

3. Праваабарончы цэнтр «Вясна» — за неадкладнае ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі 265
4. Сумесная заява FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» па сітуацыі з Сяргеем Каваленкам 266
5. Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе спынення крымінальнага пераследу Васіля Парфянкова 267
6. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды крымінальнага прысуду Васілю Парфянкову 268
7. Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе спыніць незаконныя адміністрацыйныя арышты грамадскіх актывістаў 269
8. У Беларусі новы палітвязень — журналіст Андрэй Пачобут. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» 270
9. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў сувязі з пагрозай новага крымінальнага пераследу Дзмітрыя Дашкевіча 271
10. Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе вызвалення Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава 272
11. Сумесны зварот беларускіх праваабаронцаў на імя Генеральнага пракурора і Старшыні Вярхоўнага суда адносна незаконных прэвентыўных затрыманняў грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў моладзевых апазіцыйных груп 273
12. Петыцыя супраць зняволення старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага і ўсіх беларускіх палітвязняў 276
13. FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» асуджаюць прысуд, вынесены Дзмітрыю Дашкевічу 276
14. Сумесная заява FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды пагаршэння ўмоў зняволення грамадскага актывіста Дзмітрыя Дашкевіча 277
15. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды гадавіны зняволення кіраўніка Алеся Бяляцкага і канфіскацыі офіса арганізацыі 278

# Уступ

У 2012 годзе сітуацыя з правамі чалавека заставалася стабільна кепскай. Уладамі не было прынята захадаў, скіраваных на пэўную разрадку ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне, яна яшчэ больш кансервавалася і знаходзіла ўвасабленне ў рэпрэсіўнасці заканадаўчых і правапрымяняльных практык.

Адсутнасць прагрэсу ў вырашэнні пытання вызвалення палітычных вязняў, працяг практыкі парушэння правоў чалавека сталі асноўнай прычынай самаізаляцыі Беларусі.

На працягу 2012 года ўлады Беларусі неаднаразова дэманстравалі грэблівае стаўленне да сваіх міжнародных абавязацельстваў у галіне абароны правоў чалавека, у першую чаргу ў межах ААН і АБСЕ.

Беларусь заставалася адзінай краінай Еўропы і былога СССР, якая дагэтуль выкарыстоўвае смяротнае пакаранне. На працягу 2012 года стала вядома аб выкананні як мінімум трох смяротных прысудаў. Паспешлівы расстрэл абвінавачаных у здзяйсненні тэракту ў мінскім метро Д. Канавалава і У. Кавалёва значна ўзмацніў недавер да афіцыйных вынікаў следства і вынесенага прысуду па дадзенай справе, а таксама выклікаў шырокую дыскусію ў грамадстве па пытанні захавання дадзенага віду пакарання ў краіне.

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія адбыліся ў верасні, яскрава прадэманстравалі, што электаральныя кампаніі перасталі забяспечваць рэалізацыю канстытуцыйнага права грамадзян на ўдзел у кіраванні сваёй краінай і, адпаведна, у такім выглядзе не з'яўляюцца формай ажыццяўлення дэмакратыі.

У 2012 годзе была працягнута жорсткая рэпрэсіўная палітыка ўладаў, распачатая пасля падзеяў 19 снежня 2010 года, якая выяўлялася ў істотных абмежаваннях асноўных грамадзянскіх і палітычных правоў і свабодаў: мірных сходаў, асацыяцыяў, выказвання свайго меркавання, распаўсюду і атрымання інфармацыі і інш. Гэтаму ў значнай ступені спрыялі змены заканадаўства, якія адбыліся ў другой палове 2011 года (у Крымінальны кодэкс, Законы «Аб масавых мерапрыемствах», «Аб палітычных партыях», «Аб грамадскіх аб'яднаннях») і насілі відавочна рэпрэсіўны характар.

Нягледзячы на пэўную стабілізацыю ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў параўнанні з канцом 2010 і 2011 гадоў, праблема палітычных вязняў

і палітычна-матываванага крымінальнага пераследу заставалася актуальнай. За кратамі да заканчэння 2012 года заставаліся 12 палітвязняў— Мікалай Аўтуховіч, Павел Севярынец, Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Ігар Аліневіч, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч, Васіль Парфянкоў.

Прыняты ў ліпені 2012 года Закон «Аб амністыі» быў штучна палітызаваны з мэтай недапушчэння яго дзеяння на палітычных зняволеных. Так, упершыню ў параўнанні з амністыямі папярэдніх гадоў у пералік артыкулаў Крымінальнага кодэксу, на якія не распаўсюджваецца амністыя, былі ўключаны 342 («арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх») — па ім былі асуджаны 10 чалавек па падзеях 19-га снежня 2010 года, сярод якіх Павел Севярынец, які працягваў адбываць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі, і яшчэ восем чалавек — пакараныя ўмоўна альбо з адтэрміноўкай выканання прысуду; 293 («масавыя беспарадкі») — па абвінавачанні ў здзяйсненні дадзенага злачынства працягваў адбываць пакаранне экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч; 367 («паклёп на прэзідэнта») — па ім быў асуджаны журналіст Андрэй Пачобут, які працягваў адбываць пакаранне з адтэрміноўкай выканання прысуду. Астатнім палітвязням, якія тэарэтычна маглі б патрапіць пад дзеянне Закона «Аб амністыі», быў устаноўлены статус «злосных парушальнікаў» рэжыму адбыцця пакарання, што таксама пазбавіла іх права на амністыю. Сярод іх — асуджаны старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, які тэарэтычна трапляў бы пад дзеянне Закона «Аб амністыі» (скарачэнне тэрміну адбыцця пакарання на 1 год), калі б не накладзеныя на яго адміністрацыяй папраўчай установы дысцыплінарныя спагнанні і ўстаноўлены ў выніку статус «злоснага парушальніка». Гэта сведчыць пра тое, што ўлады не жадалі вызвалення палітвязняў у выніку прымянення да іх ардынарных (аднолькавых для ўсіх вязняў), не персаніфікаваных працэдур вызвалення. Для іх было важным, па-першае, мець магчымасць вызваляць палітвязняў у зручны з пункту гледжання знешнепалітычных фактараў момант, а, па-другае, пры ўмове асабістага звароту палітычных зняволеных з просьбай аб памілаванні на адрас прэзідэнта. Менавіта з жаданнем атрымання падобных зваротаў ад палітвязняў тлумачыцца беспрэцэдэнтная кампанія ціску на іх з боку адміністрацый папраўчых устаноў.

З напісаннем прашэнняў аб памілаванні звязанае вызваленне чатырох палітвязняў, якія адбыліся ў красавіку і верасні 2012 года. Так, у красавіку былі вызваленыя былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Бела-

русь», бліжэйшы ягоны паплечнік Зміцер Бандарэнка. Вядома, што адпаведныя прашэнні А. Саннікаў напісаў яшчэ ў лістападзе 2011, а З. Бандарэнка — у лютым 2012 года. У чэрвені стала вядома, што прашэнні аб памілаванні на імя прэзідэнта напісалі яшчэ два палітвязні — актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка і асуджаны па так званай «бабруйскай справе» Павел Сырамалотаў, аднак вызваленыя абодва былі толькі ў верасні, пасля заканчэння парламенцкіх выбараў.

На працягу 2012 года ўлады прадэманстравалі новыя формы ціску на палітвязняў, якія ніколі не выкарыстоўваліся ў папярэднія гады: правакацыі з боку іншых асуджаных, пазбаўленне харчовых перадач і спатканняў са сваякамі, выдварэнне ў ШІЗА ці ПКТ, замена рэжыму на больш жорсткі, асуджэнне на дадатковы тэрмін зняволення. Фактычна ўсе палітвязні зведалі ціск у той ці іншай форме, што дазваляе казаць пра мэтанакіраваныя, спланаваныя ўладамі пры дапамозе спецслужбаў акцыі. Пра ціск і прэсінг з боку адміністрацый папраўчых установаў неаднаразова заяўлялі зняволеныя Андрэй Саннікаў, Зміцер Дашкевіч, Мікалай Статкевіч і інш. Не стаў выключэннем і праваабаронца Алесь Бяляцкі. За сем месяцаў знаходжання ў калоніі №2 г. Бабруйска ён атрымаў сем дысцыплінарных спагнанняў, быў пазбаўлены харчовых перадач і спатканняў (кароткатэрміновых і доўгатэрміновых) з роднымі, якія не бачылі яго з траўня па снежань 2012 года. З інфармацыі, якая паступіла ад зняволеных, якія адбывалі пакаранне ў гэтай жа калоніі, стала вядома, што адміністрацыя карае вязняў за любую камунікацыю з Бяляцкім. Такім чынам, ён фактычна знаходзіцца ва ўмовах поўнай ізаляцыі не толькі ад навакольнага свету, але і ад іншых зняволеных.

Да канца 2012 года пяцёра палітвязняў адбывалі пакаранне ва ўмовах турмы (Зміцер Дашкевіч, Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Уладзімір Аўтуховіч). 28 жніўня 2012 года выязным паседжаннем суда Глыбоцкага р-на Зміцер Дашкевіч быў дадаткова асуджаны да 1 года пазбаўлення волі па ч.1 арт. 411 КК («злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы»). Гэта стала першым выпадкам прымянення дадзенага артыкула ў дачыненні да палітвязня, што стварыла вельмі небяспечны прэцэдэнт.

Пра асабісты кантроль А. Лукашэнкі над справамі палітычных зняволеных сведчаць ягоныя выказванні на працягу года. Так, 23 верасня падчас галасавання на выбарчым участку ён заявіў: «Калі не памыляюся, два чалавекі звярнуліся месяц таму, — сказаў А. Лукашэнка, пры гэтым не назваўшы, пра каго з асуджаных ідзе гаворка. — Скажу шчыра, не ведаю, не ў курсе справы. Калі звароты паступілі, дакументы знаходзяцца ў камісіі па памілаванні. Мы вас праінфармуем». 16 кастрычніка падчас прэс-канферэнцыі для расійскіх рэгіянальных

журналістаў А. Лукашэнка заявіў: «У нас двое ці трое палітвязняў, якія штурмавалі і ламалі Дом урада». Пры гэтым ён працягваў настойваць на абавязковым звароце на яго імя, як перадумове да прымянення працэдуры памілавання. Дадзеная пазіцыя кіраўніка дзяржавы выглядае непаслядоўнай на фоне таго, што і ў 2008, і ў 2011 годзе ўлады ўжо вызвалялі палітвязняў з выкарыстаннем працэдуры памілавання праз адпаведны Указ прэзідэнта без зваротаў ад зняволеных. Акрамя таго, дзеючае крымінальна-працэсуальнае заканадаўства краіны не ўтрымлівае патрабавання звароту ад асуджанага, як умову прымянення ў дачыненні да яго працэдуры памілавання.

На працягу 2012 года зафіксаваныя новыя палітычна-матываваныя крымінальныя справы: памілаванага ўдзельніка акцыі 19 снежня 2010 года Васіля Парфянкова, журналістаў Андрэя Пачобута і Антона Сурапіна, рыэлтара Сяргея Башарымава. Асобна варта адзначыць узбуджэнне крымінальнай справы і ўзяццё пад варту 21-гадовага сябра незарэгістраванай наваполацкай суполкі «Саюз маладых інтэлектуалаў», рабочага наваполацкага прадпрыемства «Нафтан» Андрэя Гайдукова. Паводле афіцыйнай інфармацыі прэс-службы КДБ, ён абвінавачаны паводле арт. 365 Крымінальнага кодэкса «здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці». Пры поўнай адсутнасці інфармацыі пра сутнасць абвінавачання Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказаў недавер да афіцыйнай версіі і не выключае палітычнай матывацыі пераследу актывіста.

На працягу ўсяго года праваабарончымі арганізацыямі фіксаваліся шматлікія выпадкі ціску з боку спецслужбаў на грамадскіх і палітычных актывістаў. Гэты ціск насіў адрасны і персанальны характар. Асаблівую ўвагу прадстаўнікоў спецслужбаў выклікалі прадстаўнікі моладзевых аб’яднанняў, мадэратары сацыяльных сетак. У дачыненні да іх выкарыстоўваліся самыя розныя метады ўздзеяння: ад выклікаў на «гутаркі» ў КДБ да адвольных і незаконных затрыманняў і адміністрацыйных арыштаў, правядзення несанкцыянаваных вобыскаў прыватных памяшканняў і інш. Паказальнымі ў гэтым плане былі адвольныя арышты (не звязаныя са здзяйсненнем інкрымінаванага правапарушэння) моладзевых актывістаў Паўла Вінаградава, Уладзіміра Яроменкі і Мікалая Дзямідзенкі, якія сістэматычна абвінавачваліся ў нібыта здзяйсненні дробнага хуліганства — нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы. Такая практыка ізаляцыі іншадумцаў набыла сістэмны характар. Прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Беларусі рабілі зварот на імя Генеральнага пракурора і Старшыні Вярхоўнага суда з прапановай сустрэцца і абмеркаваць дадзеную сітуацыю, аднак ён быў праігнараваны вышэйшымі службовымі асобамі.

Ціску з боку спецслужбаў і органаў пракуратуры на працягу года падвяргаліся незалежныя журналісты, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, найперш сатэлітным тэлеканалам «Белсат» і «Радыё Рацыя», без акрэдытацыі. У краіне створаная сістэма жорсткага рэгулявання рэгістрацыі замежных СМІ і акрэдытацыі журналістаў.

У 2012 годзе ўлады выкарысталі новы від ціску на апазіцыйных палітыкаў, праваабаронцаў і юрыстаў, а таксама прадстаўнікоў незалежных СМІ — забарона выезду за межы Рэспублікі Беларусь. Пра гэтае «ноу-хау» стала вядома ў сакавіку, пры гэтым улады і не хавалі сваіх намераў незаконна абмежаваць свабоду перамяшчэння некаторых сваіх грамадзянаў па палітычных матывах. 21 сакавіка гэта пацвердзіў у сваім інтэрв'ю тэлеканалу «Russia today» Аляксандр Лукашэнка. На пытанне, ці створаны такі спіс, Лукашэнка адказаў: «А мы зрабілі. І то мы яго яшчэ не ўвялі. На поўную моц яшчэ не ўвялі. Але ўвядзем». Ён абвінаваціў апазіцыянераў у падбухторванні Захаду да ўвядзення санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, бізнэсменаў і прадпрыемстваў: «Гэта яны падкідаюць Захаду прозвішчы, арганізацыі, прадпрыемствы і настойваюць на ўвядзенні эканамічных санкцыяў. Яны».

Агулам вядома пра 17 асобаў, якія знаходзіліся ў неафіцыйных «чорных спісах». Сярод іх палітыкі: Анатоль Лябедзька, старшыня АГП; Сяргей Калякін, старшыня партыі «Справядлівы свет»; Віктар Карняенка, каардынатар ініцыятывы «За справядлівыя выбары»; Станіслаў Шушкевіч, былы старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання; Валерый Ухналёў, намеснік старшыні партыі «Справядлівы свет»; Вінцук Вячорка, прадстаўнік аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларускі рух»; Віктар Івашкевіч, прадстаўнік аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларускі рух»; праваабаронцы: Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні ПЦ«Вясна»; Алег Гулак, старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта; Андрэй Бандарэнка, кіраўнік інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа»; Гары Паганяйла, юрыст Беларускага Хельсінскага камітэта; Алег Волчак, старшыня «Прававой дапамогі насельніцтву»; журналісты: Андрэй Дынько, шэф-рэдактар «Нашай Нівы»; Міхась Янчук, журналіст тэлеканала «Белсат»; Жанна Літвіна, старшыня БАЖ, а таксама адвакат Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Марына Кавалеўская.

Запыты ў аддзелы па грамадзянстве і міграцыі па месцы жыхарства выявілі рэальныя падставы для забароны на выезд. Яны цалкам пацвердзілі, што гэтыя забароны не заснаваныя на законе. Напрыклад, 38-гадовы Андрэй Дынько — старшы лейтэнант запасу, і прычына адмовы на выезд, звязаная з ухіленнем ад яўкі на мерапрыемствы па прызыве — юрыдычны нонсенс. Па гэтай прычыне было абмежавана

права выезду з Беларусі Валянціну Стэфановічу (адслужыў тэрміновую вайсковую службу ў 1990—1992 гг.), Андрэю Бандарэнку (афіцэр запасу) і Марыне Кавалеўскай (паводле дзеючага заканадаўства яна наогул не падлягае прызыву на вайсковую службу).

Другая абсурдная нагода — міфічная справа ад 5 сакавіка, па якой грамадскія дзеячы нібыта праходзяць з-за «запазычанасці перад крэдыторамі» і ў сувязі з «грамадзянскімі пазовамі супраць грамадзяніна». Менавіта такім чынам незаконна быў абмежаваны выезд за мяжу Алегу Гулаку і Гары Паганяйлу, а таксама Жанне Літвіной.

Пра спланаваную ўладамі акцыю сведчыць і той факт, што ўсе скаргі ў суды на дзеянні дзяржаўных органаў, якія незаконна абмежавалі права на выезд (МУС, Мінюст, Міністэрства абароны) не разглядаліся судамі напрацягу 2-5 месяцаў ад моманту іх падачы, што з'яўлялася грубейшым парушэннем патрабаванняў Грамадзянска-Працэсуальнага кодэкса (скаргі, якія выцякаюць з адміністрацыйна-прававых адносінаў разглядаюцца на працягу месяца з моманту іх падачы). Толькі ў ліпені суды распачалі разглядаць пададзеныя скаргі, і адбываліся па адным і тым жа сцэнары: заяўнікам адмаўлялі ў задавальненні скаргаў у сувязі з неўстанаўленнем віны дзяржаўных органаў (спасылка на «тэхнічны збой»), а прадстаўнік аддзела грамадзянства і міграцыі МУС прыносіў даведку аб зняцці абмежаванняў на выезд. Такім чынам да канца верасня абмежаванні ў выездзе былі знятыя з усіх фігурантаў «чорных спісаў».

Дадзеная сітуацыя яшчэ раз яскрава прадэманстравала, што ў краіне адсутнічаюць эфектыўныя прававыя механізмы абароны правоў чалавека, а судовая сістэма з'яўляецца скрайне залежнай ад выканаўчай улады. Сыходзячы з гэтага, праваабарончыя арганізацыі Беларусі і прафесійная адвакацкая супольнасць былі пазбаўленыя магчымасці якасна адстойваць правы грамадзянаў на нацыянальным узроўні, асабліва ў выпадках, калі справы мелі грамадскі рэзананс альбо ў іх прысутнічаў відавочны палітычны кантэкст.

Праваабарончыя арганізацыі таксама з'яўляліся аб'ектам ціску з боку ўладаў. Ні адна з акцый салідарнасці са зняволеным кіраўніком Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесем Бяляцкім і іншымі палітвязнямі, запланаваных праваабаронцамі па ўсёй краіне, не была дазволена. Формы пераследу праваабаронцаў выкарыстоўваліся вельмі разнастайныя: гвалтоўнае выкраданне з адвольным затрыманнем (Алена Красоўская-Каспяровіч), выклікі ў КДБ (Таццяна Рэвяка) і пастаноўка на прафілактычны ўлік Камітэта дзяржбяспекі (Андрэй Бандарэнка), адміністрацыйны пераслед (Алег Волчак), закрыццё арганізацый

(установа «Платформа»), фінансавыя праверкі з боку падаткавых інспекцый (Алег Волчак, Леанід Судаленка, Таццяна Рэвяка), незаконныя абмежаванні выезду за межы Беларусі (Алег Волчак, Андрэй Бандарэнка, Алег Гулак, Гары Паганяйла, Валянцін Стэфановіч). У лістападзе 2012 года ў межах выканання прысуду па крымінальнай справе Алеся Бяляцкага адбылася канфіскацыя кватэры, у якой на працягу 12 гадоў размяшчаўся офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна». Аднак нават у такіх скрайне неспрыяльных умовах праваабаронцы Беларусі працягвалі сваю дзейнасць, у тым ліку на міжнародным узроўні з максімальным задзейнічаннем даступных міжнародных механізмаў абароны правоў чалавека.

На жаль, міжнародныя сродкі абароны не з'яўляліся эфектыўнымі ў сувязі з іх поўным ігнараваннем з боку беларускай дзяржавы. Гэта датычыць найперш сістэмы ААН. На працягу 2012 года МЗС Беларусі ў сваіх каментарах на індывідуальныя звароты ў КПЧ ААН неаднаразова падкрэсліваў, што РБ увогуле адмаўляецца ад якіх-небудзь камунікацыяў з КПЧ па іх. Ніводнае рашэнне (меркаванне) КПЧ ААН па індывідуальных зваротах грамадзянаў Беларусі не было выкананае. Такім чынам дзяржава адмаўляла грамадзянам краіны ў прадастаўленні эфектыўных сродкаў абароны і аднаўлення парушаных правоў, чым фактычна ставіла пад сумнеў ратыфікаваны Беларуссю першы факультатыўны пратакол да Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і прызнанне кампетэнцыі КПЧ ААН.

Яскравым прыкладам ігнаравання Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў у межах ААН стала прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду, які быў вынесены Вярхоўным Судом 30 лістапада 2011 года ў дачыненні да Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава. Нягледзячы на патрабаванні КПЧ ААН аб прыпыненні выканання прысуду да разгляду індывідуальнага звароту У. Кавалёва, абодва абвінавачаныя былі расстраляныя, пра што 16 сакавіка 2012 года Вярхоўны Суд афіцыйна паведаміў іх родным. Варта адзначыць, што Беларусь не выконвае рашэнні КПЧ ААН аб выдачы целаў расстраляных сваякам для іх пахавання. Такое абыходжанне з роднымі было прызнана КПЧ ААН парушэннем арт. 17 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і прыроўненае да катаванняў, жорсткіх і бесчалавечных відаў абыходжання.

Важнай падзеяй у кантэксце адсутнасці супрацоўніцтва афіцыйнага Мінска са структурамі ААН стала ўвядзенне інстытута спецдакладчыка па Беларусі згодна з рэзалюцыяй Рады па правах чалавека ААН ад 5 ліпеня 2012 года. У гэтай жа рэзалюцыі быў заклік да ўладаў Беларусі

«неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітвязняў», правесці «поўнае і транспарэнтнае расследаванне ўсіх паведамленняў аб ужыванні катаванняў і негуманнага абыходжання з палітзняволенымі», «неадкладна спыніць практыку адміністрацыйных затрыманняў прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці, журналістаў і праваабаронцаў і не перашкаджаць іх свабоднаму перамяшчэнню, у тым ліку выезд за межы краіны». Афіцыйны Мінск таксама заклікалі выканаць усе рэкамендацыі, якія ўтрымліваюцца ў дакладзе Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека аб сітуацыі ў Беларусі, які быў прадстаўлены ў ходзе сесіі 27—28 чэрвеня 2012 года. Аднак афіцыйны Мінск заявіў аб непрызнанні мандата спецыяльнага дакладчыка ААН, якім быў абраны Міклаш Харашці. Так, сталы прадстаўнік Беларусі пры ААН у Жэневе Міхаіл Хвастоў абвінаваціў Еўрасаюз, які ініцыяваў мандат спецдакладчыка, у палітычнай матывацыі гэтага рашэння, заявіўшы: «Матывы гэтай ініцыятывы Еўрасаюза ніякім чынам не звязаны з правамі чалавека. ЕС такім чынам прасоўвае ў Савеце свой палітычны парадак дня і прымушае Вярхоўнага камісара дзейнічаць у гэтых мэтах. Галоўная задача, якую ставіць ЕС перад гэтым мандатам, — гэта мэтанакіраваная антыўрадавая дзейнасць у Беларусі пад прыкрыццём ААН».

Праваабарончыя арганізацыі краіны, у тым ліку і Праваабарончы цэнтр «Вясна», праводзілі шырокую міжнародную лоббінг-кампанію, скіраваную на ўвядзенне дадзенага інстытута ААН і пачалі супрацоўніцтва з прызначаным спецдакладчыкам.

Пытанне выканання правоў чалавека ў Беларусі і асабліва праблема палітычных вязняў у 2012 годзе заставался ў цэнтры ўвагі міжнароднай супольнасці і неаднаразова знаходзіла сваё адлюстраванне ў шматлікіх рэзалюцыях і заявах асобных высокапастаўленых чыноўнікаў ЕС, ПАСЕ, дэпутатаў Еўрапарламента, Кангрэса ЗША, Рады па правах чалавека ААН, міжнародных праваабарончых арганізацыяў — FIDH, Amnesty International, Human Rights Watch і інш.

На працягу года адносіны Беларусі з ЕС заставаліся складанымі. Пасля таго, як 27 лютага ў Брусэлі на паседжанні Савета міністраў замежных справаў краінаў Еўрасаюза былі пашыраны візавыя і фінансавыя санкцыі ў адносінах да фізічных і юрыдычных асобаў Беларусі, датычных да парушэнняў асноўных правоў і свабод, ужо на наступны дзень, 28 лютага, МЗС Беларусі прапанаваў кіраўніку прадстаўніцтва Еўракамісіі Майры Моры і амбасадару Польшчы Лешаку Шарэпку выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб «давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый». Было таксама заяўлена, што «беларускі бок зачыніць уезд у Беларусь тым

асобам з краін Еўрасаюза, якія спрыялі ўвядзенню абмежавальных захадаў». У той жа вечар Брусэль абвясціў пра адкліканне з Беларусі ўсіх амбасадараў краінаў Еўрасаюза «на знак салідарнасці і еднасці». Такога значнага дыпламатычнага крызісу афіцыйны Мінск не бачыў з часоў «Драздоўскага крызісу». Канфлікт на дыпламатычным узроўні працягнуўся закрыццём швецкай амбасады і высылкай амбасадара Швецыі пасля так званага «плюшавага дэсанту» (акцыя шведскіх прыхільнікаў дэмакратыі, якія скінулі на тэрыторыю Беларусі плюшавых мішак з заклікамі да выканання правоў чалавека, у выніку якой была парушана паветраная прастора Беларусі). Калі праз некаторы час амбасадары краін ЕС вярнуліся, то амбасада Швецыі так і не аднавіла сваю працу ў Беларусі.

«Кропкавыя санкцыі» пашыраліся таксама Саветам міністраў замежных спраў ЕС 23 сакавіка, сыходзячы з адсутнасці пазітыўных крокаў з боку беларускіх уладаў: былі ўведзены візавыя абмежаванні ў адносінах да 12 асобаў, сярод якіх — суддзі, пракуроры і бізнэсмены, якія адказныя, з пункту гледжання ЕС, за парушэнні правоў чалавека і рэпрэсіі ў дачыненні да апазіцыі і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, а таксама з'яўляюцца бенефіцыярамі дзеючага рэжыму. Пад санкцыі патрапілі таксама 29 кампаній, якія належаць такім бенефіцыярам. «Дзеянні Еўрасаюза павінны пераканаць улады Беларусі ў неабходнасці вызвалення палітзняволеных і вяртання на шлях канструктыўных адносін з краінамі — членамі ЕС», — адзначыла Вярхоўны прадстаўнік ЕС па пытаннях знешняй палітыкі і палітыкі бяспекі Кэтрын Эштан.

Напрыканцы года ў выніку пэўнай стабілізацыі ўзроўню рэпрэсіяў ЕС прыняў рашэнне аб працягненні абмежавальных мераў у ранейшым аб'ёме, без пашырэння, імкнучыся не паглыбляць палітычнае супрацьстаянне з беларускім бокам, але адначасова зафіксаваўшы сваю прынцыповую пазіцыю: «Улічваючы, што не ўсе палітзняволеныя былі вызвалены і ніхто з вызваленых (палітвязняў) не быў рэабілітаваны, а сітуацыя з павагай правоў чалавека, вяршэнствам закону і дэмакратычных прынцыпаў не палепшылася, Рада працягне дзеянне абмежавальных мер да 31 кастрычніка 2013 года», — адзначана ў каментары да парадку дня паседжання, апублікаваным прэс-службай Рады ЕС. Еўрасаюз выказаў намер перыядычна пераглядаць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі ў залежнасці ад таго, як будзе развівацца сітуацыя ў краіне, а таксама «патрабаваць, каб усе палітзняволеныя былі вызваленыя і рэабілітаваныя».

У верасні ў Беларусі адбыліся выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, якія прайшлі на фоне адсутнасці інтарэсу да іх

з боку грамадзянаў. Выбарчы працэс з самага пачатку насіў вельмі прадказальны характр для ўсіх суб'ектаў, якія былі ў ім задзейнічаныя. Праўладныя кандыдаты ведалі, што яны стануць дэпутатамі парламенту, а апазіцыйныя кандыдаты — што яны дэпутатамі не стануць пры любых варыянтах правядзення кампаніі. Выбары яшчэ раз прадэманстравалі, што ў краіне цалкам адсутнічае публічная, заснаваная на канкурэнцыі палітыка, а сама электаральная кампанія даўно перастала быць формай народаўладдзя (дэмакратыі) — удзелу грамадзянаў у кіраванні сваёй краінай.

Пасля заканчэння парламенцкіх выбараў, якія не былі прызнаныя БДІПЧ АБСЕ адпавядаючымі стандартам свабодных і дэмакратычных выбараў, былі вызваленыя два палітвязні (С. Каваленка і П. Сырамалотаў), а з вуснаў некаторых чыноўнікаў, у тым ліку і А. Лукашэнкі, загучалі словы аб неабходнасці мадэрнізацыі дзяржаўнага апарату. Аднак ніякіх значных рэформаў да канца 2012 года прадэманстравана не было, а замест правядзення паўнавартасных палітычных і эканамічных рэформаў, скіраваных на сапраўдную мадэрнізацыю дзяржаўнай сістэмы, улады прадэманстравалі падыходы, якія засведчылі сваю неэфектыўнасць яшчэ ў часы «савецка-адміністрацыйнай» мадэлі кіравання.

2012 год можна ахарактэрызаваць як час палітычнага і эканамічнага застою краіны, які ўсё далей адкідае Беларусь у сваім развіцці і робіць яе неканкурэнтназдольнай у сучасных сусветных варунках. Адсутнасць свабодных выбараў і сістэмы самакіравання, незмяняльнасць кіраўніка краіны на працягу 18 гадоў, далейшая кансервацыя аўтарытарна-адміністрацыйнай сістэмы кіравання, адсутнасць палітычнай канкурэнцыі, немагчымасць карыстацца сваімі правамі і абараняць іх — усё гэта робіць беларускае грамадства прыгнечаным і безгалосым.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Студзень 2012 года



У студзені стан правоў чалавека ў Беларусі заставаўся крытычным. У месцах пазбаўлення волі знаходзіліся 15 палітвязняў, асуджаных за сваю палітычную і грамадскую дзейнасць. У поўным аб’ёме было пакінута пакаранне касацыйнай судовай інстанцыяй кіраўніку Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму. Стала вядома, што ў адносінах да асуджанага экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава ў месцах пазбаўлення волі ўжываліся катаванні і жорсткае абыходжанне з мэтай прымусіць яго звярнуцца да кіраўніка дзяржавы з прашэннем аб памілаванні — у выніку такое прашэнне было пададзена. На больш жорсткія ўмовы ўтрымання былі пераведзены згодна з рашэннямі судоў палітвязні Мікалай Статкевіч і Мікалай Аўтуховіч.

Адміністрацыйны пераслед, арышты і штрафы выкарыстоўваліся супраць грамадскіх і палітычных актывістаў, да арышту быў асуджаны праваабаронца Алег Волчак і журналіст Аляксандр Баразенка, затрыманы пры выкананні сваіх прафесійных абавязкаў.

Назіралася далейшае звужэнне магчымасцяў рэалізацыі свабоды мірных сходаў, свабоды асацыяцый і свабоды слова. Чацвёрты раз атрымала адмову ў рэгістрацыі Партыя БХД, пад пагрозай спынення дзейнасці апынуўся Магілёўскі праваабарончы цэнтр. Мясцовыя органы выканаўчай улады па ўсёй краіне татальна адмаўлялі грамадзянам у магчымасці правядзення мірных сходаў па надуманых падставах. Абмежаванымі заставаліся магчымасці выказвання меркавання і распаўсюду інфармацыі, зафіксаваны выпадкі цэнзуравання доступу да інтэрнэта, затрыманне і вынясенне пакарання асобам, якія распаўсюджвалі выданні з альтэрнатыўнай інфармацыяй.

## Палітычна матываваны крымінальны пераслед

Праваабарончы цэнтр «Вясна» 31 студзеня апублікаваў спіс палітычных вязняў Беларусі на дадзены перыяд часу. Па меркаванні ПЦ «Вясна», палітычнымі зняволенымі з’яўляюцца 15 асобаў: Мікалай Аўтуховіч, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Бандарэнка, Павел Севярынец, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Алесь Бяляцкі, Сяргей Каваленка, Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Павел Сырамалотаў. Пры гэтым адзначана, што ў дзеяннях трох апошніх асобаў бачац-

ца прыкметы правапарушэння, але адзначаецца несправядлівая кваліфікацыя іх учынкаў і празмерная, непрапарцыйная жорсткасць вынесенага пакарання.

12 студзеня суд Шклоўскага раёна прызначыў Мікалаю Статкевічу больш жорсткі турэмны рэжым адбыцця пакарання на бліжэйшыя тры гады за нібыта рэгулярныя парушэнні турэмнай дысцыпліны. У снежні Мікалай Статкевіч быў змешчаны ў карцэр за тое, што ў ягоных рэчах знайшлі непазначаныя ў спісе насоўкі, а потым вязня пакаралі яшчэ тройчы за тое, што ў карцэры ў яго не аказалася індывідуальнай таблічкі з прозвішчам. Сапраўднай жа прычынай ціску на экс-кандыдата можа з'яўляцца адмова пісаць прашэнне аб памілаванні на імя А. Лукашэнкі. Адразу пасля судовага рашэння Мікалай Статкевіч быў пераведзены з Шклоўскай калоніі ў Магілёўскую турму і там адразу змешчаны ў карцэр за парушэнні, нібыта здзейсненыя яшчэ ў калоніі. Нагадаем, у траўні 2011 года Мікалай Статкевіч быў асуджаны на 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, атрымаўшы самы вялікі тэрмін за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года.

17 студзеня ў Івацэвіцкай калоніі № 5 адбыўся суд над Мікалаем Аўтуховічам, у выніку якога асуджаны прадпрымальнік быў прызнаны вінаватым у злосным парушэнні рэжыму. На гэтай падставе суд Івацэвіцкага раёна вынес рашэнне аб змяненні меры пакарання вязню: два гады і тры месяцы, якія засталіся да канца адбыцця пакарання, Аўтуховіч павінен правесці ў турме. Нагадаем, што ў траўні 2010 года Мікалай Аўтуховіч рашэннем Вярхоўнага суда быў асуджаны да пяці гадоў і двух месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму за перавозку і захоўванне пяці патронаў да паляўнічай вінтоўкі. У канцы месяца Мікалай Аўтуховіч быў пераведзены ў турму № 1 Гродна.

24 студзеня скончыліся следчыя дзеянні па крымінальнай справе віцебскага сябра КХП БНФ Сяргея Каваленкі, які абвінавачваецца паводле артыкула 415 «Ухіленне ад адбыцця пакарання» за парушэнні рэжыму. Сяргей Каваленка ў траўні 2010 года быў асуджаны да трох гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу паводле ч. 1 арт. 339 КК («наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак») і ч. 2 арт. 363 («супраціў работніку праваахоўных органаў пры выкананні ім службовых абавязкаў») за вывешаны на навагоднюю елку бел-чырвона-белы сцяг. Разглядаць справу даручана суддзі Першамайскага райсуда Віцебска Алене Жук. З 19 снежня 2011

года Сяргей Каваленка трымае галадоўку пратэсту ў СІЗА, з сярэдзіны студзеня ён падвяргаецца прымусоваму кармленню.

31 студзеня стала вядома, што Вярхоўны суд Беларусі ў парадку нагляду прызнаў законным і справядлівым прусыд, вынесены 16 траўня 2011 года сустаршыні аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўлу Севярынцу — тры гады абмежавання волі за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года.

## Пераслед і ціск на праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

24 студзеня Мінскі гарадскі суд пакінуў у сіле прысуд кіраўніку Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека  Алесю Бяляцкаму ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на чатыры з паловай гады ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці за «ўтойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры» (арт. 243, ч. 2, Крымінальнага кодэкса). Рашэнне судовай калегіі агучыў суддзя Уладзімір Сцяпурка, бок абвінавачання прадстаўляў пракурор Кірыл Чубкавец.

З шасці заяўленых адвакатам хадайніцтваў задаволены былі толькі два: аб далучэнні да матэрыялаў справы квітанцыі пра перавод сродкаў за ўрон, які нібыта нанёс А. Бяляцкі дзяржаве сваімі дзеяннямі (757 526 717 беларускіх рублёў, прыкладна 70 тысяч еўра), і дакументаў пра набыццё Бяляцкім маёмасці. Сярод адхіленых хадайніцтваў — аб запытах да арганізацый, якія пералічвалі сродкі на рахунак праваабаронцы, аб мэтах гэтых пералічэнняў і выкарыстанні сродкаў. Гэтая акалічнасць, як і ігнараванне факта кампенсацыі вызначанага судом першай інстанцыі матэрыяльнага ўрону найбольш яскрава прадэманстравалі палітычную матываванасць судовага рашэння і пераследу Алеся Бяляцкага.

Сям’я праваабаронцы выказала вялікую ўдзячнасць грамадзянам, якія дапамаглі сабраць сродкі на кампенсацыю вызначанага прысудам урону, якія за некалькі дзён да разгляду касацыі былі пералічаны на рахунак суда.

Пад пагрозай апынуўся офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна», які афіцыйна з’яўляецца маёмасцю А. Бяляцкага і згодна з прысудам павінен быць канфіскаваны.

З заявамі пратэсту па справе Алеся Бяляцкага выступіла Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў, адзначыўшы, што лічыць асуджэнне сп. Алеся Бяляцкага судовым пераследам праваабаронцы за законную праваабарон-

чую дзейнасць. Асудзілі прысуд праваабаронцу прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц, старшыня АБСЕ Эйман Гілмар, МЗС Францыі, Сетка Дамоў правоў чалавека (70 НДА з 15 краінаў свету) і іншыя.

Нагадаем, што крымінальная справа супраць Алеся Бяляцкага была заснавана на інфармацыі, прадастаўленай беларускім уладам Міністэрствам юстыцыі Літвы і Генеральнай пракуратурай Польшчы па рахунках, адкрытых Бяляцкім у замежных банках дзеля дзейнасці ПЦ «Вясна». Беларускія ўлады расцанілі грошы на рахунках сп. Бяляцкага як ягоны асабісты прыбытак і абвінавацілі яго ва ўтойванні сродкаў.

Міністэрства юстыцыі Літвы прадставіла беларускім уладам інфармацыю пра сродкі на рахунку і намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча, у адносінах да якога 16 снежня 2011 года суд Партызанскага раёна Мінска вынес рашэнне пра спагнанне падаходнага падатку, пені і дзяржаўнай пошліны ў памеры 54 мільёны 357 тысяч 370 рублёў. У адпаведнасці з судовым рашэннем, з праваабаронцы таксама спагнаная сума дзяржаўнай пошліны ў памеры 2 мільёны 717 тысяч 870 рублёў. Не пагадзіўшыся з дадзеным рашэннем, Валянцін Стэфановіч 19 студзеня накіраваў у Мінскі гарадскі суд касацыйную скаргу, у якой дамагаецца адмены судовага рашэння. Сродкі з рахунку Валянціна Стэфановіча не з'яўляюцца ягоным прыбыткам, а выдаткоўваліся на праваабарончую дзейнасць ПЦ «Вясна».

26 студзеня стала вядома, што Магілёўскі праваабарончы цэнтр можа спыніць сваё існаванне. Прычынай гэтаму сталі неверагодныя фінансавыя ўмовы, у якія арганізацыю спрабуюць загнаць мясцовыя ўлады. Магілёўскія чыноўнікі адвольна ўвялі нарматывы, паводле якіх для працы кіруючых органаў, якія складаюцца мінімум з трох чалавек, патрэбна памяшканне плошчай мінімум 18 кв. м. Арэндная плата за прапанаванае ўладамі памяшканне без уліку камунальных плацяжоў складае каля 2 млн. рублёў. Іншыя памяшканні для юрыдычнага адраса Цэнтра, прапанаваныя чыноўнікамі, маюць яшчэ большую плошчу. Дырэктар МПЦ Уладзімір Краўчанка адзначае, што іншымі спосабамі прыпыніць дзейнасць Цэнтра ўладам дагэтуль не атрымлівалася. Магілёўскі праваабарончы цэнтр — гэта адзіная зарэгістраваная праваабарончая арганізацыя, якая дзейнічае на тэрыторыі Магілёва.

30 студзеня кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак быў асуджаны да 4 сутак адміністрацыйнага арышту суддзёй суда Цэнтральнага раёна г. Мінска Якунчыхіным па абвінавачванні ў нецэнзурнай лаянцы на вуліцы (артыкул 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, «дробнае хуліганства»). Алег Волчак, які адмаўляў ужыванне нецэнзурных выразаў, быў прызнаны

вінаватым паводле паказанняў намесніка старшыні Цэнтральнага РУУС г. Мінска Антона Шахлая. Затрыманы праваабаронца быў 27 студзеня і трое сутак да суда ўтрымліваўся ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Арышт Алега Волчака скіраваны на пераслед за ягоную праваабарончую дзейнасць, у тым ліку — за агучванне за некалькі дзён да гэтага справаздачы пра суд над Алесем Бяляцкім, а таксама высноваў па справе аб асуджаных да смяротнага пакарання асобаў, абвінавачаных у здзяйсненні тэрарыстычнага акта ў Мінску.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання, нездавальняючыя ўмовы ўтрымання

10 студзеня пракуратура Брэсцкай вобласці адмовіла ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па фактах жорсткага абыходжання з Мікалаем Аўтуховічам, адзначыўшы, што падчас праверкі выявіць факты сістэматычнай знявагі яго асабістай годнасці ці схілення яго да самазабойства з боку адміністрацыі калоніі «не прадставілася магчымым». Зварот быў накіраваны былым адвакатам палітвязня Паўлам Сапелкам з нагоды атрыманай інфармацыі пра тое, што 11 снежня Мікалай Аўтуховіч, даведзены да адчаю беззаконнем службовых асобаў калоніі, парэзаў сабе вены. Следства паставіла пад сумнеў тлумачэнні, дадзеныя Мікалаем Аўтуховічам падчас апытання: «Аўтуховіч патлумачыў, што 11.12.2011 ён, выкарыстоўваючы лязо ад аднаразовага станка, сапраўды нанёс сабе парэзы на перадплеччах абедзвюх рук, аднак звязана гэта было з тым, што нібыта адміністрацыя калоніі «займаецца пакрывальніцтвам супрацьпраўных дзеянняў загадчыка гаспадаркі атрада № 13 — Пракаповіча У.І., які збівае асуджаных». Каго канкрэтна і пры якіх абставінах збіваў Пракаповіч У.І., Аўтуховіч пры апытанні назваць не змог». Таксама ўказваецца, што апытаны Пракаповіч і іншыя асуджаныя факты прымянення ім гвалту адмаўляюць. Следства мяркуе, што «пашкоджанне Аўтуховічам перадплеччаў не з'яўляецца спробай самагубства», а гэты факт «быў актам членашкодніцтва ў сувязі з пратэстам існуючым патрабаванням устаноўленага парадку адбывання пакарання, што прад'яўляюцца адміністрацыяй папраўчай установы да асуджаных».

25 студзеня жонка палітвязня, экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава — Ірына Халіп склікала экстранную прэс-канферэнцыю. Гэта адбылося на наступны дзень пасля спаткання з мужам, ад якога на працягу трох апошніх месяцаў не было ніякай інфармацыі: адвакатаў і сваякоў да яго не дапускалі, лісты не даходзілі. Па словах І. Халіп,

палітвязень выглядаў так, нібыта прайшоў праз сталінскія лагеры. А. Саннікаў паведаміў жонцы, што ён яшчэ ў лістападзе падпісаў прашэнне аб памілаванні на імя А. Лукашэнкі. Па меркаванні Ірыны, прашэнне з вязня «выбілі» сапраўднымі катаваннямі і пагрозамі на адрас сям'і: «Андрэй не мог распавесці пра тое, што з ім адбылося за тры апошнія месяцы. Ён толькі змог перадаць: «Мая адсідка скончылася яшчэ ў верасні. Потым пачаліся катаванні». Нагадаем, што менавіта ў верасні палітвязня накіравалі этапам з Наваполацкай калоніі ў Віцебскую, адтуль — у Магілёўскую, потым — у калонію «Віцьба-3». Прыкладна праз тры гадзіны пасля прэс-канферэнцыі Міністэрства ўнутраных спраў паведаміла, што прашэнне аб памілаванні Андрэй Саннікаў падаў 23 снежня (у дзень, калі была прэс-канферэнцыя Лукашэнкі, на якой той заявіў, што не ведае пра прашэнне), і толькі 23 студзеня 2012 года яно разам з падрыхтаванымі матэрыяламі трапіла з калоніі ў аддзел па пытаннях грамадзянства і памілавання Адміністрацыі прэзідэнта.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» выступіў з катэгарычным пратэстам супраць катаванняў, пагрозаў, шантажу і іншых недапушчальных спосабаў ціску і ўздзеяння на палітвязняў. Беларускі Хельсінкскі камітэт 30 студзеня звярнуўся ў Генеральную пракуратуру з просьбай праверыць інфармацыю пра катаванні Андрэя Саннікава, агучаную жонкаю экс-кандыдата ў прэзідэнты, і прыняць у выпадку неабходнасці меры пракурорскага рэагавання. Паплечнікі А. Саннікава накіравалі інфармацыю пра катаванні зняволенага палітыка ў Камітэт супраць катаванняў ААН дзеля тэрміновага рэагавання міжнароднага органа.

27 студзеня стала вядома, што Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча пазбавілі кароткатэрміновых спатканняў з роднымі за дысцыплінарныя спагнанні. Па інфармацыі бацькі Мікалая Дзядка, за нязначныя парушэнні — трымаў рукі ў кішэнях, што было расцэнена як нейкі выклік, ягонага сына не толькі пазбавілі спатканняў, але і права карыстацца турэмнай крамай, а таксама атрымліваць перадачы. Маці Аляксандра Францкевіча лічыць, што дысцыплінарнае спагнанне яе сыну вынесена таму, што ў сакавіку падыходзіць тэрмін, калі зняволены можа напісаць хадайніцтва аб пераводзе яго на іншы, больш спрыяльны рэжым утрымання, і каб гэтага не адбылося — ініцыянавана дысцыплінарнае спагнанне. Да гэтага ў вязня заўвагаў не было.

З 30 студзеня Дзмітрыю Бандарэнку зрабілі больш жорсткімі ўмовы ўтрымання ў папраўчай калоніі Магілёва № 15: яму забаронена карыстацца мыліцай, на якую ён абапіраўся пры хадзьбе. «Яму не дазволены зручны мяккі абутак, які я яму перадавала, — паведаміла жонка

палітыка. — Зараз ён павінен будзе нахіляцца для таго, каб абуваць цвёрдыя турэмныя чаравікі. Забаронена днём ляжаць — ён павінен выходзіць на паверку на пляц, хадзіць у страі. Яму прадпісаны лёгкія віды работ». Дзмітрый Бандарэнка асуджаны на два гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Адразу пасля арышту ў снежні 2010 года ў яго абвастрыліся хранічныя захворванні, у ліпені яму была зроблена аперацыя на пазваночніку ў 5-й клінічнай бальніцы Мінска.

## Смяротнае пакаранне

27 студзеня Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк паведаміў, што адзін з асуджаных да смяротнага пакарання за здзяйсненне тэракту ў мінскім метро ў красавіку 2011 года — 25-гадовы Дзмітрый Канавалаў прызнаў прысуд адносна сябе законным і адмовіўся падаваць прашэнне аб памілаванні. Па словах Генпракурора, пра гэта Канавалаў заявіў яшчэ 19 снежня 2011 года сябрам адмыслова створанай камісіі. Паводле Генпракурора, пра тое, што магчыма напісанне просьбы аб памілаванні на імя кіраўніка краіны, Канавалаву нагадвалі двойчы, і двойчы ён адмовіўся скарыстацца гэтым правам. Другі фігурант гэтай справы — Уладзіслаў Кавалёў, таксама асуджаны да смяротнага пакарання, прашэнне аб памілаванні падаў 7 снежня 2011 года. Заключэнне Генпракуратуры па яго заяве ўжо падрыхтавана, у бліжэйшы час дакументы павінны быць перададзеныя ў камісію па памілаванні пры прэзідэнце.

30 студзеня дэпутаты Еўрапарламента Лайма Андрыкейне ад Літвы і Эдуард Кукан, былы міністр замежных справаў Славакіі, выступілі з патрабаваннем адмяніць смяротнае пакаранне Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, а таксама ўвесці ў Беларусі мараторый на смяротнае пакаранне. На думку еўрапарламентароў, суд не даказаў віну Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Сваю заяву Андрыкейне і Кукан зрабілі па выніках сустрэч з маці асуджанага Любоўю Кавалёвай у Еўрапарламенце ў Брусэлі.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў

2 студзеня суд Маскоўскага раёна Мінска аштрафаваў актывістак Насту Шулейку і Вікторыю Рымашкевіч, якія былі затрыманы 31 снежня каля Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў, калі яны сустракалі арыштаваных за ўдзел у акцыі 19 снежня, на 20 базавых велічынь кожную

нібыта за здзейсненае дробнае хуліганства. Справу Н. Шулейкі разглядаў суддзя Віктар Козак, В. Рымашкевіч — Святлана Бандарэнка. Да суда дзяўчаты ўтрымліваліся ў ізалятары.

У гэты ж дзень у Маскоўскім судзе на 7 сутак арышту быў асуджаны актывіст кампаніі «Гавары праўду» Павел Вінаградаў, затрыманы 30 снежня ў Маскоўскім РУУС, куды актывіста выклікалі нібыта на размову. Ягоную справу разглядаў суддзя Кострыкаў.

У Кастрычніцкім судзе Мінска разглядалася адміністрацыйная справа актывіста «Студрады» Алеся Крата, які быў затрыманы раніцай 31 снежня і на якога быў складзены пратакол па арт.17.1 КаАП РБ — «дробнае хуліганства». Суд быў перанесены.

5 студзеня актывіст Руху «За свабоду» Ян Мельнікаў быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Суд Ленінскага раёна Мінска пакараў маладзёна арыштам у 15 сутак нібыта за «дробнае хуліганства» (арт. 17.1 КаАП РБ) і «парушэнне правілаў утрымання населеных пунктаў» (арт. 21.14 КаАП РБ). Актывіст быў затрыманы за распаўсюд у метро ўлётак кампаніі «Страху няма!».

5 студзеня суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Сяргей Бандарэнка, разгледзеўшы прадстаўленне начальніка Першамайскага РУУС, устанавіў прэвентыўны нагляд за Васілём Парфянковым тэрмінам на 12 месяцаў, паколькі былы палітвязень «на шлях выпраўлення не стаў». Васіль Парфянкоў пасля вызвалення з аршанскай папраўчай калоніі №8, дзе адбываў пакаранне ў выглядзе чатырох гадоў пазбаўлення волі за ўдзел у паслявыбарчай акцыі пратэсту ў снежні 2010 года, быў пастаўлены на прафілактычны ўлік у Першамайскім РУУСе па месцы жыхарства.

8 студзеня актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Мікіта Каваленка каля будынка КДБ разгарнуў бел-чырвона-белыя сцягі і партрэты палітвязняў. Акцыя працягвалася не больш за хвіліну. Да юнака падбеглі людзі ў цывільным, якія выйшлі з КДБ, і затрымалі яго. 9 студзеня суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Хадановіч пакараў Мікіту Каваленку арыштам тэрмінам 15 сутак за ўдзел у «несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве» (арт23.34 КаАП РБ). Разам з М. Каваленкам быў затрыманы незалежны журналіст Аляксандр Баразенка, які здымаў акцыю на відэакамеру.

11 студзеня суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Алена Цалкова прыняла пастанову аб спыненні адміністрацыйнай справы ў дачыненні Уладзіміра Няпомняшчых за «брудную лаянку» (арт. 17.1 КаАП) у сувязі

з недаказанасцю яго віны. Сведкі — супрацоўнікі міліцыі не змаглі даказаць, што актывіст АГП і Руху «За свабоду», пенсіянер МУС лаяўся матам. Гэтая падзея стала першым «палітычным» працэсам у Гомелі, калі не быў «даказаны» ў судзе факт бруднай лаянкі з боку апазіцыянера. Нагадаем, актывіст быў затрыманы міліцыяй 7 кастрычніка 2011 года, напярэдадні Народнага сходу, за расклейванне ўлётак да мерапрыемства.

12 студзеня ў судзе Першамайскага раёна Віцебска завяршыўся разгляд адміністрацыйнай справы Сяргея Каваленкі, якога прызналі вінаватым у хуліганстве. Суддзя Вольга Іванова аштрафавала актывіста КХП БНФ на чатыры базавыя велічыні за нібыта нецэнзурную лаянку на адрас супрацоўнікаў інспекцыі па выкананні пакаранняў. Як Сяргей Каваленка зможа выплаціць штраф — незразумела, бо на той момант ён ужо больш як тры тыдні ўтрымліваўся ў следчым ізалятары ў сувязі з крымінальнай справай, распачатай паводле артыкула 415 «Ухіленне ад адбыцця пакарання».

17 студзеня суддзя Мінскага абласнога суда Г.В. Руноў палічыў, што пакаранне зборшчыку подпісаў за правядзенне Народнага сходу Мікалаю Ільюшонку ў выглядзе штрафу ў памеры 15 базавых велічынь за нібыта арганізацыю несанкцыянаванага масавага мерапрыемства, правамерна. Такое пакаранне Ільюшонку было прызначана 12 снежня 2011 года суддзёй Барысаўскага раёна Аляксандрам Шутко.

27 студзеня жыхара Віцебска Пятра Іванова, грамадзяніна Расійскай Федэрацыі, прадстаўніка партыі «Адзіная Расія» і актывіста кампаніі «Гавары праўду» аштрафавалі на 2 базавыя велічыні нібыта за нецэнзурную лаянку. Але затрымлівалі яго 6 студзеня за ўлёткі з заклікам да салідарнасці з Сяргеем Каваленкам, і менавіта гэта спадар Іваноў лічыць прычынай судовага і міліцэйскага пераследу.

## Абмежаванні свабоды слова

9 студзеня журналіста Аляксандра Баразенку, які 8 студзеня здымаў акцыю каля будынка КДБ, суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Іван Майсейчык пакараў адміністрацыйным арыштам на 11 сутак па (арт 23.34 КаАП РБ) — «удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве», не ўзяўшы пад увагу тое, што журналіст пры гэтым выконваў свае прафесійныя абавязкі.

6 студзеня салігорскія карыстальнікі паслугаў перадачы дадзеных аператара сотавай сувязі ТАА СП «БелСел» (гандлёвая марка DIALLOG™) заявілі пра незаконную блакіроўку правайдэрам незалежных сайтаў. Карыстальнікі вымушаны былі звярнуцца ў аддзел тэхпадтрымкі, дзе хаваць факт блакіроўкі не сталі і паабяцалі яе зняць. Аднак цэнзураванне сайтаў ліквідавана было толькі пасля пагрозаў судовага разбіральніцтва, бо фільтраванне інтэрнэт-сайтаў для фізічных асоб можа ажыццяўляцца выключна па асабістай просьбе самога карыстальніка. Самавольная блакіроўка сайтаў правайдэрам з'яўляецца незаконнай.

6 студзеня рэдактара і выдаўца самвыдатаўскай газеты «Крывінка» з Бешанковічаў Георгія Станкевіча аштрафавалі на 40 базавых велічыняў за парушэнне парадку распаўсюду выдання. Рашэнне прыняла суддзя Вольга Белавус. Георгія Станкевіча затрымалі 5 лістапада 2011 года, і амаль два месяцы працягвалася судовае разбіральніцтва. Суддзя Вольга Белавус мусіла вярнуць першы міліцэйскі пратакол на дапрацоўку, бо ён быў складзены непісьменна — і гэта зацягнула судовы працэс. Нагадаем, адміністрацыйная справа была распачатая нібыта на падставе ананімнай скаргі ў міліцыю за незаконны распаўсюд «Крывінкі»: маўляў, дзве спадарыні знайшлі ў сваіх паштовых скрынях выданне, на якое яны не падпісваліся, і былі гэтым вельмі абураныя.

Уначы з 13 на 14 студзеня на дарозе пад Віцебскам супрацоўнікі ДАІ затрымалі машыну з накладам незалежнага выдання «Витебский курьер». 10 тысяч асобнікаў забралі на праверку. У нумары быў надрукаваны артыкул «Шэсць фактаў па справе Алеся Бяляцкага, пра якія не распавядае БТ і не пішуць у «Советской Белоруссии». Незалежная газета зарэгістравана і друкуецца ў Смаленску, таму ў Беларусі яна лічыцца расійскім друкаваным выданнем, хоць і распаўсюджваецца ў Віцебску.

17 студзеня арганізатары канферэнцыі «Дзелавы інтэрнэт» у Гомелі пад ціскам мясцовых уладаў адмовілі ва ўдзеле ў мерапрыемстве заснавальніку самага папулярнага гомельскага сайта навінаў Пятру Кузняцову. Першапачаткова заснавальнік рэсурсу «Моцныя навіны» (odsgomel.org) атрымаў запрашэнне выступіць на канферэнцыі з дакладам «Рост попыту на лакальныя навіны на прыкладзе Гомельскай вобласці». Аднак за некалькі дзён да мерапрыемства арганізатары паведамілі Пятру Кузняцову, што з-за ціску ўладаў яны скасавалі яго запрашэнне.

30 студзеня гарадзенскую карэспандэнтку Радыё Рацыя Гражыну Шалкевіч выклікалі ў Гродненскае абласное ўпраўленне КДБ. Размо-

ва вялася ў асноўным пра «маўклівыя» акцыі 2010 года, у часе адной з якіх Шалкевіч затрымалі і аштрафавалі як удзельніцу, таксама пра журналісцкую дзейнасць без акрэдытацыі. У выніку Гражына Шалкевіч была папярэджана пра крымінальную адказнасць за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь і абразу прэзідэнта.

## Выкананне свабоды сходаў

12 студзеня суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Сяргей Шыцікаў пакінуў без задавальнення скаргу гомельскіх праваабаронцаў Леаніда Судаленкі і Анатоля Паплаўнага на рашэнне гарвыканкама аб забароне пікету. Масавае мерапрыемства грамадзяне планавалі правесці на плошчы Паўстання Гомеля 10 снежня 2010 года, да Міжнароднага дня правоў чалавека.

13 студзеня Салігорскі райвыканкам не даў дазволу на правядзенне мітынгу ў падтрымку хрысціянскіх каштоўнасцяў. Сваю забарону чыноўнікі абгрунтавалі неадпаведнасцю пададзенай заявы патрабаванням артыкула 2 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», а падставай для адмовы пазначана рашэнне Салігорскага выканкама №3817 ад 30.12.2011. Што дакладна не адпавядае заканадаўству — у лісце не тлумачылася. Праз некалькі дзён салігорскія ўлады не далі дазволу на правядзенне пікету і мітынгу, якія меркавалася правесці 21-га і 22-га студзеня на салігорскім стадыёне «Будаўнік». Выказаць свае патрабаванні аб унясенні зменаў у Выбарчы кодэкс ды правядзенне свабодных парламенцкіх выбараў у 2012 годзе жыхары Салігорска не змаглі «ў сувязі з працамі па заліўцы лёду на тэрыторыі стадыёна». Менавіта такую прычыну абмежавання грамадзянскіх правоў пазначылі ў сваім адказе чыноўнікі салігорскага выканкама. 18 студзеня ў Салігорску забаранілі яшчэ два масавыя мерапрыемствы. Мясцовая грамадскасць не атрымала дазволу выканкама на правядзенне пікета ў падтрымку палітвязняў і мітынгу па абмеркаванні ходу выканання рашэнняў IV Усебеларускага сходу.

18 студзеня выпускнікі «Адукацыйнага курса па правах чалавека» падвялі вынікі бестэрміновай акцыі «Ні дня без заяўкі ў абарону Бяляцкага!», абвешчанай у верасні 2011 года пасля арышту праваабаронцы. За гэты час у Мінгарвыканкам было пададзена больш за 60 заявак на правядзенне мірных сходаў: удзельнікі планавалі правесці пікеты ў людных месцах па ўсім Мінску. Нягледзячы на тое, што заяўкі былі аформлены ў адпаведнасці з законам, усе пікеты былі забароненыя. Прычыны былі названы стандартныя: запланавана іншае масавае

мерапрыемства, нельга ўстанавіць канкрэтнае месца правядзення масавага мерапрыемства, пікетаванне будзе ствараць перашкоды руху пешаходаў і транспартных сродкаў і да т.п. У далейшым 14 з атрыманых адмоваў былі абскарджаны ў суд Маскоўскага раёна сталіцы, у задавальненні скаргаў адмоўлена.

19 студзеня ў судзе Слонімскага раёна адбылося паседжанне па скарзе лідара мясцовай суполкі Партыі БНФ Івана Шэгі на дзеянні Слонімскага райвыканкама, які паслядоўна забараніў усе заяўленыя акцыі салідарнасці з праваабаронцам Алесем Бяляцкім. Суддзя Наталля Радзіонік адмовіла ў задавальненні скаргі, палічыўшы, што Слонімскі райвыканкам меў рацыю ва ўсіх выпадках.

27 студзеня Аршанскі гарвыканкам адмовіў у правядзенні чатырох пікетаў супраць пагаршэння эканамічнага становішча грамадзян, заяўкі на якія падавалі актывісты партыі «Справядлівы свет». Аршанскі гарвыканкам адмовіў у правядзенні пікетавання на той падставе, што аўтары заявак не ўказалі месца сваёй працы. Той факт, што ўсе яны з'яўляюцца непрацуючымі пенсіянерамі, Аршанскі гарвыканкам да ўвагі не прыняў.

27 студзеня ў Магілёве актывістам Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» адмоўлена ў пікетаванні супраць збяднення людзей на падставе таго, што ў гэты дзень на адзінай пляцоўцы ў горадзе для правядзення масавых мерапрыемстваў (стадыёне «Хімік») будзе праводзіцца масавае фізкультурнае мерапрыемства.

Прадстаўнікі брэсцкай суполкі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» вымушаны былі адмовіцца ад правядзення 28 студзеня пікета супраць збяднення насельніцтва, які быў дазволены гарадскімі ўладамі пры ўмове, што арганізатары акцыі напярэдадні прадставяць у гарвыканкам дамовы з установамі аховы здароўя, унутраных спраў і камунальнымі службамі. Аднак паспець аформіць усе гэтыя дамовы за некалькі дзён аказалася немагчыма. Акрамя таго, сябры партыі палічылі абсурдным аплочваць за свае грошы працу згаданых устаноў пры рэалізацыі права на мірныя сходы і выказалі намер праз суд дамагчыся адмены аплаты арганізатарамі масавых мерапрыемстваў выдаткаў, звязаных з правядзеннем такіх акцый. Разам з тым, у Брэсце былі забароненыя два іншых адзіночных пікеты, прызначаныя таксама на 28 студзеня. Аналагічныя захады зрабілі ўлады ў яшчэ двух буйных гарадах вобласці — Пінску і Баранавічах, якія не дазволілі правесці ў гэты дзень пікеты супраць збяднення насельніцтва.

## Сітуацыя з выкананнем свабоды асацыяцый

18 студзеня Грамадскія ініцыятывы «Права на веру» і «СТОП 193.1!» заявілі пра намеры знайсці дзяржаўную структуру, у кампетэнцыю каторай уваходзіць ініцыяванне скасавання артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Актывісты накіравалі лісты ў Палату Прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, Адміністрацыю Прэзідэнта, Савет Міністраў, Міністэрства юстыцыі, Вярхоўны Суд, Канстытуцыйны Суд, Пракуратуру Рэспублікі Беларусь, а таксама ў КДБ і шэраг іншых дзяржаўных установ Рэспублікі Беларусь.

19 студзеня міністр юстыцыі Беларусі Алег Сліжэўскі на выніковай калегіі Міністэрства паведаміў журналістам аб тым, што партыі «Беларуская храсціянская дэмакратыя» адмоўлена ў рэгістрацыі. Такім чынам, і чацвёртая спроба аргкамітэта атрымаць легальны статус завяршылася беспаспяхова. Алег Сліжэўскі, называючы прычыны адмовы, адзначыў, што ў пададзеных для рэгістрацыі дакументах БХД быў выяўлены шэраг парушэнняў. А менавіта: парушэнні выяўленыя ва ўстаноўчых дакументах і спісах заснавальнікаў партыі. Разам з тым, 11 студзеня кіраўніцтва ствараемай партыі БХД атрымала ліст з Міністэрства юстыцыі, датаваны 6 студзеня, у якім чыноўнікі паведамілі пра прыпыненне на месяц працэсу рэгістрацыі партыі, спасылаючыся на неабходнасць дадатковай праверкі пададзеных дакументаў. 13 студзеня адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі паведаміў журналістам, што ў рэгіёнах і сталіцы распачаўся небывалы ціск на заснавальнікаў Партыі БХД: толькі за самы апошні час зафіксавана больш за 20 фактаў пераследу і пагроз у дачыненні да тых, хто заявіў пра свае стасункі са ствараемай партыяй. Нагадаем, што апошні ўстаноўчы з’езд партыі прайшоў 17 снежня 2011 года ў Мінску.

23 студзеня эксперты Асамблеі НДА і Цэнтра прававой трансфармацыі прэзентавалі маніторынг прававога стану няўрадавых арганізацый і свабоды асацыяцыі ў Беларусі за 2011 год. Юрыст Выканаўчага бюро Асамблеі НДА Юрый Чавусаў і дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі Вольга Смалянка адзначылі пагаршэньне заканадаўчых умоваў для існавання некамерцыйных арганізацый у краіне. На ўзроўні правапрымяняльнай практыкі экспертамі таксама не зафіксавана значных пазітыўных зменаў, адзначаны працяг папярэдніх негатыўных тэндэнцыяў, а ў шэрагу выпадкаў — іх узмацненне.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Люты 2012 года

2

Адсутнасць пазітыўных зменаў у сферы правоў чалавека, і найперш нявырашанасць праблемы палітычных зняволеных, на працягу лютага знаходзіліся ў цэнтры палітычных дачыненняў ЕС з беларускімі ўладамі.

Дырэктар дэпартамента Еўрапейскай службы замежных дзеянняў Гунар Віганд, які наведаў 9 лютага Мінск, заявіў, што Еўрасаюз не будзе мяняць сваю палітыку ў адносінах да Беларусі, пакуль за кратамі знаходзяцца палітвязні. Падчас адной з сустрэчаў ён адзначыў, што ў выніку стасункаў з прадстаўнікамі афіцыйнага Мінска з'явілася надзея, што на працягу бліжэйшых тыдняў на волю могуць выйсці некалькі ключавых палітычных зняволеных. Чакалася, што гэта могуць быць экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і ягоны паплечнік Дзмітрый Бандарэнка, якія напісалі прашэнні аб памілаванні. Аднак да канца лютага ніякіх зрухаў у гэтым накірунку так і не адбылося.

Больш за тое, сітуацыя стала яшчэ больш напружанай пасля вынясення палітычна-матываванага абвінаваўчага прысуду (2 гады і 1 месяц пазбаўлення волі) актывісту КХП-БНФ з Віцебска Сяргею Каваленку, што было адназначна ўспрынята як адсутнасць імкнення да дыялога па гэтай вострай і прынцыповай праблеме.

Даючы выразны палітычны сігнал беларускаму боку, 10 лютага на сваім паседжанні Савет ЕС прыняў пастанову, згодна з якой пашырыліся магчымасці прымянення санкцыяў у адносінах да фізічных і юрыдычных асобаў Беларусі, датычных да парушэнняў асноўных правоў і свабод. І ўжо 27 лютага ў Брусэлі на паседжанні Савета міністраў замежных справаў краінаў Еўрасаюза візавыя і фінансавыя санкцыі былі ўведзены ў адносінах да 19 прадстаўнікоў судовай сістэмы Беларусі і 2 міліцэйскіх чыноўнікаў.

Адказ афіцыйнага Мінска быў імклівым і нервовым: ужо на наступны дзень, 28 лютага, МЗС Беларусі прапанаваў кіраўніку прадстаўніцтва Еўракамісіі Майры Моры і амбасадару Польшчы Лешаку Шарэпку выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб «давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый». У сваю чаргу, у Мінск для кансультацый былі адкліканы пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Еўрасаюзе Андрэй Еўдачэнка і амбасадар

Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак. Было таксама заяўлена, што «беларускі бок зачыніць уезд у Беларусь тым асобам з краін Еўрасаюза, якія спрыялі ўвядзенню абмежавальных захадаў». У той жа вечар Брусэль абвясціў пра адкліканне з Беларусі ўсіх амбасадараў краінаў Еўрасаюза «на знак салідарнасці і еднасці».

У развіццё прынцыповай пазіцыі 2 сакавіка лідары краін Еўрасаюза на саміце ў Брусэлі заклікалі Раду міністраў замежных справаў ЕС зрабіць далейшыя захады ў дачыненні да афіцыйнага Мінска. Прэзідэнт Еўрапейскай рады Герман ван Ромпэй агучыў узгодненую заяву саміта адносна Беларусі: «Еўрапейская рада выказвае сваю сур'ёзную занепакоенасць далейшым пагаршэннем сітуацыі ў Беларусі. Яна вітае рашэнне Рады ЕС пашырыць спіс асобаў — адказных за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека і рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці, а таксама тых, якія падтрымліваць рэжым Лукашэнкі або атрымліваюць ад яго карысць — у дачыненні да якіх была ўжытая візавая забарона і замарожванне актываў». Еўрапейская рада заклікала Раду ЕС працягнуць працу над далейшымі абмежавальнымі захадамі ў адносінах да такіх асобаў.

Такім чынам, люты адзначыўся сур'ёзнымі заявамі і палітычнымі захадамі краінаў ЕС па праблемах, звязаных з крытычным станам правоў чалавека ў Беларусі, што выклікала жорсткае супрацьдзеянне беларускіх уладаў. Беларускі бок пры гэтым не толькі не зрабіў ніводнага кроку да ліквідацыі прычын канфлікту, але і прадэманстраваў волю да далейшай яго эскалацыі.

Сітуацыя з асноўнымі правамі і свабодамі заставалася крытычна кепскай.

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

За кратамі працягвалі знаходзіцца 15 палітычных вязняў Беларусі: Мікалай Аўтуховіч, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Бандарэнка, Павел Севярынец, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Алесь Бяляцкі, Сяргей Каваленка, Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Павел Сырамалотаў.

1 лютага Дзмітрый Бандарэнка напісаў прашэнне аб памілаванні. Напярэдадні, нягледзячы на перанесеную аперацыю на хрыбетніку, адносна яго ўступілі ў дзеянне больш жорсткія ўмовы ўтрымання, у яго забралі мыліцы і адмысловы артапедычны абутак. Адразу пасля

напісання прашэння неабходныя рэчы былі вернутыя вязню. 9 лютага камісія па ўмоўна-датэрміновым вызваленні магілёўскай папраўчай калоніі № 15 вызначыла, што яна не будзе рэкамендаваць вызваліць Дзмітрыя Бандарэнку датэрмінова. Асуджаны на 2 гады калоніі агульнага рэжыму, ён ужо мае права на ўмоўна-датэрміновае вызваленне, аднак адміністрацыя калоніі, хаця ў зняволенага няма дысцыплінарных спагнанняў, адмаўляецца ісці на гэты крок.

Напісаныя прашэнні аб памілаванні Андрэем Саннікавым (23 лістапада 2011 года) і Дзмітрыем Бандарэнкам ніякім чынам не паўплывалі на іх вызваленне. Сябра камісіі па памілаванні пры прэзідэнце Мікалай Самасейка 8 лютага адзначыў, што на гэтую дату ён яшчэ не мае адпаведных дакументаў на Саннікава і Бандарэнку і што паседжанне камісіі звычайна адбываецца праз 2—3 дні пасля іх атрымання. Тое, што да канца лютага камісія па памілаванні так і не разгледзела прашэнняў А. Саннікава і Д. Бандарэнкі, сведчыць пра тое, што рашэнне па іх справах вязняў залежыць не ад камісіі, а выключна ад рашэння прэзідэнта і вынікаў палітычных працэсаў паміж беларускімі ўладамі і Еўрасаюза.

Залежнасць ад палітычных фактараў не выключалася і ў справе зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. 17 лютага ён быў пераведзены з турмы №8 Жодзіна ў СІЗА №1 Мінска на вул. Валадарскага, дзе ўтрымліваўся 11 дзён. Толькі 28 лютага ён быў этапаваны на месца адбыцця пакарання — у Бабруйскую папраўчую калонію №2. Па некаторай інфармацыі, МЗС Беларусі наўпрост звязваў пытанне вызвалення праваабаронцы ад прыняцця рашэння па санкцыях Еўрасаюза.

24 лютага суддзя суда Першамайскага раёна Віцебска Алена Жук прызнала сябра КХП-БНФ Сяргея Каваленку вінаватым «ва ўхіленні ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі» (арт. 415 Крымінальнага кодэкса) і асудзіла яго да 2 гадоў і 1 месяца калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму (пракурор Дзмітрый Лутаў патрабаваў 2 гады 8 месяцаў). Сяргея Каваленку прызналі вінаватым у парушэнні рэжыму адбыцця абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу («хатняй хіміі») — пакарання, вынесенага за бел-чырвона-белы сцяг, вывешаны 7 студзеня 2010 года на гарадской навагодняй елцы. Да суда С. Каваленка ўтрымліваўся пад вартай, дзе ў знак пратэсту амаль два месяцы трымаў галадоўку пратэсту, якую не спыніў і пасля вынясення прысуду. 17 лютага Сяргей Каваленка паўторна ўзяў шлюб са сваёй былой жонкай.

29 лютага стала вядома, што Барысаўская раённая пракуратура адмяніла пастанову аб спыненні крымінальнай справы па артыкуле 370 Крымінальнага кодэкса «Абраза дзяржаўных сімвалаў» у дачыненні да Аляксандра Малчанава і Андрэя Мікалаеўскага. А. Малчанаў і яго сябар А. Мікалаеўскі трапілі пад пераслед міліцыі пасля таго, як 26 кастрычніка 2011 года ў цэнтры Барысава былі залітыя фарбай дзяржаўныя сцягі. Крымінальная справа ў першай палове лютага была спынена з-за недахопу доказаў. Аляксандр Малчанаў знаходзіцца пад вартай у СІЗА Жодзіна па абвінавачанні ў здзяйсненні злачынства па частцы 2 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса («крадзеж, здзейснены групай асобаў»): ён разам з яшчэ адным чалавекам быў затрыманы ў Жодзіне ў пачатку студзеня 2012 года па падазрэнні ў крадзяжы металалому на тэрыторыі кузнечнага завода.

## Пераслед і ціск на праваабаронцаў

13 лютага Мінскі гарадскі суд разгледзеў касацыйную скаргу намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча на пастанову суда Партызанскага раёна Мінска ад 16 снежня 2011 года аб спагнанні падаткаў згодна з зыскавымі патрабаваннямі інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Партызанскага раёна сталіцы. Судовая калегія, разгледзеўшы довады праваабаронцы, цалкам пакінула скаргу без задавальнення. Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў асудзіла адмову ў задавальненні скаргі Валянціна Стэфановіча Мінскім гарадскім судом, адзначыўшы, што сумы, залічаныя праваабаронцу ў якасці «асабістага прыбытку», былі пераведзены на ягоны банкаўскі рахунак у Літве з боку міжнародных арганізацый, такіх як Amnesty International і Дацкі інстытут па правах чалавека, і заўсёды выкарыстоўваліся ў межах дзейнасці ПЦ «Вясна».

29 лютага Валянцін Стэфановіч атрымаў дзве пастановы аб узбуджэнні выканаўчай вытворчасці на падставе рашэння суда аб спагнанні падаходнага падатку, пені і дзяржаўнай мыты. У сямідзённы тэрмін ён павінен сплаціць 31 515 540 рублёў падаходнага падатку, 22 841 830 рублёў пені за невыкананне падаткавага абавязальніцтва, а таксама 2 717 870 рублёў дзяржаўнай мыты.

Справа Валянціна Стэфановіча наўпрост звязана са справай асуджанага Алеся Бяляцкага і шырокім пераследам Праваабарончага цэнтра «Вясна» за праваабарончую дзейнасць і дапамогу палітвязням. Пераслед як Алеся Бяляцкага, так і Валянціна Стэфановіча ініцыяваны КДБ.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання, нездавальняючыя ўмовы ўтрымання



22 лютага падчас сустрэчы з адвакатам высветлілася, што Дзмітрый Дашкевіч паўторна на працягу месяца змешчаны ў штрафны ізалятар Глыбоцкай калоніі №13 на 10 сутак; пра прычыны гэтага рашэння адміністацыі калоніі вязень паведаміць не змог. Падчас папярэдняй сустрэчы з адвакатам 17 лютага Дзмітрый Дашкевіч таксама быў у штрафным ізалятары. Туды ён быў змешчаны за адмову ўваходзіць у камеру да зняволенага з нізкім сацыяльным статусам, што па турэмных правілах аўтаматычна перавяло б яго самога ў такі ж статус.

29 лютага Сяргея Каваленку з СІЗА Віцебска перавезлі ў турэмны шпіталь пры мінскай калоніі №1 на Валадарскага. Палітычны зняволены, які трымае галадоўку ўжо больш за 2 месяцы, страціў каля 30 кілаграмаў вагі, адчувае сябе вельмі слабым, яму цяжка сядзець і нават ляжаць. С. Каваленка патрабуе пераводу ў цывільны шпіталь, змены меры стрымання і адмены несправядлівага прысуду.

У Дзмітрыя Бандарэнкі пагоршыўся стан здароўя. У лісце да жонкі Вольгі Бандарэнкі палітзняволены напісаў, што ў калоніі быў вялікі агляд, зняволеныя доўга стаялі, і ён прастудзіўся, паднялася высокая тэмпература. Калі Дзмітрый Бандарэнка пайшоў у санчастку, яму далі лекі, але спачатку адмовілі ў змяшчэнні ў санчастку, аднак пасля далейшага пагаршэння самаадчування ўсё ж паклалі на лячэнне.

## Смяротнае пакаранне

Напачатку лютага стала вядома, што беларускі ўрад лічыць непрымальнай скаргу блізкіх асуджанага да смяротнага пакарання Уладзіслава Кавалёва, накіраваную ў Камітэт па правах чалавека ААН і зарэгістраваную 15 снежня 2011 года. На думку беларускага ўраду, непрымальнасць яе выцякае з-за нявычарпанасці ўсіх нацыянальных сродкаў абароны, паколькі скарга Кавалёва знаходзіцца на разглядзе ў Вярхоўным судзе ў парадку нагляду. Таксама Кавалёў звярнуўся за памілаваннем да Аляксандра Лукашэнкі. Разам з тым, зварот са скаргай у парадку нагляду не прызнаецца міжнароднымі органамі ў сферы правоў чалавека ў якасці прававога сродку ўнутрыдзяржаўнай абароны, паколькі ў гэтым выпадку не ўзбуджаецца прававая працэдура. Зварот за памілаваннем таксама нельга расцэньваць як прававы сродак абароны правоў, бо асноўнымі ў гэтай працэдуры з'яўляюцца не прававыя

пытанні, а маральныя альбо гуманітарныя. Згодна з практыкай, асуджаны да смяротнага пакарання ў Беларусі даведваецца аб тым, што яму адмоўлена ў задавальненні скаргі ў парадку нагляду і прашэнні аб памілаванні за некалькі хвілін да пакарання. У яго няма ніякай рэальнай магчымасці за гэтыя некалькі хвілін прадставіць у Камітэт па правах чалавека скаргу ААН і дачакацца яе рэгістрацыі. Таму патрабаванне аб вычарпальнасці ўнутраных сродкаў да падачы скаргі ў ААН — неабгрунтаванае. Гэтая пазіцыя выкладзена маці Уладзіслава Кавалёва Камітэту па правах чалавека ААН на каментарый ураду Беларусі. Камітэт звярнуўся да дзяржавы з просьбай не прыводзіць смяротны прысуд у выкананне да канца разгляду справы па сутнасці.

Любоў Кавалёва, маці асуджанага да смяротнага пакарання Уладзіслава Кавалёва, накіравала звароты ў дзяржаўныя органы, якія маюць права звяртацца ў Канстытуцыйны суд дзеля вынясення заключэнняў. Яна прасіла гэтыя органы ўнесці прапановы ў Канстытуцыйны суд аб увядзенні ў Крымінальна-выканаўчы кодэкс артыкула аб прыпыненні выканання смяротнага прысуду ў сувязі са зваротам у Камітэт па правах чалавека ААН. 18 лютага з адказу з Адміністрацыі прэзідэнта за подпісам загадчыка аддзела па пытаннях грамадзянства і памілавання Аляксандра Кісялёва паступіў адказ, што для разгляду яе прапановы патрэбны комплексны прававы аналіз заканадаўства з удзелам кампетэнтных органаў. Акрамя Адміністрацыі прэзідэнта, Любоў Кавалёва аналагічныя звароты накіравала ў Савет Міністраў, Вярхоўны суд, Савет Рэспублікі і Палату Прадстаўнікоў.

13 лютага праваабаронца Валянцін Стэфановіч атрымаў з Адміністрацыі прэзідэнта адказ на свой зварот з просьбай увесці мараторый на смяротнае пакаранне (зварот быў накіраваны 9 снежня 2011 года, напярэдадні Дня правоў чалавека). У адказе сказана, што «Рэспубліка Беларусь паслядоўна ідзе па шляху абмежавання выкарыстання смяротнага пакарання». «Рух на шляху выключэння смяротнага пакарання з ліку крымінальных пакаранняў не можа быць аднолькавым у розных дзяржавах свету. Немагчыма аднамаментна змяніць унутрынацыянальныя, гістарычна сфарміраваныя погляды ў гэтым пытанні», — адзначана ў адказе за подпісам загадчыка аддзела па пытаннях грамадзянства і памілавання Аляксандра Кісялёва.

14 лютага Прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц звярнуўся да А. Лукашэнкі з просьбай аб памілаванні Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія чакаюць смяротнага пакарання. «Мы выступаем супраць смяротнага пакарання ў любых абставінах і заклікаем Беларусь,

апошнюю краіну ў Еўропе, якая выкарыстоўвае яго, увесці мараторый на смяротнае пакаранне», — адзначыў ён.



16 лютага Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю па смяротным пакаранні ў Беларусі, у якой асудзіў смяротныя прысуды, вынесеныя Кавалёву і Канавалаву, і настойліва заклікаў Аляксандра Лукашэнку памілаваць гэтых асобаў і абвясціць мараторый на смяротныя прысуды і пакаранне з мэтай скасавання смяротнага пакарання з сістэмы пакаранняў шляхам ратыфікацыі Другога факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі.

27 лютага сваякі асуджанага да смяротнага пакарання майстра джыу-джытсу з Гомельшчыны Ігара Мяліка паведамілі, што больш за месяц не атрымліваюць ад яго лісты, хаця раней ён пісаў рэгулярна, штотыдзень. Яны выказалі непакой, што смяротны прысуд мог быць прыведзены ў выкананне. Смяротны прысуд Ігару Мяліку быў вынесены 14 верасня 2010 года Магілёўскім абласным судом за здзяйсненне серыі забойстваў, рабаўніцтва, крадзеж у складзе злачыннай групоўкі, а таксама за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў. 11 лютага 2011 года калегія Вярхоўнага суда Беларусі пакінула прысуд без зменаў.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 лютага на паседжанні камісіі пры адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска непаўнагадовага актывіста аргкамітэта па стварэнні Нацыянал-бальшавіцкай партыі Уладзіслава Лобава аштрафавалі на 30 базавых велічыняў за ўдзел у акцыі 3 снежня 2011 года каля будынка Белтэлерадыёкампаніі, калі трое маладых людзей выплюхнулі на ганак вядро з локшынай і раскідалі ўлёткі. Дзеянні У. Лобава кваліфікаваныя па артыкуле 17.1 КаАП («дробнае хуліганства»).

8 лютага пасля 19-ай гадзіны супрацоўнікі міліцыі ў масках, выбіўшы вокны, уварваліся ў дом, дзе ўжо шмат гадоў па серадах праводзяцца сустрэчы «Ліцьвінскага клубу». Былі затрыманыя 32 удзельнікі мерапрыемства, сярод якіх — 2 непаўнагадовыя, і дастаўленыя ў РУУС Маскоўскага раёна Мінска. Першапачатковай прычынай затрымання супрацоўнікі міліцыі назвалі тое, што паступіла інфармацыя пра наркотыкі ў гэтым доме, а пазней паведамілі пра падазрэнні на тое,

што там праводзіла службы нейкая секта. Праз паўтары гадзіны ўсе затрыманыя былі адпушчаны без складання пратаколаў.

11 лютага ў Дзяржынску былі затрыманыя актывісты «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандр Тарнагурскі, Анатоль Жулетнікаў і Уладзімір Дзенісевіч, якія спрабавалі вывесіць расцяжку «Свабоду Бяляцкаму!». Актывістаў даставілі ў РУУС Дзяржынскага раёна і горада Дзяржынска, дзе склалі пратаколы апытання, сканфіскавалі расцяжку і вызвалілі. У пачатку сакавіка Аляксандру Тарнагурскаму і Уладзіміру Дзенісевічу былі вынесеныя пакаранні ў выглядзе штрафаў памерам 20 і 10 базавых велічыняў па артыкуле 21.14 ч.2 КаАП РБ («парушэнне правілаў утрымання населеных пунктаў»).

22 лютага суддзя суда Маскоўскага раёна Мінска Таццяна Матыль асудзіла актывіста грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Паўла Вінаградава на 10 сутак адміністрацыйнага арышту па артыкуле 23.34 КаАП РБ («парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства») за акцыю «Ігрушко мітінгуэ», якая была праведзеная 10 лютага каля Мінгарвыканкама. Павел Вінаградаў быў раптоўна затрыманы пасля 17 гадзін 21 лютага і доўгі час пра яго месцазнаходжанне нічога не было вядома. Ноч актывіст правёў у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна.

У памяшканні суда пры спробе перадаць прадукты Паўлу Вінаградаву быў затрыманы яшчэ адзін актывіст кампаніі «Гавары праўду» Алесь Арцыбашаў. Яго адвезлі ў Маскоўскі РУУС для складання пратакола адміністрацыйнага правапарушэння за ўдзел у той жа акцыі «Ігрушко мітінгуэ». У гэты ж дзень суд Маскоўскага раёна асудзіў А. Арцыбашава да 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

22 лютага пасля 15 гадзін суд Віцебскага раёна разгледзеў адміністрацыйныя справы маладафронтаўцаў Рамана Васільева, Міхаіла Мускага, Дзмітрыя Крэмянецкага і Уладзіміра Яроменкі, а таксама сябра БАЖу Паўла Сітніка, якія 21 лютага ехалі на суд да Сяргея Каваленкі і былі затрыманыя па дарозе. Усе яны былі абвінавачаны ў дробным хуліганстве. Кіроўцу аўтамабіля Паўла Сітніка, які адзіны, хто прыйшоў на суд, пакаралі штрафам у памеры 105 тысяч рублёў, астатнія завочна атрымалі арышты на трое сутак.

22 лютага сітуацыя з затрыманнем аўтамабіля паўтарылася з аршанскімі актывістамі аргкамітэта па стварэнні партыі БХД, якія ехалі ў Віцебск, каб падтрымаць у судзе Сяргея Каваленку. Машыну спынілі,

ва ўсіх забралі дакументы і сказалі чакаць. Праз тры гадзіны дакументы аддалі і адпусцілі, абышлося без складання пратаколаў.



23 лютага пры правядзенні антыалкагольнай акцыі каля ўнівермага «Гомель» у абласным цэнтры былі затрыманыя актывісты кааліцыі «Наша альтэрнатыва» Кастусь Жукоўскі, Андрэй Папоў і Дзмітрый Карашкоў. Пратрымаўшы каля двух з паловай гадзін, іх адпусцілі з Цэнтральнага РАУС Гомеля, забраўшы каля 430 асобнікаў антыалкагольных улётак, каб праверыць на адпаведнасць закону. Улёткі ўтрымлівалі заклік «Хопіць піць — час сям'ю карміць і краіну бараніць» і віншаванні з Днём абаронцы Айчыны.

## Палітычна матываваныя адлічэнні з вучобы

6 лютага з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (МДЛУ) адлічылі актывістаў «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандра Салдаценку, Аляксандра Вялітчанку і Мікіту Каваленку, якія раней былі асуджаныя да адміністрацыйных арыштаў за ўдзел у акцыях салідарнасці з палітычнымі зняволенымі Беларусі. Аляксандр Салдаценка быў асуджаны на 7 сутак арышту за ўдзел у акцыі 25 кастрычніка 2011 года; пасля затрымання на акцыі 26 кастрычніка 2011 года Аляксандр Вялітчанка атрымаў 15 сутак арышту, а Мікіта Каваленка — 10 сутак, а 8 студзеня яшчэ 5 сутак арышту за ўдзел у новай акцыі. Аляксандра Вялітчанку затрымлівалі за ўдзел у акцыі 2 жніўня 2011 года каля будынка Горацкай калоніі, у якой тады адбываў пакаранне палітвязень Дзмітрый Дашкевіч. Тады яго пакаралі штрафам у памеры 30 базавых велічыняў.

У лістападзе 2011 года рэктар МДЛУ Наталля Баранава вынесла студэнтам «афіцыйнае пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацьпраўных паводзінаў», перавысіўшы тым самым свае службовыя паўнамоцтвы.

14 лютага актывістка «Маладога фронту» Наста Шулейка даведалася, што яна адлічаная з Інстытута журналістыкі БДУ. Наста неаднаразова затрымлівалася за ўдзел у акцыях пратэсту, што і паслужыла прычынаю адлічэння. Так, пасля першага затрымання за акцыю ў падтрымку праваабаронцы Алеся Бяляцкага 25 лістапада 2011 года, кіраўніцтва інстытута вынесла ёй вымову. Падчас акцыі 19 снежня 2011, прысвечанай гадавіне трагічных падзеяў на Плошчы, Насту затрымалі каля Чырвонага касцёла, а назаўтра пакаралі штрафам. Яе таксама затрымлівалі 31 снежня 2011 каля Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна, за што пакаралі штрафам у памеры 20 базавых велічынь, а Новы Год яна сустрэла ў камеры.

## Абмежаванні свабоды слова

6 лютага, у пяты раз за апошні час, ДАІ затрымала для праверкі машыну рэдактара «Віцебскага кур'ера», якой кіравала журналістка «ВК» Юлія Канаплёва. Супрацоўнікі папрасілі журналістку адкрыць багажнік, але атрымалі адмову. Кіроўца запатрабавала панятых і запрасіла прадстаўніка ўладальніка аўто і журналістаў. 4 гадзіны цягнуўся агляд аўтамабіля, складанне пратакола агляду (у машыне была ўсяго адна газета «Віцебскага кур'ера»), пасля чаго журналістка была адпушчаная, дакументы ёй вернутыя.

16 лютага рэдактара сайта «Народныя Навіны Віцебска» Сяргея Серабро апыталі ў транспартнай міліцыі наконт інфармацыі пра бел-чырвона-белы сцяг, вывешаны 8 лютага на знак салідарнасці са зняволеным у СІЗА сябрам КХП БНФ Сяргеем Каваленкам. У транспартнай міліцыі ў журналіста цікавіліся, ці ён пісаў інфармацыю для сайта і ці пацвярджае яе. С. Серабро адказаў, што журналіст мае права не выдаваць крыніцы інфармацыі, калі гэта не тычыцца сведчанняў у судзе. 8 лютага, калі Сяргей Серабро фатаграфаваў вывешаны сцяг, яго затрымалі супрацоўнікі транспартнай міліцыі. Спачатку яны запатрабавалі, каб незалежны журналіст выдаліў здымкі, але не знайшлося законных падставаў для гэтага. Тады, перапісаўшы асабістыя дадзеныя, журналіста адпусцілі.

16 лютага гарадзенскі відэааператар Мікалай  Дзятчэня атрымаў папярэджанне ад Гарадзенскай абласной пракуратуры за працу без акрэдытацыі для канала «Белсат». Па меркаванні пракуратуры, некаторыя кадры з акцыі ў раённым цэнтры Свіслач, якія былі паказаныя па «Белсату», зробленыя менавіта Мікалаем Дзятчэнем. Такую выснову пракурорскія работнікі зрабілі з таго, што журналіст знаходзіўся акурат у той час і ў тым месцы. Як доказ яго месцазнаходжання пракуратура прад'явіла зробленыя невядомымі работнікамі сілавых ведамстваў фотаздымкі. Пасля таго, як журналіст атрымаў папярэджанне, пракурорскія работнікі адмовіліся даць копію гэтага дакумента папярэджанаму, хоць той настойваў на гэтым.

21 лютага журналіст з Гродна Віктар Парфёненка, які тройчы цягам трох гадоў падаваў дакументы на афіцыйную рэгістрацыю ў якасці журналіста Беларускага Радыё Рацыя, быў выкліканы ў Гарадзенскую абласную пракуратуру для абвешчання афіцыйнага папярэджання за

працу без акрэдытацыі. У гутарцы з намеснікам начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства Валерыем Павядайкам быў згаданы матэрыял Парфёненкі ад 8 снежня 2011 года, які быў прысвечаны адзначэнні ў Гродна юбілею Максіма Багдановіча. Пісьмовага папярэджання Віктар Парфёненка, нягледзячы на патрабаванне, не атрымаў. Журналіст збіраецца чарговы, ужо чацвёрты раз, падаць дакументы на афіцыйную акрэдытацыю ў МЗС.

21 лютага Гарадзенская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне незалежнаму журналісту Алесю Дзянісаву. Гутарку з Дзянісавым вёў намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гарадзенскай вобласці Валеры Павядайка. Фармальнай падставай такога рэагавання афіцыйнага органа стаў рэпартаж пра Дзень памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы, які прайшоў у канцы кастрычніка мінулага года. Пракуратура папярэдзіла Дзянісава за журналісцкую працу без акрэдытацыі. Нібыта ў матэрыяле тэлеканалу «Белсат» былі выкарыстаны кадры, якія зняў Алесь Дзянісаў. Журналіст заявіў прадстаўніку пракуратуры, што такое папярэджанне не мае ніякіх падставаў, паколькі з'яўляецца бяздоказным.

21 лютага на семінар па пытаннях ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці з удзелам старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандра Якабсона, Генеральнага пракурора Аляксандра Канюка, старшыні аблвыканкама Уладзіміра Дворніка, прадстаўнікоў структур улады і бізнэсу не дапусцілі карэспандэнта БелаПАН Алену Германовіч. Супрацоўніца ўпраўлення ідэалогіі аблвыканкама Вольга Рабікава прапанавала Алене пакінуць памяшканне, матывававўшы тым, што для прысутнасці на семінары патрэбна адмысловае запрашэнне. Словы карэспандэнта аб тым, што журналіст, у адпаведнасці з заканадаўствам, мае права атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю, прысутнічаць на мерапрыемствах, не аказалі на супрацоўніцу ідэалогіі ніякага ўплыву.

22 лютага супрацоўнікі КДБ запрасілі на неафіцыйную сустрэчу галоўнага рэдактара сайта «Свабодны Рэгіён» Яўгена Парчынскага з Наваполацка. Пры сустрэчы супрацоўнік дзяржбяспекі нагадалі пра існаванне ў Крымінальным кодэксе артыкулаў аб дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь у публікацыях, аўдыё, відэа матэрыялах, а таксама пра тое, што займаючыся журналісцкай дзейнасцю без акрэдытацыі, ён парушае існуючае заканадаўства.

26 лютага каля 19 гадзін вечара ў Віцебску супрацоўнікамі міліцыі была затрыманая добраахвотная памочніца грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Ганна Гадлеўская, якая распаўсюджвала бясплатную газету «Наш Дом инфо». Супрацоўнік міліцыі быў без формы, ён паказаў пасведчанне і выклікаў па тэлефоне нарад міліцыі. Супрацоўнікі міліцыі даставілі актывістку ў Кастрычніцкі РАУС, склалі пратакол аб адміністрацыйным парушэнні нібыта за незаконны распаўсюд друкаванай прадукцыі, канфіскавалі 430 асобнікаў газеты і праз 3 гадзіны адпусцілі.

27 лютага ў Гарадзенскую абласную пракуратуру была выклікана Гражына Шалкевіч, карэспандэнтка Беларускага Радыё Рацыя. Журналістцы было абвешчана афіцыйнае папярэджанне за працу без афіцыйнай акрэдытацыі. Аднак даць на рукі пісьмовы дакумент начальнік аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства Валерый Павядайка адмовіўся. Просьба журналісткі перапісаць змест і сутнасць папярэджання засталася таксама без задавальнення.

27 лютага незалежнаму журналісту Андрэю Мялешку патэлефанавалі на мабільны тэлефон з абласнога ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі і запрасілі на «прафілактычную гутарку». Тэлефанаваўшы прадставіўся маёрам Жукавым. Мялешка запатрабаваў прадставіць яму афіцыйную позву і сказаў, што прыйдзе толькі пасля яе атрымання. Андрэй Мялешка — пяты гарадзенскі сябра БАЖ, якога турбуюць за апошні тыдзень з пракуратуры альбо КДБ.

## Абмежаванне свабоды сходаў

Па стане на 14 лютага ад пачатку года салігорскія ўлады забаранілі 18 акцый, на якіх заяўляльнікі планавалі выказацца аб эканамічнай і грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне, у тым ліку аб існаванні палітычных зняволеных і неабходнасці іх вызвалення. Пікеты і мітынгі ў Салігорску, запланаваныя на 17-га, 18-га і 19-га лютага, таксама былі забаронены старшынёй Салігорскага раённага выканаўчага камітэта Аляксандрам Рымашэўскім на падставе нібыта не прыкладзеных да заявы абавязацельстваў у пісьмовай форме па арганізацыі і правядзенні масавага мерапрыемства. Заяўнік акцый Уладзімір Шыла заявіў, што гэтыя пісьмовыя абавязальніцтвы былі ці выпадкова, ці наўмысна згубленыя. У канцы лютага Уладзімір Шыла атрымаў адмовы на пяць чарговых заяваў на правядзенне масавых мерапрыемстваў, якія мусілі адбыцца ў канцы месяца. Актывіст вырашыў накіраваць адмыслова

зварот салігорскім дэпутатам з патрабаваннем забяспечыць рэальную магчымасць рэалізацыі права на свабоду сходаў у Салігорску. У сітуацыі татальнай забароны масавых мерапрыемстваў у Салігорску, 24 лютага грамадскія актывісты горада пры падтрымцы мясцовых праваабаронцаў правялі інфармацыйную акцыю з распаўсюдам матэрыялаў супраць смяротнага пакарання. Ужо 29 лютага аднаго з удзельнікаў акцыі Андрэя Тычыну выклікалі ў міліцыю ў сувязі са з'яўленнем у горадзе ўлётак супраць смяротнага пакарання.

20 лютага стала вядома, што ў Брэсцкім раёне ўлады забаранілі пікеты супраць збяднення насельніцтва. Ладзіць тры падобныя акцыі ў вёсках Страдзеч, Знаменка і гарадскім пасёлку Дамачава збіраліся мясцовыя актывісты Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», аднак пад рознымі падставамі ўлады не далі дазвол на правядзенне пікетаў. У вёсцы Страдзеч пікет быў забаронены таму, што арганізатары не падпісалі дамову з органамі ўнутраных справаў, установай аховы здароўя і камунальным прадпрыемствам. Прычынай адмовы ў вёсцы Знаменка сталася тое, што заяўнік пікета не ўказаў дату свайго нараджэння, у пасёлку Дамачава нібыта быў парушаны ўстаноўлены тэрмін для падачы заявы аб правядзенні масавага мерапрыемства.

27 лютага гомельскія праваабаронцы Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка накіравалі скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Заяўнікі лічаць, што іх правы на свабоду мірных сходаў і выказванне меркаванняў, прадугледжаныя артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, былі парушаны беларускімі ўладамі. Справа датычыцца таго, што 22 лістапада 2010 года Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка звярнуліся ў Гомельскі гарвыканкам па дазвол на правядзенне пікета, прымеркаванага да Дня правоў чалавека. Гарадскія ўлады масавае мерапрыемства не дазволілі; усе суды — раённы, абласны, Вярхоўны, дзе абскарджвалася дадзенае рашэнне, сталі на іх бок. У скарзе заяўнікі звяртаюць увагу, што ў амаль 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне, згодна рашэння гарвыканкама, павінны яшчэ і заплаціць — міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам.

З падобнай скаргай 23 лютага звярнулася ў Камітэт па правах чалавека ААН і сябра АГП з Гомеля Зінаіда Шуміліна. У лютым 2011 года яна і яшчэ 12 чалавек падалі заяўкі на правядзенне ў Гомелі пікетаў з мэтай прыцягнення ўвагі да палітычнага пераследу былых кандыдатаў

ў прэзідэнты, якія пасля выбараў трапілі ў турмы. Гарвыканкам адмовіў у правядзенні масавых мерапрыемстваў, а суды — ад раённага да Вярхоўнага, сталі на бок гарвыканкама.

28 лютага гарадзенскім праваабаронцам Віктару Сазонаву і Раману Юргелю гарадскія ўлады адмовілі ў дазволе на правядзенне пікета ў падтрымку палітвязняў, які планавалася правесці 8 сакавіка. Гарвыканкам афіцыйным лістом за подпісам намесніцы старшыні Ірыны Сенчанковай не даў згоды на правядзенне такога пікета ў Румлёўскім парку, спаслаўшыся на тое, што заяўнікі не прынялі належных мераў па арганізацыі бяспечных умоваў правядзення заяўленага мерапрыемства.



## Сітуацыя з выкананнем свабоды асацыяцый

3 лютага каардынатар кампаніі «Права на веру» Аляксей Шэін і адзін з кіраўнікоў Асамблеі НДА Сяргей Лісічонак атрымалі адказ з Савета Рэспублікі на свой зварот, у якім сказана, што заканадаўчы орган не бачыць неабходнасці ініцыяваць скасаванне артыкула 193-1 Крымінальнага кодэкса («дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі»). У лісце за подпісам намесніка старшыні пастаяннай камісіі па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву Мароза Л.Ф. сцвярджаецца, што «артыкул 193-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь разам з іншымі нормамі Закона з'яўляецца прававым сродкам барацьбы са злачынствамі, якія парушаюць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян, а таксама парадак і бяспеку ў грамадстве. Паводле нашага меркавання, ён ахоўвае агульнапрынятыя правы чалавека і яго асноўныя свабоды і не парушае міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека».

10 лютага Баранавіцкі раённы (гарадскі) суд прызнаў баранавіцкага актывіста ўкраінскай дыяспары Мікалая Чарнавуса вінаватым у парушэнні арт. 23.39 КаАП («самаўпраўства пры стварэнні грамадскага аб'яднання») і прысудзіў яму адміністрацыйны штраф у памеры 2 базавых велічынь. Суддзя Станіслаў Півавар прызнаў правапарушэннем тое, што свае заявы ў гарвыканкам наконт выдзялення ўкраінскай дыяспары памяшкання для рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Кабзар» Мікалай Чарнавус падпісваў як старшыня арганізацыі. Паколькі «Кабзар» пакуль не прайшоў дзяржрэгістрацыі, такі подпіс чыноўнікі палічылі самаўпраўствам і ініцыявалі суд над М. Чарнавусам. Не згодны з такім рашэннем, 16 лютага Мікалай Чарнавус накіраваў скаргу

ў Брэсцкі абласны суд. У сваёй скарзе ён адзначыў, што 24 лютага 2011 года устаноўчы сход баранавіцкіх украінцаў стварыў ГА «Кабзар», абраў яго старшынёй і даручыў яму прадстаўляць аб'яднанне ў працэсе рэгістрацыі ці судзе. 29 лютага Брэсцкі абласны суд задаволіў касацыйную скаргу Мікалая Чарнавуса. Гэта стала адным з нечаканых і адзінкавых выпадкаў узнаўлення законнасці і справядлівасці ў галіне свабоды асацыяцыяў.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Сакавік 2012 года



На працягу сакавіка сітуацыя з правамі чалавека моцна залежала ад знешнепалітычнай кан'юнктуры. Нявырашанасць праблемы палітычных зняволеных паглыбляла комплексны крызіс паміж беларускімі ўладамі і Еўрапейскім Саюзам: нежаданне афіцыйнага Мінска ўстраняць асноўную прычыну канфлікту сутыкнулася з цвёрдай і паслядоўнай пазіцыяй ЕС.

У выніку адсутнасці пазітыўных крокаў з беларускага боку 23 сакавіка Савет міністраў замежных справаў ЕС прыняў рашэнне аб пашырэнні «кропкавых» санкцый: былі ўведзены візавыя абмежаванні ў адносінах да 12 асобаў, сярод якіх — суддзі, пракуроры і бізнэсмены, якія адказныя, з пункту гледжання ЕС, за парушэнні правоў чалавека і рэпрэсіі ў дачыненні да апазіцыі і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, а таксама з'яўляюцца бенефіцыярамі дзеючага рэжыму. Пад санкцыі патрапілі таксама 29 кампаній, якія належаць такім бенефіцыярам.

«Дзеянні Еўрасаюза павінны пераканаць улады Беларусі ў неабходнасці вызвалення палітзняволеных і вяртання на шлях канструктыўных адносін з краінамі — членамі ЕС», — адзначыла Вярхоўны прадстаўнік ЕС па пытаннях знешняй палітыкі і палітыкі бяспекі Кэтрын Эштан.

Каментуючы рашэнне Савета ЕС, прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных у той жа дзень заявіў: «Такі крок яшчэ больш аддаляе перспектывы нармалізацыі адносін і аднаўлення дыялогу па адчувальных для бакоў тэмах». Такім чынам, афіцыйны Мінск абазначыў сваю пазіцыю па нарошчванні канфрантацыі па вострых праблемах, якія палягаюць у аснове крытычнай сітуацыі.

На фоне эскалацыі канфлікту лёс палітычных зняволеных заставаўся нязменным: усе 15 палітвязняў заставаліся за кратамі, не было прынята рашэнняў па прашэннях аб памілаванні, пададзеных Андрэем Саннікавым і Дзмітрыем Бандарэнкам. У адказ на «спіс неўязных у Еўрапейскі Саюз» улады распрацавалі і задзейнічалі своеасаблівы «спіс невыязных з Беларусі», незаконна абмежаваўшы свабоду перамяшчэння для часткі апазіцыйных палітыкаў, праваабаронцаў і журналістаў. З дэманстратыўным грэбаваннем нацыянальных і міжнародных механізмаў абароны былі расстраляныя асуджаныя да смяротнага пакарання Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў. Увесь месяц

адзначаліся выпадкі незаконных і адвольных затрыманняў і арыштаў грамадскіх і палітычных актывістаў, прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці па надуманых падставах. Катастрафічна нездавальняючай заставалася сітуацыя з выкананнем свабоды сходаў: за выключэннем дазволеных у Мінску шэсця і мітынгу на Дзень Волі 25 сакавіка, усе заяўленыя па краіне масавыя мерапрыемствы рознай тэматыкі былі забароненыя.

3

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

У крытычным стане працягваў знаходзіцца сябра КХП БНФ з Віцебска Сяргей Каваленка, які са снежня 2011 года трымае галадоўку пратэсту супраць несправядлівага зняволення і пакарання. Пасля трох месяцаў галадоўкі ён згубіў больш за 30 кілаграмаў вагі, тэмпература цела трымаецца ў межах 35 градусаў, пачаліся праблемы з ныркамі і ён стаў амаль нерухомы. У турэмным шпіталі пры мінскай калоніі №1 на Валадарскага, куды вязень быў пераведзены ў канцы лютага, яму прымусова ставілі кропельніцы. У ноч на 26 сакавіка Сяргея Каваленку перавялі этапам у псіхіятрычную турэмную бальніцу пры віцебскай калоніі «Віцьба-3», каб там прымусова выводзіць з галадоўкі. У пераводзе зняволенага ў цывільны шпіталь, на чым настойвалі родныя Каваленкі, было адмоўлена. 30 сакавіка Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікалі ўлады Беларусі неадкладна і безумоўна вызваліць Сяргея Каваленку, спыніць яго крымінальны пераслед і забяспечыць яму неабходную і неадкладную медыцынскую дапамогу ў кваліфікаванай медыцынскай установе адкрытага тыпу. «Адказнасць за жыццё і здароўе Сяргея Каваленкі цалкам ляжыць на кіраўніцтве Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, у распараджэнні якога ён зараз знаходзіцца», — адзначылі праваабаронцы.

2 сакавіка міжведамасная навукова-экспертная камісія на пасяджэнні, якое прайшло ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры медыцынскай экспертызы і рэабілітацыі ў Гарадзішчы (Мінскі раён), адмовіла ў прысваенні Дзмітрыю Бандарэнку групы інваліднасці, нягледзячы на цяжкі стан здароўя. Гэта азначае, што зняволены вымушаны працаваць на роўных з іншымі зняволенымі.

5 сакавіка, падчас абмеркавання ў Савеце па правах чалавека ААН гадавога даклада Спецыяльнага дакладчыка па становішчы

праваабаронцаў, улады Беларусі ў ходзе інтэрактыўнага дыялога выступілі з вуснай заявай па справе Алеся Бяляцкага. Прадстаўнік Беларусі заявіў, што «мы... са шкадаваннем вымушаныя канстатаваць, што дакладчык не змагла разабрацца ў справе Аляксандра Бяляцкага, мабыць, паддаўшыся стэрэатыпнаму меркаванню, якое распаўсюджвалася асобнымі еўрапейскімі структурамі і праваабарончымі НДА. ...прысуд суда не мае дачынення да праваабарончай дзейнасці Бяляцкага, а звязаны выключна з парушэннем ім падатковага заканадаўства…». 22 сакавіка Алесь Бяляцкі быў пераведзены з каранціну Бабруйскай калоніі №2, дзе ён знаходзіўся з канца лютага, у атрад і накіраваны працаваць на швейную вытворчасць. 25 сакавіка ў Осла адбылося ўручэнне А. Бяляцкаму дыплома Нарвежскага саюза пісьменнікаў «За свабоду слова». Гэтая ўзнагарода ўручаецца за асаблівы ўнёсак у абарону свабоды слова і талерантнасці. Дыплом прымала жонка зняволенага праваабаронцы Наталля Пінчук.



13 сакавіка стала вядома, што Камісія па памілаванні пры прэзідэнце разгледзела прашэнні аб памілаванні экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і ягонай даверанай асобы Дзмітрыя Бандарэнкі. Аднак сябра камісіі Мікалай Самасейка адмовіўся паведаміць пра прынятае рашэнне.

14 сакавіка стала вядома, што Дзмітрый Дашкевіч трэці раз запар змешчаны на 30 сутак у штрафны ізалятар Глыбоцкай калоніі нібыта за «невыканне патрабаванняў адміністрацыі». Сапраўднай прычыны накладання пакарання не змагла даведацца нават адвакат.

У лісце, атрыманым былым адвакатам Паўлам Сапелкам, палітвязень Мікалай Аўтуховіч выказаў занепакоенасць фактам змяшчэння ў інтэрнэце неадпавядаючай рэчаіснасці інфармацыі пра нібыта ягонае тэлефанаванне з турмы сваёй маці.  Па словах зняволенага, у сувязі з гэтым у яго, а таксама іншых вязняў, адбыўся ператрус, які доўжыўся некалькі гадзін. М. Аўтуховіч папрасіў больш адказна ставіцца да інфармацыі пра палітвязняў з месцаў зняволення, каб не нанесці ім шкоды.

Чарговае, ужо сёмае парушэнне рэжыму зафіксавала адміністрацыя калоніі №15 у Магілёве з боку палітвязня Мікалая Дзядка падчас ягонага знаходжання ў ШІЗА (з 12 па 17 сакавіка). М. Дзядка абвінавацілі ў тым, што ён нібыта дрэнна прыбіраў памяшканне карцара. За гэта палітвязня

ў чарговы раз пазбавілі наступнай перадачы, якая была запланаваная на травень гэтага года.

15 сакавіка судом Перашамайскага раёна Мінска ўсталяваны прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год за былым палітвязнем Уладзімірам Яроменкам, асуджаным па справе аб «масавых беспарадках» на 3 гады пазбаўлення волі і памілаваным у жніўні 2011 года. З моманту вызвалення за У. Яроменкам вялося прафілактычнаеназіранне, і за гэты час У. Яроменка тры разы быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у акцыях грамадска-палітычнага характару.



21 сакавіка на сайце Генпракуратуры з'явілася паведамленне аб тым, што на дадзены момант правяраюцца заявы, што прагучалі ў СМІ з боку асобных асоб, пра тое, што Саннікавым прашэнне аб памілаванні напісана нібыта пад ціскам». «Зараз матэрыялы старанна вывучаюцца. Пасля іх абагульнення і падрыхтоўкі адпаведнага заключэння яны будуць накіраваныя ў камісію па памілаванні пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, якая разгледзіць іх у адпаведнасці з рэгламентам работы», — сказана ў паведамленні. Сітуацыя з разглядам прашэнняў А. Саннікава і Д. Бандарэнкі чарговы раз пацвердзіла, што рашэнне па іх справах залежыць выключна ад прэзідэнта і развіцця палітычных працэсаў паміж афіцыйным Мінскам і Еўрасаюзам.

## Смяротнае пакаранне

13 сакавіка ўвечары па тэлебачанні было перададзена, што Аляксандар Лукашэнка адмовіў у памілаванні Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, асуджаным да смяротнага пакарання 30 лістапада 2011 года па абвінавачанні ў здзяйсненні тэрарыстычнага акта ў мінскім метро 11 красавіка таго ж года. 15 сакавіка прысуд быў прыведзены ў выкананне. 16 сакавіка Вярхоўны суд накіраваў адпаведнае паведамленне родным расстраляных. Надзвычай хуткае выкананне смяротнага прысуду адбылося з парушэннем нацыянальных і міжнародных механізмаў абароны, з дэманстратыўным грэбаваннем унутраных законаў і міжнародных дамоваў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь. Калі Дзмітрый Канавалаў не падаваў наглядная скаргі і адмовіўся падаваць прашэнне аб памілаванні, то Уладзіслаў Кавалёў спрабаваў скарыстацца ўсімі магчымымі сродкамі абароны. 15 сакавіка, у дзень прывядзення ў выкананне прысуду, адвакат Уладзіслава Кавалёва падаў асноўную скаргу ў парадку нагляду. Папярэдняя наглядная скарга была накіравана на імя старшыні Вярхоўнага суда 7 снежня 2011, і ў ёй указ-

валася, што будзе пададзеная асноўная, у сувязі з чым адвакат прасіў не прыводзіць прысуд у выкананне да яе разгляду. Аднак гэты зварот быў праігнараваны, у сувязі з чым можна сцвярджаць, што асуджаны быў пазбаўлены канстытуцыйнага права на абарону на нацыянальным узроўні.

Выкананне дадзенага смяротнага прысуду стала яшчэ адным парушэннем з боку Беларусі прынятых ёю на сябе міжнародных абавязацельстваў у межах Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і першага факультатыўнага пратакола да яго, паколькі беларускі бок пакінуў без увагі патрабаванне Камітэта па правах чалавека ААН аб прыпыненні выканання пакарання да разгляду па сутнасці індывідуальнага звароту, пададзенага Уладзіславам Кавалёвым.

20 сакавіка інтэрв'ю тэлеканалу Russia Today Аляксандр Лукашэнка, які асабіста адмовіў у памілаванні У. Кавалёву і Д. Канавалаву, заявіў, што спачувае родным расстраляных.

22 сакавіка маці Уладзіслава Кавалёва накіравала ліст да А. Лукашэнкі з просьбай выдаць ёй цела сына, каб пахаваць яго. Паколькі беларускае заканадаўства не прадугледжвае падобнай працэдуры, станоўчае рашэнне па гэтым пытанні малаверагоднае. У гэты ж дзень яна атрымала з СІЗА КДБ пакунак з рэчамі расстралянага сына па пошце. Сваякам вярнулі адзенне, асабістыя рэчы і нават прадукты, якія ён не паспеў спажыць. Аднак маці на аддалі запісы, якія ён вёў падчас судовага працэсу — тыя, што ён  прасіў сваякоў абавязкова захаваць.

Еўрапейскія парламентарыі, Савет Еўропы, а таксама шэраг уплывовых міжнародных праваабарончых арганізацый, у тым ліку Amnesty International, FIDH, Human Rights House, рашуча асудзілі выкананне прысудаў у адносінах да У. Кавалёва і Д. Канавала, запатрабаваўшы ад А. Лукашэнкі неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

## Гвалтоўныя знікненні

28 сакавіка Святлана Завадская, Сяргей Бахун і Раман Кісляк унеслі прапанову Савету міністраў РБ падпісаць Міжнародную канвенцыю па абароне ўсіх асоб ад гвалтоўных знікненняў і даручыць міністру замежных спраў унесці ў парламент законапраект аб яе ратыфікацыі. Падпісанты лічаць, што  пры далучэнні да Канвенцыі Беларусь прадэманструе імкненне дзяржавы да гарантавання абароны сваіх грамадзян ад гвалтоўных знікненняў, якія мелі месца ў краіне: 7 мая 1999 года гвалтоўна знік былы міністр унутраных спраў  Юрый Захаранка,

16 верасня 1999 года — палітык Віктар Ганчар і бізнэсмен Анатоль Красоўскі, 7 ліпеня 2000 года — журналіст и аператар тэлеканала ОРТ Дзмітрый Завадскі.



## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання, нездавальняючыя ўмовы ўтрымання

4 сакавіка, пасля 19 сутак зняволення ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў у Мінску, быў вызвалены намеснік старшыні «Маладога Фронту» Іван Шыла. У першыя дні ўтрымання ў ЦІП у яго пачалася алергія, але ягоныя просьбы выклікаць «хуткую» адхіляліся. Мясцовы медык дапамагчы не мог з-за адсутнасці патрэбных лекаў. У І. Шылы распухла ды патрэскалася скура на твары, рукі таксама пакрыліся плямамі. З-за скразнякоў, вільготнасці ды перападаў тэмпературы дваццацігадовы хлопец захварэў на бранхіт, пазбавіцца ад якога ў турэмных умовах не дапамаглі нават антыбіётыкі. У камеры было мноства пацукоў і вошай.

27 сакавіка спецдакладчыку ААН па катаваннях актывістамі ініцыятывы «Праваабаронцы супраць катаванняў» была накіравана тэрміновая скарга з просьбай расследаваць факты ўжывання катаванняў супраць палітвязня Дзмітрыя Бандарэнкі. Аўтары скаргі ўказваюць на жахлівы стан здароўя Д. Бандарэнкі пасля праведзенай у верасні мінулага года аперацыі на хрыбетніку, немагчымасць правядзення прадпісаных медыкамі рэабілітацыйных працэдур у зняволенні. У скарзе прыведзены факты прымусу ў адносінах да Д. Бандарэнкі выконваць дзеянні, якія могуць пагоршыць стан ягонага здароўя і нават прывесці да страты здольнасці рухацца (стаянне, хаджэнне ў страі, доўгае сядзенне, нагрузкі на хрыбетнік.) Акрамя таго, узгадваецца адмова даць Д. Бандарэнку групу інваліднасці. Спецдакладчыку ААН накіраваныя адпаведныя медыцынскія дакументы.

30 сакавіка Алена Дубовік, затрыманая 24 сакавіка падчас канцэрта ў ДК МТЗ і асуджаная да 3 сутак арышту, напісала скаргу ў пракуратуру на ўжыванне фізічнай сілы супрацоўнікамі міліцыі пры затрыманні і кепскія ўмовы ўтрымання ў ЦІП. У скарзе сярод іншага сказана: «Супрацоўнікі ЦІП пастаянна выкарыстоўвалі ў сваёй размове ненарматыўную лексіку. Па прыездзе ў ЦІП быў праведзены дагляд, аглядаў мяне супрацоўнік мужчынскага полу. Мяне змясцілі ў камеру, дзе змяшчалася 8 чалавек. Спальных месцаў абсталявана не было. Пасцельная бялізна і матрац мне не выдавалі».

## Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння

На фоне паглыблення палітычнага крызісу і пагаршэння дыпламатычных стасункаў паміж ЕС і Беларуссю, пашырэння спісу асобаў з ліку беларускіх дзяржслужачых і набліжаных да кіраўніка дзяржавы бізнэсменаў, якім забаронены выезд у краіны ЕС, беларускія ўлады пайшлі на забарону на выезд краіны часткі апазіцыйных палітыкаў, праваабаронцаў і незалежных журналістаў.

3

Тое, што гэта цалкам палітычна матываванае рашэнне, 21 сакавіка пацвердзіў у сваім інтэрв'ю тэлеканалу «Russia today» Аляксандр Лукашэнка. На пытанне, ці створаны такі спіс, Лукашэнка адказаў: «А мы зрабілі. І то мы яго яшчэ не ўвялі. На поўную моц яшчэ не ўвялі. Але ўвядзем». Ён абвінаваціў апазіцыянераў у падбухторванні Захаду да ўвядзення санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, бізнэсменаў і прадпрыемстваў: «Гэта яны падкідаюць Захаду прозвішчы, арганізацыі, прадпрыемствы і настойваюць на ўвядзенні эканамічных санкцыяў. Яны».

Да канца сакавіка ў гэтым спісе апынуліся 15 чалавек:

Палітыкі: 1. Анатоль Лябедзька, старшыня АГП; 2. Сяргей Калякін, старшыня партыі «Справядлівы свет»; 3. Віктар Карняенка, каардынатар ініцыятывы «За справядлівыя выбары»; 4. Станіслаў Шушкевіч, былы старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання; 5. Валерый Ухналёў, намеснік старшыні партыі «Справядлівы свет»; 6. Вінцук Вячорка, прадстаўнік аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларускі рух»; 7. Віктар Івашкевіч, прадстаўнік аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларускі рух».

Праваабаронцы: 1. Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні ПЦ «Вясна»; 2. Алег Гулак, старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта; 3. Андрэй Бандарэнка, кіраўнік інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа»; 4. Гары Паганяйла, юрыст Беларускага Хельсінскага камітэта; 5. Алег Волчак, старшыня «Прававой дапамогі насельніцтву».

Журналісты: 1. Андрэй Дынько, шэф-рэдактар «Нашай Нівы»; 2. Міхась Янчук, журналіст «Белсат»; 3. Жанна Літвіна, старшыня БАЖ;

27 сакавіка намеснік начальніка дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Юрый Лянчэўскі падчас прамой тэлефоннай лініі, адказваючы на пытанне агенцтва Інтэрфакс-Захад, абверг палітычны складнік забароны на выезд: «Законам пра ўезд-выезд , выразна прапісана, каму можа быць абмежаваны выезд. Ніякага пашырэння ў сувязі з новымі палітычнымі і іншымі матывамі не было».

Варта адзначыць, што 1 сакавіка начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Генпракуратуры Беларусі Павел Радзівонаў заявіў: апазіцыянерам, якія заклікаюць да санкцый у дачыненні да Беларусі, можа быць абмежаваны выезд за мяжу. 12 сакавіка ён жа Радзівонаў публічна сцвярджаў: у Генпракуратуры няма інфармацыі аб уключэнні прадстаўнікоў апазіцыі ў спіс невыязных.



Першыя запыты ў аддзелы па грамадзянстве і міграцыі па месцы жыхарства выявілі рэальныя падставы для забароны на выезд. Яны цалкам пацвердзілі меркаванне, што гэтыя забароны не заснаваныя ні на якім законе. Напрыклад, 38-гадовы Андрэй Дынько — старшы лейтэнант запасу, і таму прычына адмовы на выезд, звязаная з ухіленнем ад яўкі на мерапрыемствы па прызыве — юрыдычны нонсенс. Па гэтай прычыне не змог выехаць з Беларусі намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч і кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Платформа» Андрэй Бандарэнка.

Другая абсурдная нагода — міфічная справа ад 5 сакавіка, па якой грамадскія дзеячы нібыта праходзяць з-за «запазычанасці перад крэдыторамі» і «грамадзянскімі пазовамі супраць грамадзяніна». Менавіта такім чынам незаконна быў абмежаваны выезд за мяжу Алегу Гулаку і Гары Паганяйлу з Беларускага Хельсінскага камітэта, а таксама старшыні БАЖу Жанне Літвіной.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 сакавіка актывіст кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Арцыбашаў, які пасля 10 сутак адміністрацыйнага арышту павінен быў выйсці на волю, быў тэрмінова дастаўлены ў суд, дзе атрымаў яшчэ 7 сутак за ўдзел у акцыі «Хрэн ад прэзідэнта». Пра гэта выпадкова даведаўся ягоны сябра Міхась Пашкевіч, які чакаў яго каля Цэнтра ізалятара правапарушальнікаў. Перад гэтым Аляксандра Арцыбашава затрымалі 22 лютага ў будынку суда Маскоўскага раёна Мінска і асудзілі на 10 сутак за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, якая прайшла яшчэ 10 лютага на плошчы Незалежнасці сталіцы пад назвай «Ігрушко мітінгуэ!».

10 сакавіка адбыўся суд над затрыманымі 9 сакавіка актывістамі Анатолем Аскеркам і Іванам Шутко. Суддзя Барысаўскага раённага суда Герасімовіч вынес рашэнне аб адміністрацыйным арышце Аскеркі на 15 сутак, а Шутко — на 10 сутак за ўдзел у несанкцыянаванай ма-

савай акцыі. Анатоль Аскерка і Іван Шутко 8 сакавіка правялі акцыю, прымеркаваную да Дня нараджэння палітвязня Андрэя Саннікава. 12 сакавіка ў Барысаве адбыўся суд над Ігарам Аскеркам, сынам асуджанага за акцыю ў падтрымку палітвязня Андрэя Саннікава Анатоля Аскеркі. Ігар Аскерка быў затрыманы 11 сакавіка каля будынка Барысаўскага раённага суда пасля таго, як разгарнуў плакаты ў падтрымку палітвязняў і ў падтрымку свайго бацькі. Суддзя Барысаўскага раённага суда Ірына Пасюк вынесла рашэнне аб адміністрацыйным арышце Ігара на 10 сутак за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.



11 сакавіка ў Ленінскім судзе Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў актывістаў «Маладога Фронту» Міхася Мускага, Дзмітры Крэмянецкага, Рамана Васільева і Уладзіміра Яроменкі, якія былі затрыманыя яшчэ 7 сакавіка. Усіх прызналі вінаватымі ў парушэнні арт. 23.34 КаАП РБ («удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве») і пакаралі арыштам на 15 сутак. На актывістаў былі складзеныя пратаколы за ўдзел у акцыі-перфомансе што адбылася 29 лютага каля будынка Міністэрства замежных спраў Беларусі «Падцярыцеся!». Ранкам невядомыя юнакі закідалі МЗС рулонамі туалетнай паперы.

13 сакавіка суд Маскоўскага раёна Мінска асудзіў актывіста кампаніі «Гавары праўду» Паўла Вінаградава да 7 сутак па арт 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства»). Суд распачаўся яшчэ 5 сакавіка, аднак тады суддзя Яўген Хаткевіч накіраваў пратакол на дапрацоўку ў РУУС Маскоўскага раёна, а Вінаградава вызвалілі да суда. Павел Вінаградаў ужо адбыў 3 сутак арышту да пачатку судовага працэсу — яго затрымалі 2 сакавіка пасля вызвалення з ЦІП, дзе ён адбываў 10 сутак арышту, і абвінавацілі ў тым, што ён лаяўся матам каля крамы «Кірмаш».

16 сакавіка суд Савецкага раёна Мінска асудзіў актывіста «Zмены» Уладзіміра Бачылу на 10 сутак арышту за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі (арт. 23.34 КаАП РБ). Адміністрацыйны пратакол, скаладзены на Арцёма Кузьміна, быў накіраваны на дапрацоўку ў Савецкі РУУС. Суды адбываліся за акцыю, якая была праведзеная 14 сакавіка, калі побач з будынкам філармоніі актывісты размясцілі партрэты Муамара Кадафі, Уладзіміра Пуціна, Леаніда Кучмы і Аляксандра Лукашэнкі з подпісам «На сметнік гісторыі».

16 сакавіка каля амбасады Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Мінску падчас правядзення акцыі быў затрыманы адзін з лідараў беларускіх

нацыянал-бальшавікоў Яўген Контуш. Пасля складання пратакола актывіст быў размешчаны ў ЦІП. Акцыя, у якой удзельнічалі 5 чалавек, была скіравана супраць кітайскіх інвестыцыйных праектаў, якія парушаюць правы беларусаў, у тым ліку — супраць вырубкі парка імя 40-годдзя Кастрычніка. Удзельнікі акцыі раскідалі ўлёткі, а таксама запалілі фаер.



19 сакавіка падчас ускладання кветак да мемарыяльнай шыльды ў памяць аб загінулых ад тэракта 11 красавіка 2011 года каля станцыі метро «Кастрычніцкая» супрацоўнікі міліцыі затрымалі 8 чалавек. Усіх даставілі ў Цэнтральны РУУС Мінска, дзе перапісалі пашпартныя дадзеныя, сфатаграфавалі, узялі адбіткі пальцаў і адпусцілі без складання пратаколаў.

20 сакавіка ў Віцебску ў цэнтр горада выйшла актывістка «Еўрапейскай Беларусі» Алена Семенчукова з плакатам «Свабоду Сяргею Каваленку». Пасля затрымання на яе быў складзены пратакол за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. У той жа дзень суддзя Чыгуначнага райсуда Алена Цыганкова аштрафавала Алену Семенчукову на 5 базавых велічынь.

21 сакавіка ўвечары ў цэнтры Мінска ў метро быў беспадстаўна затрыманы актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Мікіта Каваленка. Перад гэтым ён набыў квіткі на цягнік да Калінкавічаў. У аддзяленні міліцыі юнаку цынічна прапанавалі выбраць артыкул, па якім будзе складзены адміністрацыйны пратакол: альбо 23.34 КаАП РБ («удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве»), альбо 17.1 («дробнае хуліганства»). Урэшце міліцыянты абралі другі варыянт. 22 сакавіка справа М. Каваленкі разглядалася судом Цэнтральнага раёна Мінска. Прысуд — 6 сутак арышту.

22 сакавіка ўвечары непадалёку ад ЦІП у Мінску супрацоўнікі АМАПУ затрымалі актывістаў «Маладога Фронту» Рамана Пратасевіча і Мікалая Дземідзенку, якія разам з сябрамі сустракалі адбыўшых арышт паплечнікаў — Міхася Мускага, Рамана Васільева, Уладзіміра Яроменку, Дзмітрыя Крамянецкага. Затрыманых даставілі ў РУУС Маскоўскага раёна, адкуль Рамана адпусцілі без складання пратакола, на Мікалая Дземідзенку быў складзены пратакол па артыкуле 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства»). 23 сакавіка суддзя суда Маскоўскага раёна Юрый Сезін вынес рашэнне аб адміністрацыйным арышце М. Дземідзенкі на 10 сутак.

23 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў актывістаў РПСС (Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі) Насты Шулейкі і Міхася Косткі, якіх абвінавацілі «ў арганізацыі і ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі» (арт. 23.34 КаАП РБ) за падняты бел-чырвона-белы нацыянальны сцяг у гандлёвым цэнтры «Сталіца». Абодвум актывістам вынеслі пакаранне ў выглядзе 5 сутак адміністрацыйнага арышту. Справы разглядала суддзя Таццяна Мотыль.

24 сакавіка падчас канцэрта ў ДК МТЗ, арганізаваным міжнародным рухам «Ежа замест бомб», былі затрыманы і дастаўлены ў Партызанскі (дзяўчаты) і Цэнтральны (хлопцы) РУУСы сталіцы больш за 100 удзельнікаў мерапрыемства. Большасць з іх былі адпушчаны без складання пратаколаў, на 15 юнакоў і 1 дзяўчыну склалі адміністрацыйныя пратаколы і памясцілі да суда ў ЦІП. 26 сакавіка ў судах Партызанскага і Цэнтральнага раёнаў адбыліся суды над затрыманымі, якіх абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Ігар Трухановіч, які пры затрыманні быў моцна збіты (чэрапна-мазгавая траўма лёгкай ступені), у суд не быў дастаўлены, паколькі размешчаны ў шпіталь. Суд Партызанскага раёна пакараў Алену Дубовік арыштам на трое сутак. Суд Цэнтральнага раёна вынес наступныя пакаранні: 1. Аляксандр Ярашэвіч (суддзя Свістунова) — штраф 3 б.в.; 2. Мікіта Уласенка (суддзя Ясіновіч) — штраф 5 б.в.; 3. Яўген Уласенка (суддзя Вайцэховіч) — штраф 4 б.в.; 4. Яўген Рубашка (суддзя Семак) — штраф 5 б.в.; 5. Уладзімір Дзмітракоў (суддзя Якунчыхін) — штраф 5 б.в.; 6. Павел Дзяркач (суддзя Ясіновіч) — штраф 4 б.в.; 7. Павел Грыневіч (суддзя Майсейчык) — 2 сутак арышту; 8. Зміцер Харланчук (суддзя Церашкоў) — 2 сутак арышту; 9. Павел Беланаў (суддзя Якунчыхін) — 2 сутак арышту; 10. Андрэй Сцяпанаў (суддзя Шабуня) — 2 сутак арышту; 11. Аляксандр Педаш (суддзя Хадановіч) — 2 сутак арышту; 12. Дзмітрый Гураў (суддзя Ткачова) — штраф 2 б.в.; 13. Цыкуненка Е. (суддзя Бычко) — 2 сутак арышту; 14. Васіленка А. (суддзя Вайцэховіч) — 2 сутак арышту.

26 сакавіка ў судзе Першамайскага раёна Мінска былі разгледжаны адміністрацыйныя справы затрыманых 25 сакавіка актывістаў Міхаіла Нарушэвіча і Зміцера Пшэніка, якія спрабавалі вывесіць бел-чырвона-белы сцяг. Суддзя Юрый Гарбатоўскі прызнаў іх вінаватымі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і пакараў штрафамі памерам 2 базавыя велічыні кожнага. Ноч яны правялі ў ЦІП.

У ноч на 28 сакавіка ў Оршы супрацоўнікамі Аддзела ўнутраных спраў на транспарце былі знятыя з цягніка № 2 Мінск-Масква лідар

АГП Анатоль Лябедзька, кіраўнік партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін, а таксама каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандр Атрошчанкаў. Падставай для затрымання стала нібыта інфармацыя пра тое, што ў купэ правозяцца наркотыкі, аднак пасля на лідараў апазіцыі былі складзеныя пратаколы за дробнае хуліганства, і яны былі затрыманыя да суда. Суд адбыўся толькі 29 сакавіка ў будынку суда Аршанскага раёна і горада Оршы. Суддзя Наталля Байцова вынесла палітыкам пакаранні ў выглядзе 10 базавых велічыняў. Пасля суда пашпарты ім не вярнулі. А. Лябедзька, С. Калякін і А. Атрошчанкаў накіроўваліся ў Маскву, адкуль планавалі вылецець у Брусэль для ўдзелу ў сустрэчы з прадстаўнікамі Еўракамісіі.



29 сакавіка ў Оршы падчас суда над С.Калякіным, А.Лябедзькам і А. Атрошчанкавым быў затрыманы праваабаронца Валерый Шчукін, які дамагаўся адкрытага судовага працэсу над палітыкамі, лёгшы на падлогу ў дзвярах залы суда, каб іх не зачынілі. На праваабаронцу быў складзены пратакол за дробнае хуліганства і непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. 30 сакавіка суддзя Тацьцяна Рыбакова аштрафавала Валерыя Шчукіна на 4 базавыя велічыні за хуліганства і на 30 базавых велічынь — за непадпарадкаванне. Ноч да суда 70-гадовы праваабаронца правёў у Ізалятары часовага ўтрымання.

## Абмежаванні свабоды слова

14 сакавіка ў краму бялыніцкага прадпрымальніка, дэмакратычнага актывіста Мікалая Мяцеліцы завітаў супрацоўнік Шклоўскага межрайаддзела КДБ, які цікавіўся незалежнымі маланакладнымі выданнямі, што распаўсюджваюцца праз краму. Супрацоўнік КДБ спрабаваў даведацца, адкуль з’яўляецца інфармацыйная прадукцыя. Размова ішла пра маланакладныя газеты «Паходня», «Рэгіён», «Магілёўскі Выбар» .

19 сакавіка пракуратура Брэсцкай вобласці вынесла афіцыйнае папярэджанне «аб недапушчальнасці здзяйснення правапарушэнняў» карэспандэнту Радыё Рацыя Дзмітрыю Кісялю. У тэксце папряджэння, падпісанага намеснікам пракурора А.Тачко, гаворыцца, што па выніках вывучэння звестак, размешчаных у Інтэрнэце, выяўлена парушэнне Д. Кісялём «парадку ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці журналіста замежнага сродку масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». Далей у тэксце папярэджання нагадваецца, што працаваць на замежныя СМІ ў Беларусі без адпаведнай акрэдатацыі забаронена, а

Міністэрства замежных спраў РБ такую акрэдытацыю Д. Кісялю не выдавала. «Пры пазначаных абставінах ажыццяўляемая Вамі дзейнасць журналіста замежнага сродку масавай інфармацыі супрацьпраўная і недапушчальная», — адзначана ў дакуменце абласной пракуратуры. Д. Кісель папярэджаны, што ў выпадку здзяйснення падобных дзеянняў у далейшым ён будзе прыцягнуты да адказнасці. Тэкст афіцыйнага папярэджання ўручыў Кісялю пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Алег Леванчук, які пры гэтым нагадаў карэспандэнту Радыё Рацыя, што два гады таму яму ўжо было вынесена аналагічнае папярэджанне.



## Абмежаванне свабоды сходаў

6 сакавіка старшыні Брэсцкага абласнога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Зінаідзе Міхнюк адмоўлена ў правядзенні пікета ў знак салідарнасці са звольненым кіраўніком суполкі незалежнага прафсаюза на прадпрыемстве «Граніт» у Мікашэвічах Алегам Стахаевічам. Пікет быў запланаваны на 7 сакавіка ў парку Воінаў-афганцаў — месцы, адведзеным Брэсцкім гарвыканкамам для масавых мерапрыемстваў. Па словах Зінаіды Міхнюк, прычына для забароны названа тыповая: не прадастаўлены дамовы з бальніцай, міліцыяй і камунальнымі службамі.

14 сакавіка стала вядома пра забарону ў Брэсцкім раёне 15 пікетаў, якія ставілі на мэце прыцягнуць увагу да збяднення насельніцтва і былі заяўлены мясцовымі актывістамі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет». Пікеты планавалася правесці 16 сакавіка ў 14-ці вёсках Брэсцкага раёна і ў гарадскім пасёлку Дамачава. Падчас акцый планавалася распаўсюджваць інфармацыйныя матэрыялы аб рэальнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне.

20 сакавіка Аршанскі гарвыканкам у чарговы раз адмовіў актывістам партыі левых «Справядлівы свет» у правядзенні пікетаў сацыяльна-эканамічнай тэматыкі. На гэты раз чыноўнікам не спадабалася, што аўтары не ўказалі ў заяўках крыніцы фінансавання масавага мерапрыемства. З унясеннем змяненняў у Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» у артыкуле 5 з'явілася патрабаванне ўказваць крыніцу фінансавання масавага мерапрыемства ў заяве аб правядзенні масавага мерапрыемства. Яшчэ адна прычына для адмовы — традыцыйная: няма дамоваў з міліцыяй, установамі аховы здароўя і камунальнымі службамі.

20 сакавіка грамадскі актывіст з Баранавічаў Рыгор Грык атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча адносна забароны на правядзенне пікета 25 сакавіка, прысвечанага праблемам збяднення людзей у сувязі з ростам коштаў на тавары, паслугі і замарожванне заробкаў.



За выключэннем дазволу на правядзенне шэсця і мітынгу ў Мінску на Дзень Волі 25 сакавіка, выдадзенага 20 сакавіка Мінгарвыканкамам, па ўсёй краіне назіралася тэндэнцыя да забароны масавых мерапрыемстваў з гэтай нагоды.

21 сакавіка Гарадзенскі выканкам паведаміў пра забарону мітынгу да 25 сакавіка, даслаўшы заяўнікам афіцыйнае рашэнне за подпісам намесніка старшыні выканкама Ірыны Сенчанковай.

У Віцебску не былі задаволеныя заяўкі на правядзенне 25 сакавіка пікетаў, пададзеныя мясцовым актывістам Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Пятром Сарапенем у тры раённыя адміністрацыі горада — Чыгуначнага, Кастрычніцкага і Першамайскага раёнаў. У гэтым жа абласным цэнтры віцебскія актывісты Хрыстафор Жаляпаў, Аляксей Гаўруцікаў і Ян Дзяржаўцаў атрымалі адмову гарвыканкама на правядзенне 25 сакавіка ўрачыстага шэсця і сходу на плошчы Свабоды. Адмову падпісаў намеснік старшыні гарвыканкама Уладзімір Шлома.

Слонімскі райвыканкам не дазволіў правядзенне ў гарадскім парку масавага мерапрыемства на Дзень Волі. А напярэдадні гэтай даты слонімская міліцыя папярэджвала мясцовых актывістаў аб тым, каб яны не прымалі ніякага ўдзелу ў святочных мерапрыемствах. Так, супрацоўнік міліцыі наведаў кіраўніка Слонімскай суполкі БНФ Івана Шэгу на працы і папрасіў падпісаць дакумент аб тым, што ён папярэджаны наконт удзелу ў якіх-небудзь святочнасцях. Іван Шэга адмовіўся падпісваць такі дакумент.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Красавік 2012 года

Красавік адзначыўся першымі крокамі ў накірунку дэаскалацыі палітычнага канфлікту паміж беларускімі ўладамі і Еўрапейскім Саюзам, у выніку якога былі адпушчаны на волю двое палітычных зняволеных — экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і ягоная давераная асоба Дзмітрый Бандарэнка (14 і 15 красавіка адпаведна). У адказ на гэты крок ЕС адмовіўся ад прыняцця далейшых санкцый у адносінах да Беларусі, адначасова падкрэсліўшы на паседжанні 23 красавіка пра неабходнасць вызвалення ўсіх палітычных зняволеных.

Яшчэ адзін са знакаў пачатку палітычнага пацяплення ў адносінах Еўрасаюза і беларускіх уладаў і паступовага ўзнаўлення дыялогу — вяртанне ў канцы красавіка амбасадараў краін ЕС, якія пакінулі Беларусь у канцы лютага ў знак салідарнасці з кіраўніком прадстаўніцтва Еўракамісіі Майрай Морай і амбасадарам Польшчы Лешакам Шарэпкам, якім беларускі МЗС прапанаваў выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб «давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый».

Разам з тым, афіцыйны Мінск заняў пазіцыю адмаўлення таго, што вызваленне А. Саннікава і Д. Бандарэнкі адбылося у выніку палітычнага ціску з боку ЕС. 21 красавіка, выступаючы перад журналістамі на суботніку ў Мінску, А. Лукашэнка заявіў: «Не напісалі б прашэння аб памілаванні — сядзелі б да гэтага часу, і тыя, хто там застаўся і не напісаў гэтага звароту на імя прэзідэнта, будуць сядзець». Адначасова кіраўнік дзяржавы не выключыў, што бліжэйшым часам можа быць абвешчана амністыя, назваўшы прыкладны тэрмін: да Дня Незалежнасці (3 ліпеня), растлумачыўшы гэты намер наступным чынам: «А то бандзюг выпусцілі, а нармальныя людзі за кратамі пакутуюць». Дадзеная заява А. Лукашэнкі акрэсліла не толькі прыкладную дату, але і прававы механізм, які можа быць выкарыстаны для вызвалення палітычных вязняў.

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Уладзімір Макей таксама катэгарычна адмаўляў, што на рашэнне аб вызваленні палітвязняў паўплывала цвёрдая і паслядоўная пазіцыя ЕС. 17 красавіка ён заявіў: «Ніякага вызвалення пад ціскам не будзе… Кажуць, што засталося паўтары ці два дзясяткі нейкіх палітычных зняволеных, якіх, цытую, «не-

абходна неадкладна вызваліць, неадкладна рэабілітаваць». У гэты спіс уключылі нават радыкальных рэвалюцыянераў-анархістаў, якія закідвалі расійскую амбасаду бутэлькамі з запальнай сумессю, кактэйлямі Молатава. Па інтэрпрэтацыі Еўрасаюза, заўтра гэты спіс можа разрасціся і да 50—60 чалавек».

Дадзеныя заявы вышэйшага кіраўніцтва краіны пакідаюць спадзяванне, што пасля сямімесячнай паўзы, якая ўсталявалася з часу «апошняй хвалі» вызвалення палітычных вязняў (верасень 2011 года), гэты працэс будзе ўзноўлены. Што датычыць персанальнага спіса палітычных зняволеных, Праваабарончы цэнтр «Вясна» настойвае на безумоўным вызваленні 10 асобаў: Мікалая Аўтуховіча, Мікалая Статкевіча, Паўла Севярынца, Дзмітрыя Дашкевіча, Эдуарда Лобава, Алеся Бяляцкага, Сяргея Каваленкі, Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча; у адносінах Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі і Паўла Сырамалотава — патрабуе перагляду справаў справядлівым судом і вынясення прапарцыйных пакаранняў здзейсненаму імі правапарушэнні.

На працягу месяца адбывалася замацаванне тэндэнцыі да абмежавання грамадскай і палітычнай актыўнасці палітычных апанентаў, у тым ліку — былых палітвязняў: у красавіку супраць Васіля Парфянкова ўзбуджана крымінальная справа за парушэнні ўмоваў вызначанага судом прэвентыўнага нагляду, у адносінах да Паўла Вінаградава прэвентыўны нагляд установлены тэрмінам на 2 гады (у сакавіку дадзеная форма абмежавання тэрмінам на 1 год была ўсталявана за Уладзімірам Яроменкам). Не спыняўся пераслед актывістаў па надуманых падставах у адміністрацыйным парадку, фіксаваліся факты незаконных і адвольных затрыманняў і арыштаў. Красавік адзначыўся падаўленнем свабоды выказвання меркаванняў і свабоды сходаў: за выключэннем дазволенага ў Мінску «Чарнобыльскага шляху», усе масавыя мерапрыемствы ў краіне былі забароненыя.

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

Найбольш важнай падзеяй красавіка, датычнай палітычных вязняў, стала вызваленне экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і ягонай даверанай асобы Дзмітрыя Бандарэнкі. Вызваленне А. Саннікава, які адбываў пакаранне ў калоніі «Віцьба-3», адбылося 14 красавіка,

напярэдадні Вялікадня. На наступны дзень раніцай з Магілёўскай калоніі №15 быў вызвалены Дзмітрый Бандарэнка. Указ аб памілаванні падпісаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

17 красавіка А. Саннікаў быў выкліканы ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю Першамайскага РУУС Мінска для пастаноўкі на прафілактычны ўлік, дзе яго папярэдзілі, што ў выпадку адміністрацыйных правапарушэнняў за ім будзе ўсталяваны нагляд. Ніякіх абмежаванняў на выезд не было ўсталявана. Экс-кандыдату паведамілі, што судзімасць з яго не будзе знятая на працягу 8 гадоў. У той жа дзень на прэс-канферэнцыі былы палітвязень паведаміў, што напісаў хадайніцтва аб памілаванні, каб спыніць правакацыі і ціск. Але падкрэсліў, што «віны» сваёй не прызнаваў: «Я напісаў, гэта называецца не прашэнне, а хадайніцтва аб памілаванні. Зрабіў я гэта свядома і каментаваць больш не буду. Адзінае, што магу сказаць, што віны я не прызнаваў, хоць быў велізарны ціск, каб я гэта зрабіў. Ціск быў у калоніі, падрабязней пра гэта я казаць не магу. Хадайніцтва я напісаў, каб спыніць ціск і правакацыі, якія былі. Падпісаў таму, што ў пэўны момант зразумеў, што справа не ў памілаванні. Са мной маглі б адбыцца дастаткова сур'ёзныя рэчы, ажно да фізічнага знішчэння… Тое, што зрабілі з маім асабістым жыццём і жыццём маёй сям'і, гэта проста жах».

Дзмітрый Бандарэнка распавёў пра турэмныя ўмовы: «Ніякай законнасці не было, былі пагрозы згвалтавання, калецтва. Былі спробы ціску на мяне і спробы вярбоўкі. Я сказаў прама, што ёсць межы, якія я пераходзіць не буду, я проста здзейсню самазабойства… У мяне такое рашэнне было. Я яго заўсёды артыкуляваў, таму гэта мне стварыла пэўны калідор».

Вызваленне А. Саннікава і Д. Бандарэнкі віталі Вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па пытаннях замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі, віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай камісіі Кэтрын Эштан, Еўракамісар па пытаннях пашырэння і Еўрапейскай палітыкі суседства Штэфан Фюле, Старшыня АБСЕ, ірландскі віцэ-прэм'ер Эйман Гілмар, Спецыяльны дакладчык ПАРЕ па Беларусі Андрэс Херкель, Міністэрства замежных спраў Польшчы, іншыя еўрапейскія дзяржавы, палітыкі, міжнародныя арганізацыі, заклікаючы адначасова да вызвалення астатніх беларускіх палітвязняў.

З атрыманага ў пачатку красавіка ліста Алеся Бяляцкага стала вядома, што 29 сакавіка суд Першамайскага раёна Мінска па грамадзянскім іску падатковай інспекцыі Першамайскага раёна вырашыў спагнаць са зняволенага праваабаронцы больш за 140 мільёнаў рублёў пені — за несвоечасовую выплату сумы запазычанасці. Пры тым, што спло-

чаная праваабаронцам у студзені сума паводле прысуду ўжо была праіндэксавана з улікам інфляцыі, пасля чаго павялічылася больш як удвая. Грамадзянскую справу разглядала суддзя Вольга Багам'я з удзелам прадстаўнікоў падаткавай інспекцыі Першамайскага раёна Собалевай, Тодрык і Карташовай. Ні калегі Алеся Бяляцкага, ні яго сям'я пра гэты судовы працэс нічога не ведалі — рашэнне суда было даслана самім Бяляцкім жонцы Наталлі па пошце. Суд адбываўся ў адсутнасць Бяляцкага, і ў судовым рашэнні ўказана: «адказчык у судовае паседжанне не з'явіўся, знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі, пра дату і час разгляду справы апавешчаны належна». Адвакат Алеся Бяляцкага падчас разгляду грамадзянскай справы ў судзе таксама не прысутнічаў. З'яўленне іска пра спагнанне пені стварыла штучная прававая перашкода для прымянення ў адносінах да праваабаронцы любых формаў па скарачэнні тэрміна яго зняволення — умоўна-датэрміновага вызвалення, амністыі, памілавання ў сувязі з новымі матэрыяльнымі прэтэнзіямі. 19 красавіка стала вядома, што Нобелеўскі камітэт прыняў кандыдатуру беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага на прэмію міру.

4

10 красавіка ў Віцебскім абласным судзе пачаўся разгляд касацыйнай скаргі віцебскага актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленкі. Судовая калегія вынесла вызначэнне аб прызначэнні С. Каваленку комплекснай псіхіятрычнай экспертызы ва ўмовах стацыянара (Навінкі, Мінск). Разгляд касацыйнай скаргі на прысуд Першамайскага суда Віцебска прыпынены да заключэння псіхіятраў. У судзе было прадстаўлена папярэдняе заключэнне псіхіятраў аб тым, што ў асуджанага маецца псіхічнае растройства, якое выражаецца ў тым ліку і ў адмове ад ежы. Экспертыза мусіць высветліць: ці пакутаваў С. Каваленка на псіхічнае захворванне ў момант здзяйснення крымінальнага злачынства, ці мог асэнсоўваць на той час свае дзеянні; ці пакутуе на псіхічнае захворванне зараз; ці патрабуюцца адносна яго меры прымусовага лячэння; ці мае індывідуальныя асаблівасці псіхічнага стану. 13 красавіка стала вядома, што палітвязень у псіхіятрычным шпіталі самастойна спыніў галадоўку, якую працягваў са снежня 2011 года.

10 красавіка суд Маскоўскага раёна Мінска ўсталяваў прэвентыўны нагляд за былым палітвязнем Паўлам Вінаградавым тэрмінам на 2 гады. Яму забаронена выязджаць з Мінска без дазволу міліцыі, ён абавязаны знаходзіцца дома з 20 да 8 гадзіны і 4 разы на месяц адзначацца ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі па месцы жыхарства. Усталяванне нагляду звязана з тым, што ў гэтым годзе Паўла Вінаградава ўжо некалькі разоў затрымлівалі нібыта за брыдкаслоўе і выносілі

адміністрацыйныя пакаранні ў выглядзе арыштаў. Супрацоўнікі МУС палічылі, што гэта з’яўляецца падставай для ўзмацнення нагляду за былым палітвязнем.

19 красавіка Першамайскі раённы аддзел Следчага камітэта г. Мінска паведаміў былому палітвязню Васілю Парфянкову пра ўзбуджэнне супраць яго крымінальнай справы за парушэнні ўмоваў прэвентыўнага нагляду, устаноўленага судом Першамайскага раёна Мінска ў адносінах да актывіста 5 студзеня 2012 года тэрмінам на адзін год. Нагодай для ўсталявання прэвентыўнага нагляду стаў удзел В. Парфянкова ў акцыі салідарнасці з палітвязнямі 19 снежня 2011 года, за што ён быў арыштаваны на 12 сутак.



26 красавіка кіраўніцтва спецкамендатуры №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці адмовіла ва ўмоўна-датэрміновым вызваленні палітвязню Паўлу Севярынцу. Такое рашэнне было прынята на падставе рэкамэндацыі так званай Рады выхавацеляў, у якую, акрамя адміністрацыі, уваходзяць кіраўнікі калгасаў, у якіх працуюць асуджаныя. Рашэнне прынята, нягледзячы на станоўчую характарыстыку, у сувязі з тым, што асуджаны не прызнаў сваёй віны і не раскаяўся.

26 красавіка кіраўніцтва Івацэвічскай калоніі №22 праінфармавала палітвязня Аляксандра Францкевіча, што яму адмоўлена ў спатканні, якое прызначалася на 4 траўня. Маці не паведамілі прычыну адмовы ў спатканні. Доўгатэрміновае (трохсуткавае) спатканне з блізкімі прадстаўляецца згодна з Крымінальна-выканаўчым кодэксам і можа быць адменена за парушэнні рэжыму адбыцця пакарання, аднак у Францкевіча такіх парушэнняў не было.

## Смяротнае пакаранне

5 красавіка Любоў Кавалёва, маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва, і яго сястра Таццяна Казяр атрымалі інфармацыю з Упраўлення Вярхоўнага камісара па правах чалавека. Дадзеная інфармацыя была накіравана прадстаўнікамі ўрада РБ пры аддзяленні ААН у Жэневе 15 сакавіка 2012 года — у той самы дзень, калі Уладзіслаў Кавалёў быў расстраляны. Прадстаўнікі Беларусі інфармавалі Камітэт па правах чалавека аб тым, што наглядная скарга Кавалёва пададзена ў Вярхоўны суд, прэзідэнт разглядае яго прашэнне аб памілаванні. Пакуль гэта не будзе разгледжана, выкананне смяротнага прысуду будзе прыпынена.

11 красавіка былы старшыня Канстытуцыйнага суда і Генеральны пракурор Беларусі Рыгор Васілевіч у інтэрв'ю «Еўрарадыё» заявіў, што смяротнае пакаранне можна адмяніць і без правядзення рэферэндуму: «З пазіцыі фармальна-юрыдычнай, безумоўна, гэтае пытанне можа быць вырашана і без рэферэндуму. Рашэнне таго рэферэндуму (24 лістапада 1996 года) насіла кансультацыйны характар і ў прынцыпе можна вырашыць інакш. Але і кіраўнік дзяржавы, і парламент — яны прадстаўляюць народ. І меркаванне грамадзян для іх мае важнае значэнне, якое ўплывае на прыняцце імі рашэнняў. Іх можна зразумець — 80% прагаласавала! Але калі на гэта ўвагі не звяртаць, то пытанне можа быць вырашана шляхам змены Крымінальнага кодэкса. Варыянты рашэння гэтай праблемы могуць быць самыя розныя. Магчыма ўвядзенне маратoрыя».



30 красавіка маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва напісала скаргу на імя начальніка СІЗА КДБ з патрабаваннем вярнуць ёй запісы, якія вёў Уладзіслаў падчас судовага паседжання. Пасля выканання смяротага прысуду маці атрымала пакунак з рэчамі сына — іх поштай даслалі з СІЗА КДБ, але запісы, якія вёў Уладзіслаў, кудысьці зніклі. Маці лічыць следства і суд, які прысудзіў Канавалаву і Кавалёву смяротнае пакаранне, неаб'ектыўнымі. І не выключае, што ў жоўтай пластыкавай папцы маглі быць нейкія звесткі, якія СІЗА КДБ не хоча абнародаваць.

## Гвалтоўныя знікненні

27 красавіка ўдава зніклага журналіста Дзмітрыя Завадскага Святлана атрымала з МЗС адказ на свой зварот, накіраваны ў Савет Міністраў, дзе ўтрымлівалася прапанова аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Міжнароднай канвенцыі па абароне ўсіх асоб ад гвалтоўных знікненняў. Міністэрства замежных спраў выказала меркаванне, што Беларусі няма неабходнасці далучацца да Канвенцыі, паколькі яе палажэнні рэалізаваны ў заканадаўстве РБ — выкраданне людзей адносіцца да катэгорыі злачынстваў супраць чалавецтва і прадугледжвае крымінальную адказнасць і недапушчальнасць вызвалення ад адказнасці альбо пакарання ў сувязі з заканчэннем тэрміну даўніны. МЗС адзначыў таксама, што крымінальнае заканадаўства РБ і практыка яго прымянення таксама базуецца на строгім захоўванні гарантыі абароны ад крадзяжу людзей, за якім наступае іх знікненне. Адказ падпісаны намеснікам міністра Гур'янавым.

Разам з тым, названыя ў адказе крымінальныя артыкулы прадугледжваюць пакаранне за выкраданне чалавека, а не за гвалтоўнае знікненне. Згодна з азначэннем Канвенцыі, гвалтоўнае знікненне — гэта заўсёды дзеянні прадстаўнікоў дзяржавы або іншых асоб пры падтрымцы ўлады.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

7 красавіка ў Мінску на станцыі метро «Купалаўская» былі затрыманы сябры «Маладога Фронту» Дзмітрый Крамянецкі і Міхаіл Мускі за наклейванне налепкі «Свабоду Дашкевічу». Затрыманне і ўтрыманне пад вартай актывістаў суправаджаліся збіццём і здзекамі.

Крамянецкі: «Супрацоўнікі міліцыі схавалі свае бэйджы, каб мы нават не бачылі, хто нас затрымлівае, і сказалі, што мы брыдкасловім. Міша папрасіўся ў прыбіральню, але яго не выпусцілі, а прыкавалі кайданкамі да батарэі і пачалі збіваць. Пасля таксама і мяне закавалі і таксама пачалі збіваць. Мы каля трох гадзін праляжалі на падлозе».



Мускі: «Зміцер пасля збіцця страціў прытомнасць, але яму нават не выклікалі хуткую дапамогу».

Крамянецкі: «Дзяжурны на Акрэсціна пагражаў нам фізічнай расправай. Казаў: вы будзеце тут сядзець, але добра сядзець вы не будзеце. Гэта быў дзяжурны капітан Есьмантовіч».

9 красавіка ў судзе абодва маладафронтаўцы хадайнічалі аб медыцынскай дапамозе. Д. Крамянецкага з-за падвышанага ціску брыгада хуткай дапамогі забрала ў 9-ты шпіталь, але неўзабаве яго зноў вярнулі ў суд.

Суд не ўзяў пад увагу фізічнае самаадчуванне маладафронтаўцаў. У выніку суддзя Марына Запаснік прысудзіла Міхаілу Мускаму 10 сутак адміністрацыйнага арышту за нібыта дробнае хуліганства, Міхаіл Хома — 10 сутак арышту Дзмітрыю Крамянецкаму.

## Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння

28 сакавіка Генеральная пракуратура праінфармавала намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча, якому быў абмежаваны выезд за межы Беларусі, пра перанакіраванне ягонай скаргі ў Міністэрства абароны. 12 красавіка ўслед за Генеральнай пракуратурай у Міністэрства абароны скаргу В. Стэфановіча перанакіравала ў Упраўленне унутраных спраў Партызанскага раёна

Мінска. Нагадаем, што падставаю для абмежавання выезду з краіны Стэфановіча стала нібыта ўхіленне ад мерапрыемстваў па прызыве на ваенную службу. Аднак праваабаронца на 12 гадоў старэйшы за максімальны прызыўны ўзрост і ўжо праходзіў тэрміновую вайсковую службу ў 1990-92 гг. Райваенкамат Партызанскага раёна Мінска пры гэтым сцвярджае, што ніякіх рашэнняў наконт абмежавання права выезду з Рэспублікі Беларусь не прымаў.

6 красавіка мусіла адбыцца апытанне ў межах дасудовай падрыхтоўкі па скарзе старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Алега Гулака аб ягонай забароне на выезд за мяжу. У якасці адказнікаў па справе выступаюць МУС і Мінюст. Аднак 4 красавіка з Алегам Гулаком звязалася сакратар суда Цэнтральнага раёна Мінска, дзе павінна разглядацца справа, і паведаміла, што прызначаная на гэтую справу суддзя не зможа прысутнічаць на паседжанні 6 красавіка з-за таго, што ёй трэба весці прыём грамадзянаў. Дата паседжання перанесена на няпэўны тэрмін. Алег Гулак адзначае, што ў сваёй практыцы яму не даводзілася сутыкацца з падобнымі пераносамі. Такое самае паведамленне атрымаў і юрыст БХК Гары Паганяйла. Папярэдняе паседжанне па ягонай справе павінна было адбыцца 18 красавіка.

11 красавіка былога палітвязня Аляксандра Атрошчанкава высадзілі з цягніка, калі ён ехаў у Літву. Як паведамілі яму ў аддзеле грамадзянства і міграцыі, ён прызнаны невыязным у адпаведнасці з пастановай суда Аршанскага раёна і горада Оршы ад 29 сакавіка 2012 г., калі Атрошчанкаву разам з іншымі лідарамі апазіцыі прысудзілі адміністрацыйны штраф нібыта за дробнае хуліганства ў цягніку. Аднак на працэсе суддзя не выносіла рашэння аб абмежаванні ягонага права на выезд. Атрошчанкаў не атрымаў ніякіх апавяшчэнняў аб абмежаванні ў перасячэнні мяжы, як таго патрабуе дзеючае заканадаўства. Рашэнне аб накладанні штрафу Атрошчанкаў у касацыйным парадку абскардзіў, і яно да прыняцця рашэння касацыйнай інстанцыяй лічыцца не ўступіўшым у сілу. Пасля ўступлення ў законную сілу таксама павінен яшчэ прайсці час для пачатку выканаўчай вытворчасці і прыняцця рашэння аб прымусовым выкананні ў выпадку адмовы ад выплаты. Такім чынам, законныя падставы для накладання на А. Атрошчанкава абмежаванняў адсутнічалі.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

12 красавіка суд Ленінскага раёна Мінска аштрафаваў актывістаў «Маладога Фронту» Насту Шулейку і Юрыя Ходуса, затрыманых напярэдадні каля станцыі метро «Кастрычніцкая», дзе ў гадавіну трагедыі ў метро праходзіла адкрыццё мемарыяльнага знака «Рака памяці». Асудзілі маладафронтаўцаў па артыкуле 17.1 КаАП «дробнае хуліганства». Суддзя Марына Запаснік аштрафавала Насту Шулейка на 20 базавых велічынь, а суддзя Міхаіл Хома — Юрыя Ходуса на 15 базавых велічынь.



12 красавіка ў Смалявічах былі затрыманы актывісты кампаніі «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў, Міхаіл Пашкевіч, Юрый Ганчар і мясцовы абаронца інтарэсаў дачнікаў — Васіль Казлоўскі. Затрыманыя былі дастаўлены ў раённы аддзел міліцыі са сходу дачнага таварыства. М. Пашкевічу і А. Дзмітрыеву выпісалі позвы з прадпісаннем з'явіцца ў Смалявіцкі РАУС, дзе пазней у адносінах да іх былі складзены адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства за ўдзел у сходзе членаў садаводчых таварыстваў 10 сакавіка.

19 красавіка суд Маскоўскага раёна Мінска асудзіў затрыманых напярэдадні Маргарыту Лавышык і Крысціну Кулейку на 15 базавых велічыняў кожную па артыкуле 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства»). Справу М. Лавышык разглядала суддзя Таццяна Мотыль, справу К. Кулейкі — суддзя Юрый Сезень. Маргарыта Лавышык — сяброўка Вячаслава Дыянава, каардынатара кампаніі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі». Затрыманне адбылося, калі яна размаўляла па скайпе з Дыянавым — да яе дадому ўвайшлі супрацоўнікі міліцыі. Пасля затрымання дзяўчат адвезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў. Са словаў прадстаўнікоў кампаніі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі», дзяўчаты не прымалі ўдзелу ў працы кампаніі.

20 красавіка каля крамы побач з домам была затрымана актывістка «Маладога Фронту» Наста Шулейка. У адносінах да яе быў складзены пратакол за «дробнае хуліганства» (арт. 17.1 КаАП РБ). Разгляд справы Насты Шулейкі адбыўся ў суботу 21 красавіка ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. Суддзя Таццяна Мотыль прысудзіла ёй 10 сутак арышту.

22 красавіка гарадзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч, якія вярталіся з Вільні дадому, былі затрыманы мытнікамі на памежным пераходзе «Прывалка». Адзін з мытнікаў убачыў у торбе праваабарончую літаратуру, пасля чаго аўтамабіль, на якім ехалі грамадскія актывісты, быў адагнаны ў адмысловае месца і нават загароджаны, руль і колы заблакаваныя, а побач прыстаўлена памежніца з сабакам. Мытнікі правялі асабісты дагляд Сазонава і Хільмановіча, усё гэта доўжылася каля 5 гадзін. Быў складзены пратакол выняцця кніжак «Наша Вясна» і фотаальбомаў, прысвечаных палітвязням і падзеям Плошчы 19 снежня 2010 года. Былі забраныя таксама два дыскі з дакументальным фільмам «Прычына смерці — прочырк».



Увечары 23 красавіка ў рэйсавым аўтобусе Варшава — Мінск на памежным пераходзе Цярэспаль — Брэст актывіст кампаніі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» Сяргей Бяспалаў трапіў пад асабісты дагляд. Па выніках дагляду ў яго канфіскавалі ноўтбук, пасля складання пратаколаў выняцця актывіста адпусцілі.

25 красавіка ў 23 гадзіны на ўваходзе ў станцыю метро «Інстытут культуры» ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста арганізацыі «Малады Фронт» Дзмітрыя Станкевіча, у якога з сабой была расцяжка, падрыхтаваная спецыяльна да вулічнай акцыі «Чарнобыльскі шлях». 26 красавіка суд Маскоўскага раёна Мінска асудзіў актывіста на 3 сутак арышту па артыкуле 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства»).

26 красавіка ў Брэсце амаль на тры гадзіны былі затрыманы актывісты «Гавары праўду» Марат Несцярэнка і Аляксандр Ахмач падчас распаўсюду ўлётак з нагоды гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС і плануемага будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі. Супрацоўнікі міліцыі даставілі затрыманых спачатку ў суд Брэсцкага раёна, а пазней — у Ленінскі РАУС Брэста. Там быў складзены пратакол вымання ўлётак, што яшчэ заставаліся ў грамадскіх актывістаў. Міліцыянты патлумачылі, што ўлёткі накіруюць на экспертызу, пасля чаго будзе вырашана, ці ёсць у дзеяннях Ахмача і Несцярэнкі адміністрацыйнае правапарушэнне.

26 красавіка на сталічным вакзале быў затрыманы грамадскі актывіст з Асіповічаў Ігар Сімбіроў, які прыехаў на дазволены «Чарнобыльскі шлях». Актывіста затрымлівалі маёр Аляксей Каробка і супрацоўнік міліцыі па прозвішчы Захвіцэвіч. З ужываннем фізічнай сілы яго даставілі ў РУУС Кастрычніцкага раёна, дзе склалі пратакол адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 17.1 КаАП РБ — «дробнае хуліганства». У гэты ж

дзень суддзя суда Кастрычніцкага раёна Мінска Наталля Пратасавіцкая асудзіла Ігара Сімбірова да 10 сутак арышту. Разгляд адміністрацыйнай справы доўжыўся каля 10 хвілін.

26 красавіка суд Савецкага раёна Мінска асудзіў былога палітвязня Паўла Вінаградава, затрыманага напярэдадні ў памяшканні крымінальна-выканаўчай інспекцыі Маскоўскага раёна сталіцы, на 5 сутак арышту па абвінавачанні ў «дробным хуліганстве» (арт. 17.1 КаАП РБ). 25 красавіка падчас суда актывіст кампаніі «Гавары праўду» заявіў хадайніцтва аб прыцягненні да разгляду адміністрацыйнай справы ягонага адваката. Суддзя Дзмітрый Паўлючэнка задаволіў хадайніцтва і перанёс разгляд справы на 26 красавіка.



26 красавіка падчас «Чарнобыльскага шляху» была затрымана Валянціна Дваракова, у дачыненні да якой быў складзены пратакол па арт.23.34 КаАП («парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства»). «Віна» дзяўчыны заключалася ў вітанні з балкона сваёй кватэры ўдзельнікаў шэсця бел-чырвона-белым сцягам. Супрацоўнікі міліцыі прыйшлі да яе ў кватэру, а затым адвезлі ў аддзяленне міліцыі, дзе ўзялі адбіткі пальцаў. Нават па фармальных прыкметах у дзеяннях Дваракова Валянціны адсутнічае склад адміністрацыйнага правапарушэння.

27 красавіка ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыліся судовыя працэсы над актывістамі «Маладога Фронту» Мікалаем Дземідзенкам, Міхаілам Мускім і Раманам Васільевым, Аляксеем Чурылавым і Дзмітрыем Шаўлюкевічам, якія былі затрыманы 26 красавіка пасля завяршэння «Чарнобыльскага шляху» і абвінавачаныя ў «дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП РБ). Каля суда былі затрыманы актывісты Уладзімір Яроменак і Дзмітрый Крэмянецкі, на якіх таксама складзеныя адміністрацыйныя пратаколы за дробнае хуліганства. У выніку судовых разглядаў Аляксей Чурылаў (суддзя Аксана Рэлява) арыштаваны на 10 сутак; Дзмітрый Шаўлюкевіч (суддзя Аксана Рэлява) — на 15 сутак; Мікалай Дземідзенка (суддзя Дзмітрый Паўлючэнка) — на 15 сутак; Міхаіл Мускі (суддзя Аксана Рэлява) — на 15 сутак; Раман Васільеў — на 15 сутак; Уладзімір Яроменак — на 7 сутак. Судовы працэс над Дзмітрыем Крэмянецкім (суддзя Дзмітрый Паўлючэнка) адбыўся 28 красавіка і скончыўся рашэннем аб арышце тэрмінам на 7 сутак.

30 красавіка ў памяшканні «Свабоднага тэатра» ў Мінску, дзе планаваўся паказ фільма «Апошні дыктатар Еўропы», супрацоўнікамі

АМАПу былі затрыманы 19 чалавек. Іх усіх адвезлі ў РУУС Савецкага раёна Мінска, дзе яны знаходзіліся амаль дзве гадзіны. Непаўнагадовых Таццяну Карневіч і Юлю Калодкіну пры допыце зняважліва абражала супрацоўніца міліцыі Цырко. З ноўтбука журналісткі Вікторыіі Колчынай выдалілі некалькі файлаў і змянілі пароль, пасля чаго вярнулі ўладальніцы. З камеры аператара Краўчука знікла флэш-карта памяці.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі



12 красавіка суддзя Ленінскага раёна Магілёва Аксана Ратніка аштрафавала на 30 базавых велічынь актывіста Партыі БНФ Сяржука Нягаціна за распаўсюд маланакладнай газеты «Тут і цяпер». Суддзя палічыла, што для распаўсюду незарэгістраванага незалежнага выдання неабходна мець з рэдакцыяй спецыяльную дамову, якой у актывіста не было.

20 красавіка ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі затрымалі распаўсюдніка газеты «Наш Дом інфа» Сяргея Соўпеля пры выхадзе з пад'езда дома № 37 па вуліцы Чкалава. Яго даставілі ў Першамайскі РАУС г. Віцебска, дзе пратрымалі больш за тры гадзіны. Актывіста абвінавачваюць у парушэнні артыкула 29.9 ч.2 КаАП РБ — «незаконны распаўсюд друкаваных сродкаў масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

25 красавіка супрацоўнікі міліцыі спрабавалі перашкодзіць сустрэчы расійскіх журналістаў з маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва. Сустрэча была запланаваная ў яе кватэры, але супрацоўнікі міліцыі пільнавалі журналістаў каля пад'езда. Любові Кавалёвай прапанавалі даць відэаінтэрв'ю для праграмы «Чалавек і закон», але як толькі здымачная група выйшла з таксі, ім перагарадзілі шлях супрацоўнік міліцыі і АМАП. Гаспадыня ўбачыла гэта з акна і пайшла «вызваляць гасцей». Журналісты былі адпушчаны, але ў іх перапісалі дакументы.

27 красавіка ў горадзе Бярозаўка (Лідскі раён) міліцыянты затрымалі мясцовых актывістаў Партыі БНФ і Руху «За Свабоду» Сяргея Трафімчыка і Вітольда Ашурка. У іх забралі 800 асобнікаў афіцыйна зарэгістраванай газеты «Новы час». Актывістаў завезлі ў мясцовы пастарунак і склалі акт пра канфіскацыю наклада. 28 красавіка дахаты да Сяргея Трафімчыка заявіліся міліцыянты з пастановай пракуратуры на агляд памяшкання. Яны шукалі друкавальную тэхніку. Самога Трафімчыка ў гэты час дома не было. У прысутнасці сведак міліцыянты склалі пратакол, што па

месцы жыхарства Трафімчыка друкавальна-памнажальнай тэхнікі не выяўлена.

## Абмежаванне свабоды сходаў

2 красавіка гомельскія праваабаронцы Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка атрымалі з Камітэта па правах чалавека ААН паведамленне аб рэгістрацыі іх агульнай скаргі, звязанай з адмовай Гомельскім гарвыканкамам на правядзенне пікета, прымеркаванага да Дня правоў чалавека ў 2010 годзе. Абскарджанне адмовы на нацыянальным узроўні не прынесла станоўчых вынікаў: раённы суд стаў на бок гарвыканкама, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага, як і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалі рашэнне праваабаронцы.

6 красавіка стала вядома, што Мінгарвыканкам адмовіў актывісту праваабарончага праекта «ГейБеларусь» Аляксею Куліку ў правядзенні ў беларускай сталіцы пікета на 7 чалавек «Дзень маўклівасці: мы маўчым, каб нас пачулі», запланаванага на 9 красавіка. Пікет планавалася правесці на тэрыторыі, прылеглай да дамоў № № 8 і 10 па вул. Маякоўскага на адлегласці больш чым 50 метраў ад прыпынкаў грамадскага транспарту. Аднак прычынай адмовы Мінгарвыканкам назваў стварэнне перашкодаў руху пешаходаў, а таксама руху транспарту па вул. Маякоўскага і функцыянаванні арганізацый, размешчаных недалёка ад месца планаванага пікета.

9 красавіка грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча аб забароне пікета, запланаванага 15 красавіка ў старым парку горада. Падчас пікета Рыгор Грык хацеў выказаць маральную падтрымку іншадумцам і асуджаным за падзеі 19 снежня 2010 года.

17 красавіка гомельская актывістка Зінаіда Шуміліна атрымала з Камітэта па правах чалавека ААН паведамленне пра рэгістрацыю яе скаргі, датычнай адмовы ў правядзенні серыі пікетаў 23 лютага 2011 года ў падтрымку зняволеных экс-кандыдатаў у прэзідэнты і членаў іх выбарчых штабоў. Гарадскія ўлады не дазволілі ні адно з шаснаццаці заяўленых масавых мерапрыемстваў. Раённы суд стаў на бок гарвыканкама, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалася рашэнне, не задаволіў ні адной скаргі. Гэта ўжо 129 скарга, прынятая да разгляду ад грамадзянаў Беларусі гэтай уплывовай міжнароднай інстанцыяй.

23 красавіка да заяўляльнікаў інфармацыйнага пікета, прымеркаванага да чарговых угодкаў чарнобыльскай катастрофы, які планавалася правесці 26 красавіка ў Парку Жылібера ў Гродна, пачалі прыходзіць супрацоўнікі міліцыі, папярэджваючы пра адміністрацыйную адказнасць за правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Пры гэтым афіцыйнай адмовы ў правядзенні акцыі ініцыятары на той час не атрымалі. Заява на правядзенне пікета была падпісана старшынёй гарадской арганізацыі АГП Аляксандрай Васілевіч і старшынёй суполкі Кастрычніцкага раёна Дзмітрыем Аўдзейчыкам.

Слонімскі райвыканкам двойчы адмовіў сябрам Слонімскага дэмакратычнага згуртавання праводзіць 26 красавіка пікет, прысвечаны аварыі на Чарнобыльскай АЭС.



23 красавіка ў Віцебску былі атрыманыя адмовы на правядзенне трох пікетаў да ўгодкаў Чарнобыльскай трагедыі. Сябру КХП БНФ Яну Дзяржаўцаву прыйшлі адмовы  з раённых адміністрацый.

26 красавіка ў Мінску праводзілася традыцыйная акцыя дэмакратычнай апазіцыі «Чарнобыльскі шлях». Масавае мерапрыемства ў форме шэсця і мітынга было дазволена Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам. Нягледзячы на мірны характар мерапрыемства, невялікая частка яго ўдзельнікаў адхіліліся ад мірнай хады акцыі і здзейсніла гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да часткі маніфестантаў, якія далучыліся да акцыі пад сімволікай ЛГБТ. Гвалтоўныя дзеянні насілі кароткачасовы характар, лакальны па тэрыторыі і большасцю ўдзельнікаў мерапрыемства не былі заўважаныя. ПЦ «Вясна» заклікаў арганізатараў і ўдзельнікаў масавых акцый у будучым устрымлівацца ад любых форм гвалтоўных дзеянняў, а таксама любых форм дыскрымінацыі.

26 красавіка ў Брэсце была забаронена акцыя супраць забойства жывёл. Падчас гэтага мерапрыемства меркавалася распаўсюдзіць сярод жыхароў горада ўлёткі ў падтрымку «Акцыі супраць забойства беспрытульных жывёл «Fair Play», якая зараз адбываецца ў суседняй Украіне. Падтрымаць згаданы зварот і выказаць сваю салідарнасць вырашылі таксама брэсцкія абаронцы жывёл, якія паспрабавалі атрымаць дазвол на распаўсюд 28 красавіка ўлётак у цэнтры горада — на вуліцы Пушкінскай. Аднак мясцовыя ўлады ў асобе намесніка старшыні гарвыканкама Вячаслава Хафізава адмовілі ў яе правядзенні.

30 красавіка сябры Аршанскай гарадской арганізацыі партыі «Справядлівы свет» атрымалі адмовы на правядзенне 2 масавых акцый 1 траўня супраць росту коштаў і пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча грамадзян. Пікеты збіраліся праводзіць у адмыслова дазволеных гарвыканкамам месцах.

Першамайская дэманстрацыя не была дазволена і ў Брэсце, пра што адпаведнае рашэнне гарвыканкама атрымалі 27 красавіка заяўляльнікі — кіраўнікі мясцовых арганізацый Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ганна Канюс і Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Людміла Дзенісенка. Сваю забарону ўлады патлумачылі тым, што маршрут дэманстрацыі пралягае бліжэй за 50 метраў ад шэрагу адміністрацыйных будынкаў.

27 красавіка адмову на правядзенне першамайскага мітынгу ў Мікашэвічах атрымалі ініцыятары акцыі — старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза Мікалай Зімін і кіраўнік суполкі гэтага прафсаюза на прадпрыемстве «Граніт» з Мікашэвіч Алег Стахаевіч. Акцыя ставіла на мэце выказаць падтрымку актывістам незалежнага прафсаюза прадпрыемства «Граніт». Прычынай адмовы кіраўніцтвам мясцовага гарвыканкама назвала запланаванае на гэты ж дзень і месца іншае мерапрыемства — спартакіяду.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Травень 2012 года



Травень не прынёс ніякіх станоўчых зменаў у агульнай сітуацыі з правамі чалавека і ў праблеме палітвязняў у прыватнасці. 24 траўня, прымаючы з дакладам міністра замежных спраў Сяргея Мартынава, Аляксандр Лукашэнка наўпрост заявіў, што сваю пазіцыю па палітвязнях мяняць не збіраецца: «Я ўсё больш чую заяў пра тое, што еўрапейскія дыпламаты тут чакаюць нейкай амністыі, зноў заводзячы гаворку па палітвязнях і гэтак далей. Я адразу хачу публічна сказаць, што да гэтай тэмы я больш не вяртаюся (…) Мы чакаем канкрэтных крокаў ад Захаду, Еўрапейскага Саюза. Мяч на іх баку. Гэта маё цвёрдае перакананне. Таму чакаць зноў гэтай гульні на старых інструментах па старых нотах я не збіраюся».

Гэтае выказванне А. Лукашэнкі засведчыла, што ён чакаў пэўных крокаў насустрач ад еўрапейскіх краін за вызваленне ў красавіку Андрэя Саннікава і Дзмітрыя Бандарэнкі і расчараваны тым, што Еўрапейскі Саюз настойліва патрабуе вызвалення ўсіх палітвязняў для аднаўлення палітычнага дыялогу і супрацоўніцтва.

Сітуацыя з палітвязнямі ўскладнілася вынясеннем яшчэ аднаго палітычна матываванага крымінальнага прысуду. 29 траўня грамадскі актывіст Васіль Парфянкоў быў асуджаны на 6 месяцаў арышту па абвінавачанні ў парушэнні ўмоў прафілактычнага нагляду. Ён з’яўляўся фігурантам справы аб «масавых беспарадках» і быў асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі, затым — памілаваны згодна з указам прэзідэнта. Пасля свайго вызвалення Васіль Парфянкоў працягваў грамадскую дзейнасць і затрымліваўся за ўдзел у акцыях у падтрымку палітвязняў, у выніку чаго за ім быў устаноўлены прафілактычны нагляд. Прысуд у адносінах да В. Парфянкова пакуль не ўступіў у законную сілу і будзе абскарджаны. Праваабаронцы адзначаюць, што ў выпадку зняволення актывіст будзе прызнаны палітычным вязнем.

На працягу ўсяго месяца адбываліся масавыя затрыманні грамадскіх актывістаў і прыцягненне іх да адміністрацыйнай адказнасці. Зафіксавана сістэматычнае асуджэнне на падставе сфальсіфікаваных матэрыялаў аб адміністрацыйным правапарушэнні за дробнае хуліганства. У гэты незаконны пераслед аказаліся актыўна ўцягнутыя не толькі органы ўнутраных спраў, але і суды, якія выносілі прысуды на пад-

ставе непраўдзівых матэрыялаў. Асобы, якія незаконна і неаднаразова пазбаўляліся волі на працяглы тэрмін, па меркаванні праваабаронцаў, на перыяд свайго затрымання лічацца палітычнымі вязнямі.

У траўні быў апублікаваны даклад Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека па сітуацыі ў Беларусі, які ў вуснай форме быў прадстаўлены падчас 18-ай сесіі Савета па правах чалавека ў Жэневе ў верасні мінулага года. Паколькі з таго часу рэкамендацыі застаюцца ў асноўным нявыкананымі беларускім урадам, УВКПЧ паўтарае іх, акцэнтуючы дадатковыя патрабаванні. У частку Даклада, датычную свабоды асацыяцый і праваабаронцаў у Беларусі, увайшла інфармацыя пра факты рэпрэсій у дачыненні да Беларускага Хельсінкскага камітэта і Праваабарончага цэнтра «Вясна», а таксама дыфамацыйныя кампаніі супраць палітычнай апазіцыі, праваабаронцаў і журналістаў.

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед



За кратамі па-ранейшаму працягвалі знаходзіцца 13 палітычных вязняў — Мікалай Аўтуховіч, Мікалай Статкевіч, Павел Севярынец, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Алесь Бяляцкі, Сяргей Каваленка, Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Павел Сырамалотаў (адносна трох апошніх праваабаронцы патрабуюць перагляду справаў справядлівым судом). Калі 21 красавіка А. Лукашэнка агучыў намер абвесціць амністыю да 3 ліпеня, то шмат хто ўспрыняў гэта як знак таго, што такі прававы механізм можа быць выкарыстаны дзеля вызвалення палітзняволеных. Аднак эксперты скептычна ацанілі эфектыўнасць выкарыстання такога інструмента, паколькі частка палітвязняў лічацца злоснымі парушальнікамі рэжыму адбыцця пакарання, маюць дысцыплінарныя спагнанні, а ў выпадку Алеся Бяляцкага — нявыплачаную матэрыяльную запазычанасць (пры ўступленні рашэння суда Першамайскага раёна г. Мінска ў законную сілу).

29 траўня з’явіўся патэнцыйны палітычны вязень — грамадскі актывіст Васіль Парфянкоў быў асуджаны судом Першамайскага раёна Мінска на 6 месяцаў арышту па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь («парушэнне ўмоваў прафілактычнага нагляду, устаноўленага судом»). Васіль Парфянкоў у лютым 2011 года быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ («удзел у масавых беспарадках») за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж года — памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

За ўдзел у акцыях ён неаднаразова затрымліваўся, у выніку чаго над ім быў устаноўлены прафілактычны нагляд. В. Парфянкоў да ўступлення прысуду ў законную сілу не быў узяты пад варту, але, калі абскарджанне не дасць станоўчых вынікаў і прысуд будзе пакінуты ў сіле, актывіст стане чарговым палітычным зняволеным.

Занепакоенасць выклікае і тое, што прафілактычны нагляд устаноўлены яшчэ над двума моладзевымі актывістамі, асуджанымі за паслявыбарчыя падзеі 2010 года і ў далейшым памілаванымі, — Уладзімірам Яроменкам і Паўлам Вінаградавым, што можа ў далейшым пацягнуць за сабой крымінальную адказнасць за фармальнае парушэнне ўмоваў яго адбыцця.

2 траўня стала вядома, што віцебскага актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленку этапавалі з ахоўнага аддзялення Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя ў Навінках, куды ён быў накіраваны на комплексную псіхіятрычную экспертызу па рашэнні Віцебскага абласнога суда. Да 7 траўня зняволены ўтрымліваўся ў СІЗА Міністэрства ўнутраных спраў на вуліцы Валадарскага ў Мінску, затым быў этапаваны ў СІЗА № 2 г. Віцебску. 4 траўня ўпраўленне дэпартамента выканання пакаранняў МУС паведаміла маці С. Каваленкі, што яе сын прызнаны псіхічна здаровым. 8 траўня зняволены ўжо ў трэці раз аднавіў галадоўку, якую ён пачаў адразу пасля арышту 19 снежня 2011 года. 18 траўня Віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу С. Каваленкі і пакінуў вынесены прысуд у сіле, а 20 траўня ён быў этапаваны ў калонію №19 Магілёва адбываць пакаранне.

22 траўня ў зняволенага кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага ў выкананне прысуду ў частцы канфіскацыі маёмасці апісалі маёмасць на лецішчы, раней, у сакавіку, была апісана кватэра А. Бяляцкага ў Мінску. 30 траўня судовыя выканаўцы суда Першамайскага раёна сталіцы апісалі і ацанілі маёмасць у офісе Праваабарончага цэнтра «Вясна», у якім афіцыйна быў зарэгістраваны А. Бяляцкі. У пачатку месяца высветлілася, што зняволенаму праваабаронцу абмяжоўваюць перапіску — ён не атрымаў два лісты ад калегі з Праваабарончага цэнтра «Вясна» Насты Лойкі. Паколькі забароненых для перасылкі рэчаў у лістах не было, Н. Лойка накіравала скаргу ва ўпраўленне дэпартамента выканання пакаранняў МУС па Магілёўскай вобласці, пракуратуру і Магілёўскую абласную грамадскую назіральную камісію за ўмовамі ўтрымання пры галоўным упраўленні юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама.

Абмежаванне карэспандэнцыі зафіксавана таксама і ў адносінах да Яўгена Васьковіча, а Павел Сырамолатаў увесь красавік не атрымліваў выпісаных газет па месцы адбыцця пакарання — у магілёўскай калоніі №19. Пра гэта даведалася маці зняволенага падчас кароткатэрміновага спаткання з сынам. Высветліць, чаму П. Сырамолатаў не атрымлівае газет, маці зняволенага не ўдалося.

У канцы траўня паводле рашэння начальніка Шклоўскай калоніі № 7 Мікалай Дзядок быў пераведзены ў памяшканне камернага тыпу, так званы «БУР» («адзіночку»), на паўгода. Да гэтага яго неаднаразова прымушалі пісаць прашэнні аб памілаванні. Мікалай таксама пазбаўлены доўгатэрміновага спаткання з маці і жонкай, якое раней было дазволена ў чэрвені. За час знаходжання ў Бабруйскай і Шклоўскай калоніях Мікалай атрымаў больш за 10 спагнанняў за розныя надуманыя парушэнні, кшталту «няправільна адрэагаваў на заўвагу», і цяпер не можа трапіць пад маючую адбыцца амністыю.



## Смяротнае пакаранне

7 траўня маці і сястра Уладзіслава Кавалёва, аднаго з асуджаных і расстраляных за тэракт у мінскім метро, звярнуліся да А. Лукашэнкі з прапановай выдаць указ, каб целы пакараных смерцю ўсё ж выдаваліся сваякам. А таксама каб ім паведамлялася пра месцы пахавання тых, каго расстралялі паводле смяротных прысудаў. Яны прапануюць адмяніць палажэнне пункта 5 артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, паколькі «няма ніякага разумнага абгрунтавання для нявыдачы цела пакаранага сваякам або ўтойвання ад іх месца яго пахавання». Родныя Уладзіслава Кавалёва прапануюць унесці змены ў заканадаўства, бо лічаць, што існуючыя нормы надзвычай жорсткія і бесчалавечныя ў дачыненні да сваякоў пакараных смерцю.

8 траўня падчас звароту А. Лукашэнкі да парламента і народа дэпутат Мікалай Самасейка спытаў аб праблеме смяротнага пакарання і магчымасці ўвядзення мараторыя на дадзены від пакарання. А. Лукашэнка адказаў: «Я ніколі сам не пайду на ўвядзенне мараторыя. Я ведаю настроі людзей. Тэлевізар можна выключыць. Два нягоднікі ўварваліся ў кватэру, згвалтавалі дачку, забілі яе, закінулі ў ванную. Што з імі зрабіць? Я імгненна адхіляю прашэнне аб памілаванні. Вы ведаеце, чаго мне каштавалі два апошнія смяротныя прысуды, калі ўвесь свет на цябе ціснe. Я — прэзідэнт, я павінен зрабіць, як хоча грамадства. Калі ты гад і нягоднік і ідзеш на злачынства, будзь гатовы за яго адказаць. Хаця, можа быць, грамадства падышло да мараторыя».

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

10 траўня салігорскія грамадскія актывісты накіравалі ў Палату прадстаўнікоў звароты аб увядзенні ў беларускае крымінальнае заканадаўства паняцця «катаванне» і адказнасці за гэтае злачынства. Таксама ад дэпутатаў патрабуюць пачаць распрацоўку закону супраць катаванняў. Нагадаем, што беларускае заканадаўства наогул не дае вызначэння паняцця «катаванне», як тое прадугледжваецца Канвенцыяй супраць катаванняў ААН, ратыфікаванай Рэспублікай Беларусь. Ніводны нарматыўна-прававы акт Рэспублікі Беларусь не ўтрымлівае гэтага вызначэння. У Беларусі існуе адказнасць за перавышэнне службовых паўнамоцтваў і іншыя артыкулы Крымінальнага кодэкса, якія апасродкавана караюць за дзеянні, якія можна трактаваць як катаванні ці жорсткае абыходжанне, але пакарання менавіта за катаванні ў краіне наўпрост няма. У сваім звароце да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў актывісты звяртаюць увагу на рэкамендацыі Камітэта супраць катаванняў ААН па Беларусі, зробленыя падчас 47-й сесіі восенню 2011 года. У прыватнасці, Камітэтам рэкамендавана неадкладна ўвесці ў Крымінальны кодэкс нормы, якія даюць вызначэнне катаванню і кваліфікуюць яго ў якасці крымінальнага злачынства, у поўнай адпаведнасці з артыкуламі 1 і 4 Канвенцыі супраць катаванняў ААН.



19 траўня каля ўніверсама «Першамайскі» на вуліцы Русіянава ў Мінску быў затрыманы і жорстка збіты актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Андрэй Молчан. На вуліцы ён разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг, пасля чаго да яго пад'ехала машына з супрацоўнікамі міліцыі. Актывіста моцна збілі і гвалтам зацягнулі ў машыну. У выніку ён апынуўся ў 11-ай бальніцы, адкуль быў выпісаны раніцай 25 траўня. Паводле папярэдняй высновы лекара, у Андрэя выяўленая чэрапна-мазгавая траўма, пераломам ніжняй сківіцы і рэбраў, адбітыя ныркі і ногі. З бальніцы актывіста накіравалі на лячэнне ў паліклініцы. У эпікрызе, які выдалі пры выпісцы, з пэўнасцю пазначана толькі тое, што ён атрымаў лёгкую чэрапна-мазгавую траўму. Факт пералому сківіцы, а таксама іншыя траўмы ў эпікрызе стаяць пад пытаннем.

## Палітычна матываванае абмежаванне свабоды перамяшчэння

4 траўня намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч накіраваў у Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы, у якой ён выказаў свае

падазрэнні наконт наўмысных злачынных дзеянняў, скіраваных на незаконнае абмежаванне яго канстытуцыйных правоў, не выключаючы службовага падлогу, які выражаецца ў незаконным унясенні яго звестак у банк дадзеных грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, якім часова абмежавана права выезду. Валянцін Стэфановіч паведаміў Следчаму камітэту пра безвыніковасць сваіх зваротаў у розныя дзяржаўныя органы, дзе ён шукаў адказу на пытанне, паводле чыйго рашэння яму абмяжоўваецца выезд за межы Беларусі. У якасці дзяржаўнага органа, які вынес такое рашэнне, у даведцы (даведка выдадзена аддзелам па грамадзянстве і міграцыі Партызанскага РУУС г. Мінска) пазначана Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, а ў якасці падставаў для такога абмежавання — ухіленне ад яўкі на мерапрыемствы па прызыве на вайсковую службу, службу ў рэзерве. Паводле супрацоўнікаў Партызанскага РУУС, яго пашпартныя дадзеныя былі ўнесеныя ў банк дадзеных нейкім Чарэднікам А.В. Пасля атрымання даведкі праваабаронца звярнуўся па тлумачэнні ў ваенкамат Партызанскага раёна г. Мінска. Ваенкам і yaгоныя намеснікі адказалі, што ніякіх звестак адносна В. Стэфановіча яны нікуды не адсылалі. Не аказалася ніякіх звестак пра праваабаронцу і ў базе Мінскага гарадскога ваенкамата. Пры гэтым Стэфановіч адзначыў, што падставы для часовага абмежавання яго права на выезд з Беларусі, пазначаныя ў даведцы, з'яўляюцца абсурднымі і відавочна незаконнымі. Па-першае, ён на 12 гадоў старэйшы за максімальны прызыўны ўзрост, устаноўлены дзеючым заканадаўствам, і, па-другое, ён ужо праходзіў тэрміновую вайсковую службу ў 1990—92 гг. Улічваючы таксама, што па падобных прычынах абмежаваны выезд шэрагу прадстаўнікоў незалежных СМІ, сяброў грамадскіх аб'яднанняў і апазіцыйных палітычных партый, праваабаронца выказаў меркаванне, што гэтыя абмежаванні не з'яўляюцца выпадковасцю ці нейкай тэхнічнай памылкай, а сведчаць пра спланаваную незаконную палітычна матываваную акцыю беларускіх спецслужбаў.

На працягу ўсяго траўня так і не была прызначаная дата разгляду скаргі праваабаронцы Валянціна Стэфановіча на рашэнне аб часовым абмежаванні выезду за межы Беларусі. У канцылярыі суда Цэнтральнага раёна Мінска паведамлялі, што дата суда яшчэ не прызначана і калі будзе прызначана — невядома. Пры гэтым яшчэ 26 красавіка скончыўся тэрмін, прадугледжаны заканадаўствам для разгляду скаргі ў судовым паседжанні.

Гэтым жа судом пратэрмінаваны і аналагічныя скаргі некаторых іншых асоб, якія трапілі ў спісы невыязных: старшыні БХК Алега Гулака,

5

старшыні АГП Анатоля Лябедзькі. Усе гэтыя справы павінна была разглядаць суддзя Алена Сямак.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 траўня трое актывістаў з Брэста — Уладзімір Катрыч, Стас Фядзько і Ілля Лабушняк, якія накіроўваліся на сход па змене выбарчага заканадаўства, ініцыяваны Дзмітрыем Усам, былі затрыманы на шашы пад Кобрынам супрацоўнікамі Кобрынскага ДАІ. Прычынай затрымання сталі нібыта праблемы з дакументамі на машыну. Разбор цягнуўся 3 гадзіны, і ў выніку актывісты не паспелі патрапіць на запланаванае мерапрыемства.



1 траўня супрацоўнікі Баранавіцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце затрымалі на Цэнтральным вакзале групу грамадскіх актывістаў, якія збіраліся ў Мінск на пасяджэнне ініцыятыўнай групы Дзмітрыя Уса. У ліку затрыманых Вячаслаў Болбат, Рыгор Грык, Арцём Бабей і Аляксандр Давыдаў. Іх затрымлівалі восем міліцыянтаў і восем чалавек у цывільным, якія паведамілі, што ў затрыманых, па іх звестках, ёсць выбуховыя і падазроныя рэчы. Таму ўсіх затрыманых накіравалі ў лінейны аддзел станцыі Баранавічы-Цэнтральныя, дзе абшукалі і склалі пратаколы дагляду і вобшуку. Не знайшоўшы нічога падазронага, усіх затрыманых адпусцілі праз 2,5 гадзіны.

6 траўня 13 удзельнікаў нефармальнага пікніка затрымаў нарад міліцыі каля пасёлка Ждановічы Мінскага раёна. Сярод затрыманых — барды Зміцер Бартосік і Ігар Сімбіроў, які ў гэты дзень выйшаў на волю пасля 10 сутак адміністрацыйнага арышту (26 красавіка ён прыехаў з Асіповічаў у сталіцу на «Чарнобыльскі шлях», але быў затрыманы і асуджаны за «дробнае хуліганства»).

Усіх затрыманых даставілі ў міліцэйскі пастарунак у Ждановічах, дзе прымусова правялі дактыласкапію і відэаздымкі. Большасць затрыманых былі вызваленыя прыкладна ў 21 гадзіну, на Ігара Сімбірова склалі адміністрацыйны пратакол за нібыта непадпарадкаванне міліцыі і па абвінавачанні ў лаянцы. Ноч ён правёў у РУУСе Мінскага раёна. 7 траўня суд Мінскага раёна і г. Заслаўя пачаў разгляд справы, але перанёс паседжанне на 18 траўня. 8 траўня невядомымі ў цывільным у 13 гадзін каля парку Чалюскінцаў у Мінску зноў былі затрыманы Ігар Сімбіроў і Зміцер Бартосік. Іх гвалтам зацягнулі ў аўтамабіль «Мерсэдэс» чорнага колеру. Суд Мінскага раёна і г. Заслаўя (суддзя Аляксей Мініч) прыняў

рашэнне працягнуць разгляд адміністрацыйнай справы, у выніку Ігара Сімбірова пакаралі арыштам у 15 сутак.

7 траўня суддзя Смалявіцкага раёна Алена Міснік прыняла рашэнне арыштаваць на 10 сутак лідараў грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Андрэя Дзмітрыева і Міхаіла Пашкевіча. Яны прызнаныя вінаватымі ў парушэнні артыкула 23.34 Кодэкса адміністрацыйных правапарушэнняў («удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве»). У віну сябрам кампаніі «Гавары праўду» ставяць правядзенне нібыта несанкцыянаванага сходу ўладальнікаў лецішчаў у адным з дачных кааператываў, які апынуўся ў зоне пабудовы індустрыяльнага парка. Пратэстны сход дачнікаў прайшоў яшчэ ў сакавіку бягучага года, аднак пасля шырокай агалоскі мерапрыемства яго арганізатарамі зацікавілася міліцыя.

Толькі 10 траўня стала вядома, што Ігар Шалай 24 красавіка быў затрыманы каля будынка Міністэрства ўнутраных спраў у Мінску за тое, што ляпіў налепкі «Не — смяротнаму пакаранню». Два супрацоўнікі міліцыі адвезлі яго ў Савецкі РАУС Мінска. На актывіста склалі пратакол па арт. 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства»). Ноч да суда ён правёў у аддзяленні міліцыі Савецкага раёна Мінска. 25 красавіка адміністрацыйную справу разглядаў суд Савецкага раёна, які асудзіў яго да 10 сутак арышту.

14 траўня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска распачаўся суд над актывістам «Маладога Фронту» Міхаілам Мускім, якога павінны былі вызваліць 11 траўня пасля 15 сутак арышту (за ўдзел у «Чарнобыльскім шляху»), але пакінулі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. Актывіста абвінавацілі ў дробным хуліганстве, і суддзя Віктар Казак пакараў яго 5 суткамі арышту. 16 траўня яго з ЦІП вывезлі ў вайсковую частку ў вёску Межыца (Віцебская вобласць). З дарогі хлопец здолеў патэлефанаваць сваім паплечнікам.

14 траўня ў кватэру, якую здымаюць актывісты «Маладога Фронту», уварваліся супрацоўнікі міліцыі. Мікалая Дземідзенку, Дзмітрыя Крэмянецкага і Рамана Васільева забралі і адвезлі ў невядомым напрамку, міліцыянты забралі ключы ад кватэры. Пры ўварванні міліцыянты ўжывалі сілу. Усіх прысутных паклалі тварам у падлогу, Уладзіміра Яроменку спачатку паставілі на расцяжку да сцяны, а пасля адзін з міліцыянтаў збіў яго з ног. 15 траўня маладафронтаўцы знайшліся ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска. Іх абвінавацілі ў дробным хуліганстве. На працэс нікога не пусцілі, нават адвакатаў. Мікалая Дземідзенку пакаралі 10 суткамі

арышту (суддзя — Вайцэховіч), Рамана Васільева — 12 суткамі арышту (суддзя Алена Ткачова), Дзмітрыя Крэмянецкага асудзілі на 10 сутак арышту.

16 траўня ў судзе Ленінскага раёна Мінска была разгледжана адміністрацыйная справа Івана Амельчанкі, аўтара плаката «Мусарок», затрыманага напярэдадні ў Ленінскім РАУС, куды ён прыйшоў самастойна, паколькі цягам апошніх тыдняў яго пастаянна спрабавалі выклікаць праз бацькоў для дачы тлумачэнняў па справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года. На І. Амельчанку склалі пратакол па артыкуле 17.1 КаАП («дробнае хуліганства») — у пратаколе сцвярджаецца, што абвінавачаны насміхаўся з міліцыянта. Справу разгледзеў суддзя Міхаіл Хома, які вынес рашэнне — 15 сутак арышту.



17 траўня ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска былі разгледжаны адміністрацыйныя справы затрыманых напярэдадні ва ўласнай кватэры актывістаў «Маладога Фронту» Уладзіміра Яроменкі і Паўла Сяргея. Суддзя Людміла Лапо асудзіла У. Яроменку на 7 сутак арышту, П. Сяргею суддзя Наталля Каробіна прысудзіла 5 сутак арышту.

18 траўня перад пачаткам разгляду касацыйнай скаргі Сяргея Каваленкі Віцебскім абласным судом каля будынка суда былі затрыманы жонка палітвязня Алена Каваленка, яго стрыечны брат і актывістка «Еўрапейскай Беларусі» Алена Семенчукова. Супрацоўнікі міліцыі вінавацяць іх у тым, што менавіта яны ўтрох зрабілі на асфальце перад судовым будынкам надпіс «Свабоду Сяргею Каваленку!». 30 траўня ў Кастрычніцкім судзе Віцебска меўся адбыцца адміністрацыйны працэс, але суд быў адкладзены. Алене Каваленка напярэдадні працэсу паведамілі, што суддзя Іна Грабоўская накіравала справу на дапрацоўку ў райаддзел міліцыі. Паводле звестак з суда, справу перакваліфікуюць на новы артыкул — з дробнага хуліганства на пашкоджанне маёмасці ў нязначным памеры. А. Каваленка спадзяецца, што ў выніку справу ўвогуле закрыюць.

24 траўня актывіста «Маладога Фронту» У. Яроменку даставілі ў суд Маскоўскага раёна з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў, адкуль яго павінны былі вызваліць напярэдадні ўвечары. Аднак замест вызвалення на актывіста склалі чарговы пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па артыкуле 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства»). Суддзя Таццяна Мотыль вынесла рашэнне аб арышце У. Яроменкі на 10 сутак.

25 траўня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы Дзмітрыя Крэмянецкага, якога абвінавацілі ў брыдкаслоўі (арт. 17.1 КаАП РБ). Суддзя Таццяна Мотыль прысудзіла актывісту «Маладога Фронту» 10 сутак арышту. Д. Крэмянецкі толькі 24 траўня выйшаў з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў, дзе ён адбываў 10 сутак арышту.

27 траўня каля стадыёна «Трактар» у Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі групу моладзі, якая сустракалася з доктарам тэхнічных навук, спецыялістам па праблемах атамнай энергетыкі Георгіем Лепіным. 21 чалавек патрапіў ў Маскоўскі РУУС. Да некаторых ужывалі фізічны гвалт, пагражалі скласці пратаколы і пасадзіць «на суткі». Пасля працэдуры дактыласкапіі ўсіх адпусцілі.

26 траўня сябра «Маладога Фронту» Раман Васільеў павінен быў выйсці на волю пасля адбыцця 12-суткавага арышту за вывешванне нацыянальнага сцяга ў гадавіну рэферэндуму аб змене сімволікі. Аднак супраць Р. Васільева склалі новы адміністрацыйны пратакол па артыкуле 17.1 КаАП РБ («дробнае хуліганства») і пакінулі пад арыштам у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. 28 траўня суддзя суда Маскоўскага раёна Таццяна Мотыль вынесла рашэнне аб арышце актывіста на 12 сутак.

30 траўня ў Мінску актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Максім Вінярскі быў затрыманы падчас расклейкі плакатаў, адрасаваных прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну, які ў гэты дзень прыехаў з візітам у беларускую сталіцу. М. Вінярскага даставілі ў суд Маскоўскага раёна, дзе ён быў асуджаны на 5 сутак арышту і дастаўлены ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў.

30 траўня 5-суткавымі арыштамі пакараныя актывісты арганізацыі нацыянал-бальшавікоў Яўген Контуш і Зміцер Сіняк, адносна Зміцера Паліенкі прынята рашэнне аб арышце на 10 сутак.

30 траўня на Івана Амельчанку, які павінен быў вызваліцца пасля адбыцця 15-суткавага арышту, складзены новы адміністрацыйны пратакол за «нецэнзурную лаянку» (арт. 17.1 КаАП РБ). Суд Маскоўскага раёна Мінска адбываўся ў закрытым рэжыме. Суддзя Таццяна Мотыль пакарала І. Амельчанку адміністрацыйным арыштам на 10 сутак.

31 траўня ўвечары міліцыя Светлагорска затрымала актывістаў грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», журналістаў і мясцовых жыхароў,

якія пратэставалі супраць будаўніцтва завода беленай цэлюлозы каля вёскі Якімава Слабада. Усе затрыманыя былі адпушчаны, акрамя Міхаіла Пашкевіча, якога пакінулі ў Светлагорскім РАУСе. На яго складзены адміністрацыйны пратакол па арт. 23.4 КаАП РБ («умяшальніцтва ў дзеянні супрацоўнікаў міліцыі»). 1 чэрвеня суддзя суда Светлагорскага раёна Ірына Алісейка прысудзіла М. Пашкевічу 7 сутак арышту.

31 траўня прыкладна а 18-й гадзіне дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (Вільня) прафесар Еўрапейскага ўніверсітэта ў Санкт-Пецярбургу Аляксей Пікулік перастаў адказваць на тэлефанаванні. Праз некалькі гадзін высветлілася, што ён знаходзіцца ў Цэнтральным РУУС Мінска, затым дастаўлены ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў. А. Пікулік абвінавачаны ў «дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП РБ). 1 чэрвеня суд Цэнтральнага раёна сталіцы (суддзя — Якунчыхін) асудзіў яго на 5 сутак адміністрацыйнага арышту.



## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі

2 траўня прыкладна ў 20.30 супрацоўнікі міліцыі прыйшлі на мінскі офіс «Радыё Рацыя». Яны абыходзілі кватэры, што знаходзяцца побач з плошчай Перамогі, дзе павінна адбывацца рэпетыцыя парада да 9 мая. Журналіст Генадзь Барбарыч, які ў гэты час дзяжурыў у рэдакцыі, адчыніў дзверы. Пасля таго, як міліцыянты пабачылі лагатыпы «Рацыі», яны выклікалі падмогу з Цэнтральнага РУУС. Міліцыянты склалі «пратакол агляду», у якім указалі, што забіраюць тэхніку на праверку.

29 траўня пракуратура Гомельскай вобласці вынесла афіцыйнае папярэджанне незалежнай журналістцы Ларысе Шчыраковай за супрацоўніцтва са спадарожнікавым тэлеканалам «Белсат». Дзяўчыну позвай выклікалі ў пракуратуру да супрацоўніка нагляднага ведамства Алесі Рабцавай. Журналістцы прад'явілі дзве заявы ад жыхароў вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна. «Абураныя» вяскоўцы патрабавалі ад пракуратуры правесці праверку і прыцягнуць да адказнасці Л. Шчыракову. У заяве было напісана, што журналістка нібыта падманула ўдзельнікаў сходу, таму што пры здымках прадстаўлялася супрацоўнікам дзяржаўнага СМІ, а па выніках выйшла, што матэрыял быў размешчаны на «апазіцыйным» СМІ — тэлеканале «Белсат». Л. Шчыракова гэта абвяргае і збіраецца абскардзіць дадзенае папярэджанне у вышэйстаячых інстанцыях.

31 траўня разам з актывістамі грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» міліцыяй Светлагорска былі затрыманы журналісты і мясцовыя жыхары, якія пратэстуюць супраць будаўніцтва завода беленай цэлюлозы. Сярод затрыманых — журналісты Аліна Радачынская, Аляксандр Баразенка, Сяргей Балай, Іна Студзінская, а таксама актывісты кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазняк, Аляксандр Уліцёнак і Міхаіл Пашкевіч, Ганна Курловіч. Пасля дачы тлумачэнняў журналісты былі адпушчаны.

## Абмежаванне свабоды сходаў

4 траўня старшыня Гомельскай абласной арганізацыі АГП Васіль Палякоў звярнуўся са скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН. Палітык лічыць, што беларускія ўлады, якія пакаралі яго арыштам на 5 сутак за арганізацыю Народнага сходу, парушылі артыкулы 19 і 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а менавіта — права на свабоду распаўсюду інфармацыі і мірных сходаў. Напярэдадні правядзення Народнага сходу, 9 кастрычніка 2011 года, суд прызнаў яго вінаватым у парушэнні артыкула 23.34 КаАП («парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства») і пакараў адміністрацыйным арыштам. В.Палякоў не пагадзіўся з пастановай раённага суда і абскардзіў яе ў вышэйстаячых інстанцыях — абласным і Вярхоўным судзе. Але скаргі не былі задаволены.

11 траўня стала вядома, што Рагачоўскі райвыканкам адмовіў у правядзенні пікетаў і сходу ў Раённым палацы культуры ў межах кампаніі «Вернем Дажынкі ў Рагачоў!». Прычына адмовы — неадпаведнае месца, Палац культуры, дзе, са словаў чыноўнікаў, нельга праводзіць масавыя мерапрыемствы. Таксама ўлады традыцыйна спасылаюцца, што не заключаны дамовы з камунальнымі службамі, міліцыяй і хуткай дапамогай.

У траўні па ўсёй краіне былі забаронены пікеты з агульнай тэматыкай «За сумленныя выбары без Лукашэнкі». 24 актывісты з Гомеля і яшчэ 7 — з раённых цэнтраў накіроўвалі заяўкі аб правядзенні пікетаў у сваіх мясцовасцях. Мэтай масавага мерапрыемства заяўнікі называлі актуалізацыю праблемы адсутнасці ў Беларусі свабодных і сумленных выбараў. Пікеты планавалі правесці 15 траўня. Заяўнікі з Бабруйска і Магілёва таксама не атрымалі дазволу з мясцовых выканкамаў на правядзенне пікетаў. У Барысаве былі забаронены 4 пікеты. У Брэсце на 15 траўня мясцовымі актывістамі Аб'яднанай грамадзянскай партыі былі заяўлены 5 акцый, але ўсе яны былі забаронены нават

у тых месцах, якія гарвыканкам вызначыў для правядзення масавых мерапрыемстваў. Аршанскі гарвыканкам адмовіў актывістам АГП у дазволе на правядзенне пікетаў 31 траўня па ўсіх 14-і заяўках. Прычыны для адмоваў традыцыйныя — адсутнасць дамоваў з міліцыяй на ахову, з хуткай дапамогай на медыцынскае абслугоўванне і з камунальнымі службамі на прыборку смецця.

Салігорскія ўлады забаранілі правядзенне велапрабегу, прымеркаванага да гадавіны рэферэндуму 14 траўня 1995 года, па выніках якога бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» страцілі статус дзяржаўных сімвалаў. Заяўнікам мерапрыемства выступаў мясцовы маладафронтавец Андрэй Тычына. Мерапрыемства планавалася правесці 26 траўня.

5

22 траўня ў Гродна былі забаронены пікеты ў падтрымку «польскай» школы. Заяўкі на чатыры пікеты падавалі жыхары абласнога цэнтра, якія дамагаліся захавання моўнага рэжыму ў школе № 36. Чыноўнікі патлумачылі адмову тым, што заяўнікі не ўзгаднілі правядзенне пікетаў з міліцыяй і іншымі службамі.

29 траўня ў Мінску быў забаронены пікет, які малады аспірант Аляксей Паўлоўскі збіраўся зладзіць каля Інстытута фізіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь 30 траўня. З дапамогай пікета ён хацеў прыцягнуць увагу да праблемы з непрадастаўленнем адміністрацыяй інстытута месца ў інтэрнаце. Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт адмову ў правядзенні пікета аргументаваў тым, што ў гэты час на вуліцы Акадэмічнай будуць весціся рамонтныя працы.

## Свабода асацыяцый

23 траўня ў рэдакцыю газеты «Брестский курьер» звярнуўся адзін з працоўных ЖЭС-12 г.Брэста і паведаміў пра тое, што кіраўніцтва жыллёва-эксплуатацыйнай службы распаўсюдзіла сярод калектыву заявы на ўступленне ў грамадскае аб’яднанне «Белая Русь». Кожны працоўны ЖЭСа атрымаў па дзве гатовыя заявы, у якіх засталося толькі ўласнаручна ўпісаць свае асабістыя звесткі — прозвішча, імя, імя па бацьку, хатні адрас, дату і подпіс. Адна заява — на імя старшыні Маскоўскай раённай г.Брэста арганізацыі РГА «Белая Русь» Марыі Гладун: «Прашу прыняць мяне ў шэрагі рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь». Са Статутам азнаёмленая, згодная». З арыгінала вынікае, што гэтая заява падрыхтавана адмыслова для

жанчын. Другая заява адрасавана начальніку КУП «ЖРЭУ г. Брэста» Паўлу Заграю: «Прашу ўтрымліваць членскія ўнёскі ў памеры 0,3% ад заработнай платы штомесяц для далейшага пералічэння ў РГА «Белая Русь».

24 траўня стала вядома, што скарга занавальнікаў грамадскага аб'яднання «За справядлівыя выбары» зарэгістравана ў Камітэце па правах чалавека ААН. У сярэдзіне 2011 года Міністэрства юстыцыі Беларусі адмовіла ў дзяржаўнай рэгістрацыі заснавальнікам Сяргею Калякіну, Валерыю Ухналёву і Віктару Карняенку, а таксама 91 сябру створанага грамадскага аб'яднання. Вярхоўны суд пацвердзіў высновы рэгіструючага органа, тым самым паставіўшы сябраў аб'яднання ў нелегальнае становішча. У пададзенай у Камітэт па правах чалавека ААН скарзе С.Калякін сумесна з іншымі заяўляюць пра парушэнне з боку Беларусі іх права на свабоду асацыяцыі і звяртаюць увагу, што Беларусь не выконвае ўзятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы ў гэтай частцы. У скарзе таксама адзначаецца, што дзейнасць ад імя незарэгістраваных аб'яднанняў у Беларусі з'яўляецца злачынствам і караецца ў крымінальным парадку.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Чэрвень 2012 года



Падзеі чэрвеня яскрава прадэманстравалі, што пытанне правоў чалавека разглядаецца беларускімі ўладамі выключна ў палітычнай плоскасці ўзаемадачыненняў з Еўрасаюзам і іншымі краінамі Еўропы. У цэнтры ўвагі гэтых узаемадачыненняў па-ранейшаму заставалася праблема палітычных зняволеных. Сыходзячы з поўнай адсутнасці палітычнай волі да вызвалення палітвязняў з боку беларускіх уладаў, ЕС агучыў магчымасць пашырэння спісу афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі, у дачыненні да якіх дзейнічаюць санкцыі. Пра гэта заявіў 18 чэрвеня ў Брусэлі дырэктар дэпартамента па пытаннях Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешнепалітычнай дзейнасці Гунар Віганд. Адным з прэтэндэнтаў на папаўненне гэтага спісу быў названы кіраўнік СП ТАА «Санта-Імпекс Брэст» Аляксандр Машэнскі, «які адыграў важную ролю ў кампаніі Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года і лічыцца трэцім уплывовым алігархам пасля Пефціева і Чыжа». Рэакцыя беларускіх уладаў на гэтую заяву была імгненнай: 21 чэрвеня быў арыштаваны гарадзенскі журналіст і актывіст польскай меньшасці Андрэй Пачобут па абвінавачанні ў абразе прэзідэнта, і спіс палітычных вязняў папоўніўся яшчэ адным прозвішчам. Не жадаючы развіцця далейшай канфрантацыі, ЕС устрымаўся ад разгляду беларускага пытання на паседжанні міністраў замежных спраў краін ЕС 25 чэрвеня ў Люксембургу. 30 чэрвеня Андрэй Пачобут быў вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе, хаця абвінавачанне яму было прад'яўлена.

Варта дадаць, што беларускія ўлады вельмі балюча адрэагавалі на далучэнне 8 чэрвеня да эканамічных і візавых санкцый сямі краінаў Еўропы — Харватыі, Македоніі, Чарнагорыі, Ісландыі, Сербіі, Албаніі і Ліхтэнштэйна.

Не апраўдаліся надзеі на тое, што амністыя, абвяшчэнне якой планавалася да афіцыйнага Дня Незалежнасці 3 ліпеня, можа стаць прававым механізмам для вызвалення палітвязняў. 12 чэрвеня на нарадзе па пытанні амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы, А. Лукашэнка заявіў, што «ніякай палітыкі пры правядзенні амністыі быць не павінна»: «Усё павінна быць сумленна. Для гэтага трэба вызначыць крытэры. Згодна з гэтым крытэрам мы і павінны дзейнічаць: хтосьці

трапіць пад амністыю па гэтых крытэрыях або для яго тэрмін адбывання пакарання павінен быць скарочаны. І “нацягваць” туды людзей, якія не павінны выходзіць, у тым ліку па нейкіх палітычных матывах, ні ў якім разе нельга».

Разам з тым, законапраект аб амністыі, які 15 чэрвеня паступіў у парламент, аказаўся цалкам палітызаваным і выклікаў рэзкую крытыку праваабаронцаў. У параўнанні з аналагічнымі законамі папярэдніх гадоў, у пералік артыкулаў, на якія не распаўсюджваецца амністыя, былі ўключаны 342 КК РБ («арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх») — па ім былі асуджаны 10 чалавек па падзеях 19-га снежня 2010 года, сярод якіх Павел Севярынец, які адбывае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі, і яшчэ восем чалавек — пакараныя ўмоўна альбо з адтэрміноўкай прысуду; 293 («масавыя беспарадкі») — па абвінавачанні ў здзяйсненні дадзенага злачынства адбывае пакаранне экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч; 367 («паклёп на прэзідэнта») — па ім быў асуджаны журналіст Андрэй Пачобут, які адбывае пакаранне з адтэрміноўкай. Згодна з законапраектам, амністыя таксама не можа распаўсюджвацца на зняволеных, адносна якіх устаноўлены статус злосных парушальнікаў рэжыму адбыцця пакарання, а дадзены статус прысвоены большасці палітвязняў, у тым ліку — кіраўніку Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму.



Значнай падзеяй, накіраванай на паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, стаў разгляд беларускага пытання Саветам па правах чалавека ААН 27 чэрвеня ў Жэневе, падчас якога была прапанавана рэзалюцыя, распрацаваная місіяй Еўрасаюза ў ААН. Праект рэзалюцыі ўтрымлівае рэкамендацыю беларускім уладам выконваць правы чалавека, вызваліць палітзняволеных, увесці мараторый на смяротнае пакаранне і паўнацэнна супрацоўнічаць з усімі механізмамі ААН, а таксама ўвядзенне мандата спецдакладчыка ААН па Беларусі. Падчас дыскусіі пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН у Жэневе Міхаіл Хвастоў заявіў пра намер «узяць пад увагу» меркаванні, выказаныя ў Савеце па правах чалавека ААН, разам з тым падкрэсліўшы, што «не застаецца сумненняў адносна таго, што Еўрасаюз спрабуе навязаць Вярхоўнаму камісару і Савету свае патрабаванні па Беларусі». «Беларусі не патрэбен спецдакладчык, — заявіў Міхаіл Хвастоў. — Беларусь просіць Савет прагаласаваць супраць гэтай ідэі. Са скасаваннем мандата спецдакладчыка па Беларусі ў 2007 годзе наша краіна стала дынамічна развіваць адносіны з дагаварнымі органамі ААН, Саветам і яго тэматычнымі мандатамі, працэдурай Універсальнага перыядычнага агляду. Мы прыклалі шмат

намаганняў, каб пераадолець дэструктыўныя наступствы працы спецдакладчыка і пабудаваць канструктыўныя адносіны з праваабарончымі механізмамі ААН». У сваю чаргу Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека Наві Пілэй, якая напярэдадні прэзентавала даклад, што крытыкуе сітуацыю ў Беларусі, падкрэсліла: «Я ўжо адзначала, што ўрад Беларусі запрашаў спецдакладчыкаў па культурных, сацыяльных, эканамічных працэдурах, але не адрэагаваў на просьбы спецдакладчыкаў па праваабарончых і іншых пытаннях».

Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека заклікала ўрад Беларусі «зрабіць усё магчымае для таго, каб маючыя адбыцца парламенцкія выбары адпавядалі міжнародным нормам і стандартам».

Што датычыць электаральнай кампаніі, прынцыпова важнай акалічнасцю, якая вызначае грамадскую атмасферу ў краіне напярэдадні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія прызначаны на 23 верасня, з'яўляецца наяўнасць палітвязняў — на момант абвяшчэння выбараў Праваабарончы цэнтр «Вясна» прызнае наяўнасць у Беларусі чатырнаццаці палітычных вязняў. Пры гэтым не выключана, што існуючая эканамічная і міжнародная абстаноўка дазволіць беларускім уладам і далей заставацца ў сітуацыі канфлікту з Еўрасаюзам, гандлюючыся за больш істотныя саступкі. Гэта азначае, што частка палітвязняў, верагодна, яшчэ пэўны час будзе знаходзіцца ў зняволенні, і гэта можа стаць прычынай сыходу часткі апазіцыйных кандыдатаў з выбарчай гонкі.

6

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

Пытанне палітычных зняволеных абвастрылася арыштам 21 чэрвеня ў г. Гродна карэспандэнта польскай газеты Gazeta Wyborcza Андрэя Пачобута на падставе крымінальнай справы па ч. 2 арт. 367 КК («паклёп у дачыненні да прэзідэнта»), узбуджанай Следчым камітэтам па Гродненскай вобласці згодна з матэрыяламі праверкі, праведзенай абласным упраўленнем КДБ. Па выніках праверкі ўпраўленне КДБ зрабіла выснову, што ў шэрагу публікацый Андрэя Пачобута на некаторых інтэрнэт-рэсурсах утрымліваюцца «паклёпніцкія выказванні адносна А. Лукашэнкі». У адпаведнасці з санкцыяй часткі 2 артыкула 367 КК, Андрэю Пачобуту пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі. Андрэй Пачобут адбывае пакаранне ў выглядзе 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады згодна з прысудам, вынесеным 5 ліпеня 2011 года судом Ленінскага раёна Гродна за «паклёп у адносінах да прэзідэнта» (частка 1 артыкула 367 Крымінальнага кодэкса). Пераслед

Андрэя Пачобута расцэньваецца як расправа над журналістам за ягоную прафесійную дзейнасць, а таксама дэманстратыўную пагрозу для ўсёй журналісцкай супольнасці напярэдадні правядзення парламенцкіх выбараў. 30 чэрвеня пасля прад’яўлення абвінавачання Андрэй Пачобут быў вызвалены са следчага ізалятара пад падпіску аб нявыездзе.

8 чэрвеня з ліста праваабаронцы Алеся Бяляцкага стала вядома, што старшыня Мінскага гарадскога суда адмовіў у задавальненні ягонай нагляднай скаргі, пададзенай на прысуд Першамайскага раёна Мінска і вызначэнне калегіі Мінскага гарадскога суда. На праваабаронцу ўзмацніўся ціск з боку адміністрацыі калоніі, ён атрымаў тры спагнанні і ў выніку быў прызнаны злосным парушальнікам рэжыму адбыцця пакарання. Алесь Бяляцкі не прыняў на сябе пісьмовых абавязальніцтваў выправіцца, г.зн. прызнаць сваю віну, не бярэ ўдзелу ў самадзейным аб’яднанні (СА), мае матэрыяльныя запазычанасці (29 сакавіка суд Першамайскага раёна Мінска па грамадзянскім зыску падаткавай інспекцыі Першамайскага раёна вырашыў спагнаць дадаткова са зняволенага праваабаронцы больш за 140 мільёнаў рублёў пені — за несвоечасовую ўплату сумы запазычанасці. Гэтыя абставіны паўплывалі на абмежаванне ў спатканні з жонкай (адныя суткі замест трох), на змяншэнне аб’ёму прадуктовай перадачы з 30 да 15 кг., адменены дадатковыя 5 кг гародніны і садавіны на летні перыяд. 27 чэрвеня Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў скаргу, пададзеную ад імя Алеся Бяляцкага ягонай жонкай Наталляй Пінчук і Антуанам Бернарам, Генеральным дырэктарам Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH). У звароце абскарджваюцца: неправамерныя абмежаванні права на свабоду асацыяцыі: адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Вясна» ў 2007 і 2009 гадах, афіцыйнае папярэджанне, вынесенае А. Бяляцкаму Генеральнай пракуратурай за ажыццяўленне ім дзейнасці ад імя незарэгістраванага грамадскага аб'яднання ў 2011 годзе, а таксама ўжыванне крымінальнай адказнасці па абвінавачанні ў нявыплаце падаткаў са сродкаў, атрыманых і выдаткаваных для легітымных мэтаў дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна»; парушэнні права на справядлівае судовае разбіральніцтва; парушэнне права на свабоду і асабістую недатыкальнасць пры ўжыванні і працягненні меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту ў ходзе вытворчасці папярэдняга расследавання і разгляду крымінальнай справы па абвінавачванні А. Бяляцкага ў судзе.

18 чэрвеня віцебскі актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Сяргей Каваленка, пакараны за парушэнне рэжыму адбывання «хатняй хіміі», які адбывае пакаранне ў магілёўскай калоніі № 19, быў

змешчаны ў штрафны ізалятар нібыта за канфлікт з іншым зняволеным. Палітвязень знаходзіцца ў адмыслова строгіх умовах утрымання: адміністрацыя персанальна правярае ягоную тумбачку, за ім усталяваны персанальны нагляд, яго не пускаюць на спортпляцоўку. Яму залічаны два парушэнні.

27 чэрвеня экс-кандыдат у прэзідэнты, палітвязень Мікалай Статкевіч змешчаны ў штрафны ізалятар Магілёўскай турмы №4 на 10 сутак. Гэта хутчэй за ўсё звязана з рэакцыяй палітвязня на правакацыю супраць яго, калі ў камеру да экс-кандыдата падсаджвалі ВІЧ-інфікаванага, які двойчы рэзаў сабе вены. Стала таксама вядома аб спробах прызнаць Мікалая Статкевіча схільным да суіцыду. Раней экс-кандыдат быў прызнаны «злосным парушальнікам парадку адбыцця пакарання», «схільным да нападу» і «да ўцёкаў».

## Пераслед праваабаронцаў



11 чэрвеня намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч атрымаў адмоўны адказ з Мінскага гарадскога суда на сваё патрабаванне аб прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці суддзі Алены Сямак, якая праігнаравала тэрміны разгляду ягонай скаргі, устаноўленыя ГПК Рэспублікі Беларусь, на незаконнасць унясення яго ў спіс невыязных. У адказе Валянціну Стэфановічу старшыня суда Уладзімір Пуцыла называе прычыну, па якой справа праваабаронцы не прызначана да разгляду ва ўстаноўленыя законам тэрміны — «загружанасць суддзі», таму «падставаў для прыцягнення суддзі суда Цэнтральнага раёна Мінска Сямак А.М. па ўказаных у скарзе довадах у цяперашні час не ўстаноўлена». Скаргу Валянціна Стэфановіча на дзеянні Міністэрства абароны па незаконным абмежаванні права на выезд за межы Рэспублікі Беларусь суддзя Алена Сямак павінна была разгледзець не пазней за 26 красавіка. 26 чэрвеня праваабаронца патэлефанаваў у канцылярыю суда Цэнтральнага раёна, каб даведацца, ці вызвалілася суддзя Алена Сямак. У адказ пачуў, што суддзя Сямак, разам з сакратаркай, знаходзіцца ў адпачынку да 13 ліпеня. Валянцін Стэфановіч таксама атрымаў адказ са Следчага камітэта, куды ён накіраваў заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы, бо мае падазрэнні наконт наўмысных злачынных дзеянняў, скіраваных на незаконнае абмежаванне ягоных канстытуцыйных правоў, не выключаючы службовага падлогу, які выражаецца ў незаконным унясенні ягоных звестак у банк дадзеных грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, якім часова абмежавана права выезду. Начальнік аддзела па працы са зваротамі

грамадзян галоўнага ўпраўлення арганізацыі і забяспячэння расследавання злачынстваў Мікалай Данілюк, за чыім подпісам прыйшоў адказ, лічыць, што дадзеная справа знаходзіцца не ў кампетэнцыі Следчага камітэта.

21 чэрвеня дырэктара ІАУ «Платформа» Андрэя Бандарэнку выклікалі ў пракуратуру г.Мінска, дзе яму было вынесена папярэджанне за нібыта дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. Падставай для папярэджання паслужыў зварот ІАУ «Платформа» ў Міжнародную федэрацыю хакея з заклікам не праводзіць Чэмпіянат свету па хакеі ў 2014 г. на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, калі не будуць вызвалены ўсе палітычныя зняволеныя і не спыняцца рэпрэсіі ў дачыненні да праваабаронцаў, журналістаў і актывістаў грамадзянскай супольнасці. Пракуратура ўбачыла ў звароце «загадзя ілжывыя звесткі аб палітычным і сацыяльным становішчы Рэспублікі Беларусь, прававым становішчы грамадзян у Рэспубліцы Беларусь, што дыскрэдытуюць Рэспубліку Беларусь або яе органы».

22 чэрвеня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска скончыўся разгляд скаргі праваабаронцы Гары Паганяйлы да МУС і Мінюста. Начальнік Дэпартамента грамадзянства і міграцыі МУС Аляксей Бягун агучыў выбачэнні ад імя МУС за памылковае ўнясенне праваабаронцы ў спіс невыязных і даставіў у суд даведку пра тое, што Гары Паганяйла выключаны з базы дадзеных асобаў, якім абмежаванае права на выезд. Нягледзячы на тое, што дзеянні МУС фактычна прызнаныя незаконнымі, суд прызнаў скаргу праваабаронцы неабгрунтаванай і адмовіў у прыцягненні да крымінальнай адказнасці службовых асобаў, якія ўключылі яго ў спіс невыязных і тым самым абмежавалі ягоныя канстытуцыйныя правы.

## Палітычна матываваны прызыў у войска, незабеспячэнне права на альтэрнатыўную грамадзянскую службу

8 чэрвеня ў судзе Лідскага раёна адбылося судовае паседжанне пад старшынствам суддзі Ермаковіч, на якім разглядалася скарга Андрэя Чарнавусава, які дабіваецца магчымасці праходжання альтэрнатыўнай грамадзянскай службы ў войску, на рашэнне прызыўной камісіі. Інтарэсы прызыўной камісіі прадстаўлялі адразу 3 члены камісіі, у тым ліку старшыня. Пасяджэнне доўжылася каля 1,5 гадзін, у ходзе якога асаблівы акцэнт рабіўся на перакананнях маладога чалавека. У рэшце рэшт суд не задаволіў скаргу Андрэя, спасылаючыся на адсутнасць механізма праходжання альтэрнатыўнай

службы. Андрэй Чарнавус збіраецца абскардзіць гэтае рашэнне ў судзе Гродзенскай вобласці.

14 чэрвеня ў судзе Нясвіжскага р-на адбылося судовае паседжанне па скарзе актывіста «Маладога Фронту» Міхаіла Мускага, які гвалтоўна быў адпраўлены ў войска непасрэдна з ізалятара часовага ўтрымання і служыць на Лепельшчыне, на дзеянні Нясвіжскай прызыўной камісіі. Пры гэтым, заява актывіста на альтэрнатыўную грамадзянскую службу была праігнараваная. Першае судовае паседжанне адбылося 1 чэрвеня, але паколькі не была забяспечана прысутнасць самога Мускага, суддзя Марына Дунаева пастанавіла выклікаць на наступнае паседжанне самога заяўніка. Міхаіла Мускага ў ліку іншых актывістаў «Маладога Фронту» затрымалі 26 красавіка пасля заканчэння акцыі «Чарнобыльскі шлях — 2012». На наступны дзень ён быў прызнаны судом Савецкага раёна вінаватым у дробным хуліганстве і прыгавораны да 15 сутак арышту. Актывіст павінен быў выйсці на волю 11 траўня, аднак суд Маскоўскага раёна прыгаварыў яго яшчэ да пяці сутак арышту, падчас адбыцця якіх быў гвалтоўна накіраваны ў войска. У выніку судовага разгляду суддзя адмовіла Міхаілу Мускаму у задавальненні ягонай скаргі на незаконны прызыў у войска. Палітжаўнер, які 16 чэрвеня павінен прыняць вайсковую прысягу, заявіў, што ў знак пратэсту супраць незаконнага прызыву гэтага рабіць не будзе.



Нягледзячы на тое, што права грамадзян на праходжанне альтэрнатыўнай грамадзянскай службы гарантавана Канстытуцый Рэспублікі Беларусь, аднак закон аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе дагэтуль не прыняты.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

5 чэрвеня старшыня Пастаяннай камісіі па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Палаты прадстаўнікоў М. Л. Самасейка паведаміў салігорскім грамадскім актывістам, што ў беларускім заканадаўстве з'явіцца вызначэнне паняцця «катаванне». Гэта стала адказам на зварот некалькіх салігорцаў аб увядзенні ў беларускае крымінальнае заканадаўства паняцця «катаванне» і адказнасці за гэтае злачынства. Таксама ад дэпутатаў патрабавалі пачаць распрацоўку Закону супраць катаванняў.

14 чэрвеня старшыня праваабарончага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак накіраваў спецдакладчыку ААН па ката-

ваннях просьбу аб наведванні Цэнтра ізаляцыі праваапарушальнікаў Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, дзе зняволеныя знаходзяцца ў жудасных, бесчалавечных умовах. Праваабаронца (які сам адбываў двойчы за апошнія паўгады арышты ў гэтым ЦІП) просіць спецдакладчыка ААН па катаваннях запатрабаваць ад Беларусі прывесці ўмовы ўтрымання ў гэтай турме ў адпаведнасці з мінімальнымі стандартнымі правіламі ААН абыходжання са зняволенымі.

18 чэрвеня Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Платформа» прэзентавала ў Мінску Маніторынгавую справаздачу пра праблемы ў галіне ўмоваў утрымання зняволеных у пенітэнцыярных установах Рэспублікі Беларусь 2011-2012 гг. Як паведаміў кіраўнік «Платформы» Андрэй Бандарэнка, падставай для гэтага сталі выпадкі паступлення інфармацыі аб фактах парушэння законных правоў зняволеных, якія пачасціліся, і ігнараванне наглядными органамі скаргаў на парушэнні адміністрацыямі папраўчых калоній і СІЗА дзеючага заканадаўства: «У мінулым годзе мы паведамлялі пра факты жорсткага абыходжання і збіцця зняволеных як мінімум у дзвюх калоніях — у Івацэвічах і Глыбокім. Там вязні збіваліся настолькі жорстка, што іх былі вымушаныя адправіць у грамадзянскія бальніцы на аперацыі. Тым не менш, на ўсе нашыя звароты з гэтай нагоды пракуратура адказала, што праведзеная праверка такіх фактаў не ўстанавіла. Разам з тым, зняволеныя, якія выходзяць з калоній, пацвердзілі наяўнасць гэтых збіццяў, а таксама тое, што яны распавядалі правяраючым пра гэтыя факты».

28 чэрвеня маці затрыманага 30 траўня ў Мінску па падазрэнні ў крадзяжы Паўла Плаксы паведаміла пра факты выкарыстання ў адносінах да яе сына катаванняў і жорсткага абыходжання. На працягу 3 дзён супрацоўнікі Ленінскага РУУС сталіцы сістэматычна і жорстка збівалі затрыманага, прымушаючы прызнацца ў крадзяжы: білі рукамі і нагамі, прыгалі ў яго на спіне, неаднаразова рабілі «ластаўку» (сціскалі кайданкамі рукі за спінай, а ногі прасоўвалі пад рукі і звязвалі іх дротам), ляжачага збівалі дубінкамі. Калі стамляліся біць — апраналі на галаву цэлафанавы пакет і перакрывалі паветра. Пабоі змяняліся псіхалагічным ціскам: супрацоўнікі міліцыі пагражалі затрымаць таксама і ягоную грамадзянскую жонку, а двухмесячнае дзіця змясціць ў бальніцу. Зверствы «праваахоўнікаў» спыняліся толькі на час прыходу следчых альбо адвакатаў. Наколькі па-варварску катавалі Паўла міліцыянты, сведчаць штодзённыя выклікі брыгады дактароў хуткай дапамогі: 31 траўня, 1 і 2 чэрвеня. Урэшце медыкі, пасля правядзення медагляду адвезлі

6

збітага Паўла ў 5 гарадскую клінічную бальніцу. Калі сляды катаванняў схаваць стала немагчыма, паколькі падазраваны не мог удзельнічаць у следчых дзеяннях, 5 чэрвеня была праведзеная судова-медыцынская экспертыза. Неабгрунтаванае прымяненне фізічнай сілы і жорсткія катаванні з боку супрацоўнікаў міліцыі маці і бацька Паўла Плаксы абскарджваюць у самых розных інстанцыях. Яны паведамілі аб катаваннях ў пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ, у Галоўнае ўпраўленне ўласнай бяспекі МУС, у Пракуратуру Ленінскага раёна. Пракуратура перадаслала скаргу бацькоў у Следчы камітэт Ленінскага раёна. Следчы І. Мукасей адпісаў бацькам, што «заява з нагоды незаконных дзеянняў супрацоўнікаў Ленінскага РУУС Мінска ў дачыненні да вашага сына П. Плаксы далучана да матэрыялаў праверкі ад 8 чэрвеня. Пра вынікі праверкі вам будзе паведамлена дадаткова».

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні



1 чэрвеня ў Гродна, у дзень адкрыцця фестывалю нацыянальных культур, міліцыя затрымала 21 чалавека — удзельнікаў пікету ў абарону польскамоўнага навучання ў сярэдняй школе №36. На большасць затрыманых склалі пратаколы пра адміністрацыйныя правапарушэнні. У гэты ж дзень Ігара Банцара адвезлі ў суд, дзе суддзя Ксенія Стасюкевіч асудзіла да 13 сутак адміністрацыйнага арышту (верагодна, актывіста асудзілі адразу з той мэтай, каб пасадзіць у вязніцу і схаваць сляды збіцця на твары). Суды над іншымі затрыманымі працягнуліся пазней. 6 чэрвеня журналістку Гражыну Шалкевіч суддзя Наталля Козел аштрафавала на 50 базавых велічынь за нібыта ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Яшчэ адну журналістку Юлію Каляду аштрафавалі на 25 базавых велічынь, пенсіянерку Генрыку Стрэмалкоўскую — на 17 велічынь, Станіславу Цівунчык — на 20, Ірэну Міклаш — на 15. Асудзілі да штрафу і выпадковага мінака Пятра Табалу (23 базавыя велічыні), які праходзячы міма, заступіўся за жанчыну ў час гвалтоўнага «хапуну». 7 чэрвеня суддзя Ленінскага раённага суда Наталля Козел вынесла штраф у памеры 45 базавых велічынь Эдварду Дмухоўскаму.

5 чэрвеня актывістка кампаніі «Наш дом» Таццяна Якаўлева, якая накіроўвалася ў пасёлак Коханава, дзе ў гэты дзень планаваліся дзіцячыя спаборніцтвы па рыбнай лоўлі і краязнаўчы паход, была затрымана на аршанскім аўтавакзале. Прычынай затрымання супрацоўнікі міліцыі назвалі падазрэнне ў перавозцы трацілу. У Аршанскім ГАУС, куды

даставілі затрыманую, быў праведзены яе асабісты дагляд . У выніку высветлілася, што актывістка везла 29 маек з лагатыпам «Наш Дом», а таксама некалькі флікераў, траціл не аказалася. Праз тры гадзіны затрыманую прыйшлося адпусціць.

21 чэрвеня ў Мінску былі затрыманы актывісты кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Арцыбашаў і Павел Вінаградаў. А. Арцыбашава затрымалі каля 13.00 у раёне вуліцы Няміга перад пачаткам чарговага палітычнага флэш-мобу «Мы прыйшлі, каб нас зноў пасадзілі» з удзелам плюшавых цацак. Паўла Вінаградава каля дзесяці вечара забралі з ягонай кватэры. Затрыманне праводзілі супрацоўнікі Цэнтральнага РАУС Мінска, пры гэтым не патлумачыўшы прычыну затрымання. П. Вінаградава адвезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. 22 чэрвеня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска былі разгледжаныя адміністрацыйныя справы актывістаў па абвінавачанні ў «дробным хуліганстве» (арт. 17.1 КаАП РБ). Суддзя Вераніка Ткачова вынесла пастанову аб арышце А. Арцыбашава на 15 сутак. Павел Вінаградаў асуджаны рашэннем суддзі Максіма Церашкова таксама на 15 сутак арышту.



26 чэрвеня ў другой палове дня актывіста Івана Амельчанку супрацоўнікі міліцыі затрымалі дома ў Мінску, а 27 чэрвеня суд пакараў адміністрацыйным арыштам на 15 сутак за брыдкаслоўе. Гэты арышт стаў працягам бязлітаснай помсты актывісту за ягоны перфоманс 26 красавіка, калі ён падчас «Чарнобыльскага шляху» ў сталіцы стаў каля пераапранутага аператыўніка з самаробным плакатам «Мусарок». 15 траўня Іван Амельчанка вырашыў самастойна прыйсці ў міліцыю, паколькі яго цягам апошніх тыдняў пастаянна спрабавалі выклікаць праз бацькоў для дачы тлумачэнняў па справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года. У аддзяленні міліцыі на Івана склалі пратакол па абвінавачанні ў дробным хуліганстве, і ў выніку суд пакараў яго арыштам на 15 сутак. 30 траўня Іван Амельчанка меўся выйсці з ЦІП, аднак яго адразу ж завезлі ў Маскоўскі РАУС, дзе склалі пратакол за «хуліганства» (арт. 17.1 КаАП) і асудзілі на 10 сутак. Такім чынам, Іван Амельчанка за няпоўныя два месяцы правёў за кратамі 40 сутак.

30 чэрвеня ў Мінску ад самага ранку супрацоўнікі міліцыі пачалі ажыццяўляць затрыманні найбольш актыўных прадстаўнікоў моладзевых рухаў.

У 7 гадзін раніцы з дома ў Сухарава забралі і адвезлі ў Фрунзенскі РУУС актывіста моладзевага крыла «Гавары праўду» «Zмена» Віталя

Васількова. У выніку на маладога чалавека склалі пратакол па арт. 17.1 КаАП РБ. Судовы разгляд справы вяла суддзя суда Фрунзенскага раёна Людміла Лапо. У ходзе пасяджэння яна адхіліла ўсе хадайніцтвы адваката, у тым ліку і хадайніцтва аб выпатрабаванні відэазапісаў з камер назірання, паколькі, са слоў сведкаў-міліцыянтаў, правапарушэнне адбылося ў будынку РУУС. Прысуд — 5 сутак арышту.

Зранку ў пошуках актывіста Алеся Крата дадому да ягонай сястры прыйшлі міліцыянты.

Дахаты да актывіста беларускіх нацыянал-бальшавікоў Дзмітрыя Паліенкі ў 7.30 прыходзілі міліцыянты, аднак дома яго не засталі. Па атрыманай актывістам інфармацыі, супрацоўнікі міліцыі хацелі нібыта апытаць яго адносна бойкі, якая адбылася ў 3 гадзіны ночы каля пад'езда і дзеля гэтага нібыта апытваюцца ўсе жыхары. Аднак Дзмітрыю ўдалося высветліць, што ні да кога з суседзяў ніхто з апытаннямі не прыходзіў. Вядома пра некалькі выпадкаў патрапіць у кватэры да актывістаў гэтага руху, каля іх кватэраў працяглы час дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным.

6

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі

1 чэрвеня ў мінскім дзіцячым парку імя Горкага супрацоўнікі міліцыі затрымалі тэлежурналістак Таццяну Белашову і Вольгу Чайчыц, якія рабілі рэпартаж з нагоды Дня абароны дзяцей. Затрыманыя былі дастаўленыя ў Партызанскі РУУС сталіцы, дзе ў іх узялі тлумачэнні. Пасля гэтага ў РУУС з'явіўся супрацоўнік КДБ, які пажадаў пагаварыць з кожнай з дзяўчат. На просьбу Чайчыц назвацца ён не адрэагаваў, ад чаго Вольга адмовілася з ім размаўляць. Прыкладна гэтак жа павяла сябе і Таццяна Белашова. У выніку дзяўчат адпусцілі з міліцыі праз тры гадзіны.

6 чэрвеня ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебска разглядалася справа Сяргея Кандакова. Яго судзілі на падставе пратакола, складзенага 2 траўня міліцыянтамі за 18 асобнікаў зарэгістраванай у Смаленску газеты «Витебский курьер», якія ён збіраўся параскладваць па паштовых скрынках. Суддзя Іна Грабоўская прызнала распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы вінаватым у парушэнні часткі 2 артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях («незаконны распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі») і прысудзіла яму штраф у памеры 20 базавых велічынь.

22 чэрвеня суддзя суда Маскоўскага раёна Мінска Таццяна Матыль прысудзіла журналісту «Еўрарадыё» Паўлу Свярдлову, абвінавачанаму ў лаянцы матам, 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Разгляд справы журналіста адбываўся без адваката, якога ў залу судовых пасяджэнняў так і не пусцілі на падставе таго, што журналіст нібыта адмовіўся ад яго паслуг. Адвакату паведамілі, што азнаёміцца з матэрыяламі справы ён зможа пасля вынясення пастановы. Паўла Свярдлова ў гэты дзень у 10 раніцы затрымалі пяцёра невядомых у цывільным і без усялякіх тлумачэнняў закінулі ў мікрааўтобус. У 14 гадзіне журналіст змог патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць, што знаходзіцца ў судзе Маскоўскага раёна, дзе яго будуць судзіць па артыкуле 17.1 КаАП РБ за «дробнае хуліганства».

## Абмежаванне свабоды сходаў

6 чэрвеня праваабаронца Уладзімір Малей, які падаваў у Маларыцкі райвыканкам заяву на правядзенне пікета «За сумленныя выбары без Лукашэнкі», атрымаў адмоўны адказ. У лісце за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Вадзіма Шпетнага было сказана, што ў адпаведнасці з Законам «Аб масавых мерапрыемствах» не дазваляецца праводзіць падобныя мерапрыемствы бліжэй за 50 метраў ад будынкаў выканаўчых і распарадчых органаў. Між тым, заўважае маларыцкі чыноўнік, пікет планавалася правесці перад будынкам Дома культуры, дзе знаходзяцца аддзел культуры райвыканкама і ЗАГС. Акрамя таго, Вадзім Шпетны са спасылкай на той жа Закон «Аб масавых мерапрыемствах» паведаміў, што «у заяве неабходна ўказаць крыніцу фінансавання масавага мерапрыемства». 15 чэрвеня Уладзімір Малей падаў у суд Маларыцкага раёна скаргу на адмову райвыканкама ў правядзенні пікету.

12 чэрвеня ў Гродна прайшоў разгляд скаргі актывіста АГП Сяргея Ліса да гарвыканкама ў сувязі з забаронай пікета, які быў заяўлены на 15 траўня бягучага года. Суддзя Ленінскага раённага суда Ала Баўсук за паўгадзіны разгледзела справу і не задаволіла скаргу. Інтарэсы гарвыканкама прадстаўляў юрыст Леанід Жук. С. Ліс спрабаваў заявіць сваёй прадстаўніцай на судзе Аляксандру Васілевіч, але суддзя не задаволіла гэтае хадайніцтва.

18 чэрвеня грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча з адмовай у правядзеніі 24 чэрвеня пікета пад лозунгам «Спыніць

рэпрэсіўныя дзеянні ўладаў і чыноўнікаў». Гарвыканкам лічыць, што заяўнік парушыў арт. 6 Закона «Аб масавых мерапрыемствах». Праўда, якую канкрэтна норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў адмовіўся назваць.

19 чэрвеня ў судзе Ленінскага раёна Гродна завяршыўся адміністрацыйны працэс па скарзе старшыні гарадской арганізацыі АГП Аляксандры Васілевіч на дзеянні мясцовага гарвыканкама па забароне пікета 26 красавіка з мэтай ушанавання памяці ахвяраў Чанобыльскай катастрофы, а таксама прыцягнення ўвагі грамадскасці да пытанняў ядзернай бяспекі і экалогіі ў кантэксце будаўніцтва Астравецкай АЭС. Суддзя Людміла Жукоўская палічыла адмову мясцовых уладаў законнай і не задаволіла скаргу Васілевіч.

24 чэрвеня віцебскі праваабаронца Павел Левінаў атрымаў адмову ў правядзенні пікета з Кастрычніцкай раённай адміністрацыі. Праваабаронца планаваў правесці тры акцыі, і падаваў заяўкі ва ўсе тры раённыя адміністрацыі Віцебска. Акцыі планавалася правесці 26 чэрвеня ў Міжнародны дзень барацьбы супраць катаванняў з мэтай інфармавання грамадзян пра выкананне Рэспублікай Беларусь Канвенцыі супраць катаванняў, жорсткага і зневажальнага абыходжання. Калі з Кастрычніцкай раённай адміністрацыі праваабаронца адмову атрымаў, то з Першамайскай і Чыгуначнай за пяць дзён да акцыі, як гэта прадугледжана заканадаўствам, адказу так і не прыйшло.

24 чэрвеня грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета 1 ліпеня пад лозунгам «За выбары па законах і Канстытуцыі». Гарвыканкам лічыць, што Рыгор Грык парушыў арт. 6 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», праўда, якую канкрэтна норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў традыцыйна адмовіўся назваць. Заяўнік у сваёй заяве ўказаў, як патрабуе закон, мэту пікетавання, від мерапрыемства, месца, час і дату правядзення пікета, крыніцу фінансавання (асабістыя сродкі), мяркуемую колькасць удзельнікаў пікета — 3 чалавекі, заключыў пісьмовыя дамовы з гарадской міліцыяй, спецаўтабазай і гарадской паліклінікай па абслугоўванні масавага мерапрыемства.

30 чэрвеня аршанскія ўлады ў чарговы раз адмовілі прадстаўнікам партыі левых «Справядлівы свет» у дазволе на правядзенне масавых

мерапрыемстваў. У чацвёрты раз за апошнія месяцы актывісты гэтай партыі падалі заяўкі на правядзенне пікетаў супраць пагаршэння ўзроўню жыцця грамадзян. У заяўках у якасці месцаў пікетавання заяўнікі ўказалі пляцоўкі, спецыяльна дазволеныя гарвыканкамам як месца масавых акцый. Варта нагадаць, што Аршанскі гарвыканкам устанавіў правіла—заяўку на пікет ці мітынг можна падаць толькі разам з дамовамі на ахову ўдзельнікаў акцыі, медыцынскае абслугоўванне і ўборку тэрыторыі. КСУП «Аршанская спецаўтабаза» такую дамову заключыла, а вось галоўны ўрач УАЗ «Аршанская цэнтральная паліклініка» Уладзімір Плыткевіч даў адказ, што заключыць дамову аб медыцынскім абслугоўванні толькі пасля дазволу гарвыканкама. А гарвыканкам у сваю чаргу адмовіў у дазволе на пікетаванне, матывуючы адсутнасцю дамовы з УАЗ «Аршанская цэнтральная паліклініка».




Наталля Пінчук, жонка зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і ягоная сястра Вольга ў чарзе на перадачу ў Бабруйскую калонію. 06.04.2012 г.



Наста Палажанка пабралася шлюбам з палітвязнем Дзмітрыем Дашкевічам. Каля гарадзенскай турмы. 26.12.2012 г.




Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, на акцыі Салідарнасці ў Варшаве. 19.12.2012 г.




Салідарнасць з Мікалаем Статкевічам. Плошча перад Камароўскім рынкам у Мінску, 22.09.2012 г.




Васіль Парфянкоў (справа) каля суда Першмайскага раёна Мінска. Падтрымаць палітвязня прыйшоў экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў (злева). 29.05.2012 г.



Павіншаваць з Днём нараджэння палітвязня Паўла Севярынца ў спец-камендатуру ў в. Куплін Пружанскага раёна прыехалі сябры. 30.12.2012 г.



Вызвалены напярэдадні экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў з сям’ёй прыехаў сустракаць на вакзал свайго паплечніка Дзмітрыя Бандарэнку. Мінск, 15.04.2012 г.



Сустрэча Дзмітрыя Бандарэнкі на аўтавакзале «Усходні» ў Мінску пасля вызвалення з калоніі. 15.04.2012 г.



Андрэй Саннікаў (справа) і Дзмітрый Бандарэнка пасля першай прэс-канферэнцыі на волі. Мінск, 17.04.2012 г.



Судовы працэс над актывістам Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі-БНФ Сяргеем Каваленкам. Віцебск, 21.02.2012 г.




Алена Каваленка, жонка зняволенага Сяргея Каваленкі, са старэйшым сынам Валянцінам падчас акцыі за вызваленне мужа і бацькі каля будынка драматычнага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску. 06.04.2012 г.




Павел Сырамалотаў пасля вызвалення з магілёўскай калоніі вяртаецца дадому ў Бабруйск. 27.09.2012 г.




Салідарнасць з палітвязнямі. Бабруйск.



Фотажурналіст Антон Сурапін вярнуўся дадому пасля выхаду з СІЗА КДБ. Слуцк, 17.08.2012 г.



Рыэлтар Сяргей Башарымаў больш за месяц правёў у СІЗА КДБ па справе «швецкага плюшавага дэсанту». Мінск, жнівень 2012 г.




Група шведаў з рызыкай для жыцця правяла смелую акцыю ў падтрымку беларускага руху за свабоду. 03.07.2012 г.



Фотасесія беларускіх журналістаў з цацачным мядзведзікам
у знак салідарнасці з фатографам Антонам Сурапіным.
Мінск, 17.07.2012 г.



Фатограф Юлія Дарашкевіч перад пачаткам судовага паседжання.
Абвінавачана разам з журналісткай Ірынай Козлік у «пікетаванні шляхам фатаграфавання» за фотаздымкі з плюшавым мядзведзікам.
Суд Савецкага раёна Мінска, 09.08.2012 г.




Затрыманне журналістаў падчас выканання прафесійных абавязкаў. Акцыя моладзевай арганізацыі «Zмена» каля ўніверсаму «Фрунзенскі» ў Мінску. 18.09.2012 г.




Збіты падчас затрымання фотажурналіст Associated Press Сяргей Грыц. 18.09.2012 г.



Журналіст «Еўрарадыё» Павел Свярдлоў выходзіць Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна ў Мінску. Журналіст 22 чэрвеня 2012 года быў арыштаваны на 15 сутак.




Абвінавачаны ў паклёпе на прэзідэнта гарадзенскі карэспандэнт «Gazety Wyborczej» Андрэй Пачобут — «Журналіст года». Віншаванні «невыязному» калегу праз скайп перадае журналіст Радыё Свабода Алег Груздзіловіч. 10.12. 2012 г.



Прэс-канферэнцыя кіраўніка «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Жаны Літвіной і журналіста Міхаіла Янчука ў сувязі з уведзенай супраць іх забаронай на выезд з краіны. 15.03.2012 г.




Актывіст «Zмены» Павел Вінаградаў падчас пікета заклікае не ўдзельнічаць у датэрміновым галасаванні. Універсам «Фрунзенскі» ў Мінску, 17.09.2012 г.




Распаўсюджаная форма акцый пратэсту на працягу года — з удзелам цацак. Арганізатары — моладзевае крыло «Zмена» кампаніі «Гавары праўду». У Міжнародны дзень правоў чалавека насупраць Нацыянальнай бібліятэкі. Мінск, 10.12.2012 г.




Неаднаразова на працягу года адміністрацыйна арыштаваны Іван Амельчанка на Чарнобыльскім шляху ў Мінску. 26.04.2012 г.




Актывіст «Zмены» Аляксандр Арцыбашаў. Чарнобыльскі шлях-2012. Мінск, 26.04.2012 г.




Маладафронтаўцы Мікалай Дземідзенка (злева) і Кася Галіцкая (у цэнтры) на Чарнобыльскім шляху. 26.04.2012 г.



Затрыманыя па дарозе на суд да Сяргея Каваленкі маладафронтаўцы Міхаіл Мускі (злева) і Дзмітрый Крэмянецкі (справа). Суд Віцебскага раёна. 22.02.2012 г.



Маладафронтавец Міхаіл Мускі, гвалтоўна прызваны ў войска. Верасень 2012 г.



Дзень Волі
ў Мінску ў 94-ю
гадавіну
абвяшчэння БНР.
25.03.2012 г.




Чарнобыльскі
шлях-2012. Мінск,
26.04. 2012 г.



Штогадовая акцыя ўшанавання паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы.
27.10.2012 г.



Кіраўнік незалежнага прафсаюза прадпрыемства «Граніт» з Мікашэвічаў Алег Стахаевіч (злева). 2012 год.




Мастак Алесь Пушкін прыйшоў у Вярхоўны суд падаваць скаргу з партрэтам Расціслава Лапіцкага. 04.12.2012 г.




Вернікі «Новага жыцця» праводзяць штодзённыя малітвы за захаванне будынка. Мінск, 29.11.2012 г.




Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнні ў справе расстралянага Уладзіслава Кавалёва. На здымку — маці пакаранага Любоў Кавалёва. 22.11.2012 г.




Праваабаронца Аляксей Валабуеў накіроўвае А. Лукашэнку звароты з заклікам да ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Салігорск, 28.03.2012 г.




Праваабаронца Алег Волчак, асуджаны судом Цэнтральнага раёна Мінска на 4 сутак арышту па абвінавачанні ў нецэнзурнай лаянцы. 30.01.2012 г.



Праваабаронцы Віктар Сазонаў (справа), Уладзімір Хільмановіч (у цэнтры) і Раман Юргель (злева) падчас акцыі салідарнасці са зняволеным Алесем Бяляцкім. Гродна, 10.12.2012 г.




Сустрэча беларускіх праваабаронцаў са спецдакладчыкам ААН па Беларусі Міклашам Харашці. Вільня, 12—13 лістапада 2012 г.




Прэзідэнт FIDH Суэр Белхассен падчас усталявання партрэта зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага перад мэрыяй 11-ай акругі г. Парыжа. 11.05.2012 г.




Праваабаронцы кіруюцца ў Адміністрацыю прэзідэнта, каб перадаць петыцыю з патрабаваннем вызваліць Алеся Бяляцкага і ўсіх палітвязняў. Мінск, 03.08.2012 г.










Канфіскацыя офіса
Праваабарончага цэнтра «Вясна».
Мінск, пр. Незалежнасці
78А-48, 26.11.2012 г.







Салідарнасць
з палітвязнямі
ў Оршы, Слоніме,
Полацку. 2012 год.



# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Ліпень-жнівень 2012 года

У ліпені-жніўні сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пагаршалася. Не апраўдаліся спадзяванні на змякчэнне палітычнага клімату падчас вядзення кампаніі па выбарах дэпутатаў парламента. Не толькі ні адзін з трынаццаці палітычных вязняў не быў вызвалены, але гэты спіс быў яшчэ папоўнены новымі прозвішчамі.

Васіль Парфянкоў, які ў лютым 2011 года быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, а ў жніўні таго ж года памілаваны згодна з указам прэзідэнта, быў накіраваны адбываць новае пакаранне ў выглядзе 6 месяцаў арышту за парушэнне ўмоваў прафілактычнага нагляду, вызначанага судом. Больш за месяц у следчым ізалятары КДБ утрымліваліся журналіст Антон Сурапін і рыэлтар Сяргей Башарымаў, якіх абвінавачваюць у садзейнічанні «незаконнаму перасячэнню дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь» — такім чынам было расцэнена размяшчэнне журналістам фотаздымкаў палёту шведскага самалёта ў беларускай паветранай прасторы, а рыелтарам — здача ў арэнду кватэры грамадзянам Швецыі. За «паўторнае парушэнне патрабаванняў адміністрацыі калоніі» («злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, які выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі) да яшчэ аднаго году пазбаўлення волі быў асуджаны палітвязень Дзмітрый Дашкевіч, які адбывае пакаранне ў выглядзе двух гадоў зняволення паводле абвінавачання ў здзяйсненні злоснага хуліганства напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. З канца чэрвеня так і не былі разгледжаны прашэнні аб памілаванні, пададзеныя на імя кіраўніка дзяржавы палітвязнямі Сяргеем Каваленкам і Паўлам Сырамалотавым. Фактычна ўсе палітычныя зняволеныя маюць статус «злосных парушальнікаў рэжыму адбыцця пакарання», што цалкам пазбаўляе іх надзеі на прымяненне ў адносінах да іх амністыі і ўмоўнадатэрміновага вызвалення, яны рэгулярна змяшчаюцца ў карцэр і падвяргаюцца іншым мерам уздзеяння ў месцах пазбаўлення волі.

Акцыя шведаў, у выніку якой былі арыштаваны А. Сурапін і С. Башарымаў, выклікала дыпламатычны крызіс у адносінах паміж Беларуссю і Швецыяй, які завершыўся высылкай шведскага амбаса-

дара з краіны і адкліканнем беларускага ў Стакгольме, прыпыненнем працы амбасадаў. Гэты канфлікт стаў нагодай для склікання 10 жніўня пазачарговага пасяджэння Камітэта па палітыцы і бяспецы Савета ЕС, старшыня якога Олаф Скоог па выніках заявіў, што Еўрапейскі Саюз мае намер у кастрычніку перагледзець абмежавальныя меры адносна Беларусі, адзначыўшы, што гэтая сітуацыя закранае не толькі адносіны Беларусі са Швецыяй, але і яе адносіны з ЕС.

Адначасова генеральны сакратар Савета Еўропы Турб'ерн Ягланд заклікаў улады Беларусі перагледзець рашэнне аб закрыцці амбасады Швецыі і вярнуцца да дыялогу: «Рашэнне прэзідэнта Лукашэнкі аб высылцы шведскага пасла з Беларусі за яго падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека ў краіне ніяк не садзейнічае спыненню ізаляцыі Беларусі ад астатняй часткі Еўропы. Гэтая сітуацыя, на жаль, дэманструе, што беларускія ўлады працягваюць з непавагай ставіцца да базавых дэмакратычных прынцыпаў і правоў чалавека». Пры гэтым генеральны сакратар СЕ падкрэсліў, што Савет Еўропы, як «захавальнік дэмакратыі і правоў чалавека, прадоўжыць рабіць усё магчымае для прасоўвання правоў чалавека і дэмакратыі ў Беларусі».

Гэта вельмі важныя заявы, паколькі развіццё сітуацыі з правамі чалавека разглядаецца беларускімі ўладамі выключна ў палітычнай плоскасці ўзаемадачыненняў з Еўрасаюзам і іншымі краінамі Еўропы. З гэтага пункту гледжання прызначэнне 20 жніўня міністрам замежных справаў Уладзіміра Макея, які з'яўляецца «архітэктарам лібералізацыі 2008-2010 гг.» і адным з найбольш актыўных перамоўшчыкаў з Захадам, некаторымі экспертамі было расцэнена як сігнал да магчымага ўзнаўлення палітычнага дыялогу з краінамі Еўропы. Гэтае меркаванне падмацоўваецца словамі А. Лукашэнкі, што «праца па паляпшэнні пазітыўнага ўспрымання Беларусі за мяжой, дасягненні лепшай пазнавальнасці краіны ў свеце патрабуе якаснага прарыву». Варта адзначыць, што Еўрасаюз неаднойчы заяўляў, што не будзе мяняць сваю цвёрдую палітыку абмежаваных адносінаў з афіцыйным Мінскам, пакуль за кратамі знаходзяцца палітвязні.

У ліпені-жніўні была працягнута практыка адвольных затрыманняў і арыштаў па надуманых падставах грамадскіх і палітычных актывістаў. Да традыцыйных формаў пераследу дадаліся рэпрэсіўныя захады, звязаныя з выбарчай кампаніяй: асабліваму ціску падвяргаліся прыхільнікі байкоту выбараў, удзельнікі выбарчай кампаніі, назіральнікі. Па ўсёй краіне былі забароненыя масавыя мерапрыемствы, накіраваныя на інфармаванне пра несвабодны характар выбараў, а таксама з заклікамі да байкоту.

Асаблівы ціск быў накіраваны на праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі. Ні адна з акцый салідарнасці са зняволеным кіраўніком Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесем Бяляцкім і іншымі палітвязнямі, запланаваных праваабаронцамі па ўсёй краіне, не была дазволена. Формы пераследу праваабаронцаў выкарыстоўваліся вельмі разнастайныя: гвалтоўнае выкраданне з адвольным затрыманнем, выклікі і пастаноўка на прафілактычны ўлік КДБ, адміністрацыйны пераслед, ініцыяванне закрыцця арганізацыі. Адзіным станоўчым паказчыкам у стаўленні да праваабаронцаў стала іх выключэнне са спісаў асобаў, якім забаронены выезд з краіны.

Ціску і пераследу працягвалі падвяргацца журналісты. Распаўсюджанай заставалася практыка крымінальнага пераследу за выказванне меркаванняў, затрыманняў і пакаранняў у адміністрацыйным парадку за выкананне сваіх прафесійных абавязкаў, вынясенне пракурорскіх папярэджанняў.

Важнай ацэнкай сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі стала прыняцце 5 ліпеня Саветам па правах чалавека ААН рэзалюцыі, у якой утрымліваецца заклік да беларускіх уладаў «неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітвязняў», правесці «поўнае і транспарэнтнае расследаванне ўсіх паведамленняў аб прымяненні катаванняў і негуманнага абыходжання з палітзняволенымі», «неадкладна спыніць практыку адміністрацыйных затрыманняў прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці, журналістаў і праваабаронцаў і не перашкаджаць іх свабоднаму перамяшчэнню, у тым ліку выезд за межы краіны». Дакумент заклікаў афіцыйны Мінск выканаць усе рэкамендацыі, якія ўтрымліваюцца ў дакладзе Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека аб сітуацыі ў Беларусі, які быў прадстаўлены ў ходзе сесіі 27—28 чэрвеня. Згодна з гэтай жа рэзалюцыяй быў уведзены мандат Спецыяльнага дакладчыка, у межах якога спецдакладчык зможа весці пастаянны дыялог з беларускім бокам па пытаннях становішча ў галіне правоў чалавека ў краіне, прадстаўляць кампетэнтны аналіз існуючых праблем, грунтуючыся на якім, зможа прапаноўваць шляхі паляпшэння рэалізацыі і абароны правоў чалавека ў Беларусі ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, прызнанымі рэспублікай. У сваю чаргу сталы прадстаўнік Беларусі пры ААН у Жэневе Міхаіл Хвастоў абвінавáціў Еўрасаюз, які ініцыяваў мандат спецдакладчыка, у палітычнай матывацыі гэтага рашэння, заявіўшы: «Матывы гэтай ініцыятывы Еўрасаюза ніякім чынам не звязаны з правамі чалавека. ЕС такім чынам прасоўвае ў Савеце свой палітычны парадак дня і прымушае Вярхоўнага камісара дзейнічаць у гэтых мэтах. Галоўная задача, якую ставіць ЕС перад гэтым манда-

там, — гэта мэтанакіраваная антыўрадавыя дзейнасць у Беларусі пад прыкрыццём ААН». М. Хвастоў падкрэсліў, што Беларусь не прызнае спецдакладчыка і не будзе з ім узаемадзейнічаць.

У той жа час беларуская праваабарончая супольнасць ацаніла рашэнне Савета па правах чалавека ААН вельмі станоўча, расцаніўшы гэта як выразны сігнал міжнароднай супольнасці пра падтрымку правоў і свабод у краіне. Па меркаванні праваабаронцаў, Савет паказаў, што катаванні і беспакаранасць, сфабрыкаваныя справы і парушэнні свабоды слова, права на свабоду аб'яднання і іншыя масавыя парушэнні правоў чалавека не будуць успрымацца з маўчаннем і абыякавасцю, а галасы прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці стануць больш чутнымі.

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

6 ліпеня быў затрыманы і ўзяты пад варту ў СІЗА КДБ рыэлтар Сяргей Башарымаў, а 13 ліпеня — фатограф Антон Сурапін. 16 і 23 ліпеня адпаведна ім было прад'яўлена абвінавачванне па ч.6 арт.16 («дапамога ў здзяйсненні злачынства») і ч.3 арт. 371 («незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь») Крымінальнага кодэкса. Такім чынам КДБ Беларусі расцаніла размяшчэнне Антонам Сурапіным фотаздымкаў палёту шведскага самалёта ў беларускай паветранай прасторы, якое адбылося 4 ліпеня. Яшчэ больш абсурднымі выглядаюць абвінавачванні Сяргея Башарымава, які здаваў у арэнду кватэру грамадзянам Швецыі, у спрыянні пераходу дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь. Гэтыя арышты былі ўспрыняты як спроба перакласці адказнасць за неналежную ахову дзяржаўнай мяжы і паветранай прасторы краіны на звычайных грамадзян. Інфармацыя аб прад'яўленні абвінавачанняў А. Сурапіну і С. Башарымаву з'явілася на афіцыйным сайце Камітэта дзяржбяспекі толькі 7 жніўня. У ёй адзначалася: «У інтарэсах аб'ектыўнага расследавання крымінальнай справы і высвятлення ўсіх акалічнасцяў парушэння паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі Камітэтам дзяржаўнай бяспекі прапануецца падданым Швецыі, якія прынялі ўдзел у арганізацыі і ажыццяўленні незаконнага перамяшчэння праз Дзяржаўную мяжу, прыбыць у Мінск для ўдзелу ў следчых дзеяннях у якасці падазраваных, у тым ліку для правядзення вочных ставак. Па выніках будуць прынятыя канчатковыя адпаведныя працэсуальныя рашэнні ў дачыненні да беларускіх грамадзян, якія праходзяць па крымінальнай справе». Дадзенай заявай КДБ фактычна пацвердзіў, што С. Башарымаў і А. Сурапін па дадзенай

справе з'яўляліся закладнікамі. 17 жніўня А. Сурапін і С. Башарымаў былі вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. У паведамленні КДБ сказана: «Башарымаў С.А. і Сурапін А.А. застаюцца ў статусе абвінавачаных, паколькі неабходныя следчыя дзеянні, у тым ліку правядзенне вочнай стаўкі, не праведзеныя ў сувязі з адмовай падданых Швецыі з'явіцца ў следчае ўпраўленне. Канчатковыя працэсуальныя рашэнні ў дачыненні да грамадзян Беларусі, якія праходзяць па крымінальнай справе, будуць прыняты толькі пасля ўнясення поўнай яснасці ў абставіны расследаванага злачынства».

З пачатку ліпеня Мікалай Статкевіч утрымліваўся 10 сутак у карцары магілёўскай турмы №4. На палітвязня працягваў аказвацца ціск з боку адміністрацыі і праз зняволеных, якія супрацоўнічаюць з адміністрацыяй, з мэтай напісання ім прашэння аб памілаванні. М. Статкевіч знаходзіцца ў статусе «злоснага парушальніка рэжыму», яму забаронены спатканні з роднымі, прадуктовыя перадачы і прагулкі. 12 ліпеня палітвязню быў працягнуты строгі рэжым утрымання. 12 жніўня Мікалаю Статкевічу споўнілася 56 гадоў.

7 ліпеня стала вядома, што Сяргея Каваленку прызнала «злосным парушальнікам рэжыму» адміністрацыя магілеўскай калоніі №19, дзе ён адбывае пакаранне. Прашэнне аб памілаванні, напісанае С. Каваленкам яшчэ ў канцы чэрвеня на імя кіраўніка дзяржавы, але без прызнання віны, да канца жніўня так і не было разгледжана. З 28 ліпеня па 14 жніўня палітвязень утрымліваўся ў штрафным ізалятары, куды ён быў змешчаны адразу пасля доўгатэрміновага спаткання з роднымі. Пасля 16 сутак ШІЗА С.Каваленка трапіў у медчастку ў сувязі з пагаршэннем стану здароўя.

У ліпені-жніўні працягваўся ціск на зняволенага кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага. Вызвалены з бабруйскай калоніі зняволены расказаў, што, акрамя ўсяго іншага, адміністрацыя карае вязняў нават за размовы з Бяляцкім — ім пагражае перавод у іншы атрад ці пазбаўленне палёгкаў. 4 ліпеня суд Партызанскага раёна Мінска прыняў рашэнне аб канфіскацыі кватэры, якая з'яўлялася офісам Праваабарончага цэнтра «Вясна» на працягу 12 гадоў і была афармлена на А. Бяляцкага, а таксама частку прыватнай маёмасці праваабаронцы. 17 ліпеня Мінскі гарадскі суд не задаволіў скаргу Алеся Бяляцкага на рашэнне суда Першамайскага раёна аб спагнанні з яго пені ў памеры 140 мільёнаў рублёў за несвоечасовую ўплату сумы запазычанасці. Рашэнне аб спагнанні пені вынесла суддзя Першамайскага суда Воль-

га Багам’я 29 сакавіка па грамадзянскім зыску падаткавай інспекцыі Першамайскага раёна; ні сам Алесь Бяляцкі, ні ягоная сям’я пра гэты грамадзянскі пазоў нічога не ведалі, не прысутнічаў на судзе і адвакат праваабаронцы. 5 жніўня на Алеся Бяляцкага было накладзена чарговае спагнанне адміністрацыяй бабруйскай калоніі №2 за вынас кавалка хлеба са сталовай; тыдзень да гэтага акт аб парушэнні рэжыму ўтрымання быў складзены за занавешванне ім спальнага месца. За дадзеныя парушэнні Алеся Бяляцкага пазбавілі чарговай прадуктовай перадачы і кароткатэрміновага спаткання з роднымі, якое планавалася 15 жніўня. Скарга ў Дэпартамент выканання пакаранняў, пададзеная жонкай А. Бяляцкага, на строгасць і несувымернасць пакарання з цяжкасцю парушэнняў, засталася незадаволенай, з праваабаронцы не быў зняты статус «злоснага парушальніка рэжыму».

23 ліпеня маці палітвязня Аляксандра Францкевіча, які адбывае пакаранне ў калоніі №22 Івацэвічаў, паведаміла, што адміністрацыя аказвае ціск на палітвязня праз пагрозы іншым зняволеным, адзін з вязняў быў нават змешчаны ў ШІЗА. Такім чынам яго спрабуюць ізаляваць і пазбавіць камунікацыі з людзьмі. Вядома, што ціск на яго ўзмацніўся пасля таго, як у калонію прыязджаў Аляксандр Ліцвінскі — начальнік аддзела Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС, які кіраваў зачысткай анархістаў восенню 2010 года. Раней Аляксандр Ліцвінскі наведваў іншага палітвязня, Мікалая Дзядка, цікавячыся, ці гатовы ён папрасіць памілаванне. Адказ быў адмоўны. Пасля гэтага Мікалаю надалі статус злоснага парушальніка, пазней перавялі у Шклоўскую калонію № 7, дзе ціск узмацніўся яшчэ больш. Аляксандру Францкевічу таксама нададзены статус «злоснага парушальніка рэжыму». У пачатку жніўня ён быў змешчаны на 10 сутак у штрафны ізалятар.

24 ліпеня была пакінута без задавальнення асацыйная скарга Васіля Парфянкова на прысуд аб арышце на 6 месяцаў за «невыкананне ўмоваў прэвентыўнага нагляду, устаноўленага судом» (артыкул 421 КК РБ). Такое рашэнне прыняла судовая калегія Мінскага гарадкога суда. У той жа час суддзі палічылі магчымым не прымяняць да В. Парфянкова артыкул 107 (частка1) Крымінальнага кодэкса («прымяненне прымусовых мераў бяспекі і лячэння да асобаў, якія пакутуюць на хранічны алкагалізм, наркаманію і таксікаманію»). 9 жніўня В. Парфянкоў быў змешчаны ў СІЗА №1 Мінска, дзе да 16 жніўня чакаў этапу ў арыштны дом СІЗА №6 у Баранавічах, куды ён накіраваны для адбыцця пакарання.

3 жніўня ў прыёмную Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі была перададзена петыцыя, падпісаная беларускімі праваабаронцамі і грамадскімі дзеячамі, з патрабаваннем вызвалення кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага і ўсіх беларусіх палітвязняў. 22 жніўня ў адказе начальнік галоўнага ўпраўлення па працы са зваротамі грамадзянаў Станіслаў Буко адзначыў, што «згодна з Канстытуцыяй судовая ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належыць судам. Суддзі пры ажыццяўленні правасуддзя незалежныя ў прыняцці рашэнняў і падпарадкоўваюцца толькі закону. Іншыя дзяржаўныя органы і службовыя асобы такімі паўнамоцтвамі не надзелены». У адказе таксама паведамляецца, што «якое-небудзь умяшанне ў дзейнасць суддзяў па выкананні правасуддзя недапушчальнае і цягне адказнасць па законе».

У канцы жніўня Мікалай Аўтуховіч атрымаў кароткатэрміновае спатканне з сям'ёй, якіх не бачыў амаль год. Ім дазволілі паразмаўляць паўтары гадзіны праз шкло па тэлефоне. Палітвязень адзначае, што шмат чытае ў турме, піша лісты, а таксама спрабуе вучыць англійскую мову.

7-8

28 жніўня ў папраўчай калоніі № 13 у Глыбокім адбылося пасяджэнне выязнога суда па новай крымінальнай справе, узбуджанай супраць палітвязня Дзмітрыя Дашкевіча па абвінавачанні ў «непадпарадкаванні адміністрацыі папраўчай установы» (ч. 1 арт. 411 КК РБ). Пасяджэнне праходзіла ў закрытым рэжыме. Па справе праходзіла каля 40 сведак — міліцыянтаў і зняволеных калоніі. Ад паслуг адваката Дзмітрый Дашкевіч адмовіўся. Суд Глыбоцага раёна дадаў палітвязню 1 год калоніі, што з'яўляецца максімальным прысудам. Пры гэтым, у гэты год залічаны тыя 4 месяцы, якія мусіў Дзмітрый яшчэ адбыць паводле ранейшага прысуду. Такім чынам, выйсці на волю Дзмітрый Дашкевіч зможа не раней за 28 жніўня 2013 года.

28 жніўня было працягнута следства па крымінальнай справе, узбуджанай супраць карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута па ч. 2 арт. 367 КК («паклёп у дачыненні да прэзідэнта»). Журналіста затрымалі ў Гродне 21 чэрвеня, да 30 чэрвеня ён утрымліваўся ў гарадзенскім СІЗА, пасля чаго пад ціскам грамадскасці быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.

## Пераслед праваабаронцаў

19 ліпеня КДБ Беларусі паставіў на прафілактычны ўлік кіраўніка інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа», праваабаронцу Андрэя Бандарэнку. У гэты дзень Бандарэнка быў дастаўлены ў КДБ, дзе яго азнаёмілі з пастановай аб пастаноўцы на прафілактычны ўлік. Яму прапанавалі распісацца, што ён азнаёмлены з дакументам. На патрабаванне прадаставіць копію пастановы аб пастаноўцы на ўлік супрацоўнікі КДБ адказалі адмовай. Бандарэнку было прапанавана азнаёміцца з усімі дакументамі па справе і зрабіць неабходныя выпіскі. На просьбу даць яму ручку і ліст паперы, каб зрабіць выпіскі, таксама была атрымана адмова.

20 ліпеня суд Цэнтральнага раёна Мінска разгледзеў скаргі намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча і дырэктара інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа» Андрэя Бандарэнкі на дзеянні Міністэрства абароны і Міністрэства ўнутраных спраў на ўнясенне іх прозвішчаў па надуманых падставах у банк дадзеных аб грамадзянах РБ, права якіх на выезд з Рэспублікі Беларусь часова абмежавана. Прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў, начальнік Дэпартамента па грамадзянству і міграцыі Аляксей Бягун прадставіў суду даведкі пра выключэнне Стэфановіча і Бандарэнкі з банку дадзеных, пазначаныя 20 ліпеня. Ён таксама паведаміў суду, што службовыя асобы МУС рашэння аб унясенні праваабаронцаў у банк дадзеных не прымалі, і спаслаўся пры гэтым на тэхнічны збой. Каментаваць, якім чынам гэта адбылося, і хто вінен у гэтым збоі, Бягун адмовіўся. Прадстаўнік Міністэрства абароны маёр юстыцыі Леанід Вальчэўскі катэгарычна заявіў, што ягонае ведамства не падавала звестак на ўнясенне ў базу дадзеных Стэфановіча і Бандарэнкі па прычыне ўхілення ад мерапрыемстваў па прызыве на ваенную службу. Суддзя Алена Сямак адхіліла ўсе хадайніцтвы заяўнікаў, у тым ліку аб правядзенні судовай камп’ютарнай тэхнічнай экспертызы для ўстанаўленне прычын збою ў базе дадзеных, на якую спасылаюцца прадстаўнікі МУС. Хадайніцтва Валянціна Стэфановіча аб адводзе суддзі, якая цягам 5 месяцаў, у парушэнне патрабаванняў ГПК РБ, не змагла прызначыць дату судовага паседжання, судом таксама не было задаволена. Заслухаўшы заяўнікаў па справе, прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, чые дзеянні абскарджваліся, а таксама грамадскага прадстаўніка Гары Паганяйла, суддзя Сямак вынесла рашэнне пакінуць без задавальнення скаргі Валянціна Стэфановіча і Андрэя Бандарэнкі.

20 ліпеня павінна была разглядацца аналагічная скарга старышыні «Беларускага Хельсінкскага камітэта» Алега Гулака, але судовы працэс быў перанесены на 31 ліпеня. У гэты дзень падчас спрэчак выступілі Алег Гулак, яго прадстаўнік — праваабаронца Гары Паганяйла, а таксама прадстаўнік Мінюста, які ў судзе не называў свайго прозвішча, і прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Аляксей Бягун, начальнік Дэпартамэнта міграцыі і грамадзянства. Алег Гулак заявіў, што дзяржаўныя органы незаконна змясцілі яго прозвішча ў базу дадзеных і абмежавалі яго права на выезд. Ён адзначыў, што хоць у судзе і не змаглі выявіць, хто дакладна гэта зрабіў, але тое, што гэта было зроблена, нават Міністэрства ўнутраных спраў прызнала. Алег Гулак адзначыў, што законных падстаў абмяжоўваць яго права на выезд не было, і Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства юстыцыі абавязаныя несці адказнасць за свае дзеянні. Паводле Гулака, гэта адбылося з дыскрымінацыйных прычын. Ён прывёў у якасці прыкладу тое, што яшчэ 17 чалавек, якія вядомыя сваёй палітычнай, апазіцыйнай дзейнасцю, — вядомыя праваабаронцы, адвакаты, журналісты — таксама аказаліся ўнесеныя ў гэты спіс. Аляксей Бягун прызнаў у спрэчках, што сапраўды быў факт тэхнічнага збою, праз які ў спісах невыязных апынуўся Алег Гулак. Але, паводле Бегуна, у гэтым банку дадзеных агулам знаходзяцца каля 100 000 чалавек, і толькі 50 чалавек апынуліся там памылкова. Прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў сказаў, што пасля гэтых разбіральніцтваў Алег Гулак быў выкраслены са спісу невыязных.



26 ліпеня падатковая інспекцыя Савецкага раёна Мінска аштрафавала дырэктара інфармацыйна-асветнай установы «Платформа» Андрэя Бандарэнку за несвоечасовае падаванне дакументаў аб падатку на прыбытак. Паводле слоў праваабаронцы, усю падатковую справаздачнасць «Платформа» здала ў адпаведнасці з заканадаўствам яшчэ ў сакавіку. «Аднак, як аказалася, наша справаздача дзесці “згубілася“ і пра яе ўспомнілі толькі цяпер. 24 ліпеня мы падалі справаздачу паўторна. 25 ліпеня падатковы інспектарператэлефанавала мне і папрасіла прыехаць да яе да 18 гадзін, мы дамовіліся, што я прыеду. Аднак у 16.30 да мяне ў кватэру прыйшлі супрацоўнікі аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі № 66 Савецкага раёна і прад’явілі пастанову аб прымусовым прыводзе мяне ў падатковую. Прывод яны пагадзіліся ажыццявіць толькі на іх машыне», — сказаў Бандарэнка. У выніку падатковая інспекцыя наклала штраф на ІПУ «Платформа» ў 500 тысяч рублёў і 200 тысяч — на Бандарэнку як на дырэктара ўстановы.

31 ліпеня ўвечары намесніца дырэктара інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа» Алена Красоўская-Каспяровіч перастала выходзіць на сувязь. Апошні раз супрацоўнікі «Платформы» кантактавалі з ёй  пасля 15-й гадзіны, пасля чаго сувязь перапынілася, і аб яе месцазнаходжанні нічога не было вядома. 1 жніўня, пасля падачы заявы аб знікненні, высветлілася, што праваабаронца знаходзіцца ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў ГУУС Мінгарвыканкама. Толькі 2 жніўня, калі праваабаронцу ў ЦІП наведаў адвакат, стала вядома, што Алена Красоўская-Каспяровіч была затрымана каля ўласнага дома, на яе складзены пратакол аб дробным хуліганстве. Калегам праваабаронцы паведамілі, што 3 жніўня ў судзе Партызанскага раёна Мінска адбудзецца суд, але ў першай палове дня Алена Красоўская-Каспяровіч была вывезена з ЦІП невядомымі ў цывільным на машыне без нумароў за горад і адпушчана без усялякіх тлумачэнняў.

14 жніўня праваабаронца Уладзімір Малей быў выкліканы ў РУУС Ленінскага раёна Брэста, дзе было праведзена разбіральніцтва па факту яго прабежкі 4 жніўня па вуліцах абласнога цэнтра ў майцы з выявай Алеся Бяляцкага на знак салідарнасці з арыштаваным старшынёй Праваабарончага цэнтра «Вясна» і іншымі палітзняволенымі. Уладзімір Малей даў тлумачэнні супрацоўнікам праваахоўных органаў, што грамадскага парадку не парушаў, нікому бегам не замінаў, у выніку чаго адміністрацыйнае разбіральніцтва было спынена.

17 жніўня сябру Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна» Таццяну Рэвяка выклікалі ў КДБ для апытання «у якасці асобы, якая дасведчаная аб абставінах, якія маюць значэнне для забеспячэння нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь». Апытанне праводзілі капітан Аляксандр Рубінаў (падчас ранейшых вобыскаў у офісе Праваабарончага цэнтра «Вясна» і ў матэрыялах справы Алеся Бяляцкага гэты чалавек праходзіць пад прозвішчам Мацкевіч) і старэйшы оперупаўнаважаны Аляксандр Брэеў. Супрацоўнікаў КДБ цікавіла размешчаная на сайце spring96.org інфармацыя, дадычная ўмяшальніцтва КДБ Магілёва ў выбарчы працэс. У праваабаронцы запытваліся аб тым, адкуль была атрыманая гэтая інфармацыя, ці з’яўляецца Рэвяка яе аўтарам, ці правярала яна выкладзеныя ў матэрыяле факты непасрэдна ў КДБ. Праваабаронца была папярэджана аб тым, што ў выпадку, калі выкладазеная інфармацыя аб органах дзяржбяспекі не знойдзе пацверджання, то гэта будзе разглядацца як дыскрэдытацыя дзяржаўнага органа і ўсёй Рэспублікі Беларусь, але было адзначана, што на дадзены момант пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па дадзеным абвінавачанні не стаіць.

21 жніўня суддзя суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Васіль Петрыў прызнаў праваабаронцу Сяргея Гоўшу вінаватым у здзяйсненні дробнага хуліганства (брыдкаслоўі ў размове са старшынёй акруговай камісіі, дзе ён зарэгістраваны ў якасці назіральніка) і пакараў штрафам у памеры 15 базавых велічынь. Абвінавачанне было звязана з падзеямі, якія адбыліся 10 ліпеня, калі назіральнік Сяргей Гоўша прысутнічаў на першым пасяджэнні акруговай камісіі па Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акрузе №5 і азнаёміўся з пратаколам гэтага пасяджэння. Заўважыўшы неадпаведнасці ў пратаколе, С. Гоўша 23 ліпеня звярнуўся да старшыні камісіі Т.Латышавай з заўвагай аб выяўленай неадпаведнасці. У выніку назіральніка абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Нягледзячы на тое, што Сяргей Гоўша прадставіў у судзе аўдыёзапіс размовы са старшынёй камісіі, у якім не ўтрымлівалася нецэнзурнай лаянкі, суддзя прызнаў яго вінаватым.

24 жніўня на шляху дадому міліцэйскім нарадам у Жодзіне за фатаграфаванне на вуліцы, у якое трапілі міліцыянеры, быў затрыманы праваабаронца Аляксей Лапіцкі. Кіраўнік нараду, супрацоўнік міліцыі А. Манько, выклікаў для разбіральніцтва машыну падтрымкі. Афіцэр міліцыі П. Ясіневіч прапанаваў падначаленым працягнуць патруляванне і пасля кароткай размовы з праваабаронцам, азнаямленнем з сітуацыяй і праверкі пашпартных дадзеных, паведаміў Аляксею Лапіцкаму, што яго «ніхто не затрымліваў», і ён вольны.



31 жніўня стала вядома, што пад пагрозай закрыцця апынулася інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Платформа», якая займаецца абаронай правоў зняволеных. З такой ініцыятывай выступіла інспекцыя падаткаў і збораў Савецкага раёна сталіцы на падставе нібыта парушэння «Платформай» тэрміну падачы дэкларацыі і непаведамлення пра змену месцазнаходжання. Разгляд справы запланаваны на верасень у Гаспадарчым судзе Мінска.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

7 ліпеня актывістка «Еўрапейскай Беларусі» Алена Семенчукова накіравала скаргу ў абласную пракуратуру з просьбай аб звароце ва ўпраўленне МУС аблвыканкама з мэтай выпраўлення ўмоваў утрымання ў ІЧУ Віцебска. Дзяўчына адзначыла акалічнасці, якія прыніжаюць чалавечую годнасць асобаў, якія там утрымліваюцца. «У камеры няма спальных месцаў і ўвогуле якой-небудзь мэблі. Адміністрацыя ІЧУ адмовілася прыняць для мяне перадачу з цёплымі рэчамі, вадой і гігіенічнымі

сродкамі. Таму ляжаць давялося на падлозе, у джынсах, белай майцы і «балетках». Заснуць было немагчыма, бо дужа халодна. У камеры не было чым дыхаць — яна не праветрываецца. Усю ноч вочы сляпіла святло лямпачкі, якую не выключалі. «Радыёкропку» таксама немагчыма зрабіць цішэй. Першы раз мне прынеслі ежу раніцай наступнага пасля затрымання дня. Есці давялося таксама на падлозе і бруднымі рукамі, бо ні ручніка, ні мыла не давалі. Унітазам я таксама карыстацца не змагла — было гідка, бо ён не мае зліўнога бачка і знаходзіцца ў полі зроку супрацоўнікаў ІЧУ». У ізалятары часовага ўтрымання Алена Семенчукова правяла 10 сутак арышту за распаўсюд улётак.

20 ліпеня бацькі затрыманага па падазрэнні ў крадзяжы Паўла Плаксы, які ўтрымліваецца ў Жодзінскім СІЗА, атрымалі адказ на свае шматлікія скаргі па фактах катаванняў іх сына супрацоўнікамі Ленінскага РУУС Мінска. Следчы камітэт адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Па заявах, накіраваных бацькамі ў Пастаянную камісію ПП НС РБ па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі, Генеральнаму пракурору, пракурору Ленінскага раёна г. Мінска, а таксама па дзвюх заявах ад самога Паўла Плаксы была праведзена праверка. Пра гэта паведамляецца ў адказе з Ленінскага раённага аддзела Следчага камітэта за подпісам следчага маёра І. Мукасея, дзе далей гаворыцца, што ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмоўлена на падставе п. 2 ч. 1 арт. 29 КПК Рэспублікі Беларусь, гэта значыць у сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях міліцыянтаў складу злачынства. Па словах Аляксандра Генадзьевіча Парцянкі, «у матэрыялах праверкі няма нават намёку на катаванні сына: яны ўказваюць, што Павел атрымаў цялесныя пашкоджанні яшчэ дома падчас затрымання, паколькі аказаў супраціўленне. А наконт таго, што яго збівалі ў РУУСе, нічога не сказана. Яны толькі запісалі ў журнал, што прымянялася дубінка, хоць там гематомы па 25-36 сантыметраў — ад ягадзіц пераходзяць у сцёгны, драпіны, сінякі па ўсім целе, раны велізарныя. Баяліся, што зноў пачне аказваць супраціўленне і дзень і ноч трымалі ў кайданках — так і пішуць. Самі аператыўныя работнікі даюць паказанні, што кайданкі здымалі толькі пры падпісанні папер». А што адбывалася да падпісання патрэбных міліцыянтам папер, бацькі ведаюць са словаў Паўла. «Цягам некалькіх сутак яго катавалі дзень і ноч. Збівалі, пакет апраналі на галаву, каб перакрыць паветра, есці не давалі, у прыбіральню не вадзілі. Катавалі па чарзе, пазменна, — распавядае Аляксандр Генадзьевіч. — Асабліва лютаваў там адзін — аператыўны супрацоўнік Рома. Ён тыкаў Паўлу ў твар пасведчанне, і казаў: «ты адсюль жывым не выйдзеш, і ніхто нічога не даведаецца, ты не жылец». І

менавіта пад ціскам міліцыянта Рамана Павел Плакса падпісаў адмову ад дастаўлення ў бальніцу, калі прыязджала хуткая дапамога. Праваабаронцы ўжо неаднаразова выказвалі свае сумневы наконт эфектыўнасці праверак у сітуацыях, калі скаргі на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі перанакіроўваюцца органамі пракуратуры ў адпаведыя раённыя аддзелы Следчага камітэта. У выпадку з Паўлам Плаксам скарга яго бацькоў на дзеянні супрацоўнікаў Ленінскага РУУСа была перанакіраваная ў Ленінскі раённы аддзел Следчага камітэта, то бок, у орган, які вядзе крымінальную справу Паўла і ў якім зараз працуюць былыя следчыя таго ж самага Ленінскага РУУСа. Пасля азнаямлення з матэрыяламі праверкі Следчага камітэта бацькі Паўла Плаксы вырашылі абскардзіць яе вынікі пракурору Ленінскага раёна Мінска.

## Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

6 ліпеня на былое месца працы маладзечанскай актывісткі Таццяны Балабанскай тэлефанавалі з КДБ, каб даведацца, ці яна яшчэ там працуе. На апошніх выбарах у мясцовыя Саветы 2010 года Таццяна Балабанская была скарочана з інжынерскай пасады Маладзечанскага лясгаса па ініцыятыве дырэктара Анатоля Ермаловіча  на наступны дзень пасля таго, як Таццяна падала дакументы на рэгістрацыю яе кандыдатам у дэпутаты. Новы віток цікавасці супрацоўнікаў КДБ да актывісткі звязаны з пачаткам кампаніі па выбарах у парламент.



14 жніўня Уладзіслаў Ярашоў, які збірае подпісы ў падтрымку кандыдата ад Руху «За свабоду» Уладзіміра Пунчанку, паведаміў, што да яго дадому завітаў супрацоўнік КДБ, які задаваў пытанні пра тое, колькі плацяць за подпісы, хто кіруе і арганізоўвае гэты працэс. Чалавек, які назваў сябе супрацоўнікам спецслужбаў, пагражаў Уладзіславу, студэнту Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Куляшова, адлічэннем з вучобы за ягоную працу ў камандзе апазіцыйнага кандыдата, а таксама прапаноўваў супрацоўніцтва з КДБ. 16 жніўня, праз дзень пасля таго, як у інтэрнэце была размешчана інфармацыя аб гэтым інцыдэнце, Уладзіславу Ярашову патэлефанавалі супрацоўнікі КДБ і папрасілі яго прыйсці да іх на размову. Хлопец адмовіўся сустракацца без позвы. Праз некаторы час позву прывезлі Уладзіславу дадому і разам з супрацоўнікамі КДБ хлопца на машыне даставілі ў будынак Камітэта дзяржбяспекі. Там амаль цягам гадзіны адбывалася размова. Уладзіслаў апісаў невядомага, які прадстаўляўся супрацоўнікам КДБ, расказаў, пра што той яго распытваў і адзначыў, што прадстаўляўся ён

выключна супрацоўнікам КДБ, аднак імя і прозвішча сваё не называў. Напрыканцы размовы Уладзіслаў Ярашоў даў падпіску аб тым, што не будзе распаўсюджваць несапраўдную інфармацыю.

17 жніўня лідара бабруйскай суполкі АГП Віктара Бузінаева выклікалі ў КДБ. Размова з супрацоўнікам КДБ Паўлам Сілковым цягнулася каля трох гадзін. Актывіста папярэдзілі, каб ён не надумаў арганізаваць якую акцыю, сказалі, што нават калі ён апране нейкую майку «з лозунгамі» і будзе ў ёй гуляць па горадзе, гэта будзе залічана як несанкцыянаваная акцыя. А за гэта, па словах супрацоўнікаў КДБ, В. Бузінаву можа пагражаць артыкул 342 Крымінальнага кодэкса («арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, ці актыўны ўдзел у іх») і пакаранне тэрмінам да трох год абмежавання свабоды.

24 жніўня актывіста кампаніі «Гавары праўду» Дзяніса Дашкевіча з Рагачова выклікалі ў мясцовы аддзел КДБ, дзе яго пратрымалі амаль 4 гадзіны. Ад актывіста патрабавалі, каб той падпісаў адпаведную паперу, у якой зазначалася, што ён — фінансавы махінатар, які браў грошы за арганізацыю вяселляў у далярах, а не рублях, а таксама дапамагаў сваім калегам-прадпрымальнікам арганізоўваць такія святы. Подобная размова праводзілася і з жонкай Дашкевіча, якая выйшла з КДБ крыху раней. Супрацоўнікі КДБ сказалі Дашкевічу, што на яго можа быць заведзеная крымінальная справа, а матэрыялы па яго дзейнасці будуць перададзены ў падатковую інспекцыю.

30 жніўня былі затрыманыя адміністратары апазіцыйных груп у сацыяльнай сетцы «В контакте». У гэты дзень на працу да маці Паўла Еўціхіева прыйшлі двое ў цывільным і, не прад'явіўшы аніякіх дакументаў, запатрабавалі праехаць дадому па справе сына. Каля пад'езда іх чакалі яшчэ чацвёра, на думку жанчыны, супрацоўнікаў КДБ. Яны падняліся ў кватэру і ў прысутнасці жанчыны дапыталі Паўла. Іх цікавілі стасункі з нейкім Раманам (верагодна Пратасевіч) і дачыненне да інтэрнэтаўскай суполкі «В контакте» «Ляпіс Трубяцкой — бясплатны канцэрт у Мінску». Пыталіся яны таксама і пра паролі ад суполкі. Праз некаторы час былі выкліканы супрацоўнікі міліцыі Кастрычніцкага РУУСа Мінска, якія забралі з сабой Паўла і ягоны хатні камп'ютар. На пярэчанні маці ёй прад'явілі пасведчанне на імя капітана міліцыі Аляксандра Макарава. Ніякіх папер пры гэтым не складалася. 31 жніўня Паўла Еўціхіева даставілі ў суд Кастрычніцкага раёна і па абвінавачанні ў дробным хуліганстве асудзілі на 5 сутак арышту.

Адміністратара групы «Только ШОС!» Андрэя Ткачова, у дзяўчыны якога быў праведзены ператрус і сканфіскаваны ноўтбук, супрацоўнікі міліцыі таксама абвінавацілі ў дробным хуліганстве, а суд асудзіў да 7 сутак арышту.

Рамана Пратасевіча, кіраўніка групы «Ляпіс Трубяцкой — бясплатны канцэрт у Мінску», пасля допыту, пагроз і збіцця адпусцілі праз чатыры гадзіны, паколькі ён непаўнагадовы.

Яшчэ аднаму адміністратару інтэрнэт-групы Сяргею Бяспалаву, якога папярэдзілі сябры, удалося пазбегчы затрымання, ён паспеў пакінуць межы Беларусі.

У Віцебску быў затрыманы мадэратар інтэрнэт-суполкі «Надоел нам этот Лукашенко» Алег Шрамук. У дзверы ягонай кватэры пазваніла невядомая жанчына і прапанавала набыць атруту для мышэй. Шрамукі адмовіліся, але праз некаторы час гэтая ж жанчына пазваніла зноў. Калі Алег адчыніў дзверы, у кватэру ўварваліся супрацоўнікі спецназу і міліцыі. Без тлумачэння прычын яны забралі Алега, сказаўшы, што з'яўляюцца супрацоўнікамі Кастрычніцкага РАУС. Дапыталі таксама і ягоную жонку Алесю Шрамук. Пасля амаль суткавага допыту Алега Шрамука адпусцілі, а інтэрнэт-суполку знішчылі.

30 жніўня старшыня гарадзенскай суполкі Кастрычніцкага раёна Аб'яднанай грамадзянскай партыі Дзмітрый Аўдзейчык і яго сябра Яўген Швядзько паведамілі пра ціск з боку спецслужбаў. Па словах Аўдзейчыка, ён і Швядзько былі затрыманыя тыдзень таму ў момант, калі расклейвалі самаробна выпушчаныя ўлёткі з заклікам да байкоту выбараў. Аўдзейчык расказаў, што іх высачыў чалавек у цывільным і патэлефанаваў у міліцыю. Затрыманых завезлі ў РАУС па вуліцы Гая, трымалі там тры гадзіны і ўзялі пісьмовыя тлумачэнні. Хлопцаў палохалі нават крымінальнай адказнасцю, ацаніўшы што змест улётак мае «антигосударственный характер». Актывісты чакалі, што іх выклічуць у суд для разгляду адміністрацыйнай справы. Аднак, па словах Аўдзейчыка, днямі Яўгену Швядзько патэлефанавалі з КДБ і сказалі, што неўзабаве абодвух выклічуць туды для разбіральніцтва.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 ліпеня стала вядома пра затрыманне актывіста моладзевага крыла кампаніі «Гавары праўду» «Zmena» Ягора Віняцкага. Яму патэлефанавалі 30 чэрвеня з Першамайскага РУУСа Мінска і запрасілі падысці па справе знойдзенага ноўтбука, адносна крадзяжу якога ён падаваў заяву. Аднак у

выніку ён апынуўся ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна, на яго складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. 3 ліпеня Ягора Віняцкага адвезлі з Акрэсціна ў Першамайскі РАУС на прафілактычную размову з кіраўніцтвам, але кіраўніцтва не з'явілася. Пасля 5 гадзін чакання моладзевага актывіста адпусцілі, але папярэдзілі, што яго выклічуць у суд адмысловай позвай.

3 ліпеня, у афіцыйнае свята Дзень незалежнасці, у Баранавічах быў затрыманы моладзевы актывіст Арцём Бабей. За ім сачылі яшчэ раніцай, але затрымалі каля маладога парку па вуліцы Камсамольскай падчас праходжання турнікета. Міліцыянеры сказалі, што ён падобны да нейкага злачынцу і павялі ў пастарунак па вуліцы Камсамольскай. Да агляду рэчаў далучыўся маёр Кульгавік, які ў 2011 годзе папярэджваў актывіста пра недапушчальнасць удзелу ў маўклівых акцыях пратэсту. У пастарунку актывіста пратрымалі каля гадзіны і адпусцілі без складання пратакола.

4 ліпеня ў судзе Першамайскага раёна Мінска адбылося слуханне па справе актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Андрэя Молчана, які 19 траўня ў знак салідарнасці са зняволеным віцебскім апазіцыянерам Сяргеем Каваленкам разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг у Мінску, за што быў жорстка збіты міліцыянтамі. Яму было вынесена абвінавачанне па артыкуле 23.34 КаАП — «несанкцыянаванае пікетаванне». Суддзя Сяргей Люштык прызнаў Андрэя Молчана вінаватым і прызначыў пакаранне — штраф 8 базавых велічыняў, праігнараваўшы факт збіцця Молчана, пацверджанага медыцынскай экспертызай.

4 ліпеня суддзя Кастрычніцкага райсуда Віцебска Іна Грабоўская прысудзіла два штрафы, кожны ў памеры 12 базавых велічынь, актывісту «Маладога Фронту» Яўгену Гуцалаву, якога затрымалі 3 ліпеня за распаўсюд улётак з заклікам да байкоту выбараў і змясцілі на ноч у ізалятар часовага ўтрымання. Малады чалавек быў абвінавачаны па двух артыкулах — «за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі» і «за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі».

5 ліпеня суддзя Кастрычніцкага райсуда Віцебска Іна Грабоўская пакарала актывістку «Еўрапейскай Беларусі» Алену Семенчукову 10 суткамі арышту. 22-гадовая дзяўчына была затрымана яшчэ 29 чэрвеня падчас распаўсюду улётак з заклікам байкатаваць выбары. Дзяўчыну пачалі судзіць яшчэ 30 чэрвеня, але суддзя працэс перанесла, каб Алена заключыла дамову з адвакатам.

12 ліпеня ў Оршы была затрымана актывістка грамадзянскай кампаніі «Наш Дом» Яніна Ляснеўская. Супрацоўнікі міліцыі заявілі, што Яніну падазраюць у распаўсюдзе твораў, якія прапагандуюць культ гвалту і жорсткасці (артыкул 17.8 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Такімі матэрыяламі міліцыянты палічылі дзіцячыя размалёўкі «Мой тата міліцыянер. Што ён робіць на працы?». Пасля гутаркі з міліцыянтамі Яніну Ляснеўскую адпусцілі, склаўшы адміністрацыйны пратакол.

17 ліпеня ў судзе Першамайскага раёна Мінска суддзёй Аленай Ананіч разглядалася адміністрацыйная справа Леаніда Мажальскага, які пратэставаў супраць будаўніцтва дома для спецназа ва Ўруччы. Мажальскі быў затрыманы 5 ліпеня, калі спрабаваў перашкодзіць будаўнікам усталяваць будпляцоўку. Мажальскі быў абвінавачаны на падставе артыкулаў 17.1 («дробнае хуліганства»), 23.4 («непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёю службовых паўнамоцтваў») і 23.34 («парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства або пікетавання») Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Па першым артыкуле ён асуджаны на двое сутак адміністрацыйнага арышту, па другім — прыгаворany да штрафу ў 20 базавых велічынь, па трэцім — асуджаны на трое сутак арышту.



17 ліпеня, напярэдадні візіту ў Мінск прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева, быў затрыманы актывіст, аўтар нашумелага перфомансу «Мусарок» Іван Амельчанка. Прыкладана пасля 11 гадзін раніцы Іван выйшаў з дому на запланаваную сустрэчу, а пасля 13 гадзін стала вядома, што ён дастаўлены ў суд Ленінскага раёна Мінска, і яго абвінавачваюць у «непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі» (арт. 23.4 КаАП РБ). Суддзя Запаснік пакараў Івана Амельчанку 12 суткамі адміністрацыйнага арышту. У дзень затрымання і арышту Іван Амельчанка збіраўся наведаць акруговую камісію, каб зарэгістраваць сваю ініцыятыўную групу па вылучэнні яго кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Але з улікам досведу прэвентыўных затрыманняў (за два апошніх месяцы Амельчанка правёў за кратамі агулам 40 дзён), было вырашана адправіць дакументы на рэгістрацыю поштай. Акруговая камісія дакументы атрымала, аднак рэгістраваць ініцыятыўную групу адмовілася менавіта таму, што дакументы былі дастаўленыя не асабіста.

17 ліпеня былі затрыманы «маладафронтаўцы» Уладзімір Яроменак, Раман Васільеў і непаўнагадовы Раман Пратасевіч (апошняга адпусцілі).

Уладзіміра Яроменку і Рамана Васільева даставілі ў суд Кастрычніцкага раёна Мінска, абвінаваціўшы ў брыдкаслоўі: нібыта ў 7.40 раніцы яны лаяліся матам на вуліцы Бабруйскай. Суддзя Лапко пакарала Рамана Васільева арыштам на 12 сутак, сведкамі выступілі супрацоўнікі міліцыі Цюніс і Драздоў. Уладзіміра Яроменку пакаралі арыштам на 15 сутак. Актывістка Кася Галіцкая, якая прыехала ў Дом правасуддзя падтрымаць юнакоў, была затрымана проста ў судзе і абвінавачана ў брыдкаслоўі, ноч яна правяла ў ЦІП. 18 ліпеня суддзя суда Маскоўскага раёна Мінска Таццяна Мотыль асудзіла Касю Галіцкую на 10 сутак адміністрацыйнага арышту, сведкамі выступілі спецназаўцы Яўген Барадач і Зміцер Тарашкевіч.

18 ліпеня каардынатар беларускай антыядзернай кампаніі Таццяна Новікава і фізік-ядзершчык з Расіі Андрэй Ажароўскі  былі пакараны па абвінавачанні ў дробным хуліганстве арыштамі на 5 і 10 сутак адпаведна судом Ленінскага раёна Мінска. Актывісты антыядзернай кампаніі збіраліся перадаць у расійскую амбасаду ў Мінску зварот супраць падпісання кантракта на будаўніцтва Астравецкай АЭС. Падпісанне генкантракта было запланавана ў рамках візіту ў Мінск прэм’ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. Таццяна Новікава хранічна хворая, у яе выдаленая шчытавідная залоза, і яна не можа жыць без пастаяннага прыёму спецыяльных прэпаратаў.

У гэты ж дзень былі затрыманыя ў Мінску старшыня грамадскага аб’яднання «Экадом» Ірына Сухій, якая таксама з'яўляецца актывісткай антыядзернай кампаніі, і каардынатар маніторынгавай групы Цэнтра прававой трансфармацыі Міхаіл Мацкевіч. Пасля складання пратаколаў па абвінавачанні «ў дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП) яны былі дастаўленыя ў суд Цэнтральнага раёна. Суддзя Якунчыхін пакараў Ірыну Сухій штрафам у памеры 15 базавых велічынь, Міхаіла Мацкевіча суддзя Есьман асудзіў на 3 сутак адміністрацыйнага арышту. Сведкамі па справе выступалі супрацоўнікі міліцыі Антон Літвінка і Багдан Жокун.

19 ліпеня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска была разгледжаная адміністрацыйная справа актывісткі ЛГБТ-руху Варвары Красуцкай, якую абвінавацілі ў «дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП РБ) і пакаралі штрафам у памеры 7 базавых велічынь, суддзя — Вікторыя Ткачова. Варвару затрымалі ў другой палове дня 18 ліпеня ў Мінску каля Кастрычніцкай плошчы. Падставай для затрымання з’явілася цішотка «Свабоду Алесю Бяляцкаму». Актывістку адвезлі ў Цэнтральны РУУС, а пасля складання пратакола — у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў.

24 ліпеня ў судзе Першамайскага раёна Мінска была разгледжаная адміністрацыйная справа актывіста Андрэя Моўчана, якога супрацоўнікі міліцыі затрымалі ўначы 14 ліпеня за распаўсюд улётак. Справу разглядаў суддзя Сяргей Люштык. А. Моўчана абвінавацілі адразу па 2 артыкулах КаАП: 23.14 («парушэнне правілаў добраўпарадкавання гарадоў») і арт. 17.1 («дробнае хуліганства») і пакаралі грашовым штрафам у памеры 10 базавых велічынь. Сведкамі выступілі супрацоўнікі міліцыі Дэпартамента аховы Віктар Самуценка і Яўген Бурак.

26 ліпеня прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Беларусі накіравалі сумесны зварот на імя Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Аляксандра Канюка і Старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь Валянціна Сукалы з просьбай пра сустрэчу з мэтай абмеркавання сітуацыі з незаконнымі прэвентыўнымі затрыманнямі грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў моладзевых апазіцыйных груп, спынення гэтай незаконнай практыкі і прыцягнення вінаватых да адказнасці. У звароце адзначалася, што апошні час у Беларусі рэгулярна напярэдадні масавых мерапрыемстваў ці прыезду высокапастаўленых афіцыйных асоб замежных дзяржаў адбываюцца незаконныя затрыманні грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў моладзевых апазіцыйных груп, якіх звычайна абвінавачваюць у дробным хуліганстве, потым на падставе сведчанняў супрацоўнікаў міліцыі суды караюць іх адміністрацыйнымі арыштамі. Па меркаванні праваабаронцаў, такія метады выкарыстоўваюцца для прэвентыўнага ізалявання актывістаў на час пэўных грамадска-палітычных падзей. Праваабаронцы адзначылі, што такая практыка павінна кваліфікавацца як адвольныя затрыманні, а гэтыя дзеянні ідуць насуперак прынцыпам прававой дзяржавы, уцягваюць супрацоўнікаў міліцыі і суддзяў ва ўдзел у палітычным пераследзе грамадзян.

7 жніўня на электронную скрыню Праваабарончага цэнтра «Вясна» прыйшоў адказ з Генеральнай пракуратуры на дадзены зварот. Начальнік аддзела па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзян М.В. Папова па сутнасці абмежавалася бюракратычнай адпіскай, паведаміўшы «Гулаку А. і інш» літаральна наступнае: «З улікам таго што Вы не з'яўляецеся асобай, якой ва ўстаноўленым законам парадку дэлегаваны правы на прадстаўніцтва інтарэсаў пералічаных у звароце грамадзян, дастатковых падстаў для разгляду Вашага звароту па сутнасці не маецца». Аднак праваабаронцы ў сваім звароце прасілі не аб прадстаўленні інтарэсаў грамадзян у адміністрацыйных працэсах, а толькі аб сустрэчы з Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь, Старшынёй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь з мэтай абмеркавання сітуацыі і спынення незаконнай практыкі і прыцягнення

вінаватых да адказнасці. Адказу па сутнасці з Генпракуратуры яны не атрымалі.

27 ліпеня, у дзень падпісання Дэкларацыі аб суверэнітэце, на прыступках суда Першамайскага раёна Мінска была затрымана 65-гадовая актывістка Ніна Багінская, якая ў знак свята і пратэсту супраць незаконных судоў узняла на прыступках бел-чырвона-белы сцяг. Праз трыццаць хвілін пад'ехала міліцэйская машына, якая даставіла Ніну Багінскую ў РУУС Першамайскага раёна, адкуль жанчына праз тры гадзіны была адпушчана.

31 ліпеня пасля 20 гадзін вечара непадалёку ад Чыгуначнага вакзала ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі двух актывістаў «Еўрапейскай Беларусі» — Аляксея Цёплага і Мікіту Каваленку, якія распаўсюджвалі інфармацыйны бюлетэнь «Хартыя-97». Пасля трох гадзін затрымання актывісты былі адпушчаны без складання пратаколаў.

4 жніўня ў Жодзіна супрацоўнікі міліцыі затрымалі і даставілі ў аддзяленне Андрэя Зубру і Сяргея Хамуцініна, на якіх былі майкі з надпісам «Свабоду Алесю Бяляцкаму». Падставаю для затрымання была названа неабходнасць вызначэння асобаў. Пасля кароткай прафілактычнай размовы наконт недапушчальнасці ўдзелу ў несанкцыяваных масавых мерапрыемствах жодзінцаў без складання пратаколаў адпусцілі.



4 жніўня ў Барысаве каля будынка ўнівермага «Веста» пры правядзенні пікета па зборы подпісаў за прэтэндэнта ў кандыдаты ў дэпутаты ПП НС, намесніка старшыні АГП Льва Марголіна міліцыяй былі затрыманы і дастаўлены ў Барысаўскі РАУС сам Марголін і сябра яго ініцыятыўнай групы Міхаіл Васільеў. Акрамя фотаздымка Льва Марголіна на бачным месцы быў вывешаны надпіс «За справядлівыя выбары без Лукашэнкі», а мінакоў прасілі ставіць подпіс не «за» прэтэндэнта, а менавіта «за» справядлівыя выбары. На затрыманых былі складзеныя пратаколы па артыкуле 23.34 КаАП РБ («правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства»). 8 жніўня суддзя Барысаўскага раённага суда Ірына Пасюк вынесла рашэнне аб накладанні штрафу ў памеры 20 базавых велічынь для М. Васільева і 30 базавых велічынь для Л. Марголіна.

5 жніўня ўвечары ў Наваполацку з расцяжкай «Свабоду Бяляцкаму» быў затрыманы актывіст грамадскага аб'яднання «Свабодны рэгіён» Аляксандр Драздоў. Міліцыя правяла затрыманне актывіста да вы-

вешвання расцяжкі. У аддзяленні быў праведзены дагляд Драздова і вынесена папярэджанне аб адказнасці за правядзенне несанкцыянаваных акцый. Засталося адкрытым пытанне аб тым, адкуль супрацоўнікі міліцыі даведаліся аб намерах актывіста.

21 жніўня прыкладна каля 21 гадзіны вечара каля чыгуначнага вакзала ў Мінску быў затрыманы актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Аляксей Цёплы, які толькі вярнуўся дадому з Польшы. 22 жніўня суддзя Кастрычніцкага раёна Мінска Германовіч прызнала Аляксея Цёплага вінаватым у парушэнні арт. 17.1 («дробнае хуліганства») і 17.9 («курэнне ў грамадскім месцы») КаАП РБ і пакарала актывіста штрафам у памеры 5 базавых велічынь. Прычына суда над актывістам заключаецца ў распаўсюдзе ў Мінску друкаванай газеты «Хартыя'97».

22 жніўня ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў актывістаў стварaемай партыі БХД Галіны Каржанеўскай і Іны Лойкі, якія ўдзельнічалі ў пікетах за байкот выбараў. Суд вынес рашэнне аштрафаваць актывістак на тры базавыя велічыні кожную.

22 жніўня на цэнтральным чыгуначным вакзале Мінска каля 11 гадзін раніцы супрацоўнікі міліцыі затрымалі магілёўскага актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Віктара Болдзіна, які толькі сышоў з цягніка. У яго знайшлі некалькі выданняў пра байкот і афіцыйна зарэгістраваную газету «Народная воля». У гэты ж дзень суд Кастрычніцкага раёна сталіцы пакараў Віктара Болдзіна штрафам у памеры 3 базавыя велічыні, прызнаўшы вінаватым у «дробным хуліганстве».

22 жніўня быў затрыманы актывіст «Маладога Фронту» Мікалай Дземідзенка. Позна ўвечары стала вядома, што ён змешчаны ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна і яго абвінавачваюць у «дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП РБ). 23 жніўня Мікалая Дземідзенку даставілі ў суд Фрунзенскага раёна, дзе суддзя Дзмітрый Лукашэвіч прыняў рашэнне аб арышце актывіста на 7 сутак.

23 жніўня ў Магілёве былі затрыманы міліцыяй мясцовыя каардынатары па арганізацыі працэсу назірання ў межах кампаніі «За справядлівыя выбары» Юрый Новікаў і Галіна Лісіцына. Затрыманне адбылося ў раёне чыгуначнага вакзала пасля таго, як газеты, брашуры і сшыткі кампаніі былі перакладзены з адной машыны ў другую. Міліцыянты пералічылі прадукцыю і канфіскавалі яе. Пасля трох гадзін

затрымання магілёўскія каардынатары назірання былі адпушчаны з позвамі з'явіцца ў РУУС Ленінскага раёна пазней.

28 жніўня падчас транспарціроўкі накладу партыйнага бюлетэня «Крыніца» з інфармацыяй пра байкот выбараў быў затрыманы адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі. Пры абтэлефанаванні мінскіх РАУСаў высветлілася, што ён знаходзіцца ў Фрунзенскім аддзяленні міліцыі, дзе на яго быў складзены пратакол з абвінавачаннем у «дробным хуліганстве». Суд Фрунзенскага раёна Мінска вынес пастанову аб арышце Дзяніса Садоўскага на 10 сутак, суддзя — Марыя Ляшкевіч.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

26 ліпеня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска разглядалася адміністрацыйная справа журналіста «Еўрапейскага радыё» Віталя Ругайна, затрыманага 25 ліпеня і абвінавачанага ў брыдкаслоўі. Суддзя — Таццяна Ткачова. Віталь Ругайн быў вызвалены ў зале суда, аднак справа не закрыта, а накіравана на дапрацоўку — міліцыянты маюць пяць дзён, каб знайсці доказы вінаватасці В. Ругайна. Любая спроба трапіць у кабінет суддзі спынялася супрацоўнікамі міліцыі. Журналісты налічылі 7 міліцыянтаў, якія такім чынам удзельнічалі ў працэсе. Падчас разгляду справы былі апытаны трое сведкаў-міліцыянтаў, якія затрымлівалі Віталя Ругайна. Затрыманне журналіста адбылося позна ўвечары 25 ліпеня на вуліцы Гарадскі Вал. Затрыманне праводзіла група міліцыянтаў у цывільным, і пасля складання пратакола журналіст быў дастаўлены ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў. У гэты дзень Віталю споўнілася 25 гадоў. Затрыманне Віталя Ругайна расцэньваецца як своеасаблівая помста міліцыі за рэпартаж з метро, падчас якога журналісты «Еўрарадыё» прайшліся па станцыях з вялікай валізай, і на іх ахова метро не звярнула ўвагі. Па вяртанні Ругайна з Літвы 24 ліпеня на памежным пераходзе Гудагай яго знялі з цягніка і правялі поўны мытны дагляд. У Віталя забралі пашпарт, ноўтбук, але пасля ўсё вярнулі і яго адпусцілі.

9 жніўня ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў журналістак Юліі Дарашкевіч і Ірыны Козлік. Ірына Козлік — журналістка «Камсамольскай праўды ў Беларусі», а Юлія Дарашкевіч — незалежны фатограф. Іх затрымалі надвячоркам 8 жніўня каля Палаца мастацтваў, калі яны здымаліся для віртуальнага «постару» з мядзведзікамі-парашутыстамі ў межах акцыі салідарнасці з арыштаваным фатографам Антонам Сурапіным. Журналістак абвінавацілі

ў «незаконным пікетаванні» (23.34 КаАП). У пратаколе затрымання Дарашкевіч і Козлік напісана: «пікетаванне шляхам фатаграфавання». Суддзя Дзмітрый Паўлючэнка прызнаў журналістак вінаватымі і прыняў рашэнні аб накладанні на кожную з іх штрафаў памерам 30 базавых велічынь.

10 жніўня журналістка Таццяна Белашова была выклікана ў Мінскую гарадскую пракуратуру ў сувязі з праверкай дзейнасці тэлеканала «Белсат». Пракурор Дзмітрый Пастаялка прыгадаў Белашовай яе затрыманне ў Парку Горкага ў Мінску 1 чэрвеня падчас падрыхтоўкі відэасюжэта. Паводле пракуратуры, здымкі, зробленыя Таццянай, выйшлі ў эфір «Белсата». У сувязі з гэтым Таццяне было вынесена папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння Закона «Аб сродках масавай інфармацыі», у прыватнасці, працы без акрэдытацыі на карысць польскага тэлеканала. Папярэджанне было ўручана журналістцы за подпісам намесніка пракурора г. Мінска Казіміра Кежуна.

11 жніўня аператар Вячаслаў Пяшко і журналістка Ганна Аземша здымалі, як рэдактар недзяржаўнай газеты «Прэфект-інфо» Дзмітрый Лупач распаўсюджвае сваё выданне ў грамадскім месцы. Журналістамі зацікавіўся нарад міліцыі. У пастарунку ў Пяшко і Аземшы перапісалі асабістыя дадзеныя і адпусцілі, а Лупача пратрымалі даўжэй — дапытваліся, ці зарэгістраваная газета, хто яе выдае, з якімі мэтамі. У выніку рэдактара таксама адпусцілі, але запатрабавалі перадаць па факсе дакументальнае пацверджанне легальнасці газеты.



13 жніўня незалежнага журналіста Кастуся Шыталя выклікалі ў Глыбоцкую раённую пракуратуру, каб атрымаць тлумачэнні наконт артыкула «Яраслаў Берніковіч прапанаваў дапамогу прыхільнікам байкоту», змешчанага пад ягоным прозвішчам на рэгіянальным сайце http://westki.info. Пракурор Анатоль Сеўрукоў прыгразіў Кастусю Шыталю адміністрацыйнай адказнасцю, калі падобныя публікацыі будуць з'яўляцца на «Вестках». Між тым, журналіст лічыць, што ён не парушыў заканадаўства: байкот у Беларусі не забаронены, і артыкул на незалежным сайце наўрад ці можна расцэньваць як заклік да байкоту.

14 жніўня журналіст Генадзь Барбарыч быў выкліканы ў пракуратуру г. Мінска ў сувязі з праверкай, што праводзілася ў сувязі з ягонай працай на «Радыё Рацыя» пасля ператрусу ў офісе радыёстанцыі 2 траўня. Пракурор Дзмітрый Пастаялка назваў журналіста сталым супрацоўнікам «Рацыі» і паведаміў, што праслухаў многія яго матэрыя-

лы ў эфіры радыёстанцыі і камп’ютарах, забраных падчасператрусу. Напрыканцы размовы пракурор вынес журналісту «Радыё Рацыя» афіцыйнае папярэджанне аб забароне працаваць без акрэдытацыі на замежныя сродкі масавай інфармацыі. Папярэджанне было падпісана намеснікам пракурора г.Мінска Казімірам Кежуном. У Беларусі журналісты «Радыё Рацыя» вымушаны працаваць нелегальна, бо Міністэрства замежных спраў неаднаразова адмаўляла радыёстанцыі ў афіцыйнай акрэдытацыі.

19 жніўня была выключана са спісу невыязных старшыня грамадскага аб’яднання «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Жанна Літвіна. Пра гэта сказана ў атрыманым Ж. Літвіной з Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС паведамленні. Прычынай унясення Ж. Літвіной у спіс невыязных чыноўнікі дэпартамента назвалі камп'ютарны збой, які нібыта адбыўся ў іх з 24 лютага па 10 сакавіка 2012 года. Літвіна лічыць гэтую прычыну надуманай і звязвае яе з канкрэтным рашэннем афіцыйнага Мінска.

20 жніўня журналістку Алену Сцяпанаву выклікалі ў Віцебскую абласную пракуратуру, каб узяць тлумачэнні адносна працы без акрэдытацыі на замежныя СМІ. Вынікам гаворкі з пракурорам аддзела па нагляду за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў П.М. Зайцавым стала афіцыйнае папярэджанне за подпісам ужо іншага чалавека — намесніка пракурора Віцебскай вобласці старэйшага дарадцы юстыцыі Г.А. Каранько. Журналістку папярэдзілі за тое, што на працягу гэтага года яна нібыта ажыццяўляла падрыхтоўку аўдыё- і відэаматэрыялаў, а таксама інтэрв'ювала людзей для рэпартажаў, якія «размяшчаліся ад імя замежнага СМІ (чэшскай рэдакцыі «Радыё Свабодная Еўропа — Радыё Свабода»). Разам з тым, чэшская рэдакцыя «Радыё Свабодная Еўропа — Радыё Свабода» перастала існаваць яшчэ ў 2002 годзе. П.М. Зайцаў адзначыў, што з'яўленне прозвішча журналісткі на любых інтэрнэт-сайтах «непажаданае», і што гэтыя факты таксама могуць быць інтэрпрэтаваны як супрацоўніцтва на замежныя СМІ без акрэдытацыі.

23 жніўня журналіста Міхаіла Янчука выклікалі ў Дэпартамент па грамадзянству і міграцыі МУС і ўручылі даведку-выпіску, што ў яго «адсутнічаюць абмежаванні для выезду за мяжу». Дакумент датаваны 23 жніўня, пад ім стаіць подпіс старэйшага інспектара па асаблівых даручэннях Людмілы Маскалёвай. У black-лісце памежнай службы з журналістаў на канец жніўня працягвалі заставацца Андрэй Дынько і Аляксандр Атрошчанкаў.

23 жніўня Аршанскі гарадскі аддзел Следчага камітэта РБ узбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да журналіста Мікалая Петрушэнкі за «знявагу прадстаўніка ўлады». Падставай стаў артыкул сп-ра Петрушэнкі «Педафіл атрымліваў прэміі за лепшыя дзіцячыя пляцоўкі», размешчаны 8 жніўня на сайце nash-dom.info. Публікацыя размешчана ў раздзеле «Блогі». Паводле пастановы за подпісам старэйшага следчага С. Шчарбянка, аўтар артыкула «указвае», што намеснік старшыні аршанскага гарвыканкама падазраецца ў спрыянні дзейнасці педафіла. Тым самым Петрушэнка «публічная зняважыў» чыноўніка «як прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў», — гаворыцца ў пастанове. Сабраныя матэрыялы ўтрымліваюць дастатковыя дадзеныя, што ўказваюць на прыкметы злачынства паводле арт. 369, лічыць следчы. У звязку з гэтым ён пастанаўляе ўзбудзіць справу ў дачыненні да Петрушэнкі і прыняць яе да вытворчасці.

## Абмежаванне свабоды сходаў



9 ліпеня брэсцкія ўлады адмовілі актывістам БХД у правядзенні двух шэсцяў: 10 ліпеня — у падтрымку палітычнага зняволенага Паўла Севярынца, і 14 ліпеня — пад лозунгам «Свабоду палітвязням!». Падставай для забароны ў адказе з гарвыканкама пазначана тое, што акцыі планавалася правесці побач з будынкамі, дзе знаходзяцца расійскае і польскае консульствы ў Брэсце, а гэта «супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь».

24 ліпеня трое актывістаў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» атрымалі з Мінгарвыканкама адмовы на правядзенне пікетаў за байкот выбараў. Сябру Нацрады БХД Іне Лойцы, якая замаўляла правядзенне пікетаў 28 і 30 ліпеня па праспекце Незалежнасці 50, адмовілі з прычыны блізкасці станцыі метро. Актывіст Іван Саладухін падаваў заяўку на правядзенне пікетаў 28 ліпеня таксама на праспекце Незалежнасці, 50 і 30 ліпеня на вуліцы Сурганава, 50. У першым выпадку яму адмовілі з прычыны блізкасці метро, у другім — паводле артыкула 9 Закона «Аб масавых мерапрыемствах» без указання канкрэтнай прычыны. Сябру Нацрады Алесю Шамякіну адмовілі ў правядзенні пікетаў на плошчы Якуба Коласа 28 ліпеня і 29 ліпеня на вуліцы Веры Харужай, 8. 23 ліпеня адмоўны адказ атрымала кіраўнік Маладых хрысціянскіх дэмакратаў Марына Хоміч, якая замаўляла пікеты на 28 ліпеня па праспекце Незалежнасці, 21 і на 31 ліпеня па вуліцы Жылуновіча, 4. 21 ліпеня адмову на правядзенне двух пікетаў атрымала актывістка БХД Надзея Іюльская, яка планавала правесці

мерапрыемствы 28 ліпеня на плошчы Якуба Коласа і 30 ліпеня на вуліцы Жылуновіча. Усе адмовы былі падпісаны намеснікам старшыні Мінгарвыканкама Ігарам Карпенкам.

27 ліпеня Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне правоў баранавіцкіх актывістаў Сяргея Гоўшы, Віктара Сырыцы і Віктара Мезяка на свабоду выказвання меркаванняў і сходаў. Скарга актывістаў датычыла забароны на правядзенне мітынгу «За свабодную, незалежную і квітнеючую Беларусь» 10 верасня 2006 года. 4 верасня 2006 года баранавіцкі гарвыканкам адмовіў актывістам у правядзенні мітынгу на той падставе, што сустрэча на аналагічную тэму ўжо адбылася ў памяшканні гарадскога выканаўчага камітэта 15 сакавіка 2006 года. Гэтая забарона была абскарджана ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы, а потым у судовай калегіі па грамадзянскіх справах Брэсцкага абласнога суда. Аднак скаргі актывістаў былі адхілены. Такім чынам, актывістамі былі вычарпаныя ўсе наяўныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны ў спробе ажыццявіць свае права на мірныя сходы, гарантаванае артыкулам 35 Канстытуцыі. «Камітэт па правах чалавека, дзейнічаючы ў адпаведнасці з пунктам 4 артыкула 5 Факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, лічыць, што прадстаўленыя яму факты сведчаць аб парушэнні Беларуссю артыкула 19 і артыкула 21 Пакта», гаворыцца ў Меркаваннях, прынятых Камітэтам ААН па правах чалавека. «Камітэт адзначае, што дзяржава-удзельніца не здолела прадэманстраваць, нягледзячы на тое, што ёй была дадзена магчымасць зрабіць гэта, чаму абмежаванні права аўтараў на свабоду выказвання меркаванняў і сходаў, нават калі яны заснаваныя на законе і муніцыпальным рашэнні, былі неабходныя для адной з законных мэтаў артыкула 19, пункта 3, і артыкула 21, пункта 2 Пакта. Адпаведна, Камітэт прыйшоў да заключэння, што прадстаўленыя факты сведчаць аб парушэнні дзяржавай-удзельніцай правоў аўтараў у адпаведнасці з артыкулам 19 і артыкулам 21 Пакта». Акрамя таго, Камітэт адзначыў, што «дзяржава-удзельніца абавязана прадаставіць аўтарам эфектыўны сродак прававой абароны, уключаючы пакрыццё панесеных імі судовых выдаткаў і кампенсацыю. Дзяржава-удзельніца таксама абавязана прыняць захады па недапушчэнні аналагічных парушэнняў у будучыні. У сувязі з гэтым дзяржаве-удзельніцы варта перагледзець свае заканадаўства, у прыватнасці Закон «Аб масавых мерапрыемствах», і яго прымяненне ў мэтах забеспячэння яго адпаведнасці патрабаванням артыкула 19 і артыкула 21 Пакта».

У канцы ліпеня-пачатку жніўня па ўсёй краіне былі забаронены акцыі салідарнасці са зняволеным кіраўніком Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесем Бяляцкім і ўсімі беларускімі палітвязнямі. Адмовы ў правядзенні мірных масавых мерапрыемстваў атрымалі праваабаронцы і грамадскія актывісты з Гродна, Смаргоні, Бабруйска, Брэста, Віцебска, Баранавічаў, Мазыра, Барысава, Оршы, Жодзіна, Бярозы, Маладзечна. Усе далейшыя абскарджанні адмоваў у судах не мелі станоўчага выніку.

Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў праваабаронцам Віктару Сазонаву і Уладзіміру Хільмановічу ў правядзенні 4 жніўня пікета. На першую заяву аб правядзенні пікета чыноўнікі далі незразумелы адказ. Пасля гэтага Сазонаў з Хільмановічам накіравалі ў гарвыканкам яшчэ адзін ліст — з просьбай растлумачыць сітуацыю, пасля чаго чыноўнікі даслалі пісьмовы адказ за подпісам намесніцы старшыні гарвыканкама Алены Агей, у якім правядзенне пікета на тэрыторыі Каложскага парку адназначна не дазваляецца. Фармальнай падставай для адмовы названае незаключэнне дамоваў з адпаведнымі службамі для забеспячэння грамадскага парадку.

Старшыня Смаргонскага райвыканкама Мечыслаў Гой не дазволіў пікет, мэтай якога было выказаць пратэст супраць зняволення Алеся Бяляцкага; заклікаць усе структуры грамадзянскай супольнасці Беларусі да салідарнасці і падтрымкі праваабарончых арганізацый і праваабаронцаў, грамадзян, у тым ліку і кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, якія былі незаконна асуджаныя падчас падзеяў 19 снежня 2010 года, а таксама ўсіх, хто сутыкаецца зараз з пераследам за свае перакананні і палітычныя погляды; патрабаваць вызвалення ўсіх палітычных зняволеных Беларусі. Пікет мусіў адбыцца 4 жніўня. Прычынай адмовы ўказаны той факт, што заяўнік пікета Алесь Дзергачоў напісаў у заяве, што прымае на сябе забеспячэнне грамадскага парадку і бяспекі падчас мерапрыемства. Імкненне заяўніка прыняць гэтыя захады на сябе старшыня Смаргонскага райвыканкама палічыў не адпавядаючым пастанове Савета Міністраў ад 5 сакавіка 2012 г. №207, паводле якой функцыя аховы грамадскага парадку падчас масавых мерапрыемстваў ускладаецца на праваахоўныя органы.

Бабруйскі актывіст Сяржук Лацінскі атрымаў адмову на правядзенне пікета ў падтрымку палітвязняў за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Маркачова. У афіцыйна паперы сказана, што ў Законе «Аб масавых мерапрыемствах» адсутнічае вызначэнне «пікет», што «не дазваляе дакладна вызначыць, якое масавае мерапрыемства плануецца правесці». «Таксама ў заяве не пазначана пэўнае месца, дзе Вы збіраецеся праводзіць масавае мерапрыемства», — напісаў

чыноўнік. У адказе Маркачова ёсць і папярэджанне аб адказнасці, якая прадугледжана «за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў». Сяржук Лацінскі спецыяльна не ўказваў канкрэтнае месца для правядзення пікета, пазначыўшы «месца, вызначанае гарвыканкамам».

Брэсцкія ўлады адказалі адмовай у правядзенні пікета 4 жніўня праваабаронцу Уладзіміру Вялічкіну. У адказе, які падпісаў намеснік старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вячаслаў Хафізаў, паведамляецца, што 4 жніўня ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, дзе праваабаронца замаўляў пікет, адбудуцца мерапрыемствы, прысвечаныя дню дэсантніка і сіл спецыяльнага прызначэння. Другая прычына адмовы ў правядзенні пікета — адсутнасць дамоў з адпаведнымі службамі, якія павінны абслугоўваць мерапрыемства. Але, на думку заяўніка, яму не спатрэбяцца ні аўтамабіль для вывазу смецця, ні машына хуткай дапамогі, ні міліцыя, бо ўдзельнікаў заяўленага пікета ўсяго толькі два.

У Віцебску сваё рашэнне пра забарону акцыі 4 жніўня намеснік кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска Віктар Галанаў абгрунтаваў тым, што заяўнікі не заключылі дамоваў на абслугоўванне мерапрыемства з аддзелам унутраных спраў, гарадской цэнтральнай паліклінікай і прадпрыемствам «Віцебская жыллёва-камунальная гаспадарка». Гэта стандартная адмова чыноўніка, якая грунтуецца на рашэнні № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску», прынятым гарвыканкамам у 2009 годзе. Аддзелы МУС, паліклініка і хуткая дапамога, а таксама камунальнікі адмаўляюцца заключаць дамовы, патрабуючы найперш дазволаў ад улады. Таму заяўнікі вымушаныя хадзіць па «зачараваным коле», і з часу прыняцця гарвыканкамам гэтага рашэння мясцовыя ўлады не далі дазволу ні на адну акцыю па замове дэмакратычных актывістаў.

У Баранавічах актывісты Сяргей Гоўша, Віктар Сырыца і Віктар Мезяк 28 ліпеня атрымалі ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета 4 жніўня. Гарвыканкам лічыць, што заяўнікі парушылі арт. 6 Закона «Аб масавых мерапрыемствах» і пункт 4 рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы» (у рэдакцыі рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. № 2497). Праўда, якую канкрэтна норму закона парушылі заяўнікі, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў адмовіўся называць як пісьмова, так і ў вуснай форме.

У Мазыры 26 ліпеня праваабаронца Уладзімір Целяпун атрымаў адмоўныя адказы з райвыканкама і райсавета Мазыра на свае заявы

аб правядзенні вулічнага шэсця ў цэнтры горада. Мерапрыемства было запланавана на 4 жніўня з мэтай распаўсюду ўлётак з інфармацыяй пра Алеся Бяляцкага і патрабаваннем спыніць крымінальны пераслед праваабаронцы. Лісты-адказы, якія атрымаў Уладзімір Целяпун, падпісаны намеснікам старшыні Мазырскага райвыканкама Феліксам Галюком і старшынёй раённага Савета дэпутатаў Сяргеем Гвоздзем. Па сваім змесце яны аднолькавыя. Адмаўляюць Уладзіміру Целяпуну ў правядзенні заяўленага мерапрыемства па прычыне неадпаведнасці патрабаванням артыкула 2 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» , у якім гаворыцца, што «вулічнае шэсце — арганізаваны масавы рух групы грамадзян па пешаходнай ці праезжай частцы вуліцы (дарогі), бульвара, праспекта, плошчы ў мэтах прыцягнення ўвагі да якіх-небудзь праблемаў або публічнага выказвання сваіх грамадска-палітычных настрояў або пратэсту. А ў заяве ўказана колькасць удзельнікаў вулічнага шэсця — адзін чалавек, што не адпавядае вызначэнню «вулічнае шэсце», дадзенаму ў Законе» — чытаем у лісце, падпісаным Сяргеем Гвоздзем, старшынёй раённага Савета дэпутатаў.

Барысаўскі райвыканкам забараніў праваабаронцам праводзіць пікет «Свабоду Алесю Бяляцкаму!», які планавалася арганізаваць 4 жніўня каля аднаго з буйных гарадскіх універмагаў. З заяўкай на правядзенне пікета ў мясцовы райвыканкам звярталіся праваабаронцы Марына Статкевіч і Алег Мацкевіч. Паралельна яны звярнуліся ў Барысаўскае РУУС, цэнтральную раённую бальніцу і камунальныя службы з просьбай заключыць дамовы на забеспячэнне падчас пікета правапарадку, медабслугоўвання і ўборкі тэрыторыі. З усіх трох службаў прыйшлі аднолькавыя адказы: «У сувязі з невыкананнем Вамі патрабаванняў арт. 5 Закона РБ ад 30 снежня 1997 г. «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» у рэдакцыі Закона РБ ад 7 жніўня 2003 г. Заключыць з Вамі дамову не маем магчымасці». Такая ж прычына забароны на правядзенне пікета значыцца ў адказе з Барысаўскага райвыканкама.

Аршанскі гарвыканкам адмовіў семярым актывістам праваабарончых арганізацый і палітычных партый у правядзенні пікета ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Фармальнай падставай для адмовы стала адсутнасць дамоў з ГАУС на ахову мерапрыемства, з бальніцай на медыцынскае абслугоўванне і спецаўтабазай на ўборку тэрыторыі. Вышэйназваныя службы такія дамовы заключаць не хочуць, а выканкам у сваю чаргу выкарыстоўвае гэта як падставу для адмовы.

Жодзінскія гарадскія ўлады забаранілі пікет, заяўлены на 4 жніўня праваабаронцамі з мэтаю патрабавання вызвалення ўсіх палітвязняў,

а таксама вядомага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. 24 ліпеня на адрас Аляксея Лапіцкага прыйшоў ліст з Жодзінскага выканкама, у якім заяўнікам адмоўлена ў пікетаванні за подпісам першага намесніка старшыні выканкама па ідэалогіі Юрыя Шарага. Юры Шары перакананы, што замоўлены пікет колькасцю ўдзельнікаў у 1-2 чалавекі нельга дазволіць з прычыны таго, што «забеспячэнне грамадскага парадку і бяспекі, а таксама медыцынскага абслугоўвання ўдзельнікаў пікетавання ў час правядзення масавага мерапрыемства павінны ажыццяўляцца органамі ўнутраных спраў і ўстановай аховы здароўя насельніцтва».

Праваабаронцы з Бярозы Сяржук Русецкі і Тамара Шчапёткіна, а таксама сябра Партыі БНФ Анатоль Сахаруша атрымалі адмову з райвыканкама на правядзенне пікета 4 жніўня ў падтрымку старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага і іншых палітвязняў у цэнтры горада. Адмова падпісана намеснікам старшыні выканкама Яўгенам Тарасюком. У адмове выканкам спаслаўся на сваё рашэнне ад 9 лютага 2010 года № 138 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у Бярозаўскім раёне». Па словах Яўгена Тарасюка, акцыя планавалася не ў вызначаным месцы. Акрамя таго, да заяўкі на пікет не былі далучаны копіі дамоў з міліцыяй, камунальнікамі і медыкамі на абслугоўванне пікета. Улады абышлі ўвагай тое, што арганізатары акцыі бралі на сябе забеспячэнне парадку і абслугоўвання.

Маладзечанскія праваабаронцы атрымалі адмову райвыканкама на заяўку аб пікеце. У правядзенні пікета — пратэсту супраць зняволення Алеся Бяляцкага і іншых палітычных вязняў — ім адмовілі з-за таго, што ў гэты дзень на заяўленым месцы, Цэнтральнай плошчы горада, будзе арганізаваны пракат дзіцячых аўтамабіляў і катанне дзяцей на паравозіку. Акрамя таго, старшыня райвыканкама Фёдар Дамаценка ў сваім адказе нагадаў, што Алесь Бяляцкі прызнаны судом вінаватым і асуджаны па крымінальнай справе, а «выказванне публічнага пратэсту ў форме пікетавання ў дадзеным выпадку не прадугледжана заканадаўствам»

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Верасень 2012 года

Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў верасні заставалася стабільна кепскай. У той жа час адбыліся важныя змены ў сітуацыі з палітзняволенымі — выйшлі на волю двое палітычных вязняў: віцебскі актывіст Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Сяргей Каваленка і актывіст анархісцкага руху Павел Сырамалотаў (26 і 27 верасня адпаведна). Абодва палітвязні звярталіся да А. Лукашэнкі з прашэннем аб памілаванні яшчэ ў канцы чэрвеня 2012 года, але рашэнне аб іх вызваленні было прынята толькі праз тры месяцы. Пра асабісты кантроль А. Лукашэнкі над справамі палітычных вязняў сведчаць ягоныя выказванні 23 верасня падчас галасавання на выбарчым участку, дзе ён заявіў: «Калі не памыляюся, два чалавекі звярнуліся месяц назад, — сказаў А. Лукашэнка, пры гэтым не назваўшы, пра каго з асуджаных ідзе гаворка. — Скажу шчыра, не ведаю, не ў курсе справы. Калі звароты паступілі, дакументы знаходзяцца ў камісіі па памілаванні. Мы вас праінфармуем». У прэс-службе Лукашэнкі ўдакладнілі, што размова ішла пра Сяргей Каваленку і Паўла Сырамалотава, якія літаральна праз некалькі дзён былі вызвалены.

Вызваленне С. Каваленкі і П. Сырамалотава многія эксперты звязалі з шэрагам прычын геапалітычнага кшталту. Па-першае, гэта можа азначаць спробу беларускіх уладаў вяртання да стратэгіі «геапалітычных арэляў» — лавіравання паміж Захадам і Расіяй. Гэтая неабходнасць была прадыктавана напружаннем, якое ўзнікла паміж Беларуссю і Расіяй у жніўні-верасні ў сувязі з прэтэнзіямі расійскага боку адносна экспарту ў еўрапейскія краіны пад выглядам раствараальніка беларускага бензіну, выробленага з расійскай нафты. У гэтай сітуацыі абвастрылася неабходнасць наладжвання стасункаў з Еўропай, якая перадумовай для кантактаў па-ранейшаму вылучае патрабаванне вызвалення палітвязняў, і беларускія ўлады вымушаны былі пайсці на частковую саступку — вызваленне двух з іх. Другой прычынай рашэння аб вызваленні палітвязняў называецца жаданне «згладзіць» негатыўныя ацэнкі, дадзеныя назіральніцкай місіяй БДІПЧ-АБСЕ парламенцкім выбарам і непрызнаннем іх вынікаў еўрапейскай супольнасцю. Яшчэ адна прычына можа палягаць у апасенні пашырэння візавых і эканамічных санкцый Еўрасаюза ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў і бізнэсменаў,

9

якія фінансуюць рэжым, на паседжанні Савета міністраў ЕС, запланаваным на 15 кастрычніка ў Люксембургу. Важным аргументам заставалася паслядоўнае патрабаванне еўрапейскіх структур вызваліць палітвязняў. Так, 10 верасня прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц падкрэсліў, што найбліжэйшым крокам беларускіх уладаў павінна быць неадкладнае і безумоўнае вызваленне палітычных зняволеных: «Далейшае ўтрыманне пад вартай Алеся Бяляцкага, Мікалая Статкевіча, Паўла Севярынца, Сяргея Каваленкі, Дзмітрыя Дашкевіча і іншых палітзняволеных з'яўляецца непрымальным. Мы не забыліся!»

Вельмі важная і сімвалічная падтрымка беларускім палітвязням была аказаная з боку каталіцкай царквы — прадстаўнік Папы Рымскага ў Мінску, апостальскі нунцый Клаўдзіа Гуджэроцці ў канцы верасня ў месцах зняволення наведаў А. Бяляцкага, М. Статкевіча, Д. Дашкевіча, П. Севярынца, С. Каваленку, П. Сырамалотава і Э. Лобава. Клаўдзіа Гуджэроцці сустрэўся з палітычнымі зняволенымі «на знак павагі да ўніверсальнага маральнага аўтарытэту Святога Айца і гуманітарных высілкаў Святога Пасаду ў межах двухбаковых дыпламатычных стасункаў». Родныя палітвязняў выказалі вялікую ўдзячнасць Папу Рымскаму Бенедзікту XVI і апостальскаму нунцыю за ўвагу да палітвязняў і прасілі садзейнічаць іх хутчэйшаму вызваленню.

Вызваленне палітычных зняволеных вітала Высокая прадстаўніца ЕС у пытаннях знешняй палітыкі і палітыкі бяспекі Кэтрын Эштан: «Высокі прадстаўнік спадзяецца, што цяпер будуць зроблены і наступныя крокі ды заклікае беларускія ўлады вызваліць ўсіх палітычных зняволеных і зняць усе абмежаванні на ажыццяўленне іх грамадзянскіх і палітычных правоў». 28 верасня амбасада ЗША ў Беларусі распаўсюдзіла заяву з нагоды вызвалення палітвязняў, дзе адзначалася: «Мы заклікаем урад Беларусі да неадкладнага і безумоўнага вызвалення астатніх палітычных зняволеных і поўнага аднаўлення іх грамадзянскіх і палітычных правоў».

Гэтая пазіцыя ЕС і ЗША супадае з патрабаваннем беларускіх праваабаронцаў аб неадкладным і безумоўным вызваленні беларускіх астатніх палітычных вязняў — Алеся Бяляцкага, Мікалая Статкевіча, Мікалая Аўтуховіча, Паўла Севярынца, Дзмітрыя Дашкевіча, Эдуарда Лобава, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Аляксандра Францкевіча, Васіля Парфянкова, а таксама судовага перагляду справаў Яўгена Васьковіча і Арцёма Пракапенкі, якія па-ранейшаму знаходзяцца за кратамі. Вялікую заклапочанасць выклікае тое, што абсалютная большасць з іх прызнаныя «злоснымі парушальнікамі рэжыму ўтрымання», на іх аказваецца

бесперапынны ціск з боку адміністрацый, выкарыстоўваюцца пагрозы і здзекі, а ў дачыненні да Дзмітрыя Дашкевіча — катаванні і моцнае псіхалагічнае ўздзеянне.

На працягу верасня не спынялася практыка адвольных затрыманняў і адміністрацыйных пакаранняў у адносінах да актывістаў грамадскіх арганізацыяў і рухаў, палітычных партый, ціску і пераследу падвяргаліся журналісты незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Зафіксавана значнае абмежаванне свабоды выказвання меркавання, асабліва гэта праявілася ў дачыненні да ўдзельнікаў выбарчай кампаніі і прыхільнікаў байкоту парламенцкіх выбараў. З моцнымі абмежаваннямі і забаронамі сутыкаліся актывісты, якія імкнуліся выказаць альтэрнатыўныя меркаванні шляхам правядзення публічных масавых мерапрыемстваў. Працягвалася практыка ціску на праваабаронцаў і пераследу праваабарончых арганізацый.

Важнай падзеяй стала персанальнае прызначэнне 28 верасня Саветам па правах чалавека ААН спецдакладчыка па Беларусі. Згодна з рашэннем, прынятым на 21-ай сесіі СПЧ, ім стаў Міклаш Харашці, які раней узначальваў місіі АБСЕ па назіранні за выбарамі ў розных краінах, а таксама займаў пасаду прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ, мае вопыт працы з правамі чалавека і грамадзянскай супольнасцю. Гэтае прызначэнне было накіравана на выкананне Рэзалюцыі Савета па правах чалавека ААН ад 5 ліпеня 2012 г., згодна з якой быў уведзены дадзены мандат, і ў межах якога спецдакладчык зможа весці пастаянны дыялог з беларускім бокам па пытаннях становішча ў галіне правоў чалавека ў краіне. Нягледзячы на тое, што беларускі афіцыйны бок адразу заявіў аб непрызнанні мандата спецдакладчыка, грамадзянская супольнасць выказала гатоўнасць да цеснага дыялогу з ім па пытаннях стану і шляхоў паляпшэння рэалізацыі і абароны правоў чалавека ў краіне.

9

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

У ноч з 3 на 4 верасня зняволенага лідара «Маладога Фронту» Дзмітрыя Дашкевіча з Глыбоцкай калоніі этапавалі ў Віцебскі следчы ізалятар, дзе яго размясцілі ў адзіночнай камеры і ўсталявалі кругласутачнае назіранне. 12 верасня да палітвязня не дапусцілі адваката. Адміністрацыя следчага ізалятара спаслалася на тое, што яшчэ не атрымала пастанову суда пра ўступленне ў сілу прысуду Д. Дашкевічу, а таксама на тое, што ад Дашкевіча няма заявы на сустрэчу з адвакатам. Ад-

нак сябры сцвярджалі, што зняволены яшчэ ў Глыбоцкай калоніі напісаў заяву пра спатканне з адвакатам у Віцебскім СІЗА, таму адразу выказалі заклапочанасць, што адміністрацыя СІЗА нешта імкнецца схаваць пра вязня. 19 верасня адвакат зноў не змог сустрэцца з падабаронным, бо адміністрацыя СІЗА заявіла, што Д. Дашкевіч ужо накіраваны ў калонію. На наступны дзень стала вядома, што Дзмітрый Дашкевіч этапаваны ў калонію № 20 у Мазыры, дзе ў адносінах да вязня адразу пачаліся абразы, ціск і пераслед з боку адміністрацыі, у выніку якіх Дзмітрый 21 верасня абвясціў галадоўку і быў змешчаны ў карцар. Д. Дашкевіч быў затрыманы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 18 снежня 2010 года і абвінавачаны нібыта ў злосным хуліганстве, за што асуджаны да двух гадоў зняволення. 28 жніўня па новай крымінальнай справе па абвінавачанні ў «непадпарадкаванні адміністрацыі папраўчай установы» (ч. 1, арт. 411 КК РБ) і пакараны яшчэ адным годам пазбаўлення волі.

8 верасня экс-кандыдату ў прэзідэнты Мікалаю Статкевічу, які ўтрымліваецца ў Магілёўскай турме, каля ўваходу ў турму яго аднадумцы зладзілі феерверк, прымеркаваны да Дня беларускай вайсковай славы. Жонка палітыка Марына Адамовіч паведаміла: «Ён зразумеў, у чый гонар гэта было. І ў турме зразумелі. Зняволеныя, відаць, адсочваюць сітуацыю, бо зноў крычалі для Мікалая “Жыве Беларусь!”». 29 верасня Мікалай Статкевіч патэлефанаваў родным. Ён пацвердзіў, што на днях у турме яго наведаў апостальскі нунцый арцыбіскуп Клаўдзіа Гуджэроцці. Сустрэча праходзіла ў прысутнасці намесніка начальніка Дэпартамента выканання пакаранняў (ДВП) Сяргея Працэнкі. Мікалай Статкевіч перадаў, што ў размове з высокім госцем пацвердзіў сваю пазіцыю, якую выклаў яшчэ ў апошнім слове ў судзе — нельга прапаноўваць уладам грошы за вызваленне палітвязняў, інакш будуць новыя закладнікі.

10 верасня пасля працяглых адмоваў пад рознымі надуманымі прычынамі была дазволена сустрэча Яўгена Васьковіча, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай калоніі №4, з адвакатам. У выніку стала вядома, што Яўген Васьковіч адседзеў у карцары 30 дзён — тры разы па дзесяць дзён з 2 жніўня да 1 верасня. Першы раз ён патрапіў у карцар за тое, што спаў удзень, два другія — за непадпарадкаванне супрацоўнікам калоніі. Пасля карцару палітвязень выглядаў схуднелым і змораным. Яўген паведаміў таксама, што апошнія паўгады атрымлівае лісты толькі ад маці і бабулі. 14 жніўня з Яўгенам Васьковічам сустрэўся праваабаронца Віктар Сідарэнка. Падставай для сустрэчы, якую арганізавала Упраўленне юстыцыі, сталі скаргі на парушэнне правоў арыштаванага

актывіста ў пытаннях перапіскі з сваякамі і паплечнікамі. У верасні Яўген Васьковіч адмовіўся ад дапамогі адваката.

17 верасня стала вядома, што палітвязня Мікалая Дзядка, які ўтрымліваецца ў калоніі №17 у Шклове, пазбавілі ўсіх спатканняў, званкоў і перадач. Бацька палітвязня Аляксандр Дзядок распавёў, што Мікалай працягвае знаходзіцца ў адзіночнай камеры, яму на 5 дзён працягнулі штрафны тэрмін. На яго ціснуць супрацоўнікі адміністрацыі, правакуючы на парушэнні, прымушаючы займацца працай, якая ў турэмным асяроддзі лічыцца зневажальнай. Ён да гэтага часу пазбаўлены перадач, спатканняў і званкоў, з ім родным можна падтрымліваць сувязь толькі праз лісты. У вязня праблемы са страўнікам і органамі стрававання, ён звяртаўся за медыцынскай дапамогай, якую яму не аказалі.

21 верасня з ліста зняволенага старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага ягонаму намесніку Валянціну Стэфановічу стала вядома, што палітвязень атрымаў рашэнне Вярхоўнага Суда па наглядной скарзе на прысуд, вынесены яму судом Першамайскага раёна Мінска 24 лістапада 2011 года. У лісце з Бабруйскай калоніі Алесь Бяляцкі напісаў, што «скарга ў Вярхоўным судзе разгледжаная з праверкай крымінальнай справы… Довады асуджанага аб незаконнасці і неабгрунтаванасці адбыўшыхся судовых рашэнняў пры вывучэнні справы не пацвердзіліся… Прызначанае Бяляцкаму А. В. пакаранне адпавядае ўчыненаму асобе асуджанага і з’яўляецца справядлівым… Падстаў для задавальнення скаргі асуджанага і вынясення пратэсту на судовае рашэнне па справе не маецца». Адказ, які атрымаў праваабаронца, падпісаны намеснікам старшыні Вярхоўнага Суда  Валерыем Калінковічам. 25 верасня Алесь Бяляцкі адзначыў сваё 50-годдзе ў зняволенні. 27 верасня з'явілася інфармацыя, што адміністрацыя Бабруйскай папраўчай калоніі №2 змясціла А. Бяляцкага ў штрафны ізалятар (ШІЗА). 1 кастрычніка, падчас наведвання А. Бяляцкага адвакатам, гэтая інфармацыя не пацвердзілася. Пазней з ліста праваабаронцы стала вядома, што ад ШІЗА яго выратаваў візіт папскага нунцыя арцыбіскупа Клаўдзіа Гуджэроцці. А. Бяляцкі напісаў, што 20-га верасня яму было вынесена чарговае, ужо шостае, спагнанне, папярэдняе вынеслі 13-га верасня. 19-га верасня быў складзены акт аб парушэнні ўнутранага рэжыму, 20-га яго даставілі ў клініку на прадмет даследавання стану здароўя, што звычайна робіцца перад тым, як асуджанага караюць суткамі ў ШІЗА. Але пасля абеду ўсё скончылася «па-за чарговым дзяжурствам». «Прыезд нунцыя быў поўным сюрпры-

зам, — піша Алесь Бяляцкі. — Ён перадаў блаславенне і падтрымку ад Папы і спытаўся: «Што перадаць Папу?» Я перадаў падзяку за клопат аб палітзняволеных». Пазней Валянцін Стэфановіч атрымаў яшчэ паштоўку ад Бяляцкага. У ёй праваабаронца піша, што за 7 месяцаў знаходжання ў турме мае 7 спагнанняў. Гэта азначае, што яшчэ адно спагнанне вынеслі ўжо пасля 20-га верасня. Старшыня ПЦ «Вясна» па-ранейшаму застаецца ў статусе «злосных парушальнікаў рэжыму». Былы зняволены Бабруйскай калоніі паведаміў іншаму палітвязню Паўлу Севярынцу, што на Бяляцкага адміністрацыя калоніі чыніць моцны ціск, да яго нават цяжка наблізіцца. Тых, хто да яго падыходзіць і размаўляе, пасля «вылоўліваюць» і асобна размаўляюць з імі ў атрадзе. На яго самога ціснуць, чапляюцца па кожнай драбязе. Ён адзначыў, што ўсе разумеюць, што Алесь стаіць за праўду, але вымушаны яго абыходзіць, бо будзе дрэнна і яму, і ім.

21 верасня стала вядома, што расследаванне па крымінальнай справе супраць журналіста, карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута працягнута да 21 кастрычніка. Справа была ўзбуджана Следчым камітэтам па Гродненскай вобласці згодна з матэрыяламі праверкі, праведзенай абласным упраўленнем КДБ, у чэрвені 2012 па ч. 2 арт. 367 КК («паклёп у дачыненні да прэзідэнта»). «З матэрыялаў праверкі вынікае, што ў шэрагу публікацый, падрыхтаваных Пачобутам і распаўсюджаных з дапамогай інтэрнэт-рэсурсаў, утрымліваюцца паклёпніцкія выказванні ў дачыненні да прэзідэнта РБ», — сказана ў паведамленні Следчага камітэта. Нагадаем, што 21 чэрвеня ў кватэры А. Пачобута ў Гродне быў праведзеныператрус і канфіскаваны камп’ютары, сам журналіст да 30 чэрвеня ўтрымліваўся ў гарадзенскім СІЗА, пасля чаго быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Пачобут адмовіўся супрацоўнічаць са следствам.

24 верасня палітвязень Ігар Аліневіч сустрэў за кратамі 29-ты Дзень нараджэння. На 26 верасня ў яго была прызначана кароткатэрміновая сустрэча з роднымі, аднак яна не адбылася. Маці Ігара Валянціна Аліневіч паведаміла, што калі яна прыехала ў калонію №10 у Наваполацку, дзе адбывае пакаранне Ігар, на месцы ёй паведамілі, што адменена і сустрэча, і прадуктовая перадача. Прычын гэтага рашэння не было названа. Харчовых перадач і сустрэч з роднымі Ігар Аліневіч пазбаўлены цягам апошніх шасці месяцаў.

26 верасня каля 20 гадзін з Магілёўскай калоніі быў вызвалены палітвязень, актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка і на цягніку

супрацоўнікамі адміністрацыі адпраўлены да Віцебска. У канцы чэрвеня Каваленка напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Пасля вызвалення С. Каваленка растлумачыў карэспандэнту «НН» прычыны звароту да кіраўніка дзяржавы: «У мяне сям'я. Мне ўсё казалі, вось напішаш, будзеш з імі радавацца жыццю. Восем дзён у ШІЗА прасілі, каб раскаяўся, прызнаў віну. А потым сказалі, каб напісаў проста: прашу мяне вызваліць. Ноч думаў, вырашыў, калі я прасіў суддзяў, пракурораў мяне вызваліць, то чаму не магу ў Лукашэнкі. Ён жа такі самы чыноўнік. Трэба вам паперка — бярыце паперку. Ні ў чым я не раскайваўся».

27 верасня пасля абеду выйшаў на волю з Магілёўскай калоніі палітвязень Павел Сырамалотаў. Яго ў Магілёве пасадзілі на дызель, і каля 18 гадзіны ён прыехаў дамоў у Бабруйск. У інтэрв'ю Радыё Свабода ён распавёў, што 25 верасня яго з Сяргеем Каваленкам выклікаў у свой кабінет начальнік атрада і сказаў, што ў гэты дзень іх вызваляць. Вязняў завялі ў рэжымны аддзел, абшукалі, сказалі, што ў хуткім часе прыйдзе арыгінал неабходнага дакумента, але адбылася затрымка, і Каваленку адправілі 26 верасня, а самога Паўла прыкладна а 13-й гадзіне вывелі з зоны, давезлі да чыгуначнага вакзала, пачакалі, калі прыйдзе цягнік, купілі квіток і адправілі. П. Сырамалотаў распавёў, што прашэнне аб памілаванні напісаў ягоны адвакат 25 чэрвеня па прапанове адміністрацыі, але гэта рашэнне было прынята ўласна ім.



## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання

На пачатку верасня былі падведзены вынікі ўнікальнай кампаніі, праведзенай у Віцебскай вобласці на працягу ліпеня-жніўня праваабаронцам Паўлам Левінавым, які наведаў абласную і 25 раённых пракуратур, каб пазнаёміць пракурорскіх работнікаў з заўвагамі Камітэта супраць катаванняў ААН. Падчас гэтых гутарак высветлілася, што большасць пракурораў нават не чулі аб далучэнні Беларусі да Канвенцыі супраць катаванняў і жорсткага, бесчалавечнага ці прыніжаючага абыходжання і пакарання. У дзве рэгіянальныя пракуратуры, дзе сустрэчы правесці не ўдалося, праваабаронца накіраваў для азнаямлення даклад няўрадавых арганізацый і выніковыя заўвагі Камітэта супраць катаванняў ААН у дачыненні Рэспублікі Беларусь. «Пракурор Гарадоцкага раёна, з якім сустрэча не адбылася, вярнуў мне гэтыя матэрыялы — яны яго не зацікавілі. Пракурор Віцебскага раёна выслухаў мяне моўчкі, дыялогу ў нас не атрымалася, толькі мой маналог. Пракурор Лёзненскага раёна сказаў, што імкнецца пазбягаць праблем з катаваннямі і жорсткім

абыходжаннем. Таму «даў устаноўку» супрацоўнікам міліцыі, каб не дапускалі нічога падобнага. Аднак, за выключэннем супрацоўніцы Сенненскай  пракуратуры, якая ведала і пра Канвенцыю, і пра існаванне Камітэта супраць катаванняў,  бальшыня пракурораў шчыра не разумела, пра што я ім кажу», — распавёў Павел Левінаў. Праваабаронца адзначыў, што ні абласная, ні рэгіянальныя пракуратуры ні разу не звярнуліся ў суд, каб абараніць правы грамадзян. Павел Левінаў атрымаў 14 пісьмовых адказаў пасля сваіх візітаў, і амаль у кожным напісана, што «у прадастаўленай інфармацыі нічога не гаворыцца пра парушэнні правоў грамадзян». Павел Левінаў падкрэслівае, што ягонай мэтай было нагадаць пра абавязак пракуратуры сачыць за  тым, ці не парушаюцца грамадзянскія правы.

13 верасня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў скаргу Валянціна Стэфановіча. Зварот праваабаронцы датычыўся парушэння арт.7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. В. Стэфановіч скардзіўся на ўмовы ўтрымання ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна ў Мінску, куды яго змясцілі ў 2010 годзе пасля акцыі, накіраванай супраць смяротнага пакарання. У траўні 2010 года суд Маскоўскага раёна адмовіў у разглядзе скаргі Валянціна Стэфановіча, якая датычылася дрэнных умоў утрымання ў ЦІП ГУУС Мінгарвыканкама. Мінскі гарадскі суд у задавольненні касацыйнай скаргі таксама адмовіў, пасля чаго праваабаронца звярнуўся ў Камітэт па правах чалавека ААН. Паводле арт. 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ніхто не павінен падвяргацца катаванням або жорсткім, бесчалавечым або зневажаючым годнасць абыходжанню і пакаранню. Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў прызначаны для ўтрымання асоб, якія здзейснілі розныя правапарушэнні або чакаюць суда. Умовы ўтрымання ў ім не адпавядаюць базавым санітарна-гігіенічным нормам.

28 верасня, пасля сустрэчы з адвакатам, сталі вядомыя прычыны галадоўкі пратэсту, абвешчанай палітвязнем Дзмітрыем Дашкевічам у Мазырскай калоніі. Пратэст стаў адказам на дзеянні адміністрацыі калоніі, у прыватнасці, яе начальніка Юрыя Багданавіча Збароўскага. Паплечнікі вязня з «Маладога Фронту» паведамілі, што пры першай сустрэчы Д. Дашкевіча з начальнікам калоніі той пацікавіўся, якую веру спавядае зняволены. Пачуўшы «пратэстант», ён пачаў абражаць рэлігійныя пачуцці Дашкевіча наступнымі выказваннямі: «Эти ваши секты насаждаются Западом, чтобы разрушить славянскую расу!», «Это вы славянскую расу разрушаете!». Калі Дзмірый адмовіўся прыбіраць

каранцін (атрад, дзе па прыбыцці ў калонію першыя тыдні знаходзяцца вязні), была сабраная камісія з 7 чалавек, і начальнік калоніі Юрый Багданавіч Збароўскі пачаў на яго крычаць: «Так ты будзешь тут качать права, баптист, дважды кодированный алкоголик, гомосек? Ты — кучка говна, а не премьер-министр Франции. Посмотрите, тупая заточка какая у него? Да он же дебил!» З такою камісіяй Дашкевіч размаўляць адмовіўся. У гэты дзень яго пазбавілі ўсіх доўгатэрміновых спатканняў і далі вымову. Пазней у барак, куды толькі-толькі завялі Дашкевіча і дзе жыве каля сарака чалавек, прыйшоў рэжымны супрацоўнік і знайшоў на стале лязо. Адразу звярнуўшыся да Дашкевіча, ён спытаў: «Што, ускрыцца вырашыў?» Павялі да начальніка рэжымнага аддзела. «Пиши, где взял!» — загадвае ён. «Ды не маё», — адказвае Дашкевіч. «Было найдено у тебя в личных вещах! Да что ты думаешь про себя? Ты же алкаш, ниже плинтуса, кучка говна, ты здоровье своё оставишь здесь в ШИЗО, ты меня понял? Я тебе обещаю!» Зміцер замест гэтай заявы перадаў яму заяву пра тое, што ён распачынае галадоўку. Начальнік рэжымнага аддзела яе змяў і выкінуў, але пры гэтым сказаў: «Я тебя посажу к блатным, там тебя оттрахают, понял? Пиши объяснения, я тебе сказал!» — «Я табе пісаць нічога не буду», — кажа Зміцер. «Что? Что ты сказал? Да я сейчас рапорт напишу о недолжном обращении ко мне!» — «Па тым, як ты мне тут "тыкаеш" я падумаў, што мы ўжо фактычна сябры». Прыйшоўшы назад у каранцін, Дашкевіч распавёў кіраўніку каранціну: «Гэта дэбілізм у кубе пасля Горак». У гэты час у памяшканні прысутнічаў нейкі маёр, які, падслухаўшы размову, дадзеную рэпліку распісаў у чарговым рапарце — «мат, абраза адміністрацыі», і, як вынік, раніцаю новая камісія. Пазбавілі ўсіх кароткатэрміновых спатканняў. Дашкевіч глядзеў на гэта ўсё і маўчаў… Але начальніку гэтая рэакцыя была недаспадобы: «Так ты молчишь, провоцируешь?! Поставить тебя на профучёт у психолага?» Псіхолаг паддакнула: «Да-да, ещё надо как и суицидника поставить на учёт, он же лезвие прятал!» Пасля гэтых і многіх іншых інцыдэнтаў Д. Дашкевіч адмовіўся выконваць любыя загады, яго накіравалі зноў на камісію, дзе далі новы тэрмін ШІЗА. У выніку Дашкевіч абвесціў галадоўку з намерам трымаць яе да таго часу, пакуль да яго не зменіцца стаўленне.

28 верасня праваабаронцамі з установы «Платформа» было накіравана тэрміновае паведамленне спецдакладчыку ААН па пытаннях катаванняў Хуану Мендэсу ў сувязі з жорсткім абыходжаннем у дачыненні да Дзмітрыя Дашкевіча. У паведамленні адзначана, што пасля пераводу палітвязня ў ВК-20 г. Мазыра ён быў падвергнуты жорсткаму абыходжанню з боку адміністрацыі калоніі. За некалькі дзён знаходжання ў калоніі па розных падставах ён быў пазбаўлены

кароткатэрміновых і працяглых спатканняў, харчовых пасылак і перадач, штодня яго выклікаюць на камісію, якая складаецца з кіраўнікоў калоніі, дзе ён падвяргаецца: абразам у грубай форме з боку супрацоўнікаў калоніі (дэбіл, алкаголік, гамасек, купка лайна); пагрозам зрабіць з яго хворага, які пакутуе псіхічнымі захворваннямі, з прымусовым лячэннем; пагрозам змясціць яго ў спецыялізаванае памяшканне ў ШІЗА (штрафны ізалятар), дзе пад пагрозамі начальніка рэжымнага аддзела ён будзе падвергнуты сэксуальнаму гвалту з боку іншых зняволеных; пагрозам фізічнага знішчэння ў ВК-20 г. Мазыра.

## Смяротнае пакаранне

26 верасня на штогадовай нарадзе АБСЕ па правах чалавека ў Варшаве Бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) прадставіла даведачны дакумент аб смяротным пакаранні ў рэгіёне АБСЕ за бягучы перыяд 2012 года. У справаздачы гаворыцца, што колькасць дзяржаў-удзельніц АБСЕ, якія цалкам адмянілі смяротнае пакаранне, дасягнула 51 з 56, у трох дзяржавах-удзельніцах — Казахстане, Расійскай Федэрацыі і Таджыкістане — смяротнае пакаранне захоўваецца па законе, але на прывядзенне прысудаў у выкананне дзейнічаюць мараторыі. Беларусь і Злучаныя Штаты застаюцца адзінымі краінамі ў рэгіёне АБСЕ, дзе смяротныя прысуды па-ранейшаму прыводзяцца ў выкананне.

28 верасня маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва падала наглядную скаргу ў Вярхоўны суд. Любоў Кавалёва патрабуе адмены прысуду, паводле якога Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава прызналі вінаватымі ў здзяйсненні тэракту ў мінскім метро 11 красавіка 2011 года. «У скарзе пералічваюцца парушэнні, з якімі вялося следства і судовы працэс, і я лічу неабходным, каб адбыўся новы, справядлівы разгляд гэтай справы. Я разумею, што пасля смяротнага пакарання можна толькі адстаяць чэснае імя сына. Але памятаю і пра тое, што неабходна знайсці сапраўдных вінаватых арганізатараў выбуху», — адзначыла Любоў Кавалёва. У скарзе аб'ёмам больш як 50 старонак пералічваюцца парушэнні Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, хадайніцтвы, якія адхіліў суд, парушэнні права на абарону, калі адваката не пускалі ў СІЗА, парушэнне права на абскарджванне прысуду, калі Кавалёву не дазволілі сустрэцца з адвакатам напярэдадні выканання смяротнага пакарання. Да скаргі дададзена шмат фота- і відэаматэрыялаў, стоп-кадры відэазапісаў. Узгадваюцца факты парушэння парадку выняцця відэа з камер назірання метро.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

3 верасня ў Гаспадарчым судзе Мінска адбылося папярэдняе паседжанне па пытанні ліквідацыі інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа». Падставай для працэсу стала заява з боку інспекцыі па падатках і зборах Савецкага раёна. Суддзя — Алег Клюйко. Кіраўніка арганізацыі Андрэя Бандарэнку сёлета ў ліпені і жніўні супрацоўнікі міліцыі двойчы даставілялі ў падатковую інспекцыю, нягледзячы на тое, што сустрэчы «Платформы» з падатковым інспектарам былі загадзя ўзгоднены праваабаронцамі. У жніўні арганізацыя павінна была аплаціць штраф за тое, што не апавясціла падатковы орган пра змену месца свайго знаходжання. Праваабаронцы адзначылі, што засталося незразумелым, якім чынам праходзіла ўстанаўленне факта незнаходжання «Платформы» па юрыдычным адрасе, калі арганізацыя па ім знаходзіцца. У ліпені «Платформа» была прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці за нібыта несвоечасовую падачу справаздачы па падатку на прыбытак. Аднак яшчэ ў сакавіку арганізацыя прадаставіла ўсе справаздачы і чамусьці толькі ў ліпені падатковы інспектар выявіла недахоп адной са справаздач. У абодвух выпадках «Платформу» абавязалі аплаціць штраф на агульную суму ў 4 мільёны рублёў. Прадстаўнік падатковай інспекцыі ў судзе заявіў, што ўстанова «Платформа» «неаднаразова і груба» парушала заканадаўства: несвоечасова падавала падатковыя дэкларацыі, не знаходзілася па ўказаным юрыдычным адрасе, у сувязі з чым на яе накладаліся штрафныя санкцыі. Са свайго боку дырэктар «Платформы» Андрэй Бандарэнка заявіў, што падатковыя дэкларацыі падаваліся своечасова, аднак у падатковай інспекцыі яны «губляліся». Акрамя таго, адзначыў ён, установу ўжо каралі штрафам за дадзенае парушэнне, а значыць, прыцягваць да адказнасці паўторна не павінны. Што ж тычыцца прэтэнзій у сувязі з юрыдычным адрасам, то, як сцвярджае Бандарэнка, «Платформа» па ўказаным адрасе знаходзілася. Дырэктар папрасіў суд выклікаць сведак, якія б змаглі гэта пацвердзіць. 6 верасня падчас судовага разгляду суддзя Алег Клюйко папрасіў падатковую інспекцыю падаць дамовы арэнды памяшканняў «Платформай» у 2011—2012 гадах і адклаў разгляд іску да 9 кастрычніка.

21 верасня да кампаніі ціску на сябра Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна» і прэзідэнта Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні Тацьяны Рэвякі далучыліся падатковыя органы. Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах РБ па Першамайскім раёне г. Мінска запатрабавала ад праваабаронцы прадстаўлення дэкларацый пра даходы і маёмасць за сем гадоў — з 2004 па 2010 гады. Патрабаванне падпісана намеснікам



9

начальніка падатковай інспекцыі Першамайскага раёна Васілём Іванавічам Малашэнкам. Гэтым захадам падаткавікоў папярэднічаў усплеск цікавасці да праваабаронцы з боку органаў дзяржаўнай бяспекі: 17 жніўня Таццяну Рэвяка выклікалі на гутарку ў КДБ, а паралельна спецслужбы выклікалі на размовы ўдзельнікаў Летніх школаў па правах чалавека, якія ладзяцца ў Беларускім Доме правоў чалавека ў Вільні, і цікавіліся пераважна тым, хто забяспечвае арганізацыйны і матэрыяльны бок іх знаходжання на школах. Такія выпадкі мелі месца не толькі ў Мінску, але і ў рэгіёнах. Т. Рэвяка раней дапытвалася ў якасці сведкі па справе старшыні ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага ў Дэпартаменце фінансавых расследванняў і давала паказанні падчас працэсу ў судзе Першамайскага раёна Мінска, дзе пацвердзіла, што атрымлівала ад Алеся Бяляцкага пэўную частку грашовых сродкаў, якія прызначаліся для ажыццяўлення праваабарончай дзейнасці. Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў асудзіла новы выпадак пераследу Таццяны Рэвяка, які быў расцэнены як частка агульнай кампаніі пераследу сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна», скіраванай на ўчыненне перашкод іхняй законнай праваабарончай дзейнасці.

27 верасня падатковая інспекцыя Савецкага раёна Гомеля запатрабавала ад гомельскага праваабаронцы Леаніда Судаленкі дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці за апошнія пяць гадоў. Таксама дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці мусяць прадаставіць ягоная жонка і сын, які зараз служыць у войску. На думку Леаніда Судаленкі, патрабаванне носіць палітычны характар і звязана з ягонай праваабарончай дзейнасцю. Толькі за час парламенцкай выбарчай каманіі Л. Судаленка аказаў вялікую дапамогу тым кандыдатам, якіх не зарэгістравалі: падрыхтаваў ад іх імя звыш 23 скаргаў. Таксама ён падрыхтаваў шмат скаргаў, у тым ліку і ў суд, на этапе агітацыі, калі кандыдатам ад АГП газеты адмаўлялі друкаваць іх перадвыбарчыя праграмы. Апошні раз ад Леаніда Судаленкі і ягонай сям'і патрабавалі дэкларацыю аб прыбытках за пяць гадоў падчас мінулай парламенцкай кампаніі ў 2008 годзе.

30 верасня на беларуска-украінскай мяжы мытнікі правялі асабісты дагляд грамадскіх актывістаў Сержука Семенюка і Ірыны Смяян-Семянюк, якія ўдзельнічаюць у праваабарончых праграмах. Сям'я вярталася з Украіны, дзе на выходных наведвала сваякоў. Каля паўгадзіны іх проста трымалі, потым супрацоўнік мытні Пётр Хамутовіч са словамі «мы ж не ведаем, дзе вы раз'язджаеце» паведаміў, што іх аўтамабіль будзе падвергнуты дагляду. Але дагледзелі не толькі аўтамабіль, але і

ўсе асабістыя рэчы Ірыны і Сержука, склаўшы акты дагляду. Нічога забароненага мытнікі не знайшлі.

Уначы з 30 верасня на 1 кастрычніка сябра Праваабарончага цэнтра «Вясна» Дзмітрыя Салаўёва больш за пяць гадзін правяралі на беларуска-польскай мяжы. Праваабаронца вяртаўся з Польшчы праз памежны пераход «Пясчатка». Апоўначы пад'ехаў на беларускі бок, дзе мытнікі і памежнікі, а таксама два супрацоўнікі ў грамадзянскім дэталёва пачалі правяраць ягоныя рэчы і аўтамабіль, дзеля чаго аўтамабіль загналі на бокс, заглядвалі ва ўсе аддзелы, пад капот, дагледзелі нават днішча. У самім аўто цікавасць мытнікаў выклікаў плакат з выявай Алеся Бяляцкага, дыскі на тэму смяротнага пакарання і дапаможнік для назіральнікаў за выбарамі. Акт дагляду і вымання не складалі, прычыны такога доўгага затрымання Д. Салаўёву не тлумачылі.

## Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

3 верасня бабруйская актывістка Галіна Смірнова была выклікана позвай у мясцовае аддзяленне КДБ. Размова з прадстаўніком спецслужбаў Паўлам Сілковым цягнулася каля дзвюх з паловай гадзін і тычылася маўклівых акцый і Народнага сходу ў 2011 годзе, а таксама вывешвання бел-чырвона-белых сцягоў у Бабруйску. Узгадаў супрацоўнік КДБ і запальванне свечак на Дзяды. Павел Сілкоў папярэдзіў, што дзеянні актывісткі могуць давесці да крымінальнай адказнасці. На пытанні, якія тычыліся асабістага жыцця ці сям'і, Г. Смірнова адмовілася адказваць. П. Сілкоў даў азнаёміцца актывістцы з паперай, сэнс якой — папярэдзіць аб адказнасці па артыкуле 342 Крымінальнага кодэкса — «арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, ці актыўны ўдзел у іх».



## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 верасня (нядзеля) у Смаргоні адзначаліся чарговыя ўгодкі з дня нараджэння кіраўніка Смаргонска-Вілейскага незалежніцкага падполля Расціслава Лапіцкага. Мясцовы мастак Валянцін Варанішча і актывіст Уладзімір Шульжыцкі разам з сябрамі суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў Генадзем Драздовым, Алесем Цыркуновым і Алесем Пушкіным наведалі праваслаўны храм, дзе асвяцілі чатыры партрэты Лапіцкага, створаныя Пушкіным. Затым карціны былі выстаўлены

ў гарадскім парку, пасля чаго — мастакі панеслі іх у дом Валянціна Варанішчы. Падчас гэтага шляху ўдзельнікі мастацкай акцыі былі затрыманы супрацоўнікамі мясцовага РУУС, на іх былі складзеныя пратаколы па абвінавачанні ва ўдзеле ў «несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве» (арт. 23.34 КаАП РБ). 3 верасня суд Смаргонскага раёна аштрафаваў Алеся Цыркунова на 10 базавых велічынь, астатнія затрыманыя запатрабавалі адвакатаў, суддзя прыняла рашэнне перанесці судовыя працэсы. 10 верасня суддзя Людміла Пятрова аштрафавала Генадзя Драздова на 30 базавых велічынь, мастак Валянцін Варанішча быў пакараны штрафам у памеры 10 базавых велічынь, актывіст Уладзімір Шульжыцкі — штрафам у 30 базавых велічынь. 24 верасня Алесь Пушкін, які быў прызнаны арганізатарам шэсця, атрымаў пакаранне ў выглядзе 10 сутак адміністрацыйнага арышту; таксама яго прызналі вінаватым у непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Рашэнне прыняла суддзя Людміла Пятрова.

4 верасня ў 14.20 каля гандлёвага цэнтра «Крыніца» ў Магілёве быў затрыманы кандыдат у дэпутаты ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і актывіст кампаніі «Гавары праўду» Леанід Падбярэцкі. Нагодай да затрымання стала тое, што агітацыйны пікет быў несанкцыяваны. Міліцыянты запатрабавалі праехаць Леаніду Падбярэцкаму для разбіральніцтва ў Ленінскі РАУС. Там яго пратрымалі каля гадзіны, пасля чаго адпусцілі і выпісалі позву для далейшага разбіральніцтва на 18.00 гэтага ж дня. Пасля разбіральніцтва яго адпусцілі і адміністрацыйная справа за парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў была спыненая міліцыяй у сувязі з тым, што складанне пратакола на кандыдата ў дэпутаты з гэтай нагоды непадуладна ім. Матэрыялы справы былі перададзены ў адміністрацыю Ленінскага раёна, якая мае права ўзбудзіць адміністрацыйную справу ў адпаведнасці з артыкулам 9.10 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за парушэнне выбарчага заканадаўства.

5 верасня актывіст з Брэста Андрэй Шарэнда атрымаў папярэджанне ад пракуратуры. Як высветлілася, надзорны орган улічыў акалічнасці, якія нібыта сведчаць, што грамадскі актывіст парушыў патрабаванні Закона «Аб масавых мерапрыемствах», калі браў удзел у акцыі 19 снежня 2010 года ў Мінску. У дакуменце аб вынясенні афіцыйнага папярэджання «аб недапушчальнасці паўторнага здзяйснення правапарушэння», гаворыцца пра тое, што Шарэнда ў дзень прэзідэнцкіх выбараў «прымаў актыўны ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, які суправаджаўся грубым парушэннем грамадскага парадку, непадпарад-

каваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, які прывёў да парушэння працы транспарту».

5 верасня каля 13.30 у кватэру да актывіста моладзевага крыла кампаніі «Гавары праўду» — «Zмена» Ягора Віняцкага прыйшлі супрацоўнікі міліцыі. У вынікуператрусу ў моладзевага актывіста была канфіскавана друкаваная прадукцыя, а сам ён дастаўлены для правядзення апытання ў Першамайскі РУУС г. Мінска. Я. Віняцкі — даверанная асоба кандыдата ў дэпутаты Арцёма Лявы, на акрузе якога была абвешчана кампанія «Байкот -101».

5 верасня каля станцыі метро «Купалаўская» ў Мінску пасля 18 гадзін вечара супрацоўнікамі АМАПу быў затрыманы актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Аляксей Цёплы. У актывіста знайшлі некалькі асобнікаў інфармацыйнага бюлетэня «Хартыя-97». А. Цёплага пасадзілі у аўтобус і адвезлі ў Цэнтральны РУУС. Актывіста абвінавацілі ў «непадпарадкаванні патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі» (арт. 23.4 КаАП РБ) і 6 верасня суддзя суда Цэнтральнага раёна Ясіновіч асудзіў яго на 5 сутак арышту.

7 верасня раніцай у Мінску на кватэры па месцы жыхарства быў затрыманы лідар моладзевага крыла «Гавары праўду» — «Zмена» Павел Вінаградаў. Яго адвезлі ў Маскоўскі РУУС, дзе склалі пратакол з абвінавачаннем у дробным хуліганстве. У гэты ж дзень у судзе Маскоўскага раёна сталіцы не было прынята рашэння па адміністрацыйнай справе П. Вінаградава, пратакол правапарушэння быў накіраваны на дапрацоўку. Аднак Паўла не вызвалілі, ён быў накіраваны ў ЦІП на Акрэсціна. 10 верасня суддзя Юрый Сезін прыгаварыў Паўла Вінаградава да пяці сутак адміністрацыйнага арышту.

7 верасня ў Мінску каля 16.30 каля пад'езда свайго дома адбылося затрыманне актывіста моладзевага крыла «Zмена» кампаніі «Гавары праўду» Аляксандра Арцыбашава. У Кастрычніцкім РУУС Мінска на яго быў складзены пратакол аб дробным хуліганстве, актывіст быў змешчаны ў ЦІП. 10 верасня сваякам Арцыбашава, якія чакалі Аляксандра ў судзе, па тэлефоне паведамілі, што суд над актывістам адбыўся, і суддзя Максім Лапко адправіў матэрыялы справы на дапрацоўку ў РУУС. Пазней высветлілася, што Аляксандра Арцыбашава пакаралі арыштам на 3 сутак і выпусцілі з залы суда, паколькі ён прабыў у ЦІП на Акрэсціна ўсе выходныя, якраз 3 сутак.

7 верасня на паседжанні адміністрацыйнай камісіі ў Слуцкім райвыканкаме мясцовага актывіста Віталя Амяльковіча прызналі вінаватым у

расклейванні налепак у горадзе і пакаралі штрафам у памеры 10 базавых велічынь. Справу разглядалі пяцёра сяброў камісіі, сярод якіх былі Юрый Скрыган, галоўны юрыст райвыканкама, і Андрэй Заяц, намеснік начальніка аддзела прафілактыкі і аховы правапарадку Слуцкага РАУС. В. Амяльковіч быў затрыманы міліцыянтам каля ўласнага дома апоўначы 14 ліпеня. Супрацоўнік Слуцкага РАУС, які не прадставіўся, паведаміў, што бачыў, як Віталь расклейваў налепкі каля крамы. У аддзяленні міліцыі ўчастковы Руслан Варабей склаў на яго пратакол апытання з грубымі парушэннямі. Нават на разглядзе справы адміністрацыйнай камісіяй Віталь не даведаўся імя міліцыянта, які яго затрымліваў. На пытанне актывіста, хто яго абвінавачвае, Андрэй Заяц адказаў: «Слуцкі РАУС».

8 верасня ў другой палове дня у Мінску былі затрыманы сёстры Алена і Людміла Паўлоўскія, калі дзяўчаты зрабілі надпіс «Жыве Беларусь!» на дошцы для абвестак на рагу Камсамольскай і Рэвалюцыйнай вуліц сталіцы. Дзяўчат даставілі ў Цэнтральны РУУС, а пасля іх адвезлі ў ЦІП на Акрэсціна. Іх абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі, 9 верасня суддзя суда Цэнтральнага раёна Наталля Вайцэховіч вынесла рашэнне аб вынясенні штрафаў у памеры 2 мільёны рублёў кожнай.

11 верасня ў Хоцімску падчас правядзення агітацыйнага пікета быў затрыманы кандыдат у дэпутаты па Крычаўскай выбарчай акрузе № 83 Валерый Каранкевіч. Пікет праводзіўся у дазволеным райвыканкамам месцы — на стадыёне гарадскога пасёлка. Дзесьці ў 12.30 пад’ехалі супрацоўнікі міліцыі, якія прымусілі пікетоўшчыкаў згарнуць акцыю. Валерый Каранкевіч быў затрыманы і дастаўлены ў Хоцімскі РАУС для дачы тлумачэнняў. Пасля напісання тлумачальнай запіскі супрацоўнікі міліцыі адпусцілі кандыдата.

11 верасня суддзя Ленінскага раёна Магілёва Аксана Ратнікава вынесла пастанову па справе адказнага за незалежнае назіранне на Магілёўшчыне ў межах кампаніі «За справядлівыя выбары 2012» Юрыя Новікава. Суддзя палічыла Юрыя Новікава вінаватым у тым, што ён займаўся распаўсюдам сродкаў масавай інфармацыі ў выглядзе імянных сшыткаў назіральнікаў, брашур для назіральнікаў і інфармацыйнага бюлетэня для назіральнікаў. Паводле яе рашэння, уся гэтая прадукцыя трапляе пад закон аб СМІ і падлягае знішчэнню. Аўтамабіль Юрыя Новікава быў спынены 23 жніўня ў 20.00 у раёне чыгуначнага вакзала супрацоўнікамі ДАІ, кіроўцу прапанавалі праехаць у Ленінскі РАУС, дзе аўтамабіль правяралі ўжо міліцыянты. У багажніку

была знойдзена друкаваная прадукцыя, якую канфіскавалі, а на Юрыя Новікава завялі адміністрацыйную справу.

12 верасня адміністрацыйная камісія Першамайскага раёна Мінска разгледзела справу актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Андрэя Молчана. Ён быў затрыманы міліцыяй на вуліцы Астрашыцкай у мінскім мікрараёне Уручча ноччу 14 ліпеня. У актывіста знайшлі налепкі. У Першамайскім РУУС у дачыненні да Молчана склалі пратаколы па артыкулах 21.14 («парушэнне правіл добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў») і 17.1 («дробнае хуліганства») КаАП. 24 ліпеня суд Першамайскага раёна Мінска прысудзіў яго да штрафу 10 базавых велічынь па артыкуле «дробнае хуліганства». 12 верасня разглядалася справа аб парушэнні другога артыкула — 21.14 КаАП. Адміністрацыйная камісія Першамайскага раёна палічыла Андрэя Молчана вінаватым і абавязала яго выплаціць штраф памерам у 5 базавых велічынь. Старшыня камісіі — А.Л. Ванкевіч.

13 верасня ў Брэсце на аўтавакзале супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Дзмітрыя Шурхая. Гэта здарылася вечарам, калі Шурхай намерваўся забраць перадачу з Мінска. Яго разам з агітацыйнымі матэрыяламі пра байкот выбараў адвезлі ў Ленінскі РАУС. Актывіст быў вызвалены ў 22 гадзіны, у яго забралі 5000 улётак для вывучэння.

15 верасня ў Гродне падчас прэзэнтацыі кнігі «Саветызацыя Заходняй Беларусі» быў затрыманы галоўны рэдактар часопіса «ARCHE» Валеры Булгакаў. Пазней Валеры Булгакаў быў вызвалены, але на яго быў складзены пратакол па адміністрацыйнай справе па абвінавачанні ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Як стала вядома, некалькі з гасцей прэзентацыі, якія аказаліся супрацоўнікамі падатковай інспекцыі, зрабілі так званую «кантрольную закупку» (падчас прэзентацыі кніжкі Яна Шумскага было рэалізавана 20 гэтых кніжак людзям, якія прыйшлі на гэтую вечарыну).

18 верасня ў раёне станцыі метро «Пушкінская» ў Мінску былі затрыманы чацвёра актывістаў «Zмены» — моладзевага крыла кампаніі «Гавары праўду», а таксама беларускія і нямецкія журналісты. Актывісты планавалі правесці акцыю па раздачы баршчу мінакам непадалёку ад універсама «Фрунзенскі». Аднак яны не паспелі нават раскласціся — супрацоўнікі міліцыі затрымалі ўсіх удзельнікаў меркаванай акцыі: Паўла Вінаградава, Ягора Віняцкага, Аляксандра Арцыбашава, Ганну Курловіч.

Сярод затрыманых былі і журналісты — Аляксандр Баразенка, Сяргей Грыц, Васіль Фядосенка, Павел Падабед, Таццяна Зянкевіч, а таксама аператар і журналіст здымачнай групы з Нямеччыны, якія планавалі асвятляць акцыю. Журналістаў адпусцілі з РУУС у той жа дзень без складання пратаколаў, а чатырох актывістаў адвезлі да суда ў ЦІП на Акрэсціна. 19 верасня іх адміністрацыйныя справы разглядаліся ў судзе Фрунзенскага раёна сталіцы. Усе яны былі абвінавачаны ў парушэнні арт. 23.34 КаАП («удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве»). Ганну Курловіч суддзя Лапо пакарала штрафам у памеры 20 б.в.; гэтая ж суддзя пакарала Ягора Віняцкага арыштам тэрмінам 7 сутак; у адносінах да Аляксандра Арцыбашава суддзя Дзмітрый Лукашэвіч вынес пастанову — 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Паўла Вінаградава судзілі адразу па 2 артыкулах: 17.1 КаАП («дробнае хуліганства» — брыдкаслоўе з прымяненнем мегафону») і 23.34 («удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве»), рашэнне суддзі Наталлі Каровінай — 5 і 7 сутак адпаведна, разам — 12 сутак адміністрацыйнага арышту.

19 верасня суддзя Кастрычніцкага райсуда Віцебска Іна Грабоўская прысудзіла 7 сутак арышту прыхільніку БХД Яўгену Гуцалаву. Малады чалавек напярэдадні адзінаасобна здзейсніў акцыю, заклікаючы байкатаваць выбары: апрануў «маску» — партрэт Аляксандра Лукашэнкі і выйшаў з плакатам «Байкот парламенцкім выбарам 2012» у цэнтр горада. Да суда адны суткі актывіст ужо адбыў у ізалятары часовага ўтрымання: Гуцалава затрымалі 18 верасня не падчас акцыі, а пазней на выбарчым участку, дзе ён быў назіральнікам, адвезлі спачатку на допыт у міліцыю, а потым змясцілі на ноч у ІЧУ.

19 верасня ў Маладзечна вечарам супрацоўнікі міліцыі затрымалі мясцовага моладзевага актывіста Ігара Ліўштанга, які вырашыў адзначыць Дзень нацыянальнай сімволікі прагулкай па горадзе з бел-чырвона-белым сцягам. Актывіст быў затрыманы каля пікета кандыдаткі Галіны Лазоўскай у гарадскім парку і дастаўлены ў аддзяленне міліцыі для разбіральніцтва. У аддзяленні на Ігара Ліўштанга быў складзены пратакол затрымання, пасля чаго яго адпусцілі дадому разам з бацькам. Аб ягоным учынку адразу паведамілі ў гімназію-каледж, дзе хлопец вучыцца.

20 верасня актывіст «Маладога Фронту» Зміцер Крэмянецкі быў затрыманы прыкладна ў 15 гадзін у Мінску і адвезены ў Цэнтральны РУУС. 21 верасня суддзя суда Цэнтральнага раёна Валеры Есьман

асудзіў актывіста адразу па 2 артыкулах: 23.4 КаАП («супраціў органам правапарадку») і 17.3 КаАП («распіццё алкагольных напояў у грамадскім месцы») арыштам на 5 сутак.

21 верасня актывіста грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Аляксея Мікуліча каля 15 гадзін затрымала міліцыя падчас распаўсюду ўлётак з заклікам да байкоту выбараў. Аляксей распаўсюджваў улёткі на тэрыторыі 101-й Фрунзенскай акругі, якая абраная для арганізацыі байкоту актывістамі руху «За свабоду», Партыі БНФ, грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», моладзевай структуры «Zмена». Супрацоўнікі міліцыі даставілі А. Мікуліча ў раённы аддзел, адкуль ён быў адпушчаны без складання пратакола.

21 верасня ўвечары ў брэсцкім мікрараёне «Кавалёва» адбылося затрыманне Паліны Шарэнда-Панасюк, Андрэя Шарэнды і Вячаслава Бароўскага, адкуль актывістаў адвезлі ў Маскоўскі РАУС Брэста, дзе канфіскавалі ўсе асобнікі ўлётак, прысвечаных байкоту парламенцкіх выбараў, а таксама некалькі дзясяткаў асобнікаў газеты «Хартыя-97». Хлопцаў вызвалілі без складання пратаколаў, а Паліну пакінулі на суткі ў ізалятары часовага ўтрымання. Актывістку абвінавацілі ў незаконным распаўсюдзе друкаванай прадукцыі і нібыта супраціве міліцыянтам. Разгляд справы павінен быў адбыцца 24 верасня, але яго перанеслі, бо матэрыялы нібыта згубіліся. 28 верасня адміністрацыйную справу ў дачыненні да Паліны Шарэнда-Панасюк суддзя Марыя Леванчук адправіла ў міліцыю на дапрацоўку. Па яе словах, «звесткі, пададзеныя ў пратаколе, не пацвярджаюцца». Акрамя таго ў судзе не было сведак-міліцыянтаў.



22 верасня ў другой палове дня ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі братоў Андрэя і Аляксея Дварэцкіх падчас расклейвання налепак за байкот. Іх адвезлі ў Партызанскі РУУС, дзе былі складзены пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні па двух артыкулах: 23.4 КаАП («непадпарадкаванне міліцыі») і арт. 21.14 КаАП («парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў»). Да суда братоў змясцілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. 24 верасня суддзя суда Партызанскага раёна Марыяна Валчкова вынесла рашэнне аб адміністрацыйным арышце Андрэя і Аляксея Дварэцкіх — па трое сутак. Пратаколы аб парушэнні правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў накіраваны на разгляд адміністрацыйнай камісіі.

23 верасня ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі старшыню Руху салідарнасці «Разам» Аляксандра Макаева. Ранкам ён кіраваўся на пахаванне магілёўскай актывісткі Крысціны Шацікавай на ўласным аўтамабілі, на якім быў прымацаваны бел-чырвона-белы сцяжок. Яго спынілі супрацоўнікі міліцыі і правялі дагляд аўтамабіля, падчас якога ў салоне знайшлі ўлёткі за байкот выбараў. Ноч А. Макаеў правёў у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. 24 верасня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска суддзя Аляксандр Якунчыхін прызнаў яго вінаватым у непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ) і асудзіў да 6 сутак арышту.

24 верасня ў Мінску былі затрыманы некалькі дзясяткаў актывістаў моладзевага праекта «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка», якія ажыццяўлялі назіранне на сталічных выбарчых участках у дзень выбараў 23 верасня. Затрымлівалі назіральнікаў амапаўцы ля гатэля «Хостэл Джаз» па вуліцы Шчадрына. Сярод затрыманых — Марыя Сляпцова, Алесь Заяц, Наста Матчанка, Алесь Герасіменка. Усе затрыманыя былі дастаўлены ў Цэнтральны РУУС сталіцы, адкуль на працягу трох гадзін былі адпушчаны пасля зняцця на відэа і праходжання дактыласкапіі. Супрацоўнікі міліцыі не далі ніякіх тлумачэнняў наконт прычыны затрымання і пратаколаў на затрыманых не складалі.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

6 верасня адбылося паседжанне адміністрацыйнай камісіі адміністрацыі Савецкага раёна Гомеля, на якім разглядаўся пратакол, складзены міліцыяй у дачыненні да Аляксандра Процкі 20 жніўня за парушэнне правіл гандлю. Сябра Руху «За свабоду» заключыў афіцыйную дамову з рэдакцыяй газеты «Новы час» на распаўсюд выдання. Газету ён прадаваў каля чыгуначнага вакзала Гомеля. Адміністрацыйная камісія прызначыла Аляксандру Процку пакаранне — 1 базавая велічыня па артыкуле 12.17 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях.

17 верасня журналісту «Новага часу» Мікіту Броўку парвалі рэдакцыйнае пасведчанне каля прэзідэнцкай адміністрацыі. Журналіст здымаў для сайта «Новага часу» вулічнае апытанне, а потым сеў на лаўку, трымаючы камеру і мікрафон на каленях. У гэты момант да яго падышоў невядомы чалавек у цывільным, які назваўся супрацоўнікам службы бяспекі. Ён паводзіў сябе агрэсіўна — дакументы паказваць адмовіўся, запытаўся, што тут здымаецца і запатрабаваў пасведчанне.

Пабачыўшы назву «Новы час», ён заявіў, што такога выдання не існуе, парваў пасведчанне і сышоў.

18 верасня побач з універсамам Фрунзенскі ў Мінску, дзе актывісты моладзевага крыла кампаніі «Гавары праўду» ладзілі перадвыбарчы пікет з сімвалічнай раздачай баршчу, былі затрыманы не толькі ўдзельнікі акцыі, але і журналісты, якія яе асвятлялі. Невядомыя затрымалі незалежнага тэлеаператара Аляксандра Баразенку, фатографаў Associated Press Сяргея Грыца, Reuters Васіля Фядосенку, EPA (Еўрапейскае прэс-фотаагенцтва) Таццяну Зяньковіч, карэспандэнта БелаПАН Паўла Падабеда, а таксама здымачную групу нямецкага тэлеканала ZDF — аператара Дзмітрыя Рудакова і прадзюсара Аляксея Акулава. Падчас затрымання невядомыя ў цывільным разбілі акуляры фотакарэспандэнту Associated Press Сяргею Грыцу, пасля чаго пачалі сілай запіхваць усіх прысутных у мікрааўтобус. Усе затрыманыя былі дастаўленыя ў РУУС Фрунзенскага раёна. Усіх журналістаў адпусцілі без складання пратаколаў. Раніцай 19 верасня фотакарэспандэнт Associated Press Сяргей Грыц наведаў Фрунзенскае РУУС і напісаў заяву пра нанясенне яму траўмы.

18 верасня ў Мінску каля 16.30 у раёне плошчы Калініна былі затрыманы незалежныя тэлежурналісты Вячаслаў Пяшко і Валянцін Міхальцоў. Яны вялі здымкі на вуліцы, калі да іх падышлі міліцыянты і пачалі затрымліваць. Вячаслава Пяшко і Валянціна Міхальцова спачатку даставілі ў апорны пункт аховы парадку на вуліцы Кузьмы Чорнага для высвятлення асобаў. Каля 19.15 журналістаў вывелі з апорнага пункта і павялі да міліцэйскай машыны — супрацоўнікі міліцыі патлумачылі, што паездка ў Першамайскае РУУС патрэбна, каб паставіць пячатку на пратаколе выняткі камеры. У РУУС у Валянціна Міхальцова ўзялі адбіткі пальцаў (адбіткі Пяшко ў базе ўжо былі) і сфатаграфавалі яго. Адпусцілі іх каля 20.15. На рукі хлопцам выдалі копію пратакола, з якога вынікае, што апаратуру забралі для праверкі на 10 дзён. Відэазапіс таксама застаўся ў міліцыі.

20 верасня стала вядома, што шэраг фотарэпарцёраў незалежных выданняў і замежных агенцтваў не атрымалі акрэдытацыю на асвятленне святкавання «Дажынак» у Горках 21—22 верасня. Магчымасці афіцыйна працаваць на свяце ўраджаю пазбавілі фотакарэспандэнта «Нашай Нівы» Сяргея Гудзіліна, Сяргея Грыца (Associated Press), Таццяну Зяньковіч (EPA), Віктара Драчова (AFP). «Гэта было патрабаванне службы бяспекі прэзідэнта», — патлумачыў журналістам прэс-сакратар

аддзела ўнутраных справаў Мінскага аблвыканкама Аляксандр Данільчанка. Працаваць на свяце змаглі толькі акрэдытаваныя пры адміністрацыі Лукашэнкі здымачныя групы і фотарэпарцёры.

21 верасня шэф-рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько атрымаў ліст з Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, у якім выказваюцца выбачэнні, што яго памылкова ўключылі ў спіс невыязных. Ліст датаваны 9 верасня. Андрэя Дынько ссадзілі з цягніка «Мінск — Вільня» 14 сакавіка. Прычыну абмежавання права на выезд памежнікі не ўдакладнілі, параіўшы звяртацца ў Аддзел грамадзянства і міграцыі МУС па месцы жыхарства. Пазней Андрэю Дынько ў Аддзеле грамадзянства і міграцыі выдалі даведку, што ён уключаны ў спіс невыязных з Беларусі нібыта за «ўхіленне ад яўкі на мерапрыемствы па прызыве». Журналіст падаваў скаргі па інстанцыях, і толькі пасля шостага ліста яго выключылі са спісу.

21 верасня Амас Робертс — прадстаўнік аўстралійскага тэлеканала SBS, які меў афіцыйную акрэдытацыю пры беларускім МЗС і працаваў тут на працягу тыдня, быў затрыманы ў аэрапорце «Мінск-2». Праблемы ўзніклі ў журналіста на мытні. У яго былі з сабой тэлекамера, камп'ютар, карткі памяці і іншыя носьбіты інфармацыі. У выніку ў журналіста забралі ўсю тэхніку і носьбіты інфармацыі.

22 верасня з’явілася інфармацыя пра адмовы ў візах двум прадстаўнікам шведскага тэлеканала «TV4» — журналісту Стэфану Боргу і аператару. Раней паведамлялася пра адмовы ў візах дзвюм нямецкім журналісткам: Гезінэ Дорнблют «Deutschlandradio» і Аннэ Гелінек (ZDF). Па звестках ГА «БАЖ», з адмовамі ў візах сутыкнуліся 6 замежных журналістаў.

22 верасня Вольга Юрэнкова, старшыня выбарчай камсіі на Сожнеўскім участку для галасавання № 33 па Крычаўскай выбачай акрузе забараніла фатаграфаваць на сваім участку падчас датэрміновага галасавання рэдактару Крычаўскай недзяржаўнай маланакладнай газеты Сяргею Няроўнаму. У першы дзень датэрміновага галасавання прэтэнзій да журналіста не было, а ў апошні спн. Юрэнкова сваё стаўленне да фатаграфавання змяніла.

23 верасня фотакарэспандэнта «КП» Дзмітрыя Ласько затрымалі на 3 гадзіны за тое, што адмовіўся выдаліць зробленыя на выбарчым участку фота. Міліцыянт (супрацоўнік крымінальнага вышуку) затрымаў

журналіста пасля таго, як той адмовіўся выдаліць зробленыя на ўчастку фотаздымкі. Дзмітрыя Ласько адпусцілі адразу ж, як толькі пытанне пра яго затрыманне прагучала на прэс-канферэнцыі ЦВК.

23 верасня, у асноўны дзень галасавання на парламенцкіх выбарах, Вольга Смірнова, старшыня ўчастковай выбарчай камісіі №752, якая месціцца ў мінскай школе №148, выдаліла журналіста «Новага часу» з памяшкання для галасавання. Мікіта Броўка вёў здымкі на выбарчым участку пасля яго закрыцця і планаваў зафіксаваць на відэа працэс падліку галасоў. Нягледзячы на тое, што журналіст ужо быў запісаны ў адпаведны журнал уліку прадстаўнікоў СМІ і паспеў бесперашкодна паздымаць на ўчастку, напрыканцы дня галасавання Вольга Смірнова не хацела пускаць яго ў памяшканне для галасавання. Тым не менш, Мікіта здолеў патрапіць на ўчастак. Але неўзабаве Вольга Смірнова патлумачыла, што дазваляе пазаштатнаму карэспандэнту прысутнічаць на ўчастку «толькі ў выглядзе выключэння, але без відэакамеры». Заўважыўшы, што журналіст усё адно вядзе здымкі, яна запатрабавала супрацоўнікаў міліцыі выдаліць Мікіту Броўку з памяшкання.

23 верасня быў затрыманы фотажурналіст «Салідарнасці» Сяргей Балай, калі рабіў фотаздымкі на пустой Кастрычніцкай плошчы. Да яго падышлі людзі ў цывільным, спыталі, чаму ён тут здымае, а потым выклікалі патрульную машыну з міліцыянтамі. Прад'яўленне рэдакцыйнага пасведчання не падзейнічала — журналіста адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна нібыта для праверкі дакументаў, дзе пратрымалі каля 2,5 гадзін. Тлумачэнняў не бралі, пратакола не складалі. Але ўсе фота, што былі на флэшцы фотаапарата, выдалілі.

23 верасня, у дзень выбараў, быў абмежаваны доступ да шэрагу Інтэрнэт-сайтаў. Праблемы з доступам узніклі як мінімум у пяці рэсурсаў. У прыватнасці, перасталі адкрывацца інфармацыйны рэсурс UDF.by (афіцыйны партнёр кампаніі «За справядлівыя выбары») і сайт аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» bchd.info. 24 верасня раніцай названыя сайты па-ранейшаму не працавалі. Каля 11-й гадзіны доступ да UDF аднавіўся. Высветлілася, што сайт быў заблакаваны менавіта з тэрыторыі Беларусі, а за мяжой і праз ананімайзеры адкрываўся. Да bchd.info па-ранейшаму не было доступу. Таксама 23 верасня знік доступ да сайта «народнага маніторынгу» за выбарамі electby.org. 24 верасня раніцай ён усё яшчэ быў недаступны. Але на яго можна было трапіць праз ананімайзеры, што сведчыць пра штучнае блакаванне рэсурсу. Не адкрываліся таксама

сайт Руху «За Свабоду» і сайт назірання за выбарамі watch.pyx.by, які быў створаны як субдамен асноўнага сайта Руху — спецыяльна для размяшчэння інфармацыі ад назіральнікаў.

28 верасня рэдактар недзяржаўных выданняў «Борисовские новости» і «Рекламный БорЖоМи» Анатоль Букас паведаміў пра працяг ціску на яго выданні. Каля 60 асобнікаў газеты «Рекламный БорЖоМи» было выдалена з прылаўкаў адной з крамаў на запатрабаванне работнікаў санэпідэмстанцыі. Па звестках А. Букаса, работнікі санслужбы выконваюць вусныя распараджэнні кіраўніцтва Барысаўскага выканкама, якое імкнецца эканамічна задушыць незалежнае выданне. Таксама стала вядома, што пракуратура Барысаўскага раёна не ўгледзела парушэнняў законнасці па скарзе А. Букаса на работнікаў УП «Жыллё», якія дэмантавалі шыльду з назвай газеты «Борисовские новости» ў жніўні гэтага года.

## Абмежаванне свабоды сходаў

29 жніўня ў Жодзінскім гарадскім судзе пад старшынствам суддзі Грынкевіча завяршылася судовае паседжанне па скарзе праваабаронцаў Аляксея Лапіцкага і Святланы Лапіцкай на рашэнне Жодзінскага выканкама па забароне заяўленага на 4 жніўня пікета ў падтрымку палітвязняў Беларусі і асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Суд вынес адмоўнае рашэнне па скарзе праваабаронцаў.

1 верасня Брэсцкі абласны суд не задаволіў скаргу старшыні абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзіміра Вуека, які спрабаваў аспрэчыць рашэнне мясцовых уладаў пра забарону пікета пад лозунгам «За справядлівыя выбары без Лукашэнкі». Падставай для забароны гэтага мерапрыемства Брэсцкім гарвыканкамам называлася тое, што ў дзень, на які быў заяўлены пікет, на стадыёне «Лакаматыў» (ён пазначаны як пляцоўка для правядзення масавых акцый у горадзе) запланавалі футбольны матч. Аднак Уладзімір Вуек перакананы, што адмова была беспадстаўная, і спартовае спаборніцтва ніяк не замінала таму, каб адбыўся пікет.

1 верасня Брэсцкі гарадскі суд падтрымаў забарону пікета салідарнасці з палітвязнямі, які меркавалася правесці 4 жніўня — у гадавіну знаходжання за кратамі кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага. Аднак Брэсцкі гарвыканкам забараніў акцыю, спаслаўшыся на тое, што заяўнікі не падпісалі дамовы з праваахоўнымі органамі,

установай аховы здароўя і камунальнымі службамі. Нязгодныя з такім рашэннем уладаў, праваабаронца Уладзімір Вялічкін, кіраўнікі абласных структураў АГП Уладзімір Вуек і БСДП (Грамада) Ігар Маслоўскі накіравалі скаргу ў суд першай інстанцыі, але той пакінуў яе без задавальнення.

1 верасня гомельскія праваабаронцы Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка атрымалі з Камітэта па правах чалавека ААН паведамленне аб тым, што іх скаргі на забарону ў абласным цэнтры пікетаў, прымеркаваных да арышту Алеся Бяляцкага, прынятыя Камітэтам да разгляду. Паводле атрыманых карэспандэнцый, скаргі праваабаронцаў зарэгістраваны і накіраваны ўраду Беларусі для выказвання афіцыйнай пазіцыі беларускага боку адносна парушэнняў правоў, пра якія гаворыцца ў скаргах. Нагадаем, што 4 жніўня 2011 года, у дзень арышту Алеся Бяляцкага, праваабаронцы звярнуліся ў Гомельскі гарвыканкам па дазвол на правядзенне ў абласным цэнтры серыі пікетаў з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці на палітычны арышт і змяшчэнне пад варту свайго калегі. Гарадскія ўлады пікеты не дазволілі. Усе суды (раённы, абласны, Вярхоўны), дзе абскардзілі гэтае рашэнне праваабаронцы, сталі на бок уладаў. У скарзе ў Камітэт па правах чалавека ААН заяўнікі звяртаюць увагу, што ў амаль 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне, згодна з рашэннем гарвыканкама, павінны яшчэ і заплаціць — міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам.

9

13 верасня Грамадзянская ініцыятыва супраць беззаконня ў судах і пракуратуры планавала правесці каля будынка ратушы на сталічнай плошчы Свабоды пікет пад лозунгамі: «Чынавенства, годзе дурыць народ і здзекавацца з яго!», «Ашуканцаў народа — да адказнасці!», «Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — надзейная абарона беззаконня ў краіне» і «Патрабуем ад чыноўнікаў выканання Канстытуцыі і законаў краіны!». Аднак заяўнікі атрымалі адмову за подпісам намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Карпенкі. «Ён лічыць, што наша заява «не адпавядае патрабаванням «артыкула 9 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», а правядзенне акцыі «будзе ствараць перашкоды руху пешаходаў каля будынка ратушы», — паведаміла лідар ініцыятывы Тамара Сяргей. Пры гэтым чыноўнік канкрэтна не ўказаў, патрабаванням якіх палажэнняў артыкула 9 Закона «Аб масавых мерапрыемствах» не адпавядае пададазеная заява.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Кастрычнік 2012 года

У кастрычніку сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі заставалася стабільна кепскай. У месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца 12 палітычных зняволеных — Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Павел Севярынец, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Аляксандр Францкевіч, Васіль Парфянкоў, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка. У дачыненні да Дзмітрыя Дашкевіча было прынята рашэнне аб узмацненні жорсткасці ўмоваў утрымання і пераводзе яго ў турму з калоніі для адбыцця пакарання да канца тэрміну. Абсалютная большасць з палітвязняў працягвалі знаходзіцца ў статусе «злосных парушальнікаў рэжыму ўтрымання», на іх аказваўся бесперапынны ціск з боку адміністрацый, яны падвяргаліся рознага кшталту абмежаванням.

Толькі зараз кіраўнік дзяржавы ўпершыню прызнаў, што ў Беларусі існуюць палітычныя зняволеныя. 16 кастрычніка, падчас прэс-канферэнцыі для расійскіх рэгіянальных журналістаў Аляксандр Лукашэнка заявіў: «У нас двое ці трое палітвязняў, якія штурмавалі і ламалі Дом урада». Такім чынам, А. Лукашэнка заняў прамежкавую пазіцыю ў прызнанні наяўнасці палітвязняў: адмаўляць, што іх няма, ён не стаў, але публічна значна зменшыў іх рэальную колькасць, падкрэсліўшы гвалтоўнасць дзеянняў, нібыта здзейсненых гэтымі асобамі.

Пытанні правоў чалавека па-ранейшаму разглядаліся беларускімі ўладамі выключна ў палітычнай плоскасці. На той жа прэс-канферэнцыі 16 кастрычніка А. Лукашэнка адзначыў: «Ёсць пытанні, якія трэба вырашаць. Гэта ад нас патрабуе Захад, у Расіі раздаюцца галасы часам і не толькі ад апазіцыі, але і ў Думе крытыкуюць Лукашэнку». Пры гэтым кіраўнік дзяржавы прызнаваў, што найбольш яго хвалюе нязменная пазіцыя Еўрапейскага Саюза, датычная магчымасці ўзнаўлення стасункаў пры выкананні прынцыповай умовы вызвалення палітвязняў. Падчас уручэння даверанных грамат ад амбасадараў замежных краін 5 кастрычніка А. Лукашэнка сказаў: «Чакаем, што Еўрасаюз адмовіцца ад бессэнсоўнага ціску на нашу краіну, распачне крокі для аднаўлення даверу да сябе як да сур'ёзнага партнёра і добрага суседа». Гэтая заява з'явілася таксама своеасаблівым пасланнем Еўрапейскаму Саюзу перад паседжаннем Рады міністраў замежных справаў краін

ЕС 15 кастрычніка ў Люксембургу, у парадку дня якога стаяла пытанне аб працягненні санкцый у адносінах да кіраўніцтва Беларусі. У выніку агучаных А. Лукашэнкам сігналаў да жадання ўзнаўлення кантактаў, стабілізацыі ўзроўню рэпрэсіяў, а таксама ўлічваючы вызваленне ў канцы верасня двух палітвязняў (С. Каваленкі і П. Сырамалотава), Еўрасаюз прыняў кампраміснае рашэнне: абмежавальныя меры ў дачыненні да афіцыйнага Мінска былі працягнуты ў ранейшым аб’ёме, але не павялічаны. Такім чынам, Еўрасаюз не пайшоў на паглыбленне палітычнага супрацьстаяння з беларускім бокам, але адначасова зафіксаваў сваю прынцыповую пазіцыю: «Улічваючы, што не ўсе палітзняволеныя былі вызвалены і ніхто з вызваленых (палітвязняў) не быў рэабілітаваны, а сітуацыя з павагай правоў чалавека, вяршэнствам закону і дэмакратычных прынцыпаў не палепшылася, Рада працягне дзеянне абмежавальных мер да 31 кастрычніка 2013 года», — адзначана ў каментары да парадку дня паседжання, апублікаваным прэсслужбай Рады ЕС. Еўрасаюз выказаў намер перыядычна пераглядаць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі ў залежнасці ад таго, як будзе развівацца сітуацыя ў краіне, а таксама «патрабаваць, каб усе палітзняволеныя былі вызваленыя і рэабілітаваныя».

Паказальным з’явіўся дыялог па правах чалавека, які адбыўся паміж беларускай дэлегацыяй з Вярхоўным камісарам ААН па правах чалавека Наванетхем Піллэй па пытанні «Заахвочванне і абарона правоў чалавека» ў рамках 67-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Прадстаўнік беларускай дэлегацыі дарадца пастаяннага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ААН Ларыса Бельская 24 кастрычніка ў сваім выступе заявіла, што наша дзяржава «у поўнай меры выконвае свае абавязацельствы ў галіне правоў чалавека». Паводле яе слоў, Беларусь гатова ўзаемадзейнічаць з праваабарончымі механізмамі ААН, уключаючы Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека на аснове «аб'ектыўнага і непрадузятага падыходу». Разам з тым, гэтае сцвярджэнне абсалютна не адпавядае рэальнаму становішчу: за апошнія 14 гадоў Беларусь не прадставіла ніводнага перыядычнага даклада згодна з Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах; ні адно з рашэнняў Камітэта па правах чалавека ў дачыненні да парушэння Беларуссю правоў сваіх грамадзян не выканана; большасць рэкамендацый, выпрацаваных Саветам па правах чалавека ААН у межах Універсальнага перыядычнага агляду, прызнаныя непрымальнымі; афіцыйны Мінск адмовіўся ад супрацоўніцтва са спецдакладчыкам Савета ААН па Беларусі Міклашам Харашці. Падчас свайго выступу прадстаўніца афіцыйнай дэлегацыі Беларусі не закранала дадзеныя праблемы і

шырокі спектр пытанняў у галіне правоў чалавека, якія вылучаюцца перад Беларуссю рознымі структурамі ААН, засяродзіўшыся выключна на поспехах у барацьбе з гандлем людзьмі.

Важнай падзеяй для разумення сутнасці адказнасці дзяржавы ў выкананні сваіх абавязацельстваў у межах міжнародных дамоваў стала прыняцце ў кастрычніку Канстытуцыйным судом Расійскай Федэрацыі рашэння аб абавязковым характары рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН: «Нягледзячы на тое, што ні Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, ні Факультатыўны пратакол да яго прама не абавязваюць дзяржавы выконваць меркаванні Камітэта па правах чалавека, гэта не вызваляе Расійскую Федэрацыю ад добрасумленнага і адказнага выканання прынятых рашэнняў. Іншае не толькі ставіла б пад сумнеў выкананне РФ добраахвотна прынятых на сябе міжнародных абавязацельстваў, але і сведчыла б аб невыкананні абавязкаў прызнаваць і гарантаваць правы і свабоды чалавека і грамадзяніна, а таксама рабіла б бессэнсоўным права кожнага звяртацца ў Камітэт па правах чалавека», — такую прававую пазіцыю выказаў КС РФ. Гэта стала су'рёзным контраргументам пазіцыі беларускага ўрада, які называе рашэнні Камітэта ААН «меркаваннем міжнародных экспертаў, якія носяць рэкамендацыйны характар» і нязменна ігнаруе свае абавязацельствы па ўзнаўленні парушаных правоў грамадзянаў.

У кастрычніку стала вядома, што Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі ў канцы верасня разаслаў некаторым «зацікаўленым дзяржаўным органам і іншым арганізацыям» ліст, у якім прапанаваў выказаць меркаванне аб неабходнасці стварэння ў Беларусі нацыянальнай установы па заахвочванні і абароне правоў чалавека, а таксама прапановы наконт найбольш прымальнай формы такой установы і асноўных пытанняў арганізацыі яе дзейнасці. НЦЗПД адзначыў, што дадзеная ініцыятыва звязана з выкананнем рэкамендацый, прынятых Рэспублікай Беларусь у межах Універсальнага перыядычнага агляду (УПА). Разам з тым, ніводнай з праваабарончых арганізацыяў, якія ўдзельнічалі ў выпрацоўцы дадзенай рэкамендацыі, выкладзенай у альтэрнатыўным дакладзе па сітуацыі з правамі чалавека пры праходжанні Рэспублікай Беларусь працэдуры УПА, і якія займаюцца маніторынгам выканання прынятых рэкамендацыяў, не было прапанавана выказаць свае прапановы па дадзеным пытанні. Гэта выклікала засцярогу, што беларускія ўлады імкнуцца правесці не сапраўднае абмеркаванне, а імітацыю грамадскай дыскусіі па важнай для ўсяго праваабарончага сектара

праблеме. 16 кастрычніка была праведзена адмысловая сустрэча прадстаўнікоў шырокага спектра праваабарончых арганізацый Беларусі, на якой было адзначана, што прапанаваны фармат абмеркавання пытання нацыянальнай установы па правах чалавека не адказвае патрабаванням паўнавартаснага ўдзелу няўрадавых арганізацый пры выкананні рэкамендацый УПА, прадугледжанага працэдурай агляду. Праваабаронцы выказалі патрабаванне пра празрысты, адкрыты і публічны працэс абмеркавання пытання з роўным уцягваннем усіх зацікаўленых бакоў, у тым ліку пазбаўленых рэгістрацыі праваабарончых арганізацый. Былі таксама вылучаны асноўныя папярэднія ўмовы дыялогу паміж дзяржаўнымі органамі і праваабарончымі арганізацыямі: вызваленне ўсіх зняволеных, асуджаных па палітычных матывах, у тым ліку, праваабаронцы Алеся Бяляцкага; спыненне ўсіх формаў ціску на праваабаронцаў і праваабарончыя арганізцыі.

## Палітычныя зняволеныя, палітычна матываваны крымінальны пераслед

4 кастрычніка адвакату палітзняволенага, члена аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Яўгена Васьковіча, які адбывае пакаранне ў турме №4 Магілёва, адмовілі ў сустрэчы з падаабаронным па прычыне змяшчэння вязня ў ШІЗА на 7 сутак. Па тым, што Я. Васьковіч павінен быў выйсці з ШІЗА праз тры дні, дата змяшчэння яго туды — 1 кастрычніка. 27 кастрычніка Я. Васьковічу дысцыплінарная камісія магілёўскай калоніі вынесла чарговае папярэджанне. Палітвязень абверг інфармацыю, якая з’явілася ў верасні, што нібыта ён адмовіўся ад паслуг адваката.

4 кастрычніка палітвязня Мікалая Дзядка, які адбывае пакаранне ў Школоўскай калоніі, наведаў адвакат, каб падрыхтаваць наглядную скаргу на імя старшыні Вярхоўнага суда па адмове ў выдачы Мікалаю чарнобыльскага пасведчання, якое дало б магчымасць прымяніць у адносінах да яго амністыю. Адвакат паведаміў, што зняволены яшчэ да 6 снежня застанецца ў памяшканні камернага тыпу — адзіночнай камеры. М. Дзядок пазбаўлены перадач, спатканняў і тэлефанаванняў дахаты, у яго абвастрыліся страўнікавыя захворванні. 20 кастрычніка Мікалай Дзядок паведаміў бацькам у лісце, што яму пасля некалькіх месяцаў нарэшце дазволілі атрымаць медыцынскую бандэроль. Ён вітаў вызваленне Сяргея Каваленкі і Паўла Сырамалотава, але адносна сябе напісаў, што падаваць прашэння аб памілаванні не будзе.

5 кастрычніка ў Мазырскай калоніі спыніў 15-дзённую галадоўку пратэсту супраць зняважлівага стаўлення адміністрацыі зняволены лідар «Маладога Фронту» Дзмітрый Дашкевіч. У гэты ж дзень вязень быў пераведзены з карцара ў памяшканне камернага тыпу на месяц. Пасля галадоўкі турэмныя лекары прызналі зняволенага схільным да суіцыду. 30 кастрычніка мазырскі суд на выязным пасяджэнні ў папраўчай калоніі № 20 Мазыра прыняў рашэнне аб узмацненні жорсткасці ўмоваў утрымання Д. Дашкевіча і пераводзе яго ў крытую турму для адбыцця пакарання да канца тэрміну (канец жніўня 2013 года). Суд доўжыўся 10 хвілін. Адвакат Дашкевіча на судзе не прысутнічаў, паколькі зняволены палічыў, што абаронца ўсё роўна не змог бы паўплываць на вынік працэсу.

8 кастрычніка былога палітвязня Сяргея Каваленку, вызваленага ў канцы верасня пасля звароту да кіраўніка дзяржавы з прашэннем аб памілаванні, выклікалі ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю Першамайскага раёна Віцебска і паведамілі пра ягоныя новыя абавязкі — адзначацца ў інспекцыі раз на тры месяцы, пакуль судзімасць не будзе «пагашана». На працягу бліжэйшых двух гадоў былы палітвязень павінны адзначацца ў той самай інспекцыі, супрацоўнікі якой ініцыявалі супраць Сяргея Каваленкі крымінальную справу за парушэнне рэжыму так званай «хатняй хіміі», якую ён атрымаў за вывешванне 7 студзеня 2010 года бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй елцы ў Віцебску.

16 кастрычніка па прапанове мэра Парыжа і па ініцыятыве Гарадской рады 11-й акругі, Рада Парыжа ўзвяла ў сан Ганаровага грамадзяніна горада Парыжа зняволенага беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага — віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна». 19 кастрычніка стала вядома, што Алесю Бяляцкаму, які адбывае пакаранне ў калоніі № 2 Бабруйска, абмежавалі магчымасць атрымання медыцынскіх бандэроляў. Жонка Бяляцкага Наталля Пінчук дасылала бандэроль дазволенай вагой у два кілаграмы, але ёй вярнулі яе, указаўшы, што бандэроль не павінна перавышаць вагу ў адзін кілаграм. Прычыну абмежавання вагі медыцынскай бандэролі ў калоніі не назвалі.



17 кастрычніка ў брытанскай штодзённай газеце The Evening Standard быў апублікаваны фрагмент інтэрв’ю Аляксандра Лукашэнкі ад 9 кастрычніка, у якім кіраўнік дзяржавы абяцае вызваліць журналістку Ірыну Халіп. Карэспандэнт пацікавіўся ў Лукашэнкі, чаму Халіп не можа выехаць, напрыклад, на лячэнне ў Маскву, і кажа, што гатовы асабіста

за яе паручыцца. У адказ на гэта Лукашэнка заявіў: «А што, яна ў нас? Я думаў, яна ў Маскве. Адпраўце сёння ж з вячэрнім канём з Жэнем (журналіст Яўген Лебедзеў) Халіп. Забірайце і наогул яе больш сюды не прывозьце. Хай едзе. Я першы раз чую, што яна не можа выехаць у Маскву падлячыцца. Я пра гэтага чалавека наогул нічога не магу гаварыць. Вы хочаце яе ў Маскву везці? Вязіце». Журналіст нагадаў, што Халіп знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, і Лукашэнка звярнуўся да кагосьці са сваіх памочнікаў з просьбай удакладніць дэталі па справе Халіп. «Удакладніце, хто наогул гэтым займаецца з міліцыі ці хто там, і мне скажаце, — гаворыць Лукашэнка. — І мы вам арганізуем. Дый не ў Халіп справа. Я ўжо прыняў рашэнне. Бачыце, дыктатура таксама добрая. Ніводны прэзідэнт адразу не прыняў бы рашэнне, а я прыняў». «Якое рашэнне?» — удакладняе Лебедзеў. На што Лукашэнка яму адказаў: «Ну, Халіп вы сёння павезяце замест жонкі дамоў ці куды там». У інтэрв'ю расійскай «Новой газете», уласным карэспандэнтам якой у Мінску працуе Халіп, сама Ірына расказала, што 15 кастрычніка яна прыйшла адзначацца ў міліцыі і пацікавілася, ці сапраўды можа паехаць у Маскву. «У міліцыі пасмяяліся і сказалі, што калі я паспрабую паехаць за мяжу, мяне адразу абвесцяць у вышук і вернуць у Мінск у наручніках, — сказала Халіп. — Лукашэнка не зацікаўлены ў маім вызваленні. Гэтым летам мяне павінны былі амнісціраваць. Мае інспектары з ГУУС ужо падрыхтавалі дакументы для маёй амністыі, мы з імі жартавалі, што хутка расстанемся. Амністыю падпісала верхняя палата парламента, ніжняя, і калі для вызвалення заставалася атрымаць толькі подпіс прэзідэнта, мне абвясцілі, што юрыдычна я не маю права на амністыю». У траўні 2011 года Ірына Халіп была прызнана вінаватай ва ўдзеле ў масавых беспарадках пасля выбараў 19 снежня 2010 года і асуджана на два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады. Яна не мае права пакідаць Мінск, абавязана кожны тыдзень адзначацца ў міліцыі і быць дома пасля 22.00. Адтэрміноўка завяршаецца 20 ліпеня 2013 года, пасля чаго справа Халіп будзе ў другі раз разгледжана ў судзе, які вырашыць, вызваліць яе, адправіць у турму ці пакінуць у тым жа статусе яшчэ на нейкі тэрмін.



21 кастрычніка было прынятае рашэнне аб працягенні следчых дзеянняў па крымінальнай справе карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej» з Гродна Андрэя Пачобута на месяц. «Тэрмін папярэдняга следства па крымінальнай справе па абвінавачанні Пачобута па арт. 367 ч.2 КК Беларусі працягнуты яшчэ на месяц, да 21 лістапада 2012 года, для правядзення дадатковых следчых дзеянняў», — паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК па Гродзенскай вобласці, падпалкоўнік юстыцыі Сяр-

гей Шаршаневіч. А.Пачобут працягвае заставацца пад падпіскай аб нявыездзе. Журналіст абвінавачваецца ў паклёпе на А. Лукашэнку; за час следства ніякіх следчых дзеянняў з ім не праводзілася, яго нікуды не выклікалі.

22 кастрычніка актывіст грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Мікалай Петрушэнка атрымаў па пошце з Упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці пастанову аб спыненні ў дачыненні да яго крымінальнай справы, узбуджанай па артыкуле 369 КК РБ «Абраза прадстаўніка ўлады» ў сувязі з адсутнасцю ў яго дзеяннях складу злачынства. Пастанова падпісана следчым, падпалкоўнікам юстыцыі Сахаравай С.В. Падставай для спынення справы сталі вынікі лінгвістычнай экспертызы, праведзенай спецыялістамі Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя С.Машэрава. Якіх-небудзь прыкмет абразы ў матэрыяле Петрушэнкі «Педафіл атрымліваў прэміі за лепшыя дзіцячыя пляцоўкі», апублікаваным на сайце nash-dom.info, экспертыза не выявіла.

23 кастрычніка Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, паведаміла, што ў Магілёўскай турме, дзе ўтрымліваецца зняволены экс-кандыдат у прэзідэнты, за 9 месяцаў яго знаходжання ніводнага разу адміністрацыяй не былі выдадзеныя гігіенічныя прыналежнасці: мыла, туалетная папера, зубная паста, аднаразовыя брытвы. Мікалай Статкевіч у турме працягвае карыстацца акулярамі, якія не адпавядаюць ягонаму зроку, які пачаў рэзка псавацца яшчэ ў СІЗА КДБ на пачатку 2011 году. У Магілёўскай турме, нягледзячы на рэзкае пахаладанне, не ўключылі ацяпленне, і вязні пакутуюць ад холаду.

## Выкарыстанне катаванняў і жорсткага абыходжання



3 кастрычніка стала вядома, што ў звароце салігорскага маладафронтаўца Івана Шылы па факце смерці грамадзяніна Трафімовіча А.А. у салігорскім ІЧУ мясцовыя міліцыянты ўгледзелі паклёп. Справа датычылася падзеяў ліпеня бягучага года, калі за «бытавое» хуліганства быў затрыманы малады салігорац, змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання Салігорскага РАУС, адкуль з чэрапна-мазгавой траўмай ён патрапіў у рэанімацыю. 4 жніўня, не прыходзячы ў прытомнасць, ён памёр. Праваахоўныя органы адносна дадзенага здарэння паведамілі пра існаванне відэазапісу, на якім арыштаваны самастойна падае на падлогу ды б’ецца галавой аб унітаз. Іван Шыла, які не аднойчы адбываў пакаранне за сваю актыўную грамадзянскую дзейнасць у Салігорскім

ІЧУ, накіраваў Міністру ўнутраных справаў адмысловы зварот з нагоды таямнічага здарэння з Трафімовічам А.А., у якім усклаў адказнасць за трагічны выпадак на начальніка Аддзела ўнутраных спраў Салігорскага райвыканкама Астрэйку А.В. і запатрабаваў публічнай дэманстрацыі відэазапісу інцыдэнту. Даваць адказ на зварот Івана Шылы МУС даручыла начальніку салігорскай міліцыі Астрэйку А. В., прыцягнуць якога да адказнасці і патрабаваў маладзён. Аляксандр Астрэйка паведаміў, што па факце смерці грамадзяніна Трафімовіча А. А. Салігорскім раённым аддзелам Следчага камітэта вядзецца праверка ў межах Крымінальна-працэсуальнага кодэкса. Патрабаванні публічнай дэманстрацыі вышэйзгаданага відэазапісу ды пункты, звязаныя з допускам грамадскасці і СМІ ў ізалятар, былі наўпрост праігнараваны. У звароце Івана Шылы салігорскія міліцыянты ўгледзелі «склад адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага артыкулам 9.3 («паклёп») КаАП». З гэтай нагоды Салігорскім РАУС была праведзена адмысловая праверка, падчас якой «складу адміністрацыйнага правапарушэння выяўлена не было, у сувязі з чым адміністрацыйная вытворчасць была спынена».

## Смяротнае пакаранне

2 кастрычніка з нагоды Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання, які адзначаецца 10 кастрычніка, амбасадар Латвіі ў Беларусі разам з амбасадарамі Францыі і Італіі ў Беларусі і прадстаўнікамі Дэлегацыі Еўрасаюза ў Мінску прад'явілі дэмарш МЗС Беларусі, каб яшчэ раз звярнуць увагу беларускіх уладаў на праблему наяўнасці смяротнага пакарання ў краіне. Дэмарш з’яўляўся сумесным рашэннем Дэлегацыі Еўрасаюза ў Мінску і акрэдытаваных амбасадараў краін-удзельніц Еўрасаюза, і ягонае ўручэнне было даручана кіраўніку дыпламатычнай місіі Латвіі. Беларусь — адзіная краіна на еўрапейскім кантыненце, у якой дагэтуль выкарыстоўваецца смяротнае пакаранне. Еўрасаюз, уключаючы Латвію, неаднаразова заклікаў Беларусь увесці мараторый на смяротнае пакаранне.



10 кастрычніка актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» правялі ў Мінску прэзентацыю фільма «Убыл по приговору» — звычайна такой фразай (убыл по приговору) сваякам паведамляюць аб тым, што смяротны прысуд прыведзены ў выкананне, калі яны прыносяць яму перадачу ў турму. Тое ж самае пішацца ў асабістай картцы асуджанага. Прэзентацыі гэтага фільма прайшлі на працягу месяца ў Магілёве, Гомелі, Мазыры, Брэсце і іншых рэгіёнах Беларусі.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

6 кастрычніка на літоўска-беларускай мяжы на некалькі гадзін была затрымана праваабаронца Наста Лойка. Гэта здарылася, калі дзяўчына вярталася з Вільні рэйсавым аўтобусам праз памежны пераход «Каменны Лог». Памежнікі правялі асабісты дагляд праваабаронцы і яе рэчаў, пасля чаго быў складзены адпаведны акт. Позна ўначы Наста вярнулася ў Мінск.

9 кастрычніка Гаспадарчы суд г. Мінска пастанавіў ліквідаваць інфармацыйна-асветніцкую ўстанову «Платформа», якая займаецца абаронай правоў асобаў, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі. Рашэнне было прынята па зыску падаткавай інспекцыі Савецкага раёна г. Мінска, згодна з якім арганізацыя несвоечасова прадставіла фінансавую справаздачнасць і не паведаміла аб змене месцазнаходжання. Аднак гэтыя прэтэнзіі з'яўляюцца беспадстаўнымі, паколькі «Платформа» насамрэч прадставіла дакументы своечасова, але падатковая інспекцыя нібыта іх згубіла. Справу разглядаў суддзя Алег Клюйко. Прадстаўнікі арганізацыі і яе кіраўнік Андрэй Бандарэнка заявілі пра намер абскардзіць судовае рашэнне. 12 кастрычніка Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў рэзка асудзіла судовае рашэнне па закрыцці «Платформы», расцаніўшы яго як адвольнае і скіраванае на забарону праваабарончай дзейнасці.

## Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

8 кастрычніка студэнтку 4 курса Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага ўніверсітэта імя Сахарава Іну Панчкоўскую выклікалі на размову ва Упраўленне адукацыі адміністрацыі Партызанскага раёна Мінска. Фармальная прычына — даведацца, навошта дзяўчына хоча атрымліваць другую вышэйшую адукацыю ў БДУ. Аднак падчас сустрэчы супрацоўнікі КДБ, якія хаваліся за пасады ва Упраўленні адукацыі, цікавіліся выездам за мяжу студэнткі. Тры тыдні да гэтага супрацоўнік міліцыі размаўляў з маці Іны. Паколькі самой дзяўчыны не было дома, міліцыянт праз сваякоў перадаў, што яна з'яўляецца сведкай нейкай бойкі. Насамрэч жа Іна Пачкоўская ніякую бойку не бачыла і сведкай супрацьпраўных дзеянняў не была. Праз пэўны час пільную ўвагу да яе сталі праяўляць у адміністрацыі ўніверсітэта. Дзяўчына выявіла жаданне атрымаць паралельную другую вышэйшую адукацыю ў Белдзяржуніверсітэце. Таму звярнулася ў дэканат і рэктарат з просьбай дазволіць ёй вучобу, як таго

і патрабуе працэдура. Спачатку заяву студэнткі перакідвалі з аднаго кабінета ў іншы, аднак пасля прарэктар заявіў, што Упраўленне адукацыі зацікавілася яе асобай, таму яе будуць выклікаць на размову. Першае, што насцярожыла дзяўчыну, мужчыны, якія спачатку прадставіліся супрацоўнікамі Упраўлення, не сказалі адрас, куды трэба прыехаць, а сустрэлі яе на падыходзе да будынка. Сустрэча праходзіла ў вялікай актавай зале, праводзілі яе двое мужчын, якія працяглы час не хацелі называць сваіх імёнаў і пасады. Аднак з размовы і паводзінаў стала зразумела, што яны прадстаўляюць КДБ. Яны пыталі студэнтку пра выезды за мяжу — з кім яна выязджала, хто за гэта плаціў. Размова скончылася на павышаных танах, бо Іна Пальчэўская адмаўлялася адказваць на большасць пытанняў, якія не мелі дачынення да тэмы размовы, на якую яе першапачаткова выклікалі — паступленне ў БДУ. Пасля сустрэчы яна напісала скаргу на імя начальніка Упраўлення адукацыі Партызанскага раёна з патрабаваннем патлумачыць, хто менавіта правозіў гутарку і на якой падставе. У вуснай форме старшыня ўпраўлення Алена Асадчая не змагла сказаць, хто менавіта прысутнічаў у актавай зале. «Мне проста патэлефанавалі з аддзела кадраў Міністэрства адукацыі і папрасілі прадаставіць памяшканне. Хто гэтыя людзі, мне невядома», — адказала чыноўніца.

22 кастрычніка супрацоўнік КДБ патэлефанаваў актывісту БХД Алегу Аксёнаву на мабільны тэлефон і прапанаваў сустрэцца. Сказаў, што калі патрэбна позва, то можна яе зараз падвезці ў любое месца. Алег Аксёнаў пагадзіўся сустрэцца і ўжо праз некалькі гадзін быў у будынку магілёўскай абласной управы КДБ. Размову з ім вёў старэйшы следчы КДБ Андрэй Алегавіч Махуноў. Ён праінфармаваў актывіста, што яго ставяць на прафілактычны ўлік за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі — партыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі (БХД). Актывісту было прапанавана азнаёміцца з паперай, у якой было напісана, што яго ставяць на прафілактычны ўлік. Падпісаў гэты дакумент старшыня магілёўскай абласной управы КДБ Ігар Сяргеенка ад 11.10.2012 года. А. Аксёнаву падпісваць ніякія дакументы не давалі.



## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 кастрычніка на кватэру да астравецкага актывіста Мікалая Уласевіча прыйшлі два супрацоўнікі міліцыі і склалі адміністрацыйны пратакол нібыта за «непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі» (арт. 23.4 КаАП РБ), якое мела месца 21 верасня, калі ён быў затрыманы ў Астраўцы за

распаўсюд агітацыйных перадвыбарчых улётак. Тады актывіста адвезлі ў аддзяленне міліцыі і правялі асабісты дагляд яго і ягонага аўтамабіля. Пазней ператрус быў праведзены і ў вясковым доме, дзе ён пражывае. Супрацоўнікі міліцыі сканфіскавалі інфармацыйныя матэрыялы, аднак не складалі пратакол аб незаконным распаўсюдзе друкаванай прадукцыі, таму зараз прыдумалі гэтае непадпарадкаванне, нягледзячы на тое, што прайшло 10 сутак ад часу затрымання.

8 кастрычніка суд горада Наваполацка разгледзеў адміністрацыйную справу актывіста БХД Сяргея Малашонка, які быў затрыманы ў гэты ж дзень пры спробе павесіць расцяжку «Свабоду палітвязням!». Актывіста абвінавацілі ў парушэнні арт. 23.34 КаАП РБ («парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства») і ён быў пакараны штрафам у памеры 3 базавых велічынь.

8 кастрычніка ў Магілёве, напярэдадні Міжнароднага дня супраць смяротнага пакарання, былі затрыманы валанцёры, якія распаўсюджвалі налепкі і постэры кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі». Са слоў актывіста кампаніі Уладзіміра Чумакова, прыкладна ў 17.20, пасля званка «пільных» грамадзянаў, двое юнакоў былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі і дастаўлены ў Ленінскі РАУС Магілёва. Пасля разбіральніцтва, якое доўжылася амаль пяць гадзін, на хлопцаў былі складзены платаколы аб адміністрацыйным парушэнні па ч. 2 артыкула 21.14 КаАП РБ («парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў»), а таксама пратакол аб адабранні інфармацыйных матэрыялаў.

9 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы Мінска падчас правядзення мастацкай акцыі «Складанасці выказвання ў грамадскай прасторы» былі затрыманы ўдзельнікі арт-праекта Going Public мастак Міхаіл Гулін разам з трыма асістэнтамі Уладзіславам Лук’янчуком, Алегам Давыдчыкам, Сяргеем Панасюком, а таксама апператар «Нашай Нівы» Таццяна Гаўрыльчык. Міхаіл Гулін з асістэнтамі проста ішоў па плошчы, трымаючы абстрактныя канструкцыі розных геаметрычных форм. Праз некаторы час да іх падышлі спецназаўцы і запрасілі прайсці з імі для праверкі дакументаў. Пасля пагрузілі ў аўтобус і адвезлі ў Цэнтральны РУУС, дзе супрацоўнікі міліцыі запатрабавалі ад затрыманых здаць адбіткі пальцаў. Калі яны адмовіліся ад дактыласкапічнай экспертызы, праваахоўнікі ўжылі сілу. Праз тры гадзіны затрымання з РУУС выпусцілі Таццяну Гаўрыльчык. На М. Гуліна і валанцёраў склалі пратаколы аб непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Судовы працэс над

10

Уладзіславам Лук’янчуком і Алегам Давыдчыкам пачаўся 22 кастрычніка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска, у выніку якога суддзя Таццяна Ткачова вырашыла аб’яднаць справы ўсіх чатырох удзельнікаў акцыі, прызначыўшы судовы працэс на 29 кастрычніка. У гэты дзень падчас прагляду відэазапісу затрымання выявілася, што супрацоўнікам міліцыі супраціву ўдзельнікамі арт-праекта не аказвалася. 2 лістапада суд спыніў адміністрацыйную вытворчасць па справе.

11 кастрычніка ў Мінску актывісты моладзевага аб’яднання «Альтэрнатыва» правялі флэш-моб у знак пратэсту супраць прапаганды на дзяржаўным тэлебачанні. Яны ўсталявалі на рагу вуліц Няміга і Гарадскі Вал тэлевізар з выявай лагатыпу Першага беларускага тэлеканала і расклалі на ім локшыну, таксама раскідалі локшыну навокал. Каля тэлевізара актывісты выставілі таблічку «Ахвяраваньні на БТ» і кідалі грошы як сімвал таго, што дзяржаўная прапаганда каштуе вельмі танна, і раскіданыя актывістамі грашовыя купюры — максімум таго, чаго яна вартая. За ўдзел у акцыі былі затрыманы лідар «Альтэрнатывы» Алег Корбан і актывіст Уладзімір Сяргееў, якіх абвінавацілі ў «дробным хуліганстве» (арт. 17.1 КаАП). 12 кастрычніка суддзя суда Партызанкага раёна Мінска Рыта Шарай вынесла рашэнне аб пакаранні кожнага з актывістаў 5 суткамі адміністрацыйнага арышту.

12 кастрычніка суддзя суда Слуцкага раёна Уладзімір Арэшка адмяніў рашэнне адміністрацыйнай камісіі Слуцкага райвыканкама, якая прызнала грамадскага актывіста Віталя Амяльковіча вінаватым у расклейванні налепак. Матэрыялы справы аб адміністрацыйным правапарушэнні накіраваны на перагляд. Нагадаем, 6 верасня адміністрацыйная камісія Слуцкага райвыканкама аштрафавала Віталя Амяльковіча на 10 базавых велічыняў. Грамадскі актывіст абскардзіў гэтае рашэнне ў судзе Слуцкага раёна. Суддзя Арэшка пацікавіўся ў Амяльковіча, хто яго затрымліваў ноччу 14 ліпеня. Грамадскі актывіст растлумачыў, што да гэтага часу гэтага не ведае: падчас затрымання супрацоўнік РАУС, які нібыта бачыў, як Віталь расклейваў налепкі, не прадставіўся, не было названа яго імя і на пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі. У працэсе вядзення адміністрацыйнага працэсу міліцыянтамі Слуцкага РАУС дапускаліся грубыя парушэнні.

25 кастрычніка ўчастковы інспектар маёр міліцыі Д. Мізгер наведаў працоўнае месца прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса на мясцовым каапрынку. Апытаўшы прадаўцоў і прадпрымальнікаў, ён склаў адміністрацыйны пратакол аб парушэнні М. Чарнавусам арт. 23.34

ч.2 КаАП («арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства»). Такім чынам супрацоўнік міліцыі кваліфікаваў правядзенне прадпрымальнікам 6 кастрычніка каля свайго гандлёвага месца дабрачыннага абеду.

27 кастрычніка ў Міёрах пасля вяселля актывіста «Маладога Фронту» Мікалая Дземідзенкі былі затрыманыя ягоныя папечнікі Раман Васільеў і Дзмітрый Крэмянецкі. Машыну, у якой пасля вяселля вяртаўся Раман Васільеў у Мінск, спынілі на выездзе з Міёраў, а хлопца затрымалі. Маладафронтавец Д.Крэмянецкі быў затрыманы побач з кавярняй, дзе адзначалі вяселле. 29 кастрычніка ў Міёрскім судзе адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў маладафронтаўцаў, на якіх склалі пратаколы аб «дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП). Старшыня суда Міёрскага раёна Наталля Грыгор'ева адхіліла 2 хадайніцтвы Рамана Васільева, якія тычыліся выкліку ў суд адваката і адвода суддзі. Сведкі — супрацоўнікі ДПС РУУСа Міёраў Мільто і Верашчака. Падчас працэсу Р. Васільеву стала кепска, і хуткая дапамога забрала яго ў мясцовую лякарню з падазрэннем на гіпертанічны крыз. Сведкі па справе Д. Крэмянецкага — Уладзіслаў Юдкін, начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Міёрскага РУУСа і Міхаіл Кураж. Суддзя вынесла рашэнне аб пакаранні актывіста 5 суткамі адміністрацыйнага арышту.

27 кастрычніка ў Свіслачы (Гродзенская вобласць) былі затрыманыя чатыры ўдзельнікі традыцыйнай акцыі ўшанавання памяці братоў Віктара і Кастуся Каліноўскіх: студэнт БНТУ Алесь Крот, Станіслава Гусакова з Віцебска (яна з'яўляецца грамадзянкай Расіі, але размаўляе па-беларуску), сябра Руху «За Свабоду» і Партыі БНФ Вітольд Ашурак з Бярозаўкі і гарадзенскі актывіст Віталь Лопасаў, якога адпусцілі да суда, бо з ім разам быў непаўнагадовы сын. Затрыманне адбылося ў суботу, і на выходных трое затрыманых утрымліваліся ў мясцовым ІЧУ. На ўсіх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні арт. 23.34 КаАП («удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве»). 29 кастрычніка ў Свіслацкім раённым судзе быў разгледжаны толькі адміністрацыйны пратакол, складзены на С. Гусакову, аднак прыняцце рашэння было перанесенае на наступны дзень. 30 кастрычніка старшыня Свіслацкага суда Аляксандар Шылін прызнаў Алеся Крата, Станіславу Гусакову і Віталя Лопасава вінаватымі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрымстве з выкарыстаннем незарэгістраванай сімволікі і асудзіў да трох сутак арышту С. Гусакову і Алеся Крата, а Віталя Лопасава аштрафаваў на 30 базавых велічынь. Судовы разгляд адміністрацыйнай справы Вітольда Ашуркі адбыўся 1 лістапада.

Актывіст быў асуджанны рашэннем суддзі Аляксандра Шыліна на 3 сутак адміністрацыйнага арышту.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

1 кастрычніка ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» атрымала адказ на свой зварот да начальніка міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандра Іоскіна адносна забеспячэння правоў журналістаў на вулічных масавых мерапрыемствах. «Існуе практыка ўзаемадзеяння з прадстаўнікамі СМІ падчас правядзення грамадскіх мерапрыемстваў, у тым ліку несанкцыянаваных палітычных акцый. У залежнасці ад абстаноўкі, супрацоўнікі груп па ўзаемадзеянні са СМІ даводзяць да ведама журналістаў інфармацыю, агучваюць каментары, выказваюць пажаданні, тлумачаць дзеючыя нарматыўна-прававыя акты», — адзначаецца ў адказе Аляксандра Іоскіна. У дакуменце чыноўнік паведамляе, што лічыць узровень узаемаадносінаў супрацоўнікаў міліцыі з журналістамі ў межах правядзення грамадска-палітычных мерапрыемстваў «дастатковым». Аднак на практыцы вельмі часта на акцыях супрацоўнікі сілавых органаў не толькі не дапамагаюць, але і груба парушаюць правы журналістаў, як, напрыклад, затрыманне і збіццё групы журналістаў, якія асвятлялі ў Мінску пікет актывістаў кампаніі «Гавары праўду» 18 верасня.

7 кастрычніка фатограф Associated Press Сяргей Грыц атрымаў афіцыйны адказ з Упраўлення ўнутраных спраў адміністрацы Фрунзенскага раёна Мінска, якая праводзіла праверку па факце ягонага затрымання і збіцця падчас несанкцыянаванай акцыі 18 верасня. З адказу вынікае, што УУС правяло праверку па заяве журналіста і не знайшло ў дзеяннях сваіх супрацоўнікаў складу злачынства (п. 2 ч. 1 арт. 174 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ). «Праведзенай праверкай устанавіць абставіны атрымання цялесных пашкоджанняў Грыцом С.В... не прадставілася магчымым, бо ніхто з супрацоўнікаў міліцыі ў дачыненні да апошняга фізічнай сілы і фізічнага гвалту, а таксама спецыяльных сродкаў не прымяняў. Не прадставілася ўстанавіць абставіны выдалення матэрыялаў з відэакамеры Грыца С.В., таму што відэакамеру... ніхто з супрацоўнікаў міліцыі не забіраў, а наяўнасць у ёй матэрыялаў відэаздымкаў супрацоўнікамі міліцыі не ўстанаўлівалася, г. зн. адсутнічае склад злачынства, прадугледжаны арт. 198 КК РБ». Пастанову падпісалі намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі Фрунзенскага РУУС А. Чумік

і намеснік начальніка УУС адміністрацыі Фрунзенскага раёна г. Мінска Р. Васкрасенкі.

9 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы Мінска падчас мастацкай акцыі «Складанасці выказвання ў грамадскай прасторы» разам з удзельнікамі была затрыманая відэааператар газеты «Наша Ніва» Таццяна Гаўрыльчык. Затрыманыя былі дастаўленыя ў РУУС Цэнтральнага раёна, журналістка была адпушчана праз тры гадзіны без складання пратакола, аднак у яе былі выдаленыя з апаратуры ўсе зробленыя здымкі.

12 кастрычніка суд Савецкага раёна Гомеля (суддзя Сяргей Уласаў) адмяніў штраф грамадскаму актывісту Аляксандру Працко за продаж незалежнай газеты «Новы час» у «неўстаноўленым месцы». Пастанова аб адміністрацыйным спагнанні накіравана на перагляд у камісію пры адміністрацыі Савецкага раёна.

12 кастрычніка скончыўся чарговы трэці судовы працэс па зыску рагачоўскай раённай газеты «Свабоднае слова» да грамадскага актывіста Дзяніса Дашкевіча. Раней раённае выданне двойчы спрабавала прыцягнуць актывіста да адказнасці нібыта за парушэнне аўтарскіх правоў, але дарма — суд не прызнаваў Дзяніса Дашкевіча вінаватым, бо не было ніякіх доказаў парушэння аўтарскіх правоў. А 12 кастрычніка суддзя прызнала яго вінаватым у «парушэнні аўтарскіх правоў» (артыкул 9.2 КаАП) і пакарала штрафам у памеры 30 базавых велічынь. Прычым пры вынясенні рашэння суддзя нават не назвала ні артыкул, ні парушэнне, якое здзейсніў актывіст. Ён быў стваральнікам сайта vrogacheve.ru, на якім з'яўляліся розныя навіны. Рэдакцыя раённай газеты звярнулася ў міліцыю з заявай, нібыта сайт vrogacheve.ru передрукаваў навіны з сайта раённай газеты, парушыўшы такім чынам аўтарскія правы дзяржаўных карэспандэнтаў. Прычым навіны тыя былі — зводка з бальніцы пра абмаражэнні жыхароў райцэнтра мінулай зімой і крымінальная інфармацыя мясцовай міліцыі, і карэспандэнты раённай газеты ніяк не маглі быць аўтарамі такіх матэрыялаў.

16 кастрычніка стала вядома, што ўлады Крычаўскага раёна спрабуюць абмежаваць доступ журналістаў газеты «Вольны горад» да інфармацыі аб стане спраў у раёне, папярэджваючы чыноўнікаў, што ў іх могуць узнікнуць сур'ёзныя праблемы, калі стане вядома, ад каго журналісты незалежнага выдання атрымліваюць гэту інфармацыю. Так, яшчэ напярэдадні парламенцкіх выбараў у верасні 2012 года на

пашыранай апаратнай нарадзе па выніках працы народнагаспадарчага комплекса Крычаўскага раёна за восем месяцаў гэтага года выступіў начальнік Крычаўскага гаррайаддзела КДБ Ілля Краўцоў, які ў сваім выступе наўпрост пагражаў сур'ёзнымі праблемамі тым, хто дае «трэцім асобам» закрытую інфармацыю. Якая інфармацыя пры гэтым з'яўляецца «закрытай» і для якіх «трэціх асобаў», ён так і не растлумачыў. Аднак большасць прысутных на той нарадзе звязалі выступ спадара Краўцова з выкрывальніцкімі артыкуламі ў адрас кіраўніцтва Крычаўскага райвыканкама, пракуратуры, дырэкцыі шэрагу прадпрыемстваў, якія апошнім часам рэгулярна з'яўляліся ў газеце «Вольны горад».

16 кастрычніка да астравецкага актывіста Мікалая Уласевіча дахаты завітаў участковы інспектар і прапанаваў яму зрабіць пісьмовыя тлумачэнні з нагоды інтэрв'ю, якое той даў сайту «Беларускі партызан» і якое некалькі дзён таму было змешчана на гэтым інфармацыйным рэсурсе пад назвай «Мікалай Уласевіч: Я хаджу па правакацыях КДБ, як па мінным полі». М. Уласевіч ад тлумачэнняў супрацоўніку міліцыі адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што ў дадзеным ім інтэрв'ю і так усё зразумела і тлумачэнняў не патрабуе.

18 кастрычніка гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласці аштрафаваў галоўнага рэдактара часопіса «ARCHE» Валера Булгакава на 5 базавых велічынь. Таксама канфіскаваны ўвесь прыбытак ад продажу часопіса на агульную суму 875 тысяч рублёў. Суд на сваім паседжанні разгледзеў «гарадзенскі эпізод» 14 верасня, калі Валер Булгакаў прыехаў у Гродна, каб прадставіць новую кнігу з серыі часопіса «ARCHE» «Саветызацыя Заходняй Беларусі» аўтарства гісторыка Яна Шумскага. На сустрэчу прыйшлі супрацоўнікі падатковай інспекцыі, зрабілі «кантрольную закупку» і сканфіскавалі каля двухсот асобнікаў часопіса і кніг, на якія не было накладных. Пасля інцыдэнту 14 верасня пачалі разгортвацца падзеі, якія рэальна сталі пагражаць самому існаванню выдання. Храналогія далейшага развіцця падзей: 21 верасня — прыход супрацоўнікаў Дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) Камітэта дзяржаўнага кантролю ў друкарню, дзе друкаваўся «ARCHE». 24-28 верасня — выняцце ў друкарні дакументаў за апошнія два гады дзейнасці. 1 кастрычніка — дамоўленасць пра візіт галоўнага рэдактара «ARCHE» ў ДФР. 2 кастрычніка — арыштаваныя больш за 5 тыс. асобнікаў розных выданняў з калекцыі Валера Булгакава. 4 кастрычніка — выклік заснавальніка «ARCHE» Андрэя Дынькі ў ДФР, пасля якога ім было прынята рашэнне звольніць з пасады галоўнага рэдактара Ва-

лера Булгакава і часова прызначыць в. а. галоўнага рэдактара ягонага ранейшага намесніка Аляксандра Пашкевіча. Аднак у той жа самы дзень ДФР заблакаваў рахунак «ARCHE», у выніку чаго часопіс страціў магчымасць аплачваць друк новых нумароў, макет аднаго з якіх у той час быў цалкам падрыхтаваны і знаходзіўся ў друкарні. 5 кастрычніка — Валер Булгакаў схадзіў на размову ў ДФР. 12 кастрычніка — на размову ў ДФР схадзілі новы галоўны рэдактар «ARCHE» і бухгалтар часопіса. 17 і 18 кастрычніка — чарговыя выклікі на размовы ў ДФР Валера Булгакава і бухгалтара «ARCHE». Афіцыйнае абвінавачанне выдаўцам «ARCHE» пакуль што не выстаўлена, але з вынікаў праведзеных ДФР апытанняў членаў рэдакцыі часопіса вынікае, што следства вядзецца па наступных асноўных кірунках: праверка мэтавага выкарыстання паперы для друку; правільнасць прымання рэдакцыяй дабрачынных грашовых ахвяраванняў. 26 кастрычніка ў перадачы «Зона-Х» на тэлеканале «Беларусь-1» быў прадэманстраваны сюжэт пра справу вакол часопіса «ARCHE». У рэпартажы прагучалі словы пра магчымую крымінальную адказнасць экс-рэдактара «ARCHE» Валера Булгакава. Прычым магчымай нагодай для яе ўзбуджэння, паводле журналіста Аляксандра Вярбіцкага, можа стаць «экстрэмісцкі» змест канфіскаванай у рэдактара літаратуры — калі тое пацвердзіць паўторная экспертыза.

20 кастрычніка споўнілася 8 гадоў з дня забойства журналісткі Веранікі Чаркасавай. Забойцы да гэтага часу не знойдзеныя, расследаванне справы прыпынена. «З моманту ўтварэння Следчага камітэта Беларусі гэтая крымінальная справа была перададзена нам і прынята да вытворчасці, — заявіў прадстаўнік Следчага камітэта Ягор Лівай. — На дадзены момант справа прыпынена ў сувязі з невысвятленнем асобы, якая ўчыніла злачынства. У той жа час гэта не азначае, што не праводзіцца ніякіх дзеянняў, накіраваных на пошук злачынцы. Задзейнічаны пэўныя аператыўныя падраздзяленні, якія праводзяць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, накіраваныя на ўстанаўленне асоб, якія маюць дачыненне да забойства, і высвятленне ўсіх абставінаў справы». Раней расследаванне прыпынялі ў 2007 годзе на падставе артыкула Крымінальна-працэсуальнага кодэкса «невыяўленне асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачанага». Следства першапачаткова разглядала ў якасці асноўнай версію забойства на пабытовай глебе. Падазраванымі былі названыя 15-гадовы сын журналісткі і яе айчым. У красавіку 2005 года падазрэнне з іх знялі.

22 кастрычніка гомельская незалежная журналістка Ларыса Шчыракова была выклікана ў Гомельскую абласную пракуратуру

да супрацоўніцы аддзела па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю Ірыны Макарэвіч. Гаворка ішла пра працу на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Прэтэнзіі пракуратуры зводзіліся да таго, што ў эфіры спадарожнікавага тэлеканала «Белсат» Ларыса Шчыракова дала каментар, звязаны з арыштам старшыні Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца. Супрацоўніца пракуратуры паведаміла журналістцы, што ёй будзе вынесена афіцыйнае папярэджанне за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. У гэты ж дзень намеснік абласнога пракурора Васіль Броўка падпісаў афіцыйнае папярэджанне Л. Шчыраковай, у якім сказана: «Пракуратурай вобласці праведзена праверка па матэрыялах УКДБ Рэспублікі Беларусь па Гомельскай вобласці, у часе якой устаноўлена, што Вы ажыццяўляеце дзейнасць на карысць прадзюсарскай кампаніі N.E.W.S. Informacja (г. Варшава, Рэспубліка Польшча), а таксама займаецеся зборам інфармацыі, якая тычыцца спартовых, культурных і грамадска-палітычных падзей вобласці. Апрача таго, 26 верасня Вамі быў зроблены запіс інфармацыі пра арышт былога старшыні Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца для тэлеэфіру польскага сродку масавай інфармацыі «Белсат». Як устаноўлена праверкай, Вы, не маючы працоўных альбо іншых стасункаў са сродкамі масавай інфармацыі і не маючы акрэдытацыі пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь у якасці карэспандэнта замежнага СМІ, ажыццяўляеце журналісцкую дзейнасць, у тым ліку у інтарэсах польскай прадзюсарскай кампаніі N.E.W.S. Informacja і тэлекампаніі «Белсат», што з'яўляецца парушэннем Закона «Аб сродках масавай інфармацыі». За 2012 год гэта ўжо другое пракурорскае папярэджанне, вынесенае Ларысе Шчыраковай.

## Абмежаванне свабоды сходаў



3 кастрычніка баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася аб забароне правядзення пікета 7 кастрычніка з мэтай інфармавання аб стварэнні ў Баранавічах ініцыятыўнай групы па збору подпісаў за бясплатны праезд школьнікаў у грамадскім транспарце на факультатывы і гурткі пасля заняткаў. У адказе традыцыйна не паведамляецца, што канкрэтна парушыў заяўнік, але прапануецца, у выпадку нязгоды з такім рашэннем, звяртацца ў суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы.

4 кастрычніка брэсцкія ўлады не далі згоды на правядзенне пікета за годную працу. З ініцыятывай правядзення акцыі 7 кастрычніка, калі

адзначаецца Міжнародны дзень барацьбы за годную працу, у гарвыканкам звярнуліся брэсцкія прадстаўнікі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП). Пры гэтым заяўка была пададзена на правядзенне пікета ў месцы, якое вызначана ўладамі для такіх мэтаў — у парку воінаў-інтэрнацыяналістаў. Падчас акцыі планавалася засяродзіць увагу на тым, што Брэсцкая вобласць займае апошняе месца сярод рэгіёнаў Беларусі па памерах сярэдняй заработнай платы, а ў цэлым у краіне адсутнічаюць умовы для годнай працы. Аднак з Брэсцкага гарвыканкама атрыманы адмоўны адказ наконт пікета: чыноўнікі спасладіся на тое, што ў згаданым парку 7 кастрычніка будуць ладзіцца святочныя мерапрыемствы з нагоды Дня настаўніка.

26 кастрычніка брэсцкі праваабаронца Уладзімір Вялічкін падаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН з нагоды парушэння свабоды выказвання меркаванняў і мірных сходаў. Падставай для звароту стала адмова ў правядзенні ў Брэсце мерапрыемства ў падтрымку кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, які зараз знаходзіцца за кратамі. У брэсцкім гарвыканкаме сваю адмову патлумачылі тым, што ў ініцыятара правядзення акцыі адсутнічалі дамовы з аддзелам унутраных справаў, установай аховы здароўя і камунальнымі службамі. Спробы Уладзіміра Вялічкіна абскардзіць рашэнне мясцовых уладаў у судах розных узроўняў не далі плёну.

26 кастрычніка, прайшоўшы ўсе судовыя інстанцыі на нацыянальным узроўні, брэсцкі актывіст Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Аляксандр Дзенісенка накіраваў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН па справе забароны пікета, падчас якога планавалася прыцягнуць увагу грамадскасці да немагчымасці пабудаваць жыллё па даступных коштах. Суд Ленінскага раёна Брэста палічыў, што гарадскія ўлады мелі рацыю, калі адмовілі ў правядзенні акцыі, бо яе арганізатары не заключылі дамовы з камунальнымі службамі, установай аховы здароўя і органамі ўнутраных спраў. Пазней суд Брэсцкай вобласці і Вярхоўны суд РБ пакінулі гэтае рашэнне без зменаў, адхіліўшы скаргі Аляксандра Дзенісенкі.

28 кастрычніка ў Мінску праводзілася традыцыйная масавая акцыя беларускай дэмакратычнай апазіцыі «Дзяды». Гэтае мерапрыемства ў форме шэсця і мітынга было дазволена Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам. Мерапрыемства насіла мірны характар, яго ўдзельнікі не адхіляліся ад дазволенага маршруту, у працэсе шэсця і мітынга заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб масавых мерапрыемствах

удзельнікамі не парушалася. Супрацоўнікі міліцыі і іншых службаў паводзілі сабе ў цэлым нейтральна, аднак за ўдзельнікамі акцыі вяліся аператыўныя кіна- і відэа здымкі, вялікая колькасць супрацоўнікаў міліцыі і іншых службаў не былі апрануты ў форменую вопратку, не мелі ідэнтыфікацыйных карт і іншых пазнакаў прыналежнасці да супрацоўнікаў спецыяльных службаў па забеспячэнні правапарадку. Непасрэдна перад пачаткам масавага мерапрыемства быў затрыманы непаўнагадовы Ілля Хромаў, які нёс у заплечніку бел-чырвона-белыя стужкі (вызвалены), а таксама Ўладзіслаў Шведа, у якога быў адабраны бел-чырвона-белы сцяг і складзены пратакол аб «дробным хуліганстве» (арт.17.1 КаАП). Дадзеныя затрыманні з'яўляюцца цалкам незаконнымі.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

4 кастрычніка ў Гродна ў абласным судзе адбыўся разгляд скаргі Партыі БНФ да ўпраўлення юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама на прадмет нерэгістрацыі Гарадзенскай абласной структуры партыі. Інтарэсы Партыі БНФ прадстаўлялі Юрый Чавусаў і Вадзім Саранчукоў. Суд не задаволіў скаргу Партыі БНФ, суддзя Зоя Нікольская не знайшла антызаконных дзеянняў у рашэнні рэгіструючага органа і адмовіла абласной арганізацыі ў магчымасці легальнай дзейнасці на тэрыторыі вобласці. Нагадаем, што ў траўні бягучага года адбыўся ўстаноўчы сход Гарадзенскай абласной арганізацыі, і ў адпаведны тэрмін ва ўпраўленне юстыцыі быў пададзены пакет рэгістрацыйных дакументаў. Аднак чыноўнікі не зарэгістравалі арганізацыю. Пасля прыпынення працэсу рэгістрацыі ўпраўленне юстыцыі запатрабавала ў гарадзенскай гарадской арганізацыі звесткі пра ўсіх сябраў, якія стаяць на ўліку, у тым ліку запатрабавала, каб гэтыя звесткі былі прадстаўлены ў транскрыпцыі на рускай мове. Такія звесткі з спасылкай на закон «Аб мовах» былі адпраўлены і дастаўлены, аднак рэгістрацыі так і не адбылося.



25 кастрычніка стала вядома, што аргкамітэту па стварэнні грамадскага аб'яднання «Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты» адмовілі ва ўсіх 14 памяшканнях, на якія МХД падавала заўякі для правядзенне свайго ўстаноўчага з’езда 3 лістапада. Амаль ва ўсіх адмовах было напісана, што ў гэты дзень памяшканні будуць занятыя, а ў Доме афіцэраў нават не пазначылі прычыну адмовы.

29 кастрычніка гомельскія актывісты ініцыятывы «Хопіць піць — трэба жыць» заявілі, што не могуць атрымаць юрыдычны адрас, каб

затым афіцыйна зарэгістраваць грамадскае аб'яднанне. «Папярэдняя тэлефанаванне ці наведванне — і нам даюць дабро, абяцаюць даць гарантыйны ліст. Але назаўтра тэлефануюць і адмаўляюць па розных прычынах», — адзначыў каардынатар ініцыятывы Кастусь Жукоўскі. Ён лічыць, што паміж уладамі і тымі, хто прадстаўляе юрыдычны адрас розным арганізацыям, існуе дамова ці інструкцыя, згодна якой трэба прадстаўленне юрыдычнага адрасу ўзгадняць з мясцовымі ўладамі. Пры гэтым некаторыя арганізацыі з лёгкасцю атрымліваюць юрыдычныя адрасы, рэгістрацыю і дзейнічаюць у Гомелі.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Лістапад 2012 года

Становішча з правамі чалавека ў Беларусі ў лістападзе можна ахарактэразаваць як перыяд застою і крызісу: стабільная кепская сітуацыя заставалася нязменнай, у той жа час значнага пагаршэння не зафіксавана.

Гэтая характарыстыка вынікае з агульнага крызісу ў стасунках паміж беларускімі ўладамі і Еўрапейскім Саюзам, сыходзячы з моцнай залежнасці ўзроўню выканання правоў чалавека ў Беларусі ад знешнепалітычнга фактару. Фактычна цэлы месяц адбываўся абмен месыджамі паміж беларускім бокам і прадстаўнікамі еўрапейскай супольнасці адносна існуючай сітуацыі, магчымасцяў для ўзнаўлення дыялогу і супрацоўніцтва, а таксама ўмоваў для іх ажыццяўлення.

14 лістапада кіраўнік прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі Майра Мора падчас міжнароднай экспертнай канферэнцыі «Беларусь на перакрыжаванні інтэграцыяй: адносіны з ЕС у сітуацыі фармавання Еўразійскага саюза» паведаміла, што вядзецца тэхнічны дыялог паміж Брусэлем і афіцыйным Мінскам, але адзначыла, што перамовы ідуць вельмі складана ў сувязі з невыкананнем беларускім бокам галоўнага патрабавання — «вызвалення і ўзнаўлення ў правах палітычных зняволеных». «Адносіны Беларусі і ЕС калісьці былі ў значна лепшай форме, чым зараз,» — сказала М. Мора.

«У адносінах паміж Еўрасаюзам і Беларуссю цяпер момант, калі бакам трэба ўзяць час для асэнсавання», — заявіў 14 лістапада пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Брус Бакнэл. ЕС, адзначыў ён, прапануе выразныя ўмовы, выкананне якіх неабходна для паляпшэння адносін. «Самае важнае — гэта вызваленне палітзняволеных. Беларусь знаходзіцца ў Еўропе, і мы хочам бачыць, што яна падзяляе еўрапейскія каштоўнасці», — падкрэсліў дыпламат.

У сваю чаргу беларускі бок адказваў: «Калі вы хочаце, каб мы мяняліся ў тым напрамку, у якім вы хочаце, тады санкцыі — гэта не лепшы метад», — падкрэсліў 26 лістапада ў інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву Reuters Аляксандр Лукашэнка. «Мы ўжо па патрабаванні Еўрасаюза і асобных палітычных дзеячаў зрабілі столькі крокаў, што можна было прайсці 10 км. Але абяцаных крокаў насустрач мы не атрымалі. Таму рабіце выснову, хто павінен рабіць гэтыя крокі. Мы гатовыя да гэтага, але не трэба да нас прыязджаць на перамовы або на сустрэчы і ставіць

перад намі ўмовы. Мы ўжо гэтых умоў выканалі не адзін дзясятак. У адказ мы атрымалі ўзмацненне санкцый». Лукашэнка таксама адзначыў, што ўжо практычна ўсе асуджаныя за падзеі пасля прэзідэнцкіх выбараў, выйшлі на свабоду: «Вы да мяне прыязджалі, еўрапейцы, і патрабавалі вызваліць. Я сказаў: добра, але па нашых законах. Ты павінен звярнуцца да прэзідэнта, каб цябе памілавалі. Па ўсіх, хто звярнуўся, хоць яны і вінаватыя, я прыняў рашэнне аб памілаванні. Адзін ці два не звярнуліся. Яны кажуць, што ім у турме лепш, яны тады героямі будуць. Добра, будзьце ў турме», — дадаў А. Лукашэнка.

Такім чынам, склалалася сітуацыя, калі Еўрасаюз паслядоўна патрабаваў вызвалення ўсіх без выключэння палітвязняў для ўзнаўлення стасункаў з афіцыйным Мінскам, а той у сваю чаргу чакаў станоўчай рэакцыі на кожны з ранейшых прамежкавых крокаў. Гэтая тупіковая сітуацыя так і не знайшла свайго станоўчага вырашэння, закладнікамі ўпартай пазіцыі беларускіх уладаў па-ранейшаму заставаліся 12 палітычных зняволеных.

Адначасова А. Лукашэнка вярнуўся да адмаўлення наяўнасці палітзняволеных у Беларусі. Калі ў кастрычніку гэтага года падчас прэс-канферэнцыі для расійскіх рэгіянальных журналістаў ён заяўляў: «У нас двое ці трое палітвязняў, якія штурмавалі і ламалі Дом урада», то ўжо ў інтэрв'ю Reuters адзначаў: «Вы за што душыце санкцыямі Беларусь? Маўляў, нейкія палітычныя зняволеныя ў нас ёсць. Добра, прыязджайце і пакажыце хоць аднаго палітычнага вязня, але як спецыялісты. Пакажыце хоць аднаго чалавека, якога мы незаконна асудзілі, а мы вам пакажам свае матэрыялы».

Такая ж пазіцыя прагучала і адносна зняволенага кіраўніка зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, асуджанага на 4,5 гады па абвінавачанні ў нявыплаце падаткаў. 13 лістапада на сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі БДЭУ А. Лукашэнка заявіў пра падвойныя стандарты ў ацэнцы справы: «Інфармацыю нам даў Еўрапейскі Саюз праз Літву, дзе ён хаваў грошы. Так, у Амерыцы можна атрымаць пажыццёвае зняволенне за нявыплату падаткаў — гэта нармальна».

Кіраўнік дзяржавы адмаўляў таксама наяўнасць праблем і ў іншых сферах правоў чалавека, у тым ліку — свабоды слова і выказвання меркавання. У тым жа інтэрв'ю Reuters А. Лукашэнка сказаў: «У нас немагчыма зачыніць людзям доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Расійскія каналы ўсе транслююцца, «Еўраньюс», Сі-эн-эн, Бі-бі-сі, атрымліваем стужку Рэйтэр. У нас інтэрнэт у кожнага ў доме. Калі ласка,

бяры адкрывай і чытай». Разам з тым, замежныя крыніцы інфармацыі па-ранейшаму падвяргаліся цэнзуры, а існуючыя беларускія (як нацыянальныя, так і рэгіянальныя выданні) зведвалі ціск, вымушаныя выжываць ва ўмовах дыскрымінацыі. Не былі спыненыя крымінальныя справы супраць журналіста Андрэя Пачобута за выказванні пра прэзідэнта і студэнта-журналіста Антона Сурапіна, які першым змясціў на сваім сайце фотаздымкі «плюшавага дэсанту» ў ліпені, захоўвалася практыка пераследу супрацоўнікаў медыя за выкананне сваіх прафесійных абавязкаў.

Па-ранейшаму выкарыстоўваліся адвольныя затрыманні і адміністрацыйныя пакаранні ў адносінах да актывістаў грамадскіх арганізацый і рухаў, палітычных партый. З моцнымі абмежаваннямі і забаронамі сутыкаліся грамадзяне, якія імкнуліся выказаць альтэрнатыўныя меркаванні шляхам правядзення публічных масавых мерапрыемстваў. Працягвалася практыка ціску на праваабаронцаў і пераследу праваабарончых арганізацый.

Важнай падзеяй у праваабарончай сферы стала афіцыйнае ўступленне на пасаду з 1 лістапада Спецыяльнага дакладчыка ААН па становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Міклаша Харашці. Сваю першую афіцыйную заяву спецдакладчык адрасаваў беларускай грамадзянскай супольнасці і ўраду Беларусі з заклікам да абодвух бакоў да адкрытага дыялогу з мэтай прасоўвання і абароны правоў чалавека ў краіне. У якасці свайго першага кроку, па заяве эксперта, будзе пошук магчымасці сустрэцца з урадам Беларусі для абмеркавання шляхоў абмену інфармацыяй, неабходных для лепшага выканання мандата. «Адкрытыя каналы камунікацыі і дыялогу з уладамі, а таксама з іншымі зацікаўленымі бакамі, неабходныя для забеспячэння дакладнасці дакладаў, якія я павінен у адпаведнасці са сваім мандатам падаць у Савет па правах чалавека і ў Генеральную Асамблею ў наступным годзе», — падкрэсліў сп-р Харашці.



Праваабарончая супольнасць Беларусі адгукнулася на запрашэнне спецдакладчыка, і 12—13 лістапада ў Беларускім доме правоў чалавека ў Вільні прайшла сустрэча беларускіх праваабаронцаў з Міклашам Харашці. Былі праведзены кансультацыі па шырокім коле пытанняў, датычных сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

Адначасова афіцыйны Мінск паўтарыў, што не прызнае мандату спецдакладыка. 20 лістапада беларуская дэлегацыя на 67-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН заявіла, што не падтрымлівае рэзалюцыю па дакладзе Савета ААН па правах чалавека. Па словах дарадцы Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН Ларысы Бельскай, такое рашэнне

прынята беларускім бокам у сілу прычын прынцыповага характару, у тым ліку звязаных з прыняццем Саветам у ліпені 2012 рэзалюцыі, якая заснавала «палітычна матываваны мандат спецыяльнага дакладчыка па Беларусі»: «Мы неаднаразова заяўлялі, што гэтыя рашэнні Савета не маюць нічога агульнага з рэальнай сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі і нацэлены на ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы нашай краіны. І рэзалюцыя, і мандат спецдакладчыка па Беларусі навязаныя міжнароднай супольнасці групай дзяржаў Еўрасаюза, якія прасоўваюць у Савеце свой палітычны парадак дня. Галоўная задача рэзалюцыі і заснаванага ёй мандата — гэта мэтанакіраваная антыўрадавыя дзейнасць у Беларусі пад прыкрыццём ААН».

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

5 лістапада бабуля палітвязня Яўгена Васьковіча атрымала ліст, у якім ён папрасіў, каб у дачыненні да яго «не было ніякіх скаргаў, ніякай самадзейнасці». Я. Васьковіч удакладніў: «У прэсе пра мяне пісаць можна. Але — не часта і толькі тое, што я ёсць зняволены». Таксама ён папрасіў, каб у прэсе не пісалі пра канкрэтны змест яго лістоў. Не выключана, што публікацыі пра Яўгена Васьковіча ў друкаваных і электронных СМІ пра некаторыя падрабязнасці яго жыцця ў турме раздражняюць адміністрацыю пенітэнцыярнай установы, і гэта адмоўна адбіваецца на самім зняволеным.

8 лістапада еўрадэпутат Марэк Мігальскі накіраваў зварот да начальніка турмы № 4 у Магілёве і начальніка дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі з патрабаваннем спыніць рэпрэсіі ў дачыненні да былога кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Мікалая Статкевіча. Прычынай для звароту стала інфармацыя пра тое, што адміністрацыя турмы імкнецца яго поўнасцю ізаляваць: яму адмаўляюць у сустрэчы з праваслаўным святаром, карэспандэнцыя блакіруецца, пасылкі, газеты і брашуры не даходзяць. 9 лістапада адбылася сустрэча Мікалая Статкевіча з адвакатам. З ягоных слоў жонка палітвязня Марына Адамовіч паведаміла, што М. Статкевіча перавялі ў іншую камеру з лепшымі ўмовамі, а 1 лістапада яго наведаў праваслаўны святар. Марына Адамовіч распавяла пра рэакцыю адміністрацыі магілёўскай турмы на скаргу Мікалая Статкевіча, што ў турме не выдаюць гігіенічныя прылады, хаця грошы з пенсіі на ўтрыманне рэгулярна адлічаюць. «Яго спрабавалі запэўніць, што ў гэта не ўваходзяць выдаткі на туалетную

паперу, мыла, галякі і гэтак далей. Але з новага года зняволеным будуць выдаваць усё гэта ў турме».

8 лістапада стала вядома, што палітвязня Дзмітрыя Дашкевіча перавялі ў турму №1 у Гродна. 9 лістапада з ім сустрэўся адвакат, які распавёў пра падрабязнасці этапавання свайго падабароннага з Мазыра ў Гродна. Высветлілася, што Д. Дашкевіча адправілі на этап 4 лістапада, суткі ён правёў у магілёўскай турме, яшчэ суткі — у баранавіцкай. Раніцай 7 лістапада прыбыў у гродзенскую турму, дзе суткі правёў у каранціне, пасля чаго быў пераведзены ў камеру ў новы корпус турмы, які зняволеныя называюць «амерыканкай», дзе больш строгі кантроль з боку адміністрацыі ў параўнанні са старым корпусам турмы, але не так востра стаіць пытанне спальных месцаў на колькасць зняволеных. Умовы ў гродзенскай турме не прынцыпова адрозніваюцца ад умоў у памяшканнях камернага тыпу глыбоцкай і мазырскай калоній, дзе раней утрымліваўся Дашкевіч. 15 лістапада адвакат зноў сустрэўся з Дзмітрыем Дашкевічам. Стала вядома, што палітвязень у камеры знаходзіцца адзін, па ўмовах строгага рэжыму яму дазволена толькі адна бандэроль вагой у 2 кілаграмы ў год, так што ён вымушаны харчавацца тым, што даюць у турме. У мясцовым кіёску ён можа набыць сабе яшчэ штосьці па заяве не больш чым на 100 тысяч рублёў за месяц (каля 12 даляраў ЗША).

8 лістапада ў Віцебску быў затрыманы 22-гадовы намеснік кіраўніка моладзевага аб'яднання «Саюз маладых інтэлектуалаў» слесар «Нафтану» Андрэй Гайдукоў з Наваполацка, праз некалькі дзён — перавезены ў Мінск у СІЗА КДБ. Па гэтай самай справе быў дапытаны яшчэ адзін наваполачанін, актывіст ствараемай партыі БХД Ілля Багданаў, аднак яго адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Афіцыйны сайт КДБ паведаміў, што «Камітэтам дзяржаўнай бяспекі спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся па заданні замежнай выведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару. Гэты грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка з цікавячымі замежныя спецслужбы звесткамі. У дачыненні да затрыманага ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 арт. 356 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці», праводзіцца комплекс аператыўна-вышуковых і следчых мерапрыемстваў, накіраваных на выяўленне іншых эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці». 22 лістапада Грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь» заявіла, што Андрэй Гайдукоў быў затрыманы, калі перавозіў частку накладу газеты

«Хартыя'97» для распаўсюджання ў Віцебскай вобласці. 29 лістапада стала вядома, што ён будзе пераведзены з СІЗА КДБ у СІЗА №2 г. Віцебска.

9 лістапада палітвязень Эдуард Лобаў, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі №5, сустрэўся з ксяндзом. Апошняя сустрэча верніка са святаром была амаль год таму. З 16 па 19 лістапада ў маці Эдуарда Лобава Марыны было доўгатэрміновае спатканне з сынам. Яна паведаміла, што сын на ўмовы ўтрымання не скардзіцца, у яго ўсё ў парадку са здароўем, хоць нядаўна ён быў прастуджаны, але ўжо паправіўся, трымаецца бадзёра, настрой добры. У калоніі Эдуард, паводле яе слоў, не працуе, бо там працы няма, застаўся толькі адзін рабочы атрад. Ён шмат чытае, яму выпісана шмат газет, усе прыходзяць. У яго няма праблем і з адміністрацыяй калоніі, і з іншымі зняволенымі.

10 лістапада маці Ігара Аліневіча, які адбывае пакаранне ў Навапалацкай калоніі, атрымала «доўгатэрміновае спатканне» з сынам, скарочанае з трох сутак да адных. Прадукты адміністрацыя калоніі перадаць не дазволіла, у тым ліку і два мяхі яблык, якія спадарыня Валянціна хацела ахвяраваць у атрад, дзе ўтрымліваецца яе сын. Харчовых перадач Ігар Аліневіч пазбаўлены цягам апошніх шасці месяцаў. Ігар Аліневіч — вегетарыянец. Як злоснаму парушальніку рэжыму яму «ўрэзалі» так званую «атаварку» — патраціць на ежу і прадметы асабістай гігіены ён можа толькі 100 тысяч рублёў у месяц (каля 12 даляраў ЗША).

21 лістапада афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага Камітэта па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч паведаміў пра працягненне папярэдняга следства па крымінальнай справе карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej» з Гродна Андрэя Пачобута на месяц. Па яго словах, гэта зроблена «для правядзення дадатковых следчых і працэсульных дзеянняў», а «для дачы аб'ектыўнай ацэнкі дзеянняў абвінавачанага прызначаны шэраг лінгвістычных экспертыз». 29 лістапада Андрэя Пачобута выклікалі да следчага, каб паведаміць, што па ягоных публікацыях прызначана яшчэ адна лінгвістычная экспертыза, якую будуць праводзіць супрацоўнікі Гарадзенскага ўніверсітэта. Гэта ўжо чацвёртая лінгвістычная экспертыза ў гэтай справе, да гэтага экспертызы былі праведзены экспертамі Акадэміі кіравання пры прэзідэнце, БДУ і Акадэміі навук. А. Пачобут выказаў меркаванне, што новая экспертыза прызначаная для таго, каб даць следчым дадатковы час. Следчы таксама пазнаёміў журналіста з вынікамі тэхнічнай экспертызы канфіскаваных камп'ютараў. «Кампутары экспертам знаё-

мыя, яны іх і мінулы раз правяралі. Вынік чаканы — «Белпартызан» і «Хартыя» з гэтага кампутара сапраўды наведваліся, тэкставыя файлы некаторых артыкулаў, якія фігуруюць у абвінаваўчым заключэнні, сапраўды ёсць», — адзначыў Пачобут. Тэхніку А. Пачобуту не вярнулі, бо гэтыя камп'ютары далучаны да матэрыялаў справы. Андрэй Пачобут абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынаства, прадугледжанага ч. 2 арт. 367 КК РБ «Паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Справу завяло ўпраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці ў чэрвені 2012 г. на падставе шэрагу публікацый журналіста ў інтэрнэце. 21 чэрвеня ў яго кватэры ў Гродна адбыўсяператрус, да 30 чэрвеня журналіст утрымліваўся ў гродзенскім СІЗА, пасля чаго быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. Паводле Крымінальнага кодэкса Беларусі, журналіста могуць пакараць абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленнем волі на такі ж тэрмін. Да гэтага тэрміну можа дадацца трохгадовы тэрмін зняволення, на які Пачобут быў асуджаны 5 ліпеня 2011 г. з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады. Тады журналіста прызналі вінаватым у парушэнні арт. 367 ч. 1 («паклёп на прэзідэнта»). Па законе, калі на працягу двух гадоў асуджаны здзейсніць парушэнне гэтага ж артыкула закона, то пакаранне абавязкова будзе ўжыта супраць яго.

22 лістапада ў Берліне была ўручана прэмія імя Петры Келі, якую фонд імя Генрыха Бёля прысудзіў зняволенаму кіраўніку Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму. Узнагарода была прысуджана як знак прызнання заслуг Бяляцкага ў адстойванні правоў чалавека ў аўтарытарнай Беларусі. Атрымала прэмію жонка палітвязня Наталля Пінчук. Раней Алесь Бяляцкі адмовіўся ад грашовага складніка прэміі — 10 000 еўра, папрасіўшы накіраваць гэтыя сродкі на падтрымку праваабарончай дзейнасці ў Беларусі. 24 лістапада споўнілася роўна год, як суд Першамайскага раёна Мінска асудзіў Алеся Бяляцкага да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці, у тым ліку — памяшкання, у якім месціўся 12 гадоў мінскі офіс «Вясны» (канфіскацыя прызначана на 26 лістапада 2012 года). 26 лістапада прэзідэнт Французскай рэспублікі Франсуа Аланд узвёў прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Суэр Белхасен у ранг кавалера ордэна Ганаровага легіёна. Ён прысвяціў гэтую ўзнагароду ўсім актывістам FIDH, і асабліва — тым, што знаходзяцца ў зняволенні, сярод іх і віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі. 29 лістапада Алесь Бяляцкі патэлефанаваў з Бабруйскай калоніі дадому. Па словах яго жонкі Наталлі Пінчук, лістоў ад мужа не было ўжо некалькі тыдняў, таму кароткае тэлефанаванне для яе стала падзеяй. Алесь Бяляцкі сказаў, што ведае пра канфіскацыю памяшкання, у якой знаходзіўся офіс «Вясны».

28 лістапада стала вядома, што на 4 снежня прызначана выязное пасяджэнне Шклоўскага суда па справе вязня шклоўскай калоніі Мікалая Дзядка, на якім павінна быць прынятае рашэнне адносна накіравання зняволенага як злоснага парушальніка рэжыму з калоніі ў «крытую» турму. Суддзя Віталь Волкаў дазволіў абараняць Мікалая Дзядка на пасяджэнні ягонаму адвакату, але не даў дазволу на тое, каб палітвязня абараняў таксама ягоны бацька, былы суддзя Мінскага абласнога суда Аляксандр Дзядок. Паводле А. Дзядка, у яго сына ўжо 22 спагнанні за розныя парушэнні дысцыпліны, і спецыяльная камісія ў калоніі выказалася за накіраванне Мікалая Дзядка ў «крытую» турму. Бацька палітвязня лічыць, што ўсе гэтыя парушэнні тлумачацца тым, што сын адмаўляецца падпісваць прашэнне аб памілаванні.

28 лістапада стала вядома, што Аляксандра Францкевіча, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі ўзмоцненага рэжыму «Воўчыя норы», змясцілі ў штрафны ізалятар. Маці вязня — Таццяне Францкевіч не ўдалося даведацца, на колькі сутак і па якой прычыне такое рашэнне прыняла адміністрацыя калоніі, але не выключае, што гэта звязана з жаданнем падарваць маральны дух палітзняволенага.

## Смяротнае пакаранне

21 лістапада маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва атрымала рашэнне КПЧ ААН, датаванае 14 лістапада. Зварот быў разгледжаны ў рэкордна кароткі тэрмін — менш за год. Камітэт прызнаў, што следства праводзілася са шматлікімі памылкамі, да Кавалёва прымянялася фізічная сіла і прымус даваць паказанні супраць сябе, суд не быў бесстаронні, было парушана права на жыццё. Зварот у Камітэт па правах чалавека Любоў Кавалёва і яе дачка Таццяна Казяр падалі 14 снежня 2011 года, і ўжо на наступны дзень ён быў зарэгістраваны. Дзяржава падчас перапіскі з КПЧ увесь час аспрэчвала сам факт рэгістрацыі скаргі, хаця яе працэдура ніводнай краінай свету не абскарджвалася. У сваіх адказах беларускія ўлады падкрэслівалі, што загадзя вядома, што рашэнне Камітэта будзе палітызаваным, а таму дзяржава не будзе да яго прыслухоўвацца. У адносінах да заяўнікаў Любові Кавалёвай і Таццяны Казяр КПЧ прызнаў таксама парушэнне права на атрыманне цела забітага сваяка і інфармацыі пра час і месца ягонага пахавання і рэкамендаваў дзяржаве змяніць ч.5 арт.175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, паводле якога родным забараняецца выдача цела. Таксама дзяржаве рэкамендавана апублікаваць рашэнне КПЧ у дзяржаўных выданнях. Дакумент дасылаецца як заяўнікам (Кавалёвай і Казяр), так

і прадстаўнікам улады (Міністэрству замежных справаў). Дагэтуль на разглядзе КПЧ знаходзяцца яшчэ 4 справы па вынесеных у Беларусі смяротных пакараннях.

30 лістапада ў Мінску да сусветнай акцыі «Гарады за жыццё, гарады супраць пакарання смерцю» далучыліся актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі». Актывісты знічкамі падсвяцілі касцёл святых Сымона і Алены. Гэты будынак абралі невыпадкова. Ён з'яўляецца вельмі пазнавальным не толькі ў Мінску і ў Беларусі, але і за яе межамі. Да таго ж непадалёку ад касцёла на вуліцы Валадарскага ў СІЗА №1 дзейнічае «спецкалідор» — месца, дзе і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

8 лістапада на вуліцы Сікорскага ў Брэсце аўтамабіль, на якім ехаў праваабаронца Раман Кісляк, быў спынены супрацоўнкамі Дзяржаўтаінспекцыі. Пасля праверкі дакументаў яны заявілі Кісляку, што затрымаюць яго, бо ён нібыта хаваецца ад адміністрацыйнага пераследу. Калі Рамана Кісляка адвезлі ў Ленінскі РАУС Брэста, там высветлілася, што падставай для затрымання стала тое, што праваабаронца не прайшоў дактыласкапію. Раней яго ўжо затрымлівалі і настойліва патрабавалі, каб ён здаў адбіткі пальцаў, але тады Р. Кісляк абскардзіў гэтае прымусовае патрабаванне ў пракуратуры, і яго больш не выклікалі ў міліцыю з гэтай нагоды. Аднак 8 лістапада Кісляку прыйшлося прайсці дактыласкапію, бо ў адваротным выпадку яму пагражала забарона на выезд з Беларусі, што магло нашкодзіць праваабарончай дзейнасці. Сваё ўключэнне ў адмысловую базу дадзеных, на падставе чаго і адбылося затрыманне, Раман Кісляк лічыць незаконным і выказаў намер абскарджваць гэтае рашэнне.



12 лістапада віцебскі праваабаронца, які на працягу ночы знаходзіўся на месцы выбуху каля будынка КДБ у Віцебску і даваў каментары з месца падзеі, быў дастаўлены ў Кастрычніцкі РУУС, дзе яго аштрафавалі на 200 тысяч рублёў (2 базавыя адзінкі) за пераход дарогі ў недазволеным месцы. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні быў складзены на праваабаронцу інспектарам ДАІ Баранавым, па меркаванні Левінава, па загадзе начальніка інспектара Халаднова, які запатрабаваў ад свайго падначаленага заняцца менавіта ім, каб адцягнуць увагу ад будынка КДБ. Да гэтага Баранаў ніяк не рэагаваў на супрацоўнікаў КДБ, якія пераходзілі дарогу не на пешаходным пераходзе.

20 лістапада стала вядома, што апеляцыйная інстанцыя Мінскага гаспадарчага суда адмовіла ўстанове «Платформа» ў задавальненні скаргі на рашэнне суда аб ліквідацыі. Паводле кіраўніка «Платформы» Андрэя Бандарэнкі, разгляд скаргі адбыўся яшчэ 13 лістапада ў адсутнасць прадстаўнікоў установы. Па ягоных словах, сакратар суда нібыта згубіла заяву праваабаронцаў аб пераносе пасяджэння, а суддзя зрабіў выгляд, што нічога ўжо зрабіць немагчыма. Андрэй Бандарэнка паведаміў, што ўжо накіраваная касацыйная скарга ў Вышэйшы гаспадарчы суд, а таксама пададзеная скарга ў пракуратуру.

21 лістапада штраф у памеры 5 базавых велічынь (500 тысяч рублёў) атрымаў па рашэнні Інспекцыі па падатках і зборах Савецкага раёна Гомеля праваабаронца Леанід Судаленка. На яго быў складзены адміністрацыйны пратакол па артыкуле 23.9 КаАП («парушэнне прадстаўлення дэкларацыі»). Нагадаем, падатковая запатрабавала дэкларацыю аб прыбытках за пяць гадоў у праваабаронцы, яго жонкі і нават сына, які служыць у войску. Леанід Судаленка адмовіўся прадставіць дэкларацыю, і меў на тое некалькі істотных прычын. Па-першае, у 2008 годзе падатковая ўжо патрабавала ў яго дэкларацыю, якую ён і прадставіў. А потым звесткі пра яго прыбыткі з'явіліся ў газеце «Гомельская праўда», што недапушчальна і парушае заканадаўства (разгалошванне звестак службовай асобай). Таксама праваабаронца цікавіўся ў падатковай: па чыім даручэнні дзейнічае інспекцыя, хто стаў ініцыятарам праверкі, і наогул, адкуль у падатковай такая цікаўнасць да яго сям'і, сына ў войску? Начальнік інспекцыі па падатках і зборах па Савецкаму раёну Канстанцін Трацэўскі разгледзеў адміністрацыйны пратакол і пакараў праваабаронцу штрафам, прычым са словамі «я вымушаны гэта зрабіць». Адразу ж у падатковай яму разам з пастановай аб штрафе ўручылі і новае патрабаванне ад прадстаўленні дэкларацыі.

26 лістапада ў 10 гадзінаў раніцы ў памяшканне, дзе апошнія 12 гадоў месціўся офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна», прыйшлі судовыя выканаўцы, міліцыянты, аператар у грамадзянскім, супрацоўнікі камунальных службаў і двое панятых. Судовыя выканаўцы апячаталі памяшканне арганізацыі. За некалькі хвілін да канфіскацыі офіса і маёмасці намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч агучыў заяву, прынятую Радай арганізацыі. У ёй адзначаецца, што страта офіса — сур'ёзны ўдар для «Вясны», аднак гэта не спыніць праваабарончую дзейнасць. Арганізацыя працягне дапамагаць людзям, чые правы парушаюцца, а таксама адсочваць агульную сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.

У лістападзе падаткавыя органы выкарысталі новыя спосабы ціску на сябра Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна», прэзідэнта Беларускага Дома правоў чалавека Таццяну Рэвяка. Праверка даходаў і маёмасці праваабаронцы, якую ажыццяўляе інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах РБ па Першамайскім раёне г. Мінска за перыяд з 2004 па 2010 год, не выявіла ў прадстаўленых ёю дакументах парушэнняў, звязаных з утойваннем прыбыткаў. Аднак падчас праверкі высветлілася, што ў падатковы орган перададзены дадзеныя з крымінальнай справы кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага. Таццяна Рэвяка ўжо двойчы (20 і 27 лістапада 2012 года) была апытаная старэйшым падатковым інспектарам аддзела кантролю за дэкларааваннем прыбыткаў і маёмасці фізічных асобаў інспекцыі МНС па Першамайскім раёне Валянцінай Буравай адносна сум, якія фігуруюць у крымінальнай справе Алеся Бяляцкага, і якія праваабаронца нібыта ёй пералічваў. Таццяне Рэвяка было прапанавана адказаць на пытанні, датычныя наяўнасці рахункаў у літоўскім банку, мэтаў іх адкрыцця, характару пераводаў на іх сродкаў. У пратаколе апытання ўказваецца, што «у інспекцыі маюцца копіі выпісак з рахункаў АО DnB NORD банк, Вільнюс, Літва, згодна з якімі атрымальнікам грашовых сродкаў выступае Таццяна Рэвяка» (ад А. Бяляцкага), аднак інспектар адмовілася прадставіць самі выпіскі. У такой сітуацыі праваабаронца адмовілася каментаваць інфармацыю без азнаямлення з дакументамі, а адносна тлумачэнняў па рахунках скарысталася сваім канстытуцыйным правам не даваць сведчанняў, якія могуць быць скарыстаны супраць яе. Інспектар Бурава паведаміла, што падаткавая будзе праводзіць праверку па атрыманай са справы Бяляцкага інфармацыі, па выніках якой будзе прынята рашэнне, ці будуць сродкі, якія нібыта былі пералічаны Таццяне Рэвяка, залічаныя як яе асабісты прыбытак, які не быў задэклараваны і з якога не выплачаныя падаткі.

## Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

11

19 лістапада дэпутата Асіповіцкага райсавета, сябра аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Аляксея Цюлькова выклікалі ў мясцовае ўпраўленне КДБ. Пасля працяглай гутаркі, якая цягнулася каля чатырох гадзін, яго папярэдзілі, што паводле артыкула 193.1 КК Беларусі ён можа быць прыцягнуты да адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Раней у КДБ былі выкліканы і іншыя асіповіцкія сябры аргкамітэта БХД — Анатоль Цераш і Ўладзімір Кліманові̇ч.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 лістапада адміністрацыйная камісія Слуцкага райвыканкама прызнала грамадскага актывіста Віталя Амяльковіча вінаватым у парушэнні правіл добраўпарадкавання населеных пунктаў. У другі раз камісія палічыла даказаным факт расклейвання налепак на слупе каля крамы. Гэта было кваліфікавана як парушэнне арт. 21.14 ч.2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і правілаў добраўпарадкавання населеных пунктаў, зацверджаных рашэннем Слуцкага райвыканкама. Адміністрацыйная камісія вынесла рашэнне за зачыненымі дзвярыма. Яе кіраўнік Наталля Чарнушэвіч прапанавала Віталю Амяльковічу выдаліцца пасля таго, як даведалася, што грамадскі актывіст запісаў на дыктафон папярэдняе паседжанне камісіі. Аднак на гэты раз Амяльковічу ўдалося даведацца, хто менавіта яго затрымліваў ноччу 14 ліпеня і бачыў, «як ён расклейваў налепкі на слупе». Гэтым чалавекам аказаўся начальнік Слуцкага РАУС Аляксей Суром. Грамадскі актывіст не згодны з рашэннем адміністрацыйнай камісіі, якая аштрафавала яго на 1 мільён рублёў, і выказаў намер яго абскардзіць у судзе Слуцкага раёна.

8 лістапада ў Свіслачы (Гродзенская вобласць) супрацоўнікі склалі пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння на мясцовых жыхароў Анатоля Валюка, Віктара Дзесяціка і Юрыя Глебіка за ўдзел у акцыі 27 кастрычніка бягучага года па ўшанаванні памяці братоў Віктара і Кастуся Каліноўскіх. Дзень памяці паўстанцаў 1863 года адзначаецца ў Свіслацкім раёне дзевятнаццаць гадоў запар, ніколі з боку ўдзельнікаў не было ніякіх правакацый ці парушэнняў грамадскага парадку. У гэтым жа годзе ў час традыцыйнага святкавання былі затрыманы чатыры актывісты з розных гарадоў Беларусі, трое з іх былі асуджаны да трох сутак адміністрацыйнага арышту, яшчэ адзін — да грашовага штрафу. Праз некалькі дзён пасля гэтых судоў міліцыя стала турбаваць мясцовых удзельнікаў свята. 27 лістапада ў Свіслацкім раённым судзе адбыўся разгляд трох адміністрацыйных пратаколаў, складзеных у дачыненні да Анатоля Валюка, Віктара Дзесяціка і Юрыя Глебіка. Першым быў аштрафаваны паэт Анатоль Валюк. Суддзя Жанна Салагубік, якая вяла працэс, адмовіла яму ў выкліку сведкаў на той падставе, што яны таксама праходзяць па аналагічнай справе як абвінавачаныя. Відэазапіс, які вяла міліцыя ў дзень акцыі памяці, на судзе ў гэты раз прадэманстраваць не змаглі. Анатоль Валюк сцвярджае, што яго на відэаздымцы ўвогуле не было — па-сутнасці яго аштрафавалі за прысутнасць у гэты дзень у райцэнтры. Затым суддзя Салагубік імкліва разгледзела яшчэ

два аналагічныя пратаколы, у выніку чаго кіраўнік свіслацкай суполкі БСДГ Віктар Дзесяцік і сябра асветніцкага грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі» Юрый Глебік таксама былі аштрафаваныя на 10 базавых велічынь. 22 лістапада ў Ленінскім РАУС Гродна грамадскі актывіст Алесь Кіркевіч быў апытаны на прадмет яго ўдзелу ў традыцыйным Дні памяці паўстанцаў у Свіслацкім раёне. Кіркевічу паведамілі, што ў дачыненні да яго ідзе адміністрацыйны працэс і задалі некаторыя пытанні, якія былі аформлены ў выглядзе пратакола апытання. Алесь Кіркевіч адказаў, што ён сапраўды быў у Свіслачы на гэтым мерапрыемстве і адмовіўся адказваць на шэраг іншых пытанняў.

8 лістапада суддзя суда Маскоўскага раёна г. Мінска Таццяна Моталь вынесла рашэнне аб адміністрацыйным арышце на 15 сутак актывіста «Маладога Фронту» Уладзіміра Яроменкі па абвінавачанні ў «дробным хуліганстве» па арт. 17.1 КаАП.  Актывіст быў затрыманы 6 лістапада на плошчы Незалежнасці ў Мінску, дзе напярэдадні 7 лістапада актывісты МФ аблілі настойкай валяр'яны пастамент помніка Леніну. Мэта акцыі — заахвоціць катоў і котак з навакольных тэрыторыяў прыйсці пад помнік і «выказаць свае пачуцці». Уладзімір Яроменак быў затрыманы аховай Дома урада каля помніка Леніну падчас падрыхтоўкі да кашачага пратэсту і дастаўлены ў РАУС Маскоўскага раёна.

9 лістапада суддзя суда Маскоўскага раёна г. Мінска Таццяна Моталь вынесла рашэнне аб адміністрацыйным арышце на 15 сутак актывіста «Маладога Фронту» Рамана Васільева па абвінавачанні ў «дробным хуліганстве» па арт.17.1 КаАП. Раман Васільеў быў затрыманы ў Мінску 8 лістапада і ноч правёў у Маскоўскім РАУСе. Затрыманне адбылося, калі актывіст выйшаў з дому, каб ехаць на сустрэчу. Як «дробнае хуліганства» суддзя расцаніла ўдзел у акцыі на плошчы Незалежнасці ў Мінску, дзе напярэдадні 7 лістапада актывісты МФ аблілі настойкай валяр'яны пастамент помніка Леніну.



19 лістапада прадпрымальнік з Баранавіч Мікола Чарнавус быў пакараны судом горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна штрафам у 3 мільёны рублёў (30 базавых велічынь) па абвінавачанні ў «арганізацыі і правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства» — арт. 23.34 ч. 2 Адміністрацыйнага кодэкса за арганізацыю дабрачыннага абеду на мясцовым каапрынку 6 кастрычніка. Рашэнне прыняла суддзя Аксана Сарахман.

18 лістапада жыхар Гомеля Станіслаў Яленскі вяртаўся з Украіны праз памежны пункт пропуску «Новая Гута», дзе быў спынены памежнікамі для пільнага дагляду. Прычынай для гэтага стала аплікацыя на заднім шкле аўто — мядзведзік з парашутам, які трымае ў руках цыдулку «Привет ПВО!». Адзін з памежнікаў зацікавіўся мядзведзікам і спытаўся, што азначае гэтая аплікацыя, затым выклікаў начальніка змены, і аўтамабіль гамяльчаніна адагналі для таго, каб разабрацца. Прыйшоў іншы памежнік з фотаапаратам і ва ўсіх ракурсах сфатаграфаваў медзведзяня на заднім шкле аўтамабіля. Гэтая рэакцыя памежнікаў хутчэй за ўсё звязаная з акцыяй «плюшавы дэсант», якую ажыццявілі ў ліпені шведскія грамадзяне, раскідаўшы на тэрыторыі Беларусі з лёгкаматорнага самалёта плюшавых мішак з патрабаваннямі забеспячэння правоў і свабод у краіне.

21 лістапада на беларуска-украінскай мяжы на памежным пераходзе «Новая Гута» мытнікі правялі асабісты дагляд каардынатара моладзевай сеткі Прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Андрэя Стрыжака. У выніку ноўтбук, які ён меў пры сабе, быў выняты для праверкі. Затрыманне праводзіў старэйшы лейтэнант Раман Тофан.

22 лістапада прыблізна ў 15.30 каля ўнівермага «Беларусь» на Партызанскім праспекце ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі двух актывістаў «Еўрапейскай Беларусі» — Сяргея Казакова і Валянціну Цюраву, якія раздавалі газету «Хартыя'97». Затрыманых даставілі ў Заводскі РУУС, адкуль адпусцілі пасля 19 гадзін.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, праслед журналістаў

12 лістапада на беларуска-літоўскай мяжы на мытным пункце «Каменны Лог» пры перавозцы ў фатографаў Аляксандра Васюковіча і Юліі Дарашкевіч быў выняты для экспертызы 41 асобнік альбомаў BELARUS PRESS PHOTO за 2011 год. Фатограф і арганізатар конкурсу «Прэс-фота Беларусі» Юлія Дарашкевіч паведаміла, што мытнікі вырашылі выняць альбомы, каб праверыць, ці няма там якой інфармацыі, якая шкодзіць беларускай дзяржаве. Яна адзначае, што гэтыя альбомы былі выдадзены цалкам легальна і ўсе мыты на іх даўно сплачаныя. 26 лістапада Ашмянскае аддзяленне мытні праінфармавала А.Васюковіча, што «друкаваная прадукцыя — BELARUS PRESS PHOTO ў колькасці 41 асобніка на падставе вынікаў правядзення мытнай экспертызы прызнаецца незаконнай (не адпаведнай Дзяржаўнаму стандарту РБ СТБ 7.4-2009

«Выданні. Выходныя звесткі») і падлягае знішчэнню. BELARUS PRESS PHOTO — штогадовы конкурс медыя-фатографаў, заснаваны ў 2009 годзе айчыннымі фотарэпарцёрамі. У прэстыжнай гонцы штогод удзельнічаюць дзясяткі беларускіх фатографаў, фінальныя экспазіцыі дэманструюцца далёка за межамі Беларусі, а па выніках — ужо двойчы выпускалі складанку фатаграфій-пераможцаў.

13 лістапада стала вядома, што былы галоўны рэдактар часопіса «ARCHE» Валеры Булгакаў з'ехаў з Беларусі. Па ягоных словах, да такога ўчынку яго вымусіла следства, якое ўлада пачала супраць інтэлектуальнага выдання. Ён таксама выказаў меркаванне, што следства можа разглядаць розныя магчымасці інкрымінаваць яму розныя склады злачынства: або звязаны з распаўсюдам экстрэмісцкіх публікацый, або звязаныя з незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю, або са злоўжываннем службовай пасадай. 16 лістапада рэдакцыя часопіса «ARCHE» прыняла рашэнне не ўключаць выданне ў падпісны каталог «Белпошты» на першае паўгоддзе 2013 года. Рэдакцыя таксама звярнулася з просьбай да «Белпошты» вярнуць падпісчыкам грошы за другое паўгоддзе 2012 года. Пра гэта гаворыцца ў заяве, размешчанай на сайце часопіса. У дакуменце зазначаецца, што з сярэдзіны верасня выданне перажывае пастаянны ціск, у першую чаргу з боку дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) Камітэта дзяржкантролю. «Праводзіцца паглыбленая праверка гаспадарчай дзейнасці «ARCHE», яго супрацоўнікі выклікаюцца на гутарку ў ДФР, дзяржаўнае тэлебачанне імкнецца стварыць уражанне, нібыта гістарычныя матэрыялы, апублікаваныя ў свой час на старонках часопіса, маюць экстрэмісцкі характар. Блакіроўка рахунку «ARCHE» не дазволіла выпусціць у свет некалькі поўнасцю падрыхтаваных да друку нумароў». Звароты непасрэдна ў ДФР і скаргі ў вышэйшыя інстанцыі з просьбай разблакаваць рахункі выдання не мелі поспеху, гаворыцца ў заяве. «Мы не лічым сумленным браць на сябе новыя абавязацельствы перад сваімі падпісчыкамі ў той час, калі не выкананы яшчэ і старыя (пяць нумароў за другое паўгоддзе 2012 года ў друк выпусціць нам так і не ўдалося). І менавіта таму, да высвятлення сітуацыі, самі вырашылі адмовіцца ад уключэння нашага выдання ў падпісны каталог на першае паўгоддзе 2013 года, а таксама прасіць «Белпошту» аб вяртанні падпісчыкам «ARCHE» грошай за другое паўгоддзе 2012 года». 30 лістапада Упраўленне ДФР па Мінску і Мінскай вобласці адказала на пісьмовае хадайніцтва ГА «БАЖ» аб разблакаванні банкаўскага рахунку рэдакцыі часопіса «ARCHE». Дэпартамент фінансавых расследаванняў (ДФР) сцвярджае, што рэдакцыя не прадаставіла для праверкі патрэбных дакументаў.

Намеснік кіраўніка Упраўлення ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску А. С. Лагуноў піша, што ў сувязі з гэтым УДФР прыняло рашэнне заблакаваць рахунак. У «ARCHE» заявілі, што перадалі ў ДФР усё запатрабаванае.

14 лістапада стала вядома, што Беларусь апынулася ў «Еўрапейскім спісе асаблівай увагі» Міжнароднага інстытута прэсы (IPI). Разам з нашай краінай у яго ўваходзяць Турцыя, Венгрыя і Украіна. Усе яны «паказваюць трывожныя прыклады адступлення ад свабоды СМІ ў Еўропе». Спіс краін складаецца на падставе справаздач экспертаў IPI і Медыяарганізацыі Паўднёва-усходняй Еўропы (SEEMO). «IPI абрала гэтыя чатыры краіны не таму, што яны абавязкова найгоршыя ці адзіныя злачынцы, а таму, што кожная з іх сімвалізуе рост пагрозы для свабоды СМІ ў Еўропе», — тлумачыць арганізацыя.

21 лістапада старшыні Управы Беларускага Радыё Рацыя, старшыні Беларускага Саюза ў Польшчы Яўгену Вапу ў консульстве ў Беластоку адмовілі ў магчымасці атрымання доўгатэрміновай візы. У траўні мінулага года на мяжы Яўгену Вапу анулявалі дзеючую беларускую візу.

22 лістапада Светлагорскі райвыканкам сваім распараджэннем абавязаў мясцовыя прадпрыемствы і арганізацыі падпісацца на наступны год на дзяржаўныя выданні — ад «Советской Белоруссии» да мясцовай раёнкі «Светлагорскія навіны». У інтэрнэт трапіў загад генеральнага дырэктара светлагорскага аб'яднання «Хімвалакно» Васіля Касцюкевіча структурным падраздзяленням пра абавязковую падпіску на 8 афіцыйных газет. Кіраўнікам загадана пад персанальную адказнасць «арганізаваць падпіску на перыядычныя выданні сярод падначаленых работнікаў». І робіцца гэта, як сказана ў загадзе, дзеля «больш поўнай інфармаванасці работнікаў пра палітычнае, эканамічнае, грамадскае, прафсаюзнае жыццё краіны і рэгіёна», а таксама дзеля «фармавання адзінага духу і задач». Дзеля гэтага трэба выпісаць 465 асобнікаў «Советской Белоруссии — Беларусь сегодня», па 5 асобнікаў «Звязды», «Народнай газеты», «Знамени юности», 12 — «Гомельскай праўды», 1 — «Рэспублікі» і 501— «Светлагорскіх навінаў». Практыка прымусовай падпіскі на дзяржаўныя выданні дзейнічае і на іншых прадпрыемствах. У суседнім Жлобіне на Беларускім мэталургічным заводзе да вышэйназваных выданняў дадаецца яшчэ раённая газета «Новы дзень» і заводская «Металлург». Рэчыцкія настаўнікі адзначаюць, што іх прымушаюць на невялікія грошы, якія выплочваюць на набыццё метадычнай літаратуры, выпісваць абавязкова «Настаўніцкую газету».

## Абмежаванне свабоды сходаў

5 лістапада віцебскім сябрам КХП-БНФ прыйшоў з гарвыканкама адказ на заяўку аб правядзенні масавага мерапрыемства 7 лістапада. Заяўнікам адмовілі па прычыне таго, што яны прасілі дазволу на шэсце і мітынг у недазволеных месцах. Для правядзення масавых акцый у Віцебску вызначаны тры месцы, кожнае — на ўскраіне горада. Актывісты КХП БНФ не згодныя з такім парадкам рэчаў: яны падалі заяўку на шэсце ад віцебскага чыгуначнага вакзала да плошчы Леніна, каб там правесці яшчэ і пікет. Сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў адзначыў, што яны планавалі 7 лістапада непасрэдна каля помніка Леніну пагаварыць з жыхарамі горада пра згубную ролю камуністычнай ідэалогіі для развіцця Беларусі, пра дзейнасць камуністаў па знішчэнні нацыянальнай культуры, мовы і самаідэнтычнасці беларускага народа.

25 лістапада ў Магілёве адбыўся дазволены мясцовымі ўладамі «Славянскі марш», які раней планаваўся на 11 лістапада. Арганізатарам мерапрыемства выступіў Дзмітрый Дзенісенка, які з’яўляецца нефармальным сябрам адной з прарасійскіх радыкальных арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, і мае дачыненне да працы інфармацыйнага рэсурсу 14vn.com («Верный народ»). У цэлым гэты рэсурс мае радыкальную скіраванасць і выступае супраць Беларусі як незалежнай дзяржавы. Сярод мэтаў «Славянскага маршу» на сайце пазначаны: адраджэнне адзінай і непадзельнай Русі, славянскае братэрства і рускае адзінства, традыцыйныя духоўна-маральныя каштоўнасці, сапраўдная праваслаўная духоўнасць, адраджэнне агульнарускіх традыцый, сацыяльная справядлівасць, супрацьдзеянне сусветнаму электроннаму канцлагеру (маецца на ўвазе чыпізацыя насельніцтва). Мясцовыя ўлады дазволілі мерапрыемства, аднак не дазволілі выкарыстанне чорна-жоўта-белага сцяга, які з’яўляецца сімвалам манархічнага руху і ў часы Расійскай імперыі быў афіцыйным сцягам. Сваю адмову ў выкарыстанні дадзенай сімволікі чыноўнікі матывавалі тым, што яна не з’яўляецца зарэгістраванай у Беларусі. Падчас шэсця ўдзельнікі маршу выкрыквалі лозунгі «Слава России!», «Русские вперёд», «Слава Белой Руси!». Ужо пасля акцыі, 29 лістапада, стала вядома, што напярэдадні «Славянскага маршу» ў Магілёве затрымлівалі актывіста, які расклейваў антыфашыстоўскія ўлёткі на слупах па маршруту руху ўдзельнікаў маршу. На ўлётках былі выявы перакрэсленай свастыкі і перакрэсленага двухгаловага арла — сучаснага герба Расіі. Іх ён вырабіў самастойна і раздрукаваў на ўласнай друкарцы. Актывіста заўважылі супрацоўнікі ДАІ, па рацыі выклікалі міліцыю, якія адвезлі яго ў Ленінскі РАУС, дзе

яго апыталі, склалі пратакол і выпісалі позву, каб ён прыйшоў да іх 29 лістапада. Па словах антыфашыста, перад тым, як яго адвезлі ў РАУС, да яго падышоў супрацоўнік КДБ, які азнаёміўся са зместам улёткі і даў зразумець, што з гэтым не павінна быць ніякіх праблем. У РАУСе актывіст абвінавацілі ў тым, што ён расклейваў улёткі без спецыяльнага дазволу і ў нявызначаным месцы. Калі ж Аляксандр прыйшоў па позве ў міліцыю, то там яму паведамілі, што ягоную справу закрылі і пастанову аб гэтым ужо выслалі па пошце.

26 лістапада каля помніка Уладзіміру Караткевічу ў Віцебску сабраліся прадстаўнікі партый і грамадскіх арганізацый, каб адзначыць ўгодкі славутага беларускага пісьменніка. Чытанне вершаў і выступы аматараў творчасці пісьменніка міліцыя расцаніла як несанкцыянаванае масавае мерапрыемства, і прысутным давялося разыходзіцца перад пагрозай быць затрыманымі. Усяго было задзейнічана 14 супрацоўнікаў міліцыі, усіх удзельнікаў імпрэзы здымаў на відэакамеру «штатны» аператар. Спачатку міліцыянты толькі назіралі за падзеямі, потым супрацоўнік міліцыі ў форме, але без бэйджа з прозвішчам заявіў, што тут сабраліся ўдзельнікі несанкцыянаванага мерапрыемства, ды яшчэ з выкарыстаннем атрыбутыкі — меліся на ўвазе бел-чырвона-белыя стужкі, прышпіленыя на грудзях у прысутных. На просьбу абласнога каардынатара руху «За Свабоду» Хрыстафора Жаляпава назваць сябе міліцыянт прадставіўся маёрам Багданавым і прыгразіў затрыманнем, калі прысутныя не разыдуцца. Супрацоўнікі ў цывільным атачылі прысутных у кола, пачуўшы словы маёра Багданава пра несанкцыянаванае мерапрыемства. Было вырашана не азмрочваць святкаванне ўгодкаў пісьменніка разбіральніцтвам у пастарунку і судзе, таму на працягу 10.15 хвілін прысутныя разышліся.

28 лістапада Слуцкі райвыканкам адмовіў Партыі БНФ праводзіць мітынг, прысвечаны ўшанаванню памяці ўдзельнікаў Слуцкага паўстання. Акцыя была запланавана на 1 снежня на гарадскім стадыёне. Прычына адмовы — правядзенне мясцовымі ўладамі мерапрыемстваў з нагоды Сусветнага дня барацьбы са СНІДам. Арганізатарамі мітынгу памяці ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну выступалі старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч і лідар слуцкай суполкі партыі Віталь Амяльковіч. Планавалася, што ўдзел у мерапрыемстве возьмуць да ста чалавек. За тыдзень да гэтага сябры партыі КХП-БНФ правялі да Дня Герояў дазволеныя ўладамі шэсце і мітынг каля Слуцкага краязнаўчага музея.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

27 лістапада вернікі царквы «Новае жыццё» атрымалі пастанову Вышэйшага гаспадарчага суда, згодна з якой яны павінны да 5 снежня пакінуць свой будынак, аб 11-й гадзіне таго ж дня — перадаць ключы прадстаўнікам ЖРЭА Маскоўскага раёна сталіцы. За свой будынак вернікі пратэстанцкай царквы змагаюцца ўжо сем гадоў. У 2005 годзе было прынята рашэнне Мінгарвыканкама, паводле якога царкву пазбавілі зямлі. Вернікі прайшлі праз 30 судовых працэсаў, адстойваючы сваё права на маёмасць, але ўсе яны былі прайграныя. У 2006 годзе вернікі былі вымушаны праз галадоўку распачаць змаганне за царкву. Пасля гэтага пастара царквы запрасілі ў Адміністрацыю прэзідэнта, дзе з ім размаўляў Алег Праляскоўскі — тагачасны намеснік кіраўніка Адміністрацыі, які курыраваў ідэалагічныя пытанні. Лукашэнка быў у тэме гэтай справы і папрасіў вернікаў спыніць галадоўку, каб вырашыць пытанне ў прававым поле. Вернікі пайшлі на гэта, аднак справу перадалі ў Вышэйшы гаспадарчы суд на новы разгляд. У 2008 годзе Мінгарвыканкам прапаноўваў вернікам выдзеліць іншы ўчастак для пабудовы царквы — у раёне МКАД, на вуліцы Шаранговіча. Але пратэстанты ад такой прапановы адмовіліся, спаслаўшыся, што рашэнне па іх справе яшчэ не прынята. Больш за тое, прапаноўвалася недастатковая для царквы плошча. 27 лістапада адбыўся сход, на якім вернікі вырашылі, якімі будуць іх далейшыя дзеянні па абароне сваёй царквы. Парафіяне нават не разглядалі варыянт добраахвотнага высялення з будынка, які яны пабудавалі на месцы разбуранага кароўніка. 29 лістапада адміністрацыя Маскоўскага раёна паведаміла судовым выканаўцам Гаспадарчага суда Мінска аб тым, што ЖРЭА Маскоўскага раёна сталіцы адмовілася ад будынка царквы «Новае жыццё». 4 снежня пра гэта юрысту царквы Сяргею Луканіну паведаміла ў тэлефоннай размове судовы выканаўца Гаспадарчага суда Вольга Шчарбовіч. Такім чынам, судовае рашэнне аб вызваленні будынка засталося, аднак судовая вытворчасць па гэтай справе цалкам спынена і перададзена ў архіў. Юрыст царквы Сяргей Луканін атрымаў адпаведныя дакументы позна ўвечары 4 снежня ў Гаспадарчым судзе Мінска.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Снежань 2012 года

У снежні знешнепалітычны фактар па-ранейшаму аказваў вырашальны ўплыў на сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Агульны застой у стасунках паміж беларускімі ўладамі і еўрапейскімі дэмакратыямі абумовіў стабільна кепскую, але без значных пагаршэнняў сітуацыю з выкананнем правоў чалавека і асноўных свабод.

У месцах пазбаўлення волі заставаліся 12 палітвязняў, і пытанне аб іх вызваленні нязменна артыкулявалася як асноўная ўмова Еўрапейскага Саюза і ЗША для аднаўлення дыялога з беларускім афіцыйным бокам.

5 снежня падчас сустрэчы з беларускімі праваабаронцамі ў Брусэлі еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства ЕС Штэфан Фюле ў чарговы раз пацвердзіў, што вызваленне палітвязняў з'яўляецца перадумовай пачатку дыялога Еўрапейскага Саюза з афіцыйным Мінскам.

У заяве Дзяржслэпартамента ЗША ад 19 снежня ўтрымлівалася патрабаванне неадкладнага і безумоўнага вызвалення палітвязняў, а таксама нагадвалася пра сумесную заяву Беларусі і ЗША ад 1 снежня 2010 года, у якой было пацверджана, што «вялікае павага да дэмакратыі і правоў чалавека застаецца цэнтральнай тэмай у пытанні паляпшэння двухбаковых адносінаў». «Мы шкадуем, што замест гэтага кіраўніцтва Беларусі ўстала на шлях самаізаляцыі, пачаўшы рэпрэсіі супраць уласнага народа», — падкрэслівалася ў дакуменце.

У той жа час афіцыйны Мінск па-ранейшаму спрабаваў навязваць сваю канцэпцыю прагматычнага дыялога з вынясеннем за дужкі палітычных патрабаванняў Еўрасаюза. У снежні адбылося некалькі заўважных перамоў міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея з прадстаўнікамі краін Еўрасаюза і структур ЕС.

17 снежня прэс-служба беларускага МЗС паведаміла, што падчас сустрэчы дырэктара дэпартамента Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунара Віганда з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем «бакі абмеркавалі комплекс пытанняў, што тычацца наяўнага стану адносінаў паміж Беларуссю і ЕС і шляхоў іх нармалізацыі». Сп. Віганд падчас візіту ў Беларусь меў таксама сустрэчы

з роднымі палітзняволеных і праваабаронцамі, дзе было засведчана, што тэма палітзняволеных не знята з парадку дня Еўрасаюза і нязменна з'яўляецца асноўнай у размове з афіцыйнымі беларускімі ўладамі.

У гэты ж дзень Уладзімір Макей правёў тэлефонную размову з кіраўніком МЗС Чэхіі Карэлам Шварцэнбергам з нагоды 20-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Чэхіяй. Паводле звестак прэс-службы беларускага МЗС, міністры абмяркоўвалі тэматыку стасункаў Беларусі з Еўрапейскім Саюзам і шляхі іх нармалізацыі, а таксама «дасягнутыя вынікі і перспектывы далейшага развіцця беларуска-чэшскага ўзаемадзеяння». У той жа час прэс-служба МЗС Чэхіі выдала больш разгорнутае паведамленне: «Міністры прыйшлі да згоды з нагоды важнасці ўзаемных зносін і выказалі цікавасць да іх пашырэння не толькі на двухбаковым узроўні, але і на ўзроўні Еўрасаюза. Міністр Шварцэнберг зноў паўтарыў тое, што Чэхія зацікаўлена ў супрацоўніцтве з Беларуссю ў рамках Усходняга партнёрства. Нездавальняючая сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі, у тым ліку пытанне палітвязняў, таксама абмяркоўвалася».

Праз некалькі дзён Уладзімір Макей па чарзе правёў сустрэчы з амбасадарамі Фінляндыі, Эстоніі і Вялікабрытаніі. Нягледзячы на тое, што прэс-служба беларускага знешнепалітычнага ведамства паведамляла толькі пра тое, што абмяркоўваліся пытанні наладжвання супрацоўніцтва, эканамічнага і гандлёвага ўзаемадзеяння, развіцця кантактаў як двухбаковых, так і ў межах Еўрапейскага Саюза, можна меркаваць, што пытанне вызвалення палітвязняў таксама з'яўлялася тэмай для абмеркавання як перадумова наладжвання адносін ва ўсіх сферах супрацоўніцтва.

Дадзеныя сустрэчы даюць падставу меркаваць, што паміж афіцыйным Мінскам і Бруселем вядуцца перамовы, якія маглі б прывесці да вызвалення палітвязняў у абмен на нейкія захады насустрач Беларусі з боку ЕС, аднак да канца снежня не з'явілася заўважных вынікаў дадзеных перамоваў, а таксама прыкметаў таго, што беларускія ўлады гатовы ісці на саступкі Еўрапейскаму Саюзу.



Стабільна кепскай заставалася сітуацыя з выкананнем грамадзянскіх і палітычных правоў. Фіксаваліся выпадкі адвольных затрыманняў і вынясення палітычна матываваных адміністрацыйных пакаранняў у адносінах да актывістаў грамадскіх і палітычных арганізацыяў і рухаў. Фактычна немагчыма было скарыстацца правам на правядзенне мірных сходаў, на якіх меркавалася выказванне альтэрнатыўных меркаванняў і прыцягненне ўвагі да сітуацыі з правамі чалавека ў краіне — ніводная з пададзеных па ўсёй краіне заявак на правядзенне публічных мерапрыемстваў да

Міжнароднага дня правоў чалавека і гадавіны падзеяў 19 снежня 2010 года не была задаволена. Працягвалася практыка ціску на журналістаў, праваабаронцаў у сувязі з іх прафесійнай дзейнасцю, уціск незалежных медыяў і арганізацый.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 снежня стала вядома, што лісты палітвязня Дзмітрыя Дашкевіча паляць у Гарадзенскай турме. З ліста Таццяне Севярынец: «Яшчэ раз гатовы вітаць вас. Яшчэ раз, бо перад гэтым мой ліст да вас быў спалены. Кажуць, што дужа халодна было ў турме, а, згодна з дэкрэтам аб энергаэканоміі, саграваецца павінны ўсе падручнымі сродкамі. Вось тут лісты мае і пайшлі ў ход». 26 снежня ў Гродне Дзмітрый Дашкевіч ажаніўся з Настай Палажанкай, якая ўзяла прозвішча мужа. Пасля роспісу ім дазволілі пабыць разам 5 хвілін. Шлюб даў ім права на спатканне — першае за два гады. Ва ўмовах гарадзенскай турмы строгага рэжыму гэта — 2 гадзіны праз шкло, і тое не адразу. Дзмітрый і Наста спрабавалі некалькі разоў дагэтуль падаць заяву і распісацца, а ў іх не атрымоўвалася — ці Дзмітрыя пераводзілі, ці адмянялі, ці яшчэ нейкія прычыны знаходзілі. Больш чым год ім замінала фармальнасць — Дзмітрыю так і не вярнулі пасля суда пашпарт. Родныя разам з адвакатам больш за паўгода пісалі скаргі ў розныя структуры з просьбаю вярнуць пашпарт. Нарэшце Генпракуратура адказала, што «дакладнае месцазнаходжанне пашпарта ўказаць альбо пацьвердзіць не ўдалося». З гэтай паперай быў зроблены зварот у калонію з просьбай аднавіць зняволенаму пашпарт. Калі пашпарт быў адноўлены, былі доўгія затрымкі, зрывы і пераносы, пакуль нарэшце Палажанцы не паведамілі ў ЗАГСе дату 19 снежня, потым дата шлюбу была перанесеная на 26 снежня. У ЗАГС Дзмітрый Дашкевіч быў дастаўлены пад канвоем.

3 снежня баранавіцкі грамадскі актывіст Рыгор Грык спрабаваў перадаць у баранавіцкі следчы ізалятар № 6, дзе ўтрымліваецца палітвязень Васіль Парфянкоў, каля 40 кніг беларускіх і замежных аўтараў. Намеснік начальніка СІЗА маёр Аляксандр Пупко адмовіўся паклікаць бібліятэкара для праверкі, ацэнкі і перадачы на захаванне прынесенай літаратуры. Параіўшыся з кіраўніцтвам турмы, Аляксандр Пупко заявіў Рыгору Грыку, што «нашай установе кнігі не патрэбныя». 13 снежня ў арыштным доме СІЗА №6 адбылося паседжанне Камісіі па прадстаўленні матэрыялаў па ўмоўна-датэрміновым вызваленні, якая прыняла рашэнне адмовіць Васілю Парфянкову ва УДВ на падставе таго, што ён «не стаў на

шлях выпраўлення». Вядома, што палітвязень атрымліваў спагнанні за нязначныя парушэнні. 26 снежня ад імя В. Парфянкова пададзена хадайніцтва пра змену рашэння, прынятага Камісіяй.

4 снежня адбылося выязное паседжанне Шклоўскага суда па справе палітзняволенага Мікалая Дзядка. Суд пастанавіў накіраваць палітвязня ў крытую турму. Пра гэта паведаміў бацька Мікалая Аляксандар Дзядок са спасылкай на адкавата, які прысутнічаў на судовым паседжанні. Бацька палітвязня Аляксандар Дзядок, былы суддзя Мінскага абласнога суда, адзначыў, што ў ягонага сына ўжо 22 спагнанні за розныя парушэнні дысцыпліны, і адмысловая камісія ў калоніі выказалася за накіраванне Мікалая Дзядка ў турму. 10 снежня стала вядома, што Мікалай Дзядок знаходзіцца ў крытай турме № 4 горада Магілёва. Калі Мікалай быў этапаваны са Шклоўскай калоніі ў Магілёўскую турму і як доўга ён там знаходзіцца, бацька палітвязня Аляксандр Дзядок даведацца не змог.

6 снежня сваякі арыштаванага па абвінавачанні ў «здрадзе дзяржаве» Андрэя Гайдукова атрымалі ад яго першы ліст. У лісце, напісаным яшчэ 29 лістапада, ён просіць, каб родныя знайшлі іншага адваката. А. Гайдукоў адзначае, што фальсіфікацыі супраць яго могуць дайсці да абсурду. Арыштаваны 8 лістапада ў Віцебску аператар наваполацкага «Нафтану» пад вартай знаходзіўся спачатку ў мінскім СІЗА КДБ, затым быў пераведзены ў Віцебскі СІЗА №2, а 22 снежня зноў быў вернуты ў следчы ізалятар КДБ па невядомай прычыне. Пра гэты перавод даведалася адвакат А. Гайдукова, калі 27 снежня прыйшла на сустрэчу з падабаронным. 27 снежня стала вядома, што па справе аб здрадзе дзяржаве з'явіўся яшчэ адзін падазраваны — наваполацкі актывіст аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Ілля Багданаў, у якога раней быў статус сведкі. У гэты дзень ён пабываў на допыце ў Віцебскай абласной управе КДБ, дзе яго дапытваў следчы Алег Барысевіч, які вядзе справу Андрэя Гайдукова. Допыт працягваўся больш за 4 гадзіны, і І. Багданава папярэдзілі, што наступны адбудзецца 9 студзеня 2013 года, а таксама будуць вочныя стаўкі з Андрэем Гайдуковым у сувязі з разыходжаннямі іх паказанняў.



8 снежня Мікалай Статкевіч патэлефанаваў родным з турмы (гэта — дзявяты званок за год). Жонка палітвязня Марына Адамовіч распавяла, што настрой у палітвязня добры, голас бадзёры, ён шмат чытае, займаецца спортам. М. Статкевіч паведаміў, што не выключана, што да канца года адбудзецца паседжанне турэмнай камісіі,

якая можа перагледзець ягоны рэжым утрымання. 14 снежня вязня ў магілёўскай турме наведаў адвакат. 16 снежня з'явілася інфармацыя пра ўганараванне Мікаля Статкевіча міжнароднай прэміяй імя Віллі Брандта. Прэмія заснавана Сацыял-дэмакратычнай партыяй Германіі за ўнёсак у справу ўзаемапаразумення і міру паміж народамі. Яна складаецца з двух частак. Галоўную атрымае нарвежскі прэм'ер-міністр Столтэнберг, Мікалай Статкевіч уганараваны прэміяй «За асабістую палітычную мужнасць». 29 снежня адміністрацыя турмы дазволіла М. Статкевічу двухгадзіннае спатканне з жонкай. Гэта стала магчымым у сувязі з рашэннем Назіральнага савета пенітэнцыярнай установы аб змякчэнні рэжыму ўтрымання палітыка, што яму дало права на другое за год спатканне з сям'ёй.

8 снежня выйшаў з карцара пасля адбыцця 10-суткавага пакарання палітвязень Яўген Васьковіч. Прычыну вынясення спагнання адміністрацыя Магілёўскай турмы №4 паведаміць родным адмовілася.

19 снежня стала вядома, што ў ходзе 64 сесіі Рабочая група ААН па адвольных затрыманнях (WGAD) вынесла рашэнне, у якім сцвярджаецца, што заключэнне Алеся Бяляцкага, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) адвольнае і «супярэчыць артыкулу 20, параграф 1, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека [UDHR] і артыкулу 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (ICCPR)». WGAD падкрэсліла, што «выхадам з сітуацыі з'яўляецца вызваленне спадара Бяляцкага і прадастаўленне яму законнага права на кампенсацыю ў адпаведнасці з артыкулам 9, параграф 5, ICCPR». Рашэнне Рабочай групы ААН прынята па выніках паведамлення, адпраўленага Абсерваторыяй па абароне правоў праваабаронцаў WGAD 2 красавіка 2012 года, і якое аспрэчвае законнасць заключэння сп-ра Бяляцкага. У сваім рашэнні Рабочая група ААН па адвольных затрыманнях падкрэсліла, што «як паказвае крыніца паведамлення, цэнтральным у гэтай справе з'яўляецца заява спадара Бяляцкага аб тым, што сродкі, атрыманыя на замежны банкаўскі рахунак, былі часткай сістэмы фінансавання няўрадавай арганізацыі «Вясна», якой урад адмовіў ў рэгістрацыі і якую ён спрабаваў знішчыць». Як адзначыла Рабочая група, «крымінальная адказнасць не можа паходзіць з першаснага рашэння ўрада адмовіць НДА «Вясна» ў рэгістрацыі і спробы распусціць яе, што само ў сабе з'яўлялася парушэннем артыкула 20, параграфа 1, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкула 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах». Гэтую

навіну першай змагла перадаць А. Бяляцкаму ягоная жонка Наталля Пінчук, якой 20 снежня было дазволена двухгадзіннае спатканне з палітвязнем у калоніі №2 г. Бабруйска. Н. Пінчук распавяла, што Алесь выглядае і трымаецца нармальна, на здароўе не скардзіцца. Да гэтага ў пачатку снежня жонка А. Бяляцкага перадала яму прадуктовую перадачу. 30 снежня сайт charter97.org абвясціў лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі ў галіне абароны правоў чалавека за 2012 год, сярод якіх — Алесь Бяляцкі.

З 24 снежня на трое сутак было дазволена спатканне Паўлу Севярынцу з бацькамі ў спецкамендатуры №7 вёскі Куплін Пружанскага раёна, дзе адбывае пакаранне палітвязень. 30 снежня Паўлу Севярынцу споўнілася 36 гадоў, і з гэтай нагоды да яго прыехала больш за тры дзясяткі гасцей — з Мінска, Салігорска, Гродна, Валожына. У гэты час па віцебскім хатнім адрасе палітвязня прыйшла пасылка, падрыхтаваная польскай амбасадай.

24 снежня маці палітвязня Ігара Аліневіча Валянціна паведаміла, што, нягледзячы на холад, яе сыну забараняецца апранаць швэдар. Сын паведаміў ёй пра гэта ў лісце з турмы: «Лічыцца, што майкі, робы і целагрэйкі чалавеку ў холад дастаткова. У турмах, дарэчы, таксама нельга, але ў СІЗА КДБ у мяне было тры швэдары. Без іх я там бы здох 100%». Ігар Аліневіч адбывае зняволенне ў Наваполацкай калоніі.

24 снежня адміністрацыя Магілёўскай калоніі № 15 дазволіла доўгатэрміновае спатканне (адны суткі) палітзняволенаму Арцёму Пракапенку з бацькам, пры гэтым не дазволіўшы перадаць яму цёплыя рэчы і забраць з сабой частку прадуктаў харчавання. Маці вязня Віялета Пракапенка паведаміла, што ў сына пачаліся праблемы з зубамі, хаця да гэтага часу ўсё было нармальна, таксама зашчэмлены нерв у спіне, што выклікае вялікія болі.

26 снежня Таццяне Францкевіч, маці палітвязня Аляксандра Францкевіча, патэлефанаваў хлопец, які адбываў пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі і нядаўна вызваліўся, і паведаміў, што Аляксандр быў змешчаны ў ШІЗА на 10 сутак за адмову выконваць распараджэнне адміністрацыі Івацэвіцкай калоніі па прыборцы тэрыторыі (такая праца сярод зняволеных лічыцца зневажальнай). Таццяна Францкевіч выказала занепакоенасць станам здароўя сына, бо ў яго адна нырка, і знаходжанне ў ШІЗА нанясе шкоду ягонаму фізічнаму стану. За 2012 год Аляксандра Францкевіча змяшчалі ў ШІЗА тройчы. 30 снежня Таццяна Францкевіч

разам з адвакатам наведала сына ў калоніі. Ёй стала вядома, што сыну адмоўлена ў кароткатэрміновым спатканні з роднымі, запланаваным на сярэдзіну студзеня 2013 года, за знаходжанне палітвязня ў чужым атрадзе, што з'яўляецца парушэннем рэжыму адбыцця пакарання. Пасля ШІЗА ў А. Францкевіча значна пагоршыўся стан здароўя.

26 снежня фотажурналіст Антон Сурапін заявіў, што ўсё яшчэ знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, але не ведае, у якім статусе ён знаходзіцца. Фатограф быў вызвалены з ізалятара КДБ чатыры месяцы таму і пасля гэтага на допыты яго больш не выклікалі. Ён лічыць, што нейкая яснасць будзе пасля суда над памежнікам, які прапусціў шведскі «плюшавы дэсант». Хлопец працягвае вучыцца на 4 курсе журфака БДУ. Ніякіх праблем з навучаннем не мае, размоў з адміністрацыяй пра зняволенне не было. Антон Сурапін першым выставіў здымкі плюшавых мядзведзікаў, якіх скідалі шведы з самалёта 4 ліпеня. За гэта яго арыштавалі і абвінавацілі па ч.6 арт.16 («дапамога ў здзяйсненні злачынства») і ч.3 арт. 371 («незаконнае перасячэнне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь») Крымінальнага кодэкса.

27 снежня палітвязня-маладафронтаўца Эдуарда Лобава ў Івацэвіцкай калоніі наведаў святар, ксёндз Дзмітрый з Пінскай епархіі. Па словах маці палітзняволенага Марыны Лобавай, візіт святара планаваўся напярэдадні Калядаў, але з-за яго занятасці ў парафіі перад святам ён прыехаць не здолеў і час знайшоў пазней. Э. Лобаў спавядаўся і прыняў прычасце. Прысутнічаў пры сустрэчы зампаліт. Па словах Марыны Лобавай, ксёндз Дзмітрый зараз будзе замацаваны за гэтай калоніяй і зможа наведваць Эдуарда Лобава і іншых зняволеных каталіцкага веравызнання.

## Смяротнае пакаранне

10 снежня адбылася традыцыйнае ўручэнне прэмій за выключныя дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека. Праваабаронцам 2012 года прызнана Любоў Кавалёва — маці расстралянага па справе выбуху ў метро Уладзіслава Кавалёва. Прэмію Л. Кавалёвай уручыў праваабаронца Беларускага Хельсінскага камітэта Гары Паганяйла. Ён адзначыў, што Любоў Кавалёва праявіла вялікую мужнасць, адданасць у змаганні з дзяржаўнай машынай, якая па-ранейшаму нецывілізавана распраўляецца са сваімі грамадзянамі. Псіхалагічны ціск на яе працягваецца, але яна не скараецца, і дзякуючы яе і іншых намаганням, па словах Гары Паганяйла, пытанне аб адмене смяротнага пакарання

абавязкова будзе вырашана ў Беларусі. Любоў Кавалёва застаецца адным з самых актыўных сябраў кампаніі «Праваабаронцы за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі».

20 снежня кіраўнік камісіі па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка паведаміў, што на паседжанні Савета Рэспублікі ў Нацыянальным сходзе створана група па вывучэнні праблем смяротнага пакарання. У склад групы ўвайшлі сем чалавек: пяць дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і два з Савета Рэспублікі, узначаліў яе М. Самасейка. Ён адзначыў, што першае працоўнае паседжанне групы адбудзецца пасля Новага года: «Пытанне аб смяротным пакаранні з'яўляецца актуальным. Беларускі народ выказаўся па ім на рэферэндуме, але з часу рэферэндуму прайшло паўтары дзясяткі гадоў, і за гэты час сітуацыя змянілася. Наша група якраз і будзе займацца вывучэннем усіх праблем смяротнага пакарання, у тым ліку і стаўлення да іх насельніцтва Рэспублікі Беларусь».

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

1 снежня лідар Руху за Свабоду Аляксандр Мілінкевіч заявіў, што прадаставіць свой офіс для грамадскай прыёмнай Праваабарончага цэнтра «Вясна». У канцы лістапада кватэру, у якой працавалі супрацоўнікі арганізацыі, канфіскавалі згодна з прысудам, вынесеным кіраўніку арганізацыі Алесю Бяляцкаму. Памяшканне было афармлена на фізічную асобу па рашэнні Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна», што дазволіла існаваць офісу ў гэтым памяшканні на працягу 12-ці гадоў (2000—2012 гг.).

16 снежня ў Нацыянальным аэрапорце Мінск-2 пры праходжанні пашпартнага кантролю быў затрыманы дырэктар праваабарончай установы «Платформа» Андрэй Бандарэнка. Ён вяртаўся з Варшавы дадому, калі пры праходжанні пашпартнага кантролю супрацоўніца мытнай службы, стэлефанаваўшыся з кімсьці, забрала ягоны пашпарт з сабой. Праз 20 хвілін да Андрэя Бандарэнкі падышлі два старэйшых лейтэнанты мытнай службы Казаковіч Гардзей і Грышкевіч Арцём, якія паведамілі праваабаронцу, што ў дачыненні да яго неабходна правесці дадатковыя мерапрыемствы. Затым яны правялі дагляд ручной паклажы і асабістых рэчаў А. Бандарэнкі. Дагляд праводзіўся асабіста начальнікам змены мытнага кантролю. Даведацца прозвішча дадзенай службовай асобы не ўдалося, бо ён катэгарычна адмовіўся прадставіцца, аднак Андрэй Бандарэнка паспеў прадыктаваць нумар бэйджа дадзенага супрацоўніка

мытнага кантролю — № 05-0350. Як патлумачыў начальнік змены мытнага кантролю, у дачыненні да Андрэя Бандарэнкі праводзіўся выбарачны мытны кантроль. Пры правядзенні дагляду прысутнічалі панятыя і медык. Быў складзены пратакол асабістага дагляду, пасля чаго Андрэй Бандарэнка быў адпушчаны.

18 снежня праваабаронцы з Гродна — Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч былі апытаныя ў гарадскім аддзяленні міліцыі «Цэнтр», а позна ўвечары 19 снежня ў тым жа аддзяленні міліцыі на ўсіх траіх былі складзены пратаколы пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне паводле артыкула 23.34 КаАП («удзел у несанкцыянаваным пікеце»). Фармальнай падставай для ўзбуджэння гэтай справы стала размяшчэнне на сайце Праваабарончага цэнтра «Вясна» матэрыялу пра 10 снежня — Міжнародны Дзень правоў чалавека, калі гарадзенскія праваабаронцы сфатаграфаваліся ў падтрымку зняволенага Алеся Бяляцкага.

24 снежня актывісты ўстановы «Платформа», якая займалася абаронай правоў вязняў і была закрыта ўладамі, заявілі пра пачатак дзейнасці ад імя новай праваабарончай установы «Платформ інавэйшн». Праваабаронца Андрэй Бандарэнка паведаміў, што новая ўстанова будзе па-ранейшаму займацца абаронай правоў, але цяпер не будзе абмяжоўвацца толькі абаронай правоў вязняў. «Платформ інавэйшн» ужо атрымала рэгістрацыю. Яе офісы працуюць не толькі ў Мінску. Па словах А. Бандарэнкі, установа мае прадстаўнікоў у Віцебску, Гомелі і Брэсце, да сярэдзіны наступнага года пастаўлена задача адкрыць прадстаўніцтвы ва ўсіх абласных гарадах. Установа «Платформа» была зарэгістраваная ў чэрвені 2011 года, канчаткова закрытая ўвосень 2012 года. Да новай «Платформы», паводле яе заснавальнікаў, далучыўся вядомы палітык і грамадскі дзеяч Генадзь Грушавы.

## Актывізацыя ціску спецслужбаў на грамадска і палітычна актыўных грамадзян

18 снежня суд Ленінскага раёна Магілёва ў асобе суддзі Юрчанкі пры поўнай згодзе пракурора Паляковай адмовіў у задавальненні скаргі актывіста аргкамітэта партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Алега Аксёнава супраць УКДБ у сувязі з пастаноўкай яго на прафілактычны ўлік. Суддзя палічыў, што УКДБ дзейнічаў у межах закона і выконваў свае непасрэдныя функцыі ў межах сваёй кампетэнцыі. На працягу ўсяго судовага пасяджэння супрацоўнікі УКДБ, суддзя

і пракурор пераконвалі Аксёнава, што пастаноўка яго на прафулік нічога для яго не азначае, бо ні ў якіх правах ён не абмежаваны і ніякія санкцыі да яго не прымяняюцца. І пры гэтым у судзе некалькі разоў зачытвалася ч. 2 арт. 28 Закона аб прафілактыцы, у якой, у прыватнасці, пазначана, што супрацоўнікамі КДБ «у дачыненні да грамадзян, якія стаяць на прафілактычным уліку, вывучаюцца ўмовы і лад іх жыцця, ажыццяўляецца кантроль за іх паводзінамі». Гэта значыць, у гэтым выпадку УКДБ атрымлівае магчымасць без санкцыі пракурора і суда сачыць за актывістам і ў святле апошняга пашырэння правоў КДБ, напрыклад, забараніць яму без усялякага папярэджання часова ці на ўвесь час выязджаць за мяжу. Алег Аксёнаў быў пастаўлены на прафулік у КДБ 22 кастрычніка 2012 года. Нагодай для гэтага стала нібыта ягоная дзейнасць ад імя незарэгістраванай палітычнай арганізацыі — партыі БХД і іншая актыўная палітычная і грамадская дзейнасць. У чым канкрэтна заключаецца злачыннасць гэтай дзейнасці і якія наступілі грамадска небяспечныя наступствы — супрацоўнікі КДБ адказаць не змаглі. У Магілёве на прафуліку КДБ знаходзіцца таксама лідарка магілёўскага арганізацыйнага камітэту па стварэнні Партыі БХД Таццяна Шамбалава і лідар Магілёўскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Зміцер Салаўёў.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

5 снежня ў Мінску быў затрыманы і дастаўлены ў РУУС Ленінскага раёна мастак Алесь Пушкін. Пра гэта ён паспеў паведаміць журналістам Радыё Свабода, пасля чаго сувязь з ім знікла. Толькі на наступны дзень стала вядома, што Алесь Пушкін знаходзіцца ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна ў сувязі з вынесеным яму 12-суткавым адміністрацыйным арыштам: такое рашэнне 5 снежня вынесла суддзя суда Ленінскага раёна Мінска Марына Запаснік, прызнаўшы яго вінаватым у «правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства» (арт. 23.34 КаАП РБ). Як масавае мерапрыемства суддзя кваліфікавала мастацкі перфоманс, праведзены Алесем Пушкіным 4 снежня, калі ён з партрэтам змагара антысавецкага супраціву Расціслава Лапіцкага прыйшоў у Вярхоўны суд, каб падаць скаргу на незаконнасць рашэння суда Смаргонскага раёна, згодна з якім ён адбываў 10-суткавы адміністрацыйны арышт за тое, што ў верасні гэтага года прайшоў з партрэтам Расціслава Лапіцкага па вуліцах Смаргоні.

4 снежня з адміністрацыйнымі пратаколамі, складзенымі за ўдзел у акцыі 27 кастрычніка бягучага года па ўшанаванні памяці братоў

Віктара і Кастуся Каліноўскіх у Свіслачы, міліцыянты азнаёмілі старшыню Гарадзенскай арганізацыі Партыі БНФ Вадзіма Саранчукова і сябра рады гарадской структуры ПБНФ Ірыну Данілоўскую. Пратаколы складзены па арт. 23.34 КаАП — «удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве». 13 снежня Свіслацкі раённы суд асудзіў актывіста з Бярозаўкі Сяргея Трафімчыка па абвінавачанні ва ўдзеле у несанкцыяваным мерапрыемстве і пакаралі штрафам у памеры 8-мі базавых велічынь. Свіслацкі раённы суд вызначыў, што Сяргей Трафімчык наведваннем магілаў і помнікаў паўстанцаў парушыў дзеючае заканадаўства. 20 снежня ў Свіслачы мусілі адбыцца некалькі судовых паседжанняў. Сябра рады гарадской арганізацыі Партыі БНФ Ірына Данілоўская павінна была з’явіцца ў суд на 9-ю гадзіну раніцы, але даехаць на гэты час з Гародні да Свіслачы ў яе не было ніякай магчымасці. Суд адбыўся ў яе адсутнасць і, згодна з рашэннем суддзі, І. Данілоўская аштрафавана на 8 базавых велічынь. Актывіст «Маладога Фронту» Алесь Кіркевіч, якога выклікалі на гэты ж дзень у Свіслацкі раённы суд праз тэлефон, туды таксама не паехаў. Ён патэлефанаваў у Свіслацкі суд, дзе яму сказалі, што судовы працэс адбыўся без яго ўдзелу. Вынік разгляду адміністрацыйнай справы — штраф у памеры 8 базавых велічынь. Старшыня Гарадзенскай рады ПБНФ Вадзім Саранчукоў таксама завочна аштрафаваны на 10 базавых велічынь. Найбольш абсурдна выглядае сітуацыя з яшчэ адным сябрам Гарадзенскай рады ПБНФ Валерам Кісялём. На яго таксама складзены пратакол паводле артыкула «незаконны ўдзел у масавым мерапрыемстве». Але Валер Кісель 27 кастрычніка ўвогуле не быў на фэсце ў Свіслачы, а знаходзіўся ў гэты дзень у Мінску. Да канца снежня інфармацыі пра далейшае развіццё сітуацыі з пратаколам не з'явілася. Невядомымі таксама засталіся вынікі разгляду пратакола адміністрацыйнага правапарушэння, складзенага на актывіста АГП Віктара Бабкіна. Такім чынам, пераслед удзельнікаў свіслацкага мерапрыемства набыў зацяжны характар. Яшчэ ў дзень правядзення мерапрыемства былі затрыманыя чатыры ўдзельнікі з розных гарадоў: Вітольд Ашурак з Бярозаўкі, Алесь Крот з Мінска, Станіслава Гусакова з Віцебска і Віталь Лопасаў з Гродна. Трое з іх былі пакараныя суткамі, а адзін — штрафам. Амаль праз месяц пасля мерапрыемства былі асуджаны да штрафаў актывісты са Свіслачы — Віктар Дзесяцік, Анатоль Валюк і Юры Глебік. Касацыйная інстанцыя — Гарадзенскі абласны суд — ва ўсіх выпадках абскарджання вынесеных судовых спагнанняў удзельнікам акцыі ў Свіслачы пацвярджаў законнасць і абгрунтаванасць рашэнняў Свіслацкага суда: 3 снежня па скарзе прадстаўніка АГП Віталя Лопасава (суддзя Пётр Бандык), 20 снежня — па скаргах трох свіслацкіх грамадскіх актывістаў — Віктара Дзесяціка

(суддзя Пётр Бандык), Юрыя Глебіка (суддзя Мікалай Рачынскі) і Анатоля Валюка (суддзя А. Козел).

6 снежня ў пункце пропуска «Новая Гута» на беларуска-украінскай мяжы была затрымана машына актывісткі партыі «Справядлівы свет» са Жлобіна Ілоны Ткачовай, якая вярталася дадому з адпачынку з Егіпта разам з мужам і 10-гадовым дзіцём. Быў праведзены поўны дагляд рэчаў усёй сям'і, канфіскаваны ноўтбук і фотаапарат. Памежнікі паказалі І. Ткачовай скан дакумента, у якім сказана правесці дагляд менавіта яе машыны. Уся працэдура працягвалася з абеду да 22 гадзін. На наступны дзень Ілона Ткачова напісала скаргу на імя начальніка пункта пропуску «Новая Гута» на незаконнае затрыманне яе сям'і на мяжы і канфіскацыю рэчаў.

8 снежня супрацоўнікі міліцыі ўварваліся ў памяшканне ў Мінску, дзе адбываўся паказ спектакля «Зона маўчання» ў выкананні Свабоднага тэатра. Спектакль толькі пачаўся, як зайшлі міліцыянты, спынілі паказ і пачалі перапісваць пашпартныя дадзеныя гледачоў, якіх сабралася каля 60 чалавек (пастаноўка адбывалася ў будынку на Тыражным праездзе, 22). Пасля гэтага міліцыя сышла, спектакль працягнуўся. За дзень да гэтага, 7 снежня, міліцыя таксама наведала пастаноўку Свабоднага тэатра, што існуе ў Беларусі ў паўпадпольным стане. Абышлося таксама перапісваннем пашпартных звестак гледачоў.

12 снежня лідар моладзевага крыла «Zмена» кампаніі «Гавары праўду» Павел Вінаградаў быў выкліканы ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю Маскоўскага раёна, дзе ён знаходзіцца пад наглядам і абавязаны адзначацца. Аднак супрацоўнікі міліцыі адвезлі яго ў Першамайскі РАУС Мінска, дзе быў складзены пратакол «аб адміністрацыйным правапарушэнні» (арт. 23.34 КаАП РБ). Затым яго адвезлі ў суд, падчас якога з-за немагчымасці прысутнічаць на судзе адваката, з якім у Вінаградава было заключана пагадненне, разгляд справы быў перанесены. 17 снежня суд Першамайскага раёна Мінска асудзіў Паўла Вінаградава на 5 сутак адміністрацыйнага арышту (суддзя Юрый Грабоўскі) за правядзенне акцыі пратэсту цацак, якая прайшла 10-га снежня каля Нацыянальнай бібліятэкі. Агулам за 2012 год моладзевы актывіст правёў за кратамі 66 сутак адміністрацыйных арыштаў.



18 снежня скончыўся судовы працэс па адміністрацыйнай справе грамадска-палітычнага актывіста з мястэчка Варняны Мікалая

Уласевіча. Астравецкі раённы суд на апошнім паседжанні прызнаў актывіста вінаватым і аштрафаваў яго на 40 базавых велічынь. Гэты адміністрацыйны працэс стаў рэкордным на Гарадзеншчыне па працягласці — спатрэбілася ажно 9 (!) паседжанняў. Прычынай таму тое, што Мікола Уласевіч сам, а пасля з дапамогай адваката змагаўся за свае правы да апошняга. Мікалая Уласевіча затрымалі ў апошнюю выбарчую кампанію за два дні да асноўнага дня галасавання, 21 верасня, і абвінавацілі ў распаўсюдзе незаконнанай агітацыйнай прадукцыі. Праз нейкі час абвінавачванне змянілі на нібыта «непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі».

19 снежня, у другую гадавіну паслявыбарчай акцыі пратэсту 2010 года, грамадская актывістка Ніна Багінская была затрымана міліцыяй вечарам на Кастрычніцкай плошчы Мінска, калі спрабавала ўзняць бел-чырвона-белы сцяг. Актывістку адвезлі ў Цэнтральны РАУС, дзе склалі пратакол апытання і праз 3 гадзіны адпусцілі, сцяг забралі.

19 снежня ў Віцебску каля 11 раніцы былі затрыманы сябры аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Аляксей Кішчук і Станіслаў Лаўрэнаў. Машыну, у якой яны ехалі, спынілі супрацоўнікі ДАІ. У Станіслава, кіроўцы аўтамабіля, быў пратэрмінаваны тэхпашпарт, і супрацоўнікі ДАІ аштрафавалі яго на 650 тысяч. А потым у Першамайскім РАУС на абодвух хлопцаў былі складзены пратаколы «за дробнае хуліганства» — нібыта яны абражалі і супрацоўнікаў ДАІ, і спецназаўцаў, якія праводзілі затрыманне. У гэты ж дзень затрыманыя былі дастаўлены ў суд, але судовы працэс не адбыўся, і А. Кішчук з С. Лаўрэнавым былі адвезены ў ізалятар часовага ўтрымання. 20 снежня суддзя Першамайскага райсуда Віцебска Валянціна Кісмярошкіна прысудзіла Аляксею Кішчуку і Станіславу Лаўрэнаву па 3 базавыя велічыні штрафу. Падставай для абвінавачання сталі паказанні чатырох міліцыянтаў, якія засведчылі, што хлопцы нецэнзурна выказваліся ў іх адрас. Разам з актывістамі ў Першамайскі РАУС трапіў і цацачны мішка з плакатам «Будучы прэзідэнт», але яго пасля суда гаспадарам не вярнулі.

27 снежня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы прадпрымальніка Аляксандра Макаева па абвінавачанні ў парушэнні ч. 3 арт. 23.34 («удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, здзейсненае паўторна на працягу года») за ўдзел у адзначэнні ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну. Яшчэ 1 снежня падчас акцыі ягоны аўтамабіль спынілі супрацоўнікі міліцыі і ДАІ ў мястэчку Грозава. 13 снежня супрацоўнікі РАУС Капыльскага раёна знайшлі

Аляксандра Макаева ў Мінску на рынку «Ракаўскі кірмаш», дзе ўзялі тлумачэнні і ўручылі пратакол за подпісам маёра міліцыі Шапашнікава Г. А. Суддзя Хаткевіч адмовіў у задавальненні хадайніцтваў Макаева аб допыце ў судзе сведак абвінавачання і аб допыце дадатковых сведак з ягонага боку і пастанавіў іх зачытаць. Скрыган з сельсавета Грозава адзначыла, што з заяўкай на мітынг ніхто не звяртаўся, напісала, што лозунгаў не было, чыталі малітвы, спявалі. Сведка Таісія Дарашэвіч указала, што каля крыжа былі людзі з сцягамі, траспарантаў не было, лозунгаў таксама, парадак не парушалі. Супрацоўнік ДАІ Давідоўскі засведчыў, што людзі спявалі па-беларуску, напісаў, што да міліцыянтаў падыходзіў Макаеў і казаў, што гэта ён арганізаваў дадзены мітынг. Пасля патрабавання, каб мітынг спынілі, цягам 5 хвілін гэта было выканана. Другі міліцыят Кажура напісаў тое самае. Суддзя Яўген Хаткевіч прыняў рашэнне аб вынясенні адміністрацыйнага спагнання ў выглядзе штрафу памерам 50 базавых велічынь.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 снежня адбылося паседжанне Слонімскага райвыканкама, на якім быў дадзены загад кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый Слонімшчыны ў абавязковым парадку асабіста выпісаць па дзве дзяржаўныя газеты на 2013 год з пералічаных: «Советская Белоруссия», «Звязда», «Рэспубліка», «Гродзенская праўда» і раённая газета. Пасля заканчэння падпісной кампаніі ўсе падпісныя квіткі кіраўнікі павінны паказаць у райвыканкаме. Таксама ўсе шараговыя работнікі дзяржаўных установ і прадпрыемстваў павінны выпісаць на 2013 год па аднаму дзяржаўнаму выданню. На паштовых аддзяленнях сувязі горада і раёна таксама быў даведзены план па падпісцы на дзяржаўныя выданні сярод наведвальнікаў аддзяленняў. Калі гэты план не будзе выкананы, то супрацоўнікі паштовых аддзяленняў самі павінны выпісаць дзяржаўную прэсу, што прыводзіць да таго, што некаторыя паштальёны і работнікі аддзяленняў сувязі выпісваюць па 2-3 аднолькавыя газеты. 19 снежня галоўны ўрач Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы Юрый Пяцельскі загадаў усім загадчыкам аддзяленняў бальніцы выпісаць раённую газету «Слонімскі веснік» на 2013 год — па пяць асобнікаў на аддзяленне. 20 снежня старшая медсястра Слонімскай раённай паліклінікі з самай раніцы збірала па 7 тысяч беларускіх рублёў з кожнага работніка паліклінікі на падпіску раённай газеты «Слонімскі веснік» на 2013 год.

3 снежня ў Віцебску быў затрыманы рэдактар сайта «Народныя Навіны Віцебска» Сяргей Серабро, якога зацікавіла надзвычайная актыўнасць ў наваколлях дрэваапрацоўчага камбіната, які месціцца на самай ускраіне горада і дзе ішла падрыхтоўка да візіту Аляксандра Лукашэнкі. Журналіста затрымалі супрацоўнікі міліцыі, якіх выклікала ахова прадпрыемства. Пасля нядоўгага разбральніцтва журналіста адпусцілі, але на тэрыторыі дрэваапрацоўчага камбіната праз некаторы час з'явіліся супрацоўнікі АМАПу ў форме — для дадатковай аховы.

10 снежня прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацый Беларусі агучылі імёны лаўрэатаў прэміі за ўнёсак у абарону правоў чалавека за 2012 год. У «журналісцкай» намінацыі пераможцам вызначаны гродзенскі журналіст, карэспандэнт польскай «Gazety Wyborczej» Андрэй Пачобут. Андрэй Пачобут, які знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе ў сувязі з узбуджанай супраць яго крымінальнай справай ч. 2 арт. 367 КК РБ «паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», выйшаў на відэасувязь праз скайп. Дыплом калегу — таксама віртуальна — уручаў адзін з мінулых лаўрэатаў прэміі журналіст Радыё Свабода Алег Груздзіловіч.

11 снежня ідэолагі Бялыніцкага раёна давялі план па падпісцы на газеты і часопісы практычна да кожнай арганізацыі, нават указалі, якія канкрэтна выданні павінны чытаць бялынічане ў першую чаргу. Па-ранейшаму па-за канкурэнцыяй застаецца «Советская Белоруссия», якую настойліва рэкамендуюць выпісваць па-максімуму. Адпаведны план даведзены і да кожнага паштальёна Бялыніцкага раённага вузла паштовай сувязі. У ім пералічаны асартымент і колькасць дзяржвыданняў, падпіску на якія ў абавязковым парадку павінен забяспечыць кожны супрацоўнік. Па словах супрацоўнікаў аддзяленняў сувязі, максімум зноў жа выпадае на газету «Советская Белоруссия» і мясцовую раёнку «Зара над Друццю».

22 снежня салігорскія праваабаронцы паведамілі пра падвойны ціск на грамадзян у сувязі з арганізацыяй падпіскі на дзяржвыданні. З аднаго боку прымус ідзе па падведамаснай вертыкалі, калі прымушаюць падпісвацца на газеты ды часопісы пэўнага міністэрства ці прадпрыемства. Гэткім чынам у салігорскіх школах настаўнікаў абавязваюць выпісваць «Настаўніцкую газету», часопіс «Веснік адукацыі». Адміністрацыя ААТ «Беларуськалій» прымушае выпісваць сваё профільнае выданне «Калійшчык Салігорска», а ў «Будаўнічым трэсце №3», адпаведна, змушаюць падпісацца на сваю ўласную газету

«Строитель Солигорска». Салігорскі аддзел па надзвычайных сітуацыях традыцыйна «распаўсюджвае» газету «Юный спасатель». Паралельна ідэолагі Салігорскага выканкама наладжваюць прымусовую падпіску на агульнанацыянальныя газеты кшталту «СБ — Беларусь сегодня», а таксама на ўласную раёнку «Шахцёр». Падпіска на гэтыя выданні ажыццяўляецца праз сетку ідэалагічных работнікаў на прадпрымствах горада і раёна.

24 снежня стала вядома, што супрацоўнікі міліцыі цікавяцца месцам знаходжання Аліны Літвінчук. Пра гэта распавёў старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Вуек, у кватэры якога апошнім часам жыла журналістка. Паводле слоў Вуека, міліцыянты прыходзілі дадому ў яго адсутнасць, апытвалі суседзяў наконт таго, ці сапраўды ў гэтай кватэры жыве Літвінчук, а таксама высвятлялі, дзе яна працуе. Акрамя таго, невядомыя спрабавалі даведацца пра месцазнаходжанне Аліны праз тэлефон. Уладзімір Вуек ад свайго ўчастковага даведаўся, што шукае Літвінчук іншы міліцыянт (Андрэй Хоміч), які засведчыў, што мусіць даставіць яе ў абласную пракуратуру, дзе Аліне павінны ўручыць афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці дзейнасці ў якасці журналіста замежнага СМІ без акрэдытацыі.

24 снежня на абвешчаную сустрэчу дэпутата Смалявіцкага раённага Савета дэпутатаў Ягора Лебядка з Мінска прыехалі чацвёра журналістаў. Ні адзін з іх у залу мясцовага Палаца культуры не патрапіў — іх затрымала міліцыя. За некалькі хвілін да пачатку сустрэчы дэпутата з выбаршчыкамі журналістаў Сяргея Вазняка, Мікалая Петрушэнку, рэпарцёра Лолу Бурыеву, аператара Вячаслава Пяшко і кіроўцу машыны затрымалі падпалкоўнік Андрэй Мартысюк і двое ўчастковых у форме. Яны запатрабавалі прад'явіць дакументы. Журналісты паказалі пашпарты. Гэтага аказалася мала для высвятлення асобы і мэты прыезду, і затрыманых правялі ў мясцовае РАУС, дзе яны прабылі каля дзвюх гадзін. На журналістаў былі складзены пратаколы апытання, забіраныя носьбіты інфармацыі, якія потым вярнулі. Дэпутат Смалявіцкага раённага Савета Ягор Лебядок пасля сустрэчы з выбаршчыкамі, якая доўжылася каля паўтары гадзіны, прыйшоў у міліцыю, каб даведацца, чаму затрымалі журналістаў. У гэты час іх ужо выпускалі. Дэпутату паведамілі, што іх затрымлівалі для высвятлення асобы. Дэпутат адзначыў, што не супраць таго, каб на ягоных сустрэчах прысутнічалі прадстаўнікі прэсы.

28 снежня грамадскаму актывісту з Рагачова Дзянісу Дашкевічу раённая пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці

парушэння заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Размова ў пракуратуры, якая доўжылася дзве гадзіны, праводзілася пракурорам спадарыняй Чуешавай. Дашкевіча папярэдзілі, што ў выпадку, калі на незалежным сайце vrogacheve.ru з'явяцца артыкулы, якія будуць змяшчаць недакладныя звесткі аб палітычным і эканамічным становішчы дзяржавы, альбо ганьбіць прадстаўнікоў улады, ён можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці па артыкулах 369-1 («дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь»), 188, частцы 2 («паклёп») і 189 частцы 2 («абраза») Крымінальнага кодэкса РБ. Размова ідзе пра крытычныя выказванні на адрас гарадскіх чыноўнікаў. Раней актывіста спрабавалі запалохаць у раённым аддзеле КДБ.

## Абмежаванне свабоды сходаў

2 снежня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў, што ўлады Беларусі парушылі правы гомельскага грамадскага і палітычнага актывіста Уладзіміра Кацоры, пераследуючы яго адміністрацыйнымі арыштамі за арганізацыю ў абласным цэнтры мірных сходаў. За апошнія 5-6 гадоў спадар Кацора быў вымушаны за сваю дзейнасць правесці за кратамі каля 57 сутак арыштаў. У красакавіку 2006 года спадар Кацора спрабаваў арганізаваць у Гомелі мітынг, прысвечаны 20-ці годдзю аварыі на Чарнобыльскай АЭС і з гэтай мэтаю распаўсюдзіў друкаваныя ўлёткі. За гэта суддзя суда Чыгуначнага раёна Гомеля Віталь Козыраў асудзіў яго на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. У лютым 2008 года спадар Кацора з'яўляўся арганізатарам сустрэчы жыхароў Гомеля з экс-кандыдатам у прэзідэнты Аляксандрам Мілінкевічам. За гэта старшыня суда Савецкага раёна Гомеля Аляксандр Кострыкаў асудзіў яго на 7 сутак арышту. Прайшоўшы ўсе ўнутраныя сродкі прававой абароны, Уладзімір Кацора звярнуўся ў Камітэт па правах чалавека ААН, дзе палічылі, што пераследуючы свайго грамадзяніна ў адміністрацыйным парадку за распаўсюд інфармацыі аб маючых адбыцца мірных сходах, дзяржава парушае яго правы, замацаваныя ў артыкуле 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. На падставе рэкамэндацый Камітэта ўрад Беларусі мусіць забяспечыць «ахвяры парушэння эфектыўны сродак прававой абароны, уключна з поўным пакрыццём выдаткаў і належнай кампенсацыяй», а таксама абавязаны «не дапускаць падобных парушэнняў у будучыні».



Не было дазволена ніводнае масавае мерапрыемства да Сусветнага дня правоў чалавека з заяўленых па ўсёй краіне на 10 снежня.

5 снежня грамадскі актывіст Віктар Сырыца і праваабаронца Сяргей Гоўша атрымалі ліст з Баранавіцкага гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Д. Касцюкевіча аб забароне пікета 10 снежня. Гарадскія ўлады не паведамілі, што канкрэтна парушылі заяўнікі. 7 снежня Віктар Сырыца атрымаў другі ліст за подпісам Д. Касцюкевіча пра забарону пікета да Дня правоў чалавека. У ім зноў паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета.

10 снежня віцебскія праваабаронцы хацелі зладзіць пікет у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Гэта афіцыйна вызначана ўладамі месца для правядзення масавых мерапрыемстваў. Але праваабаронцам адмовілі. Намесніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Наталля Ляпёшкіна прычыну забароны пікета патлумачыла тым, што заяўнікі акцыі не заключылі дамоў на абслугоўванне са службай ЖКГ, паліклінікай і міліцыяй.

10 снежня шасцёра наваполацкіх грамадскіх актывістаў Антон Ясіновіч, Наталля Валяева, Таццяна Волкава, Яўген Парчынскі, Уладзімір Іванньковіч і Вольга Грыцкевіч прасілі дазвол на правядзенне акцыі, але атрымалі адмову, бо гарадскія ўлады, як высветлілася, унеслі змены ў пералік месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў. Адбылося гэта амаль год таму, але цішком ад гараджанаў. Актывісты правесці акцыю планавалі на пляцоўцы перад гарадскім Палацам культуры. Аднак у адмове за подпісам намесніка старшыні Наваполацкага гарвыканкама Вячаслава Дурнова было сказана, што ў адпаведнасці з рашэннем выканкама ад 09.09.2011 г. «пляцоўка перад гарадскім домам культуры выключана з месцаў для правядзення пікетавання». Наваполацкія актывісты падкрэсліваюць, што змены ў рашэнні сталі для іх нечаканасцю: пра гэта своечасова не паведамілі грамадскасці Наваполацка. І на ўвесь досыць вялікі горад засталася ўсяго адна пляцоўка, дзе ўлады дазваляюць збірацца на масавыя мерапрыемствы — каля ўваходу ў гарадскі парк культуры і адпачынку, у якім зімой наведнікаў амаль не бывае.

12 снежня стала вядома пра забарону пікета, заяўленага да другой гадавіны падзеяў 19 снежня 2010 года. Актывіст аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Сяргей Малашанак падаваў заяўку на пікет, мэтай якога было выказванне пратэсту супраць незаконнага зняволення грамадзян Беларусі, у тым ліку былых кандыдатаў — удзельнікаў мінулых прэзідэнцкіх выбараў. З Наваполацкага гарвыканкама даслалі адмову. Ліст з выканкама быў падпісаны намеснікам старшыні гарвыканкама Вячаславам Дурновым. Адмова грунтуецца на тым, што месца меркаванага пікета — пляцоўка каля крамы «Дамалюкс» — не

ўваходзіць у пералік дазволеных месцаў для правядзення масавых акцый.

Прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі падавалі 91 заяўку па ўсёй краіне на правядзенне 19 снежня пікетаў пад агульнай назвай «Скралі выбары, каб распрадаць краіну», але ніводная не была задаволена. Прычыны адмоваў паўсюль называліся розныя, але абсалютна відавочны агульны падыход на абмежаванне права выказваць сваё меркаванне шляхам правядзення публічных акцый.

14 снежня Салігорскі райвыканкам не даў дазволу на правядзенне пікета 19 снежня. Абмежаванне права на свабоду мірных сходаў было абгрунтавана чыноўнікамі адпаведным рашэннем Салігорскага выканкама ад 7 кастрычніка 2004 года «Аб мерах па папярэджанні надзвычайных здарэнняў і выкананні законнасці пры правядзенні масавых мерапрыемстваў». Заяўнікам пікета, сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі Віктару і Аляксандру Малочкам, у правядзенні пікета 19 снежня 2012 года ў парку «Маладосць» было адмоўлена «у сувязі з неадпаведнасцю месца правядзення пікета вышэйуказанаму рашэнню».

15 снежня старшыня Баранавіцкай філіі АГП Анжаліка Камбалава атрымала ліст з гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета 19 снежня. Спадарыня Камбалава паведаміла, што заключыла дамовы з гарадской паліклінікай і ЖКГ па абслугоўванню масавага мерапрыемства ў старым парку горада. Аднак з-за бюракратычнай цяганіны яна не змагла заключыць такую ж дамову з ГАУС, што і стала фармальнай прычынай забароны пікета 19 снежня.

16 снежня лідар бабруйскай суполкі АГП Віктар Бузінаеў атрымаў адказ з гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Аляксандра Маркачова. Актывісту адмовілі ў правядзенні пікета 19 снежня на стадыёне спарткомплекса «Славянка». Прычына адмовы пазначана наступная: «не ўказаны від масавага мерапрыемства, маршрут руху, грамадзянства арганізатара мерапрыемства». Таксама чыноўнік указвае на тое, што заяўнікі не ўказалі меры па забеспячэнні грамадскага парадку, медыцынскага абслугоўвання і прыборкі тэрыторыі. Намеснік старшыні гарвыканкама сцвярджае, што акрамя пералічанага быў парушаны артыкул 8 Закона, згодна з якім арганізатары не маюць права абвяшчаць месца, час і дату правядзення мерапрыемства ў СМІ да атрымання дазволу на яго правядзенне.

17 снежня стала вядома пра забарону ў Брэсце дзевяці пікетаў 19 снежня ў розных месцах абласнога цэнтра. Старшыня абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек паведаміў: «Прычыны для забароны

розныя: у прыватнасці, тое, што мы пазначылі ў сваіх заяўках пляцоўкі, на якія не распаўсюджваецца дзеянне рашэння гарвыканкама, што тычыцца правядзення ў Брэсце масавых мерапрыемстваў. Але нам адмовілі ладзіць пікет і ў месцах, якія ўлады вызначылі для такіх акцый. Напрыклад, гэта тычыцца стадыёна «Лакаматыў»: выконваючы абавязкі намесніка старшыні гарвыканкама Уладзімір Чарноў у сваім адказе зазначае, што паколькі масавае мерапрыемства адбываецца без удзелу органаў дзяржаўнай улады, арганізатары акцыі мусяць прыкласці да заявы аб правядзенні пікета дамовы з установамі ўнутраных спраў, аховы здароўя і каманальнага прадпрыемства «Брэсцкая гарадская ЖКГ». Акрамя таго, з адказу вынікае, што аплата паводле гэтых дамоваў павінна быць праведзена не пазней, чым за адзін дзень да пачатку мерапрыемства». Менавіта адсутнасць такіх дамоў і аплаты па іх з'явіліся падставай для Брэсцкага гарвыканкама забараніць запланаваныя пікеты.

18 снежня ўсе чацвёра барысаўскіх заяўнікаў пікетаў «Скралі выбары, каб распрадаць краіну» атрымалі пісьмовыя забароны на правядзенне мерапрыемстваў за подпісам старшыні Барысаўскага райвыканкама Уладзіміра Міранавіча, напісаныя, нібы пад капірку. Тлумачэнне забароны такое: « ...Барысаўскі раённы выканаўчы камітэт забараняе Вам праводзіць пікет 19 снежня 2012 года ў сувязі з невыкананнем патрабаванняў пункта 3 рашэння Барысаўскага раённага камітэта ад 13 чэрвеня 2010 года № 851 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у Барысаўскім раёне». У пункце 3 названага рашэння арганізатарам масавых мерапрыемстваў ставіцца ў абавязак адначасова з заяўкай падаваць копіі дамоў з міліцыяй, цэнтральнай раённай бальніцай і камунальнай службай на аплату расходаў па ахове грамадскага парадку, медыцынскага абслугоўвання, уборкай тэрыторыі пасля правядзення на ёй масавага мерапрыемства, а таксама аплата гэтых выдаткаў на працягу дзесяці дзён пасля правядзення масавага мерапрыемства. Парадаксальнасць сітуацыі складаецца ў тым, што ўсе пералічаныя службы адмаўляюцца заключаць дамовы з арганізатарамі, пакуль не будзе дазволу ад райвыканкама на правядзенне мерапрыемства.



21 снежня Брэсцкі гарвыканкам адмовіў у правядзенні акцый, удзельнікі якіх мелі намер выступіць за больш хуткую рэалізацыю пагаднення аб малым памежным руху з Польшчай. Як паведаміў адзін з ініцыятараў пікетаў Ігар Маслоўскі, ладзіць гэтыя мерапрыемствы планавалася 21, 22 і 23 снежня каля цэнтральнага ўнівермага ў абласным цэнтры. У адказе з гарвыканкама гаворыцца, што правядзенне

пікетаў забаронена на той падставе, што яны плануюцца ў месцы, якое не прызначана для такіх мерапрыемстваў. Але праводзіць мерапрыемствы на стадыёне «Лакаматыў» ці на пляцоўцы каля сцэны ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, вызначаных гарвыканкамам, бессэнсоўна: там практычна не бывае людзей, тым больш зімой. А вось на пляцоўцы каля ЦУМа заўсёды шматлюдна.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

2 снежня стала вядома пра пераслед актывістаў незалежнага прафсаюза на прадпрыемстве «Граніт» у Мікашэвічах. Ад кіроўцы экскаватара Леаніда Дубаносава адміністрацыя прадпрыемства запатрабавала вызначыцца, ці будзе ён надалей плаціць сяброўскія складкі ў гэты прафсаюз праз бухгалтэрыю «Граніта». У выпадку, калі Дубаносаў не адмовіцца ад сяброўства ў незалежным прафсаюзе, прадстаўнікі адміністрацыі паабяцалі знайсці падставы, каб скасаваць з ім працоўны кантракт. Леанід працуе на прадпрыемстве «Граніт» ужо больш за дзесяць гадоў і раней ніколі не меў заўваг з боку кіраўніцтва. 17 снежня з’явілася інфармацыя пра ціск на казначэя суполкі гэтага прафсаюза Анатоля Літвінку. Амаль штодня прадстаўнікі адміністрацыі «Граніта» патрабуюць ад яго тлумачальныя, на падставе якіх робяцца заўвагі, што вельмі хутка могуць быць падставай для звальнення. Раней такі самы ціск адчувала жонка Анатоля Літвінкі — Людміла, якая таксама працавала на «Граніце» і была звольненая за сувязь са створаным на прадпрыемстве незалежным прафсаюзам.

ДАДАТАК 1

Организация Объединенных Наций A/HRC/20/L.7

# Генеральная Ассамблея

Distr.: Limited
28 June 2012
Russian
Original: English

**Совет по правам человека**
**Двадцатая сессия**
Пункт 4 повестки дня
**Ситуации в области прав человека, требующие внимания со стороны Совета**

**Австрия, Албания*, Бельгия, Болгария*, бывшая югославская Республика Македония*, Венгрия, Германия*, Греция*, Дания*, Ирландия*, Исландия*, Испания, Италия, Канада*, Кипр*, Латвия*, Литва*, Лихтенштейн*, Люксембург*, Мальта*, Монако*, Нидерланды*, Норвегия, Польша, Португалия*, Румыния, Словакия*, Словения*, Соединенное Королевство Великобритании и Северной Ирландии*, Соединенные Штаты Америки, Финляндия*, Франция*, Хорватия*, Черногория*, Чешская Республика, Швейцария, Швеция*, Эстония*: проект резолюции**

## 20/…
## Положение в области прав человека в Беларуси

*Совет по правам человека,*

*руководствуясь* целями и принципами Устава Организации Объединенных Наций, положениями Всеобщей декларации прав человека, Международных пактов о правах человека и других применимых договоров в области прав человека,

*ссылаясь* на резолюцию 17/24 Совета по правам человека от 17 июня 2011 года и с сожалением отмечая отсутствие сотрудничества со стороны правительства Беларуси в связи с просьбами Совета, содержащимися в указанной резолюции, включая отказ в доступе в страну для Управления Верховного комиссара Организации Объединенных Наций по правам человека и ряда мандатариев тематических специальных процедур,

*приветствуя* устные и всеобъемлющие письменные[1] доклады Верховного комиссара о положении в области прав человека в Беларуси, представленные Совету соответственно на его восемнадцатой и двадцатой сессиях, и выражая сожаление по поводу невыполнения правительством Беларуси предварительных рекомендаций, содержащихся в устном докладе,

1. *выражает серьезную обеспокоенность* в связи с содержащимися в докладе Верховного комиссара Организации Объединенных Наций по правам человека выводами[1], которые свидетельствуют о существовании с 19 декабря

[1] A/HRC/20/8.

2010 года практики серьезных нарушений прав человека, которая носит систематический характер и включает усилившиеся ограничения основных свобод, а именно свободы ассоциации, свободы собраний, права на свободу мнений и их свободное выражение, в том числе в отношении средств массовой информации, а также в связи с утверждениями о пытках и жестоком обращении в местах содержания под стражей, безнаказанности лиц, нарушающих и ущемляющих права человека, запугивании организаций гражданского общества и правозащитников, нарушении гарантий надлежащей законной процедуры и справедливого судебного разбирательства и давлении на адвокатов;

2. *настоятельно призывает* правительство Беларуси незамедлительно и безоговорочно освободить и реабилитировать всех политических заключенных, рассмотреть, в рамках всесторонних, транспарентных и заслуживающих доверия расследований, сообщения о пытках и жестоком обращении, осуществить все другие рекомендации, содержащиеся в докладе Верховного комиссара, и немедленно положить конец произвольному содержанию под стражей правозащитников, участившемуся применению краткосрочных произвольных задержаний и произвольных запретов на передвижение, нацеленных на запугивание представителей политической оппозиции и средств массовой информации, а также правозащитников и гражданского общества;

3. *постановляет* назначить Специального докладчика для наблюдения за положением в области прав человека в Беларуси и подготовки рекомендаций с целью его улучшения; содействовать осуществлению рекомендаций, содержащихся в докладе Верховного комиссара; оказывать правительству Беларуси помощь в выполнении своих обязательств в области прав человека; предоставлять поддержку и консультативную помощь гражданскому обществу; искать, получать и рассматривать информацию от любых соответствующих заинтересованных сторон, касающуюся положения в области прав человека в Беларуси, и принимать по ней меры; и представлять ежегодные доклады Совету по правам человека и Генеральной Ассамблее в соответствии с их соответствующими программами работы;

4. *призывает* правительство Беларуси в полном объеме сотрудничать со Специальным докладчиком и предоставить ему/ей доступ в страну, а также доступ к необходимой информации для целей выполнения мандата;

5. *просит* Управление Верховного комиссара предоставлять Специальному докладчику необходимую помощь и ресурсы для целей выполнения мандата.

ДАДАТАК 2

# Меркаванні Працоўнай групы па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека ААН адносна справы Алеся Бяляцкага

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый
Савет па правах чалавека
Працоўная група па адвольных затрыманнях

Меркаванні, прынятыя Працоўнай групай па адвольных затрыманнях на шэсцьдзясят чацвёртай сесіі 27-31 жніўня 2012 года

№ 39/2012 (Беларусь)
Паведамленне накіравана ўраду 20 красавіка 2012 года
Адносна: Аляксандра Віктаравіча Бяляцкага
Адказ ўрада 22 траўня 2012 года

Дзяржава з'яўляецца ўдзельніцай Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

1. Працоўная група па адвольных затрыманнях была створана згодна з рэзалюцыяй 1991/42 былой Камісіі па правах чалавека, якая падоўжыла і ўдакладніла мандат Працоўнай групы ў сваёй рэзалюцыі 1997/50. Савет па правах чалавека прыняў мандат у сваім рашэнні 2006/102 і падоўжыў яго трохгадовы перыяд у сваёй рэзалюцыі 15/18 ад 30 верасня 2010 года. У адпаведнасці са сваімі Метадамі працы, Працоўная група накіравала вышэйзгаданае паведамленне ўраду.

2. Працоўная група лічыць пазбаўленне волі адвольным у наступных выпадках:

(a) Калі відавочна немагчыма спасылацца на любую прававую аснову дзеля апраўдання пазбаўлення волі (напрыклад, калі асоба знаходзіцца ў зняволенні пасля адбыцця свайго пакарання або насуперак закону аб амністыі, які мусіць прымяняцца да зняволенага) (катэгорыя I);

(b) калі пазбаўленне волі вынікае з ажыццяўлення правоў або свабод, гарантаваных артыкуламі 7, 13, 14, 18,19, 20 і 21 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і, у той ступені, наколькі гэта датычыць дзяржаваў-удзельніц, артыкуламі 12, 18, 19, 21, 22, 25, 26 і 27 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (катэгорыя II);

(c) Калі поўнае або частковае невыкананне міжнародных норм, якія датычацца права на справядлівае судовае разбіральніцтва, замацаваных ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і адпаведных міжнародных дамовах, прынятых адпаведнымі дзяржавамі, з'яўляецца настолькі сур'ёзным, каб надаць пазбаўленню волі адвольны характар (катэгорыя III);

(d) Калі прэтэндэнты на атрыманне палітычнага прытулку, імігранты або ўцекачы становяцца ахвярамі працяглага адміністрацыйнага затрымання без магчымасці адміністрацыйнага або судовага абскарджвання або сродкаў прававой абароны (катэгорыя IV);

(e) Калі пазбаўленне волі з'яўляецца парушэннем міжнароднага права з прычыны дыскрымінацыі па прыкмеце нараджэння, нацыянальнага, этнічнага або сацыяльнага паходжання, мовы, рэлігіі, эканамічнага становішча, палітычных ці іншых перакананняў, полу; сэксуальнай арыентацыі, або інваліднасці або іншага статусу, і якое можа прывесці да ігнаравання роўнасці правоў чалавека (катэгорыя V),

Прадастаўленыя матэрыялы

## Папярэдні Тэрміновы зварот па справе сп. Бяляцкага

3. Справа была даведзеная да ведама Працоўнай групы па адвольных затрыманнях у наступным выглядзе. Сп. Аляксандр Віктаравіч Бяляцкі (далей сп. Бяляцкі), грамадзянін Беларусі, які стала пражывае па адрасе праспект Незалежнасці, Мінск, Беларусь, з'яўляецца праваабаронцам, заснавальнікам і прэзідэнтам Праваабарончага цэнтра «Наша Вясна» (або «Вясна») і віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

4. 15 жніўня 2011 г. старшыня-дакладчык Працоўнай групы па адвольных затрыманнях разам з іншымі мандатарыямі спецыяльных працэдураў накіраваў тэрміновы зварот ураду Беларусі. Адпаведны змест тэрміновага зварота прыводзіцца ніжэй:

4 жніўня 2011 г., прыкладна ў 2.00 апоўдні, як паведамляецца, група асобаў у цывільным акружыла аддзяленне ПЦ «Вясна» ў Мінску, супрацоўнікі ПЦ «Вясна» пакінулі офіс і замкнулі дзверы. У час эвакуацыі офіса, адзін з супрацоўнікаў чуў, як адна з асобаў у цывільным размаўляла па мабільным тэлефоне, сказаўшы, што сп. Бяляцкі не знаходзіцца ў офісе. У той жа дзень, прыкладна ў 4.30 апоўдні, сп. Бяляцкі быў арыштаваны ў цэнтры горада Мінска прадстаўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў. Супрацоўнікі міліцыі правялі ператрус у яго доме. Пасля гэтага, сп. Бяляцкі быў дастаўлены ў офіс «Вясны», які таксама быў абшуканы міліцыяй. 5 жніўня 2011 года, сп. Бяляцкі быў пераведзены з камеры ў Дэпартаменце

фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю ў ізалятар часовага ўтрымання Міністэрства ўнутраных спраў, дзе ён застаецца да гэтага часу.

Сп. Бяляцкі, як сцвярджаецца, утрымліваецца пад вартай за тое, што не заявіў аб існаванні прыватнага замежнага рахунку, зарэгістраванага на яго імя. У выніку гэтага, справа аб ухіленні ад выплаты падаткаў была распачатая ў дачыненні да сп. Бяляцкага за «ўтойванне прыбытку ў асабліва буйным памеры» ў адпаведнасці з артыкулам 243(2) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае да сямі гадоў пазбаўлення волі і канфіскацыю маёмасці.

Паводле атрыманай інфармацыі, мэтай валютнага рахунку было атрыманне ахвяраванняў на імя сп. Бяляцкага для фінансавання праваабарончай дзейнасці «Вясны». У чэрвені 2011 года сп. Бяляцкаму паведамілі аб тым, што расследаванне яго асабістых фінансавых справаў вялося з боку ўладаў. З улікам яго меркаванага затрымання, выказана сур'ёзная заклапочанасць адносна фізічнай і псіхалагічнай недатыкальнасці сп. Алеся Бяляцкага. Далей выказваецца занепакоенасць, што яго затрыманне можа быць наўпрост звязанае з яго працай у абарону правоў чалавека, у прыватнасці з ПЦ «Вясна».

5. Урад адказаў 31 кастрычніка 2011 года, і Працоўная група вітае гэтае супрацоўніцтва. Змест афіцыйна перакладзенага адказу, атрыманага ад урада Беларусі, прыводзіцца ніжэй:

4 жніўня 2011 г. следчым аддзела папярэдняга расследавання Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю была ўзбуджаная крымінальная справа ў дачыненні да сп. Бяляцкага за злачынства, прадугледжанае артыкулам 243, часткай 2 Крымінальнага кодэкса («ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў шляхам утойвання, наўмыснага заніжэння падатковай базы альбо шляхам ухілення ад прадастаўлення падатковай дэкларацыі (разліку) або ўнясення ў яе заведама ілжывых звестак, якое пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры»).

Гэта злачынства, прадугледжанае артыкулам 243, часткай 2 Крымінальнага кодэкса, адносіцца да катэгорыі цяжкіх злачынстваў, пакаранне за якое ўключае абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да сямі гадоў, з або без канфіскацыі маёмасці і з або без пазбаўлення права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Справа была ўзбуджана на падставе матэрыялаў, сабраных падчас папярэдніх запытаў.

Паводле звестак Міністэрства юстыцыі Літвы, атрыманых Дэпартаментам фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю з Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь 4 красавіка 2011 года, сродкі на агульную суму не менш як 295 733 еўра былі пераведзеныя на нумар рахунку сп. Бяляцкага ў банку AB DnB NORD Bankas у перыяд з 2009 г. па 2011 г.

Паводле звестак Міністэрства юстыцыі Польшчы, атрыманых Дэпартаментам фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю з Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, сродкі на агульную суму не менш як 335 787 еўра былі пераведзеныя на нумар рахунку сп. Бяляцкага ў банку Bank Śląski ў перыяд з 2007 г. па 2011 г.

У парушэнне дзеючага заканадаўства, сп. Бяляцкі не задэклараваў гэтыя сумы падатковым органам і не выплаціў падаходны падатак на атрыманы прыбытак.

У адпаведнасці з артыкулам 153, часткай 1.1 Падатковага кодэкса, прыбыткі, атрыманыя з крыніц у Беларусі і/або за мяжой фізічнымі асобамі, прызнанымі ў адпаведнасці з артыкулам 17 Падатковага кодэкса падатковымі рэзідэнтамі Беларусі, падлягаюць падаткаабкладанню падаткам на асабісты прыбытак.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Падатковага кодэкса, фізічныя асобы, якія прысутнічаюць у Беларусі больш за 183 дзён у каляндарным годзе, лічацца падатковымі рэзідэнтамі, як і ў выпадку сп. Бяляцкага.

23 верасня 2011 г., пасля падатковай праверкі, сп. Бяляцкаму было прад'яўлена канчатковае абвінавачанне ў адпаведнасці з артыкулам 243, часткай 2 Крымінальнага кодэкса за ўхіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры на агульную суму 352 274 360 беларускіх рублёў (больш як 10 064 базавых велічыняў).

У ходзе расследавання не ўстаноўлена ніякага пацверджання таго, што вышэйзгаданыя сумы ў літоўскім і польскім банках былі прызначаныя для фінансавання Праваабарончага цэнтра «Вясна» і іншых арганізацый.

Сп. Бяляцкі быў затрыманы ў 4:58 вечара 4 жніўня 2011 года супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю па адрасе праспект Незалежнасці 36, Мінск, па падазрэнні ў здзяйсненні вышэйзгаданага злачынства. У адпаведнасці з артыкулам 41 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, сп. Бяляцкі быў праінфармаваны падчас яго затрымання аб яго правах і абавязках, у тым ліку аб яго праве на абарону.

У сувязі з тым, што злачынствы паводле артыкула 243, часткі 2 Крымінальнага кодэкса кваліфікуюцца як цяжкія злачынствы, за якія прадугледжваецца пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін больш за два гады, сп. Бяляцкі быў узяты пад варту ў якасці меры стрымання ў адпаведнасці з артыкулам 126, часткай 1 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

Сп. Бяляцкі быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання Упраўлення ўнутраных справаў Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

Сп. Бяляцкі не прызнаў сябе вінаватым у прад'яўленых супраць яго абвінавачваннях і адмовіўся даваць паказанні. У ходзе допыту ў якасці падазраванага на пачатковым этапе расследавання ён пацвердзіў, што адкрыў рахункі ў замежных банках на сваё імя, і што ён кіраваў і выкарыстоўваў іх асабіста.

Пры вывучэнні матэрыялаў справы органамі пракуратуры Мінска ўстаноўлена, што папярэдняе следства было праведзена старанна, аб'ектыўна і ўсебакова, дзеянні абвінавачанага былі правільна кваліфікаваны, абвінавачванне было абгрунтаваным і заснаваным на доказах, выяўленых у ходзе расследавання, усе магчымыя следчыя дзеянні былі зробленыя, прынятыя прэвентыўныя меры былі правільнымі, і што не было ніякіх парушэнняў крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, у тым ліку ў дачыненні да ўтрымання пад вартай сп. Бяляцкага і збору доказаў.

5 жніўня 2011 года, сп. Бяляцкі быў змешчаны ў следчы ізалятар № 1 Дэпартамента выканання пакаранняў Міністэрства ўнутраных справаў, дзе ён па-ранейшаму знаходзіцца пад вартай.

Сп. Бяляцкі не падаваў ніякіх скаргаў пра сваё здароўе і не меў цялесных пашкоджанняў, калі ён быў пераведзены ў следчы ізалятар і агледжаны доктарам. Сп. Бяляцкі не звяртаўся па медыцынскую дапамогу ў час яго ўтрымання пад вартай у следчым ізалятары № 1.

Сп. Бяляцкі ўтрымліваецца ў камеры, разлічанай на шэсць чалавек. Па стане на 10 кастрычніка 2011 года, у камеры знаходзіліся чатыры чалавекі. Умовы адпавядаюць патрабаванням Правілаў утрымання пад вартай ад 16 чэрвеня 2003 года.

4 кастрычніка 2011 г. Пракуратура г. Мінска перадала справу ў суд Першамайскага раёна г. Мінска.

Мера стрымання ў выглядзе ўтрымання сп. Бяляцкага пад вартай не была змененая.

У ходзе папярэдняга расследавання не было атрымана ніякіх скаргаў або заяваў як ад сп. Бяляцкага асабіста, так і ад яго імя.

Сп. Бяляцкі карыстаецца сваім правам на абарону ў адпаведнасці з артыкулам 17, часткай 1 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, з дапамогай прафесійнага юрыста, які дзейнічае як ягоны абаронца.

У ходзе папярэдняга расследавання адвакат прадаставіў тры скаргі (на незаконнае прад'яўленне абвінавачвання, аб неабходнасці спынення крымінальнай справы і аб вызваленні з-пад варты); пасля разгляду скаргі былі адхіленыя як неабгрунтаваныя.

Улічваючы, што арышт і заключэнне пад варту сп. Бяляцкага былі заснаваныя на палажэннях беларускага крымінальнага і крымінальна-

працэсуальнага права, яны не могуць лічыцца адвольнымі у сэнсе артыкула 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкула 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Гэтыя артыкулы і іншыя нормы, якія тычацца крымінальнага расследавання і ўтрымання пад вартай, выконваліся ў ходзе папярэдняга расследавання ў дачыненні да сп. Бяляцкага.

Інфармацыя ад кампетэнтных органаў аб сітуацыі сп. Бяляцкага пераканаўча пацвярджае, што яго затрыманне і ўтрыманне пад вартай не звязана з яго працай у якасці праваабаронцы, у тым ліку ў кантэксце дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна».

6. У адпаведнасці з пунктам 23 Метадаў працы, «[п]асля перадачы ўраду тэрміновай заявы, Працоўная група можа перадаць справу ў межах сваёй рэгулярнай працэдуры для таго, каб вынесці меркаванне аб тым, ці з'яўляецца пазбаўленне волі адвольным. Такія заклікі — якія носяць чыста гуманітарны характар — ніякім чынам не перадвызначаюць Меркаванні, якія Працоўная група можа вынесці. Урад павінен адказаць асобна ў межах працэдуры тэрміновай заявы і рэгулярнай працэдуры». У прадстаўленых матэрыялах крыніца прама просіць Працоўную групу перадаць справу сп. Бяляцкага, у адпаведнасці з рэгулярнай працэдурай.

## Прадастаўленне ад крыніцы ў межах рэгулярнай працэдуры Працоўнай групы

7. Крыніца прадаставіла наступную інфармацыю аб далейшым развіцці падзеяў у справе. 28 кастрычніка 2011 г., пасля заканчэння следства, суд Першамайскага раёна вырашыў працягнуць ўтрыманне пад вартай сп. Бяляцкага.

8. 24 лістапада 2011 г., сп. Бяляцкі быў прысуджаны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці судом Першамайскага раёна горада Мінска. Суд прызнаў сп. Бяляцкага вінаватым у нявыплаце падаткаў, непадачы падатковай дэкларацыі і прадастаўленні ў падатковай дэкларацыі заведама ілжывых звестак, тым самым прычыніўшы шкоду ў асабліва буйным памеры у адпаведнасці з артыкулам 243, часткай 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Суд пастанавіў, што ён мусіць адбываць пакаранне ў папраўчай установе ўзмоцненага рэжыму. З сп. Бяляцкага таксама спаганяецца штраф у памеры 721 454 017 беларускіх рублёў (каля 90 000 долараў ЗША) і ён абавязаны выплаціць у дзяржаўны бюджэт кампенсацыю ў памеры 36 072 700 беларускіх рублёў (прыкладна 4 500 долараў ЗША).

9. 2 снежня 2011 г. сп. Бяляцкі быў пераведзены ў турму № 8 г. Жодзіна. 24 студзеня 2012 года Мінскі гарадскі суд пакінуў у сіле прысуд сп. Бяляцкаму. 17 лютага 2012 г., сп. Бяляцкі быў пераведзены ў Бабруйскую папраўчую калонію № 2, дзе ён знаходзіцца зараз.

## Сцвярджэнні крыніцы аб меркаваным адвольным характары працяглага ўтрымання пад вартай сп. Бяляцкага

10. Крыніца паведамляе, што ў ходзе судовага разбіральніцтва сп. Бяляцкі быў прадстаўлены адвакатамі, якія сцвярджалі і прадставілі доказы таго, што абвінавачанні былі неабгрунтаванымі і ўказвалі на працэсуальныя парушэнні, у тым ліку незаконнае атрыманне доказаў бокам абвінавачання, незацверджаныя афіцыйна дакументы і ўмяшальніцтва ў справу з боку КДБ.

11. Крыніца сцвярджае, што грашовыя пераводы, якія былі расцэнены беларускімі падатковымі органамі як асабісты прыбытак, мелі законнай мэтай фінансаванне рэгулярнай праваабарончай дзейнасці ПЦ «Вясна» і ніколі не выкарыстоўваліся ў якасці асабістых сродкаў сп. Бяляцкага.

12. Паведамляецца, што шэраг незалежных праваабарончых арганізацый, у тым ліку «Вясна», былі зачынены ўладамі і сутыкаліся з сістэматычнымі адмовамі ў рэгістрацыі з 2003 года. У сваім паведамленні № 1296/2004 Камітэт па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прыйшоў да высновы, што закрыццё «Вясны» ўяўляе сабой парушэнне артыкула 22 (1) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП), і што суаўтары Скаргі маюць «права на адпаведныя сродкі прававой абароны, уключаючы перарэгістрацыю «Вясны»» (Камітэт па правах чалавека, CCPR/C/90/D/1296/2004, пункт 9). Паводле звестак крыніцы, улады Беларусі адмовіліся выканаць гэтае рашэнне і адмовілі ў перарэгістрацыі «Вясны».

13. Нягледзячы на пазіцыю ўладаў, сп. Бяляцкі і сябры яго арганізацыі «Вясна» спрабавалі працягнуць сваю дзейнасць па заахвочванні павагі да міжнародна прызнаных правоў і свабод, аказанні прававой і матэрыяльнай дапамогі ахвярам парушэнняў правоў чалавека. Дзеля таго, каб працягваць гэтую дзейнасць, сябры «Вясны» вырашылі, што сродкі, якія выдаткоўваюцца на праваабарончую дзейнасць «Вясны», павінны пераводзіцца на банкаўскі рахунак, які рэгулярна адкрываецца і дэкларуецца ў адпаведнасці з унутраным літоўскім заканадаўствам.

14. Крыніца падкрэслівае, што незалежная дзейнасць сп. Бяляцкага і «Вясны» ў галіне заахвочвання і абароны правоў чалавека ў Беларусі былі прызнаная як унутры краіны, так і за мяжой. «Вясна» і сп. Бяляцкі быў уганараваны некалькімі прэміямі, у тым ліку чэшскай прэміяй «Homo Homini» у 2005 годзе, Прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава Нарвежскага Хельсінкскага камітэта і прэміяй Пера Ангера шведскага ўрада ў 2006 годзе, Прэміяй Свабоды Атлантычнага савета, прэміяй дацкай штодзённай газеты «Politiken» і польскай прэміяй Міністэрства замежных справаў «Pro Dignitate Humana» у 2011 годзе. За апошнія дзесяць гадоў, сп. Бяляцкі шмат разоў падарожнічаў па Усходняй Еўропе, назіраючы за судамі, расследуючы парушэнні правоў чалавека, падтрымліваючы сем'і зняволеных і назіраючы за выбарамі.

15. Арышту сп. Бяляцкага папярэднічалі яго заявы ў Савеце Еўропы ў красавіку 2011 года ў сувязі з пагаршэннем становішча ў галіне правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, яго ўдзел у пасяджэнні Міжнароднага савета FIDH, якое адбылося ў Парыжы ў чэрвені 2011 года, і яго прамова з нагоды слуханняў па сітуацыі ў Беларусі ў Еўрапейскім парламенце з заклікам да санкцыяў супраць асобаў, вінаватых у парушэннях правоў чалавека ў краіне.

16. У святле вышэй сказанага, крыніца сцвярджае, што вынясенне прысуду і працяглае ўтрымання пад вартай сп. Бяляцкага з'яўляюцца прамым вынікам мірнага ажыццяўлення правоў і свабодаў, гарантаваных міжнародным правам у галіне правоў чалавека, у прыватнасці тых, якія замацаваныя ў артыкулах 19 і 22 МПГПП. Паводле крыніцы, затрыманне Бяляцкага накіраванае выключна на спыненне і прадухіленне яго дзейнасці ў якасці абаронцы правоў чалавека.

17. Крыніца таксама паведамляе, што пасля вынясення прысуду судом першай інстанцыі 24 лістапада 2011 года беларускія няўрадавыя арганізацыі пачалі кампанію па зборы грошай для пакрыцця матэрыяльнай шкоды, нібыта нанесенай дзяржаве, і судовых выдаткаў, якія склалі ў агульнай суме 757 526 717 беларускіх рублёў (каля 95 000 долараў ЗША), у адпаведнасці з рашэннем суда. За некалькі дзён да абскарджання прысуду ў студзені 2012 года ўся сума штрафу была выплачана.

18. У адказе, прадстаўленым урадам на Тэрміновую заяву, адзначалася, што «расследаванне не знайшло пацверджання таго, што ... сумы [на падставе якіх супраць сп. Бяляцкага была ўзбуджаная крымінальная справа] у літоўскім і польскім банках былі прызначаныя для фінансавання

Праваабарончага цэнтра «Вясна» іншых арганізацый». Той жа адказ далей паведамляе, што «інфармацыя ад кампетэнтных органаў аб сітуацыі сп. Бяляцкага пераканаўча пацвярджае, што яго затрыманне і ўтрыманне пад вартай не звязана з яго працай у якасці праваабаронцы, у тым ліку ў кантэксце дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна».

## Адказ урада

19. 20 красавіка 2012 г. Працоўная група звярнулася да ўрада Беларусі з просьбай адказаць на вышэйзгаданыя абвінавачванні. 22 траўня 2012 года ўрад Рэспублікі Беларусь прадаставіў наступны адказ. Урад заявіў, што ў духу канструктыўнага супрацоўніцтва ў кастрычніку 2011 года ён прадаставіў Працоўнай групе вычарпальныя аргументы, якія паказваюць на неабгрунтаваны характар сцвярджэнняў аб тым, што арышт і ўтрыманне пад вартай сп. Бяляцкага могуць мець адвольны характар. У прыватнасці, урад заявіў, што яго адказ паказаў, што арышт і ўтрыманне пад вартай сп. Бяляцкага грунтаваліся на канкрэтных палажэннях Крымінальнага і Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў Рэспублікі Беларусь і, такім чынам, не могуць лічыцца адвольнымі ў адпаведнасці з артыкулам 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкулам 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Палажэнні гэтых артыкулаў, як і іншых норм у гэтых дакументах, звязаных з крымінальным пераследам і ўтрыманнем пад вартай, былі выкананы ў ходзе папярэдняга следства ў дачыненні да сп. Бяляцкага.

20. Урад сцвярджае, што сп. Бяляцкі быў праінфармаваны аб сваіх правах і абавязках, у тым ліку яго праве на абарону, адразу ж пасля яго арышту. Ён карыстаўся паслугамі адваката, які прадстаўляў яго інтарэсы ў ходзе судовага паседжання па крымінальнай справе, і яму быў прадастаўлены дастатковы час і магчымасці для падрыхтоўкі сваёй абароны.

21. У лістападзе 2011 года суд Першамайскага раёна г. Мінска прысудзіў сп. Бяляцкага да чатырох гадоў і шасці месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

22. Згодна з адказам урада, пастанова суда звязана выключна з парушэннямі падатковага заканадаўства. Сп. Бяляцкі не задэклараваў значныя фінансавыя рэсурсы, якія ён атрымаў з крыніцаў па-за межамі Рэспублікі Беларусь, што з'яўляецца сур'ёзным парушэннем дзеючага падатковага заканадаўства (больш падрабязную інфармацыю можна

знайсці ў адказе на папярэднюю Тэрміновую заяву ад 31 кастрычніка 2011 года).

23. У прыватнасці, у адпаведнасці з артыкулам 153, часткай 1.1 Падатковага кодэкса, прыбыткі, атрыманыя з крыніцаў у Беларусі і/або за мяжой фізічнымі асобамі, прызнанымі ў адпаведнасці з артыкулам 17 Падатковага кодэкса падатковымі рэзідэнтамі Беларусі, падлягаюць падаткаабкладанню падаткам на асабісты прыбытак. У адпаведнасці з артыкулам 17 Падатковага кодэкса, фізічныя асобы, якія прысутнічаюць у Беларусі больш за 183 дзён у каляндарным годзе, лічацца падатковымі рэзідэнтамі, як і ў выпадку сп. Бяляцкага.

24. Урад адзначае, што ўхіленне ад выплаты падаткаў з'яўляецца крымінальным злачынствам і караецца паводле закона ва ўсіх еўрапейскіх краінах. У некаторых краінах Еўрапейскага Саюза існуюць больш сур'ёзныя санкцыі за парушэнне падатковага заканадаўства, чым у Беларусі. Усе, без выключэння, падвяргаюцца крымінальнаму пераследу, у выпадку ўхілення ад выплаты падаткаў, незалежна ад іх палітычнага або сацыяльнага статусу. Заканадаўства еўрапейскіх краін не ўтрымлівае ніякіх гарантый падатковага імунітэту для асоб, якія займаюцца праваабарончай дзейнасцю.

25. Урад даводзіць, што не існуе прававых падстаў для далейшага разгляду Працоўнай групай справы сп. Бяляцкага. Урад сцвярджае, што затрыманне сп. Бяляцкага і рашэнне суда былі заснаваныя на дакладных заканадаўчых палажэннях, якія адпавядаюць дзеючым міжнародна-прававым дакументам.

26. Акрамя таго, урад заяўляе, што інфармацыя, прадстаўленая крыніцай на разгляд Працоўнай групе, скажона трактуе сітуацыю адносна справы сп. Бяляцкага і спрабуе надаць ёй палітычнае адценне. На думку ўрада, крыніца не прадаставіла ніводнага пераканаўчага факта ў падтрымку аргументацыі адносна магчымага парушэння палажэнняў міжнародна-прававых дакументаў.

27. Урад падкрэслівае, што крыніца інфармацыі павінна ведаць, што, хоць Працоўная група па адвольных затрыманнях мае спецыяльны тэматычны мандат, яна не можа замяніць сабой нацыянальныя судовыя сістэмы і пераглядзець рашэнні, прынятыя судовымі органамі дзяржаваў-удзельніцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

## Дадатковыя каментары ад крыніцы

28. У лісце ад 23 жніўня 2012 г. крыніца прадаставіла далейшыя каментары. Паводле крыніцы, урад Беларусі цьмяна трактуе артыкул 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкул 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП) і не ў стане прадэманстраваць наступнае: (1) ступень адпаведнасці з боку ўладаў усім палажэнням артыкула 9 МПГПП, у тым ліку ў святле судовай практыкі Камітэта па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншых міжнародных органаў і механізмаў; або (2) прычыны, чаму ён лічыць, што затрыманне сп. Бяляцкага не падпадае пад дзеянне мандата Працоўнай групы па адвольных затрыманнях.

29. Крыніца спасылаецца на наступныя гарантыі ў адпаведнасці з артыкулам 9 МПГПП: палажэнні ўнутранага заканадаўства, якія, у сваю чаргу, павінны адпавядаць прынцыпам міжнародных дакументаў, павінны быць выкананы падчас затрымання; утрыманне пад вартай павінна быць не толькі законным, але таксама абгрунтаваным і неабходным ва ўсіх адносінах (напрыклад, для прадухілення ўцёкаў, маніпуляцыі доказаў або паўторнага здзяйснення злачынства); утрыманне пад вартай не можа ацэньвацца абстрактна, але павінна быць прааналізавана ў святле канкрэтных абставінаў кожнай справы і ўсёй фактычнай інфармацыі аб абвінавачаным; падазрэнне аб здзяйсненні крымінальнага злачынства само па сабе не з'яўляецца дастатковай падставай для ўзяцця затрыманага пад варту падчас следства і напярэдадні суда; утрыманне пад вартай не павінна разглядацца ў якасці стандартнай меры, што прымяняецца да ўсіх асоб, якія падазраюцца ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў. Гэтая мера павінна прымяняцца толькі ў крайнім выпадку, толькі тады, калі менш строгія меры не могуць забяспечыць належныя паводзіны абвінавачанага. Крыніца сцвярджае, што заключэнне пад варту сп. Бяляцкага ў ходзе папярэдняга следства з'яўляецца парушэннем вышэйзгаданых стандартаў.

30. Крыніца сцвярджае, што любое рашэнне аб прадаўжэнні тэрміну ўтрымання пад вартай, прынятае следчымі органамі і судом, павінна ўтрымліваць абгрунтаванне выбару заключэння пад варту, напрыклад, па прычыне неабходнасці, слушнасці і суразмернасці. Гэта не было зроблена ў дадзенай справе, што і складае парушэнне палажэнняў артыкула 126 (2) Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь і артыкула 9 (1) МПГПП. Акрамя таго, рашэнні судоў па пытанні аб законнасці заключэння пад варту, заснаваныя на артыкуле 126(1) Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, згодна з якім «мера стрымання ў выглядзе

заключэння пад варту можа быць ужытая супраць асобаў, якія падазраюцца ў здзяйсненні цяжкага або асабліва цяжкага злачынства, выключна на аснове цяжару злачынства». Тым не менш, у дадзенай справе, ні пастановы следчага, ні судовыя рашэння аб заключэння пад варту сп. Бяляцкага не ўтрымліваюць ніякіх аргументаў на карысць выкарыстання такой меры стрымання ў адносінах да сп. Бяляцкага. Акрамя таго, крыніца сцвярджае, што не было прадстаўлена ніводнага канкрэтнага доказу, каб прадэманстраваць верагоднасць небяспекі таго, што абвінавачваны можа ўхіліцца ад правасуддзя, знішчыць доказы альбо парушыць закон. Такім чынам, прававая норма, якая дазваляе заключэнне пад варту выключна на падставе цяжару злачынства, не адпавядае міжнародным стандартам, паколькі такі падыход не грунтуецца на індывідуальнай ацэнцы магчымасці супрацьпраўных паводзінаў абвінавачанага ў ходзе расследавання справы і яе разгляду судом. У святле вышэй сказанага, крыніца сцвярджае, што заключэннем пад варту сп. Бяляцкага парушаны артыкул 9 (1) МПГПП.

31. Крыніца таксама заяўляе аб парушэнні артыкула 9 (3) МПГПП. Яна адзначае, што ў адпаведнасці з палажэннямі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, заключэнне пад варту адбываецца на падставе пастановы следчага, санкцыянаванай пракурорам або іншымі органамі крымінальнага пераследу (арт. 126 (4) Крымінальна-працэсуальнага кодэкса). Пры разглядзе спраў, звязаных з Беларуссю, Камітэт па правах чалавека ўжо двойчы заяўляў, што дзяржаўны абвінаваўца не з'яўляецца асобай, які валодае неабходнай інстытуцыйнай незалежнасцю і бесстароннасцю, каб разглядацца як «іншая службовая асоба, упаўнаважаная законам ажыццяўляць судовую ўладу», як гаворыцца ў артыкуле 9 (3), паколькі належнае выкарыстанне судовай уладай можа ажыццяўляцца толькі органам, які з'яўляецца незалежным, аб'ектыўным, неперадузятым і бесстароннім у дачыненні да пытанняў, якія разглядаюцца. Такім чынам, крыніца сцвярджае, што заключэнне сп. Бяляцкага пад варту намеснікам пракурора горада Мінска 5 жніўня 2011 года ўяўляе сабой парушэнне артыкула 9 (3) МПГПП.

32. Акрамя таго, пры разглядзе скаргаў на заключэнне пад варту сп. Бяляцкага суд Першамайскага раёна Мінска і Мінскі гарадскі суд не выканалі патрабаванняў артыкула 9 (4) МПГПП. Паводле крыніцы, рашэнні судоў не ўтрымліваюць спасылак на разгляд якіх-небудзь доказаў, якія б давалі дастатковыя падставы ўтрымліваць сп. Бяляцкага пад вартай (напрыклад, крытэрыі неабходнасці, абгрунтаванасці і мэтазгоднасці прымянення гэтай меры ў адносінах да адпаведнай асобы ў адпаведных абставінах). Акрамя таго, ацэнка была дадзена судом у адсутнасць сп. Бяляцкага, які, такім чынам, быў пазбаўлены магчымасці абараняць сябе.

33. Паралельна з гэтым, крыніца сцвярджае, што ў сваім адказе ўрад не здолеў прадэманстраваць, на якіх падставах ён лічыць, што затрыманне сп. Бяляцкага не падпадае пад дзеянне мандата Працоўнай групы па адвольных затрыманнях. Ён проста спасылаецца на артыкул 153, частку 1.1 Падатковага кодэкса, у якім гаворыцца, што «прыбыткі, атрыманыя з крыніцаў у Беларусі і/або за мяжой фізічнымі асобамі, прызнанымі ў адпаведнасці з артыкулам 17 Падатковага кодэкса падатковымі рэзідэнтамі Беларусі, падлягаюць падаткаабкладанню падаткам на асабісты прыбытак». Крыніца падкрэслівае, што сп. Бяляцкі быў заключаны пад варту па абвінавачанні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў (гл. артыкул 243 (2) Крымінальнага кодэкса) пасля таго, як беларускія падатковыя органы памылкова палічылі, што грошы на рахунках, якія знаходзіліся ў Літве і Польшчы, з’яўляюцца асабістым прыбыткам Бяляцкага, і абвінавацілі яго ў іх утойванні. Гэтыя грошы, якія былі перададзеныя буйнымі міжнароднымі арганізацыямі з мэтай фінансавання рэгулярнай праваабарончай дзейнасці, ніколі не выкарыстоўваліся сп. Бяляцкім як асабістыя сродкі, але для фінансавання законнай дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна».

34. Паводле крыніцы, сп. Бяляцкі заўсёды настойваў на сваёй невінаватасці ў дачыненні да абвінавачанняў, вылучаных супраць яго. У ходзе папярэдняга следства і на працягу ўсяго судовага разбіральніцтва ён неаднаразова заяўляў, што грошы, якія шэраг замежных фондаў і арганізацый перавялі на рахункі, адкрытыя на яго імя ў Польшчы і Літве, выкарыстоўваліся выключна для фінансавання праваабарончай дзейнасці ПЦ «Вясна». Права на свабоду аб’яднання, гарантаванае артыкулам 22 МПГПП, уключае ў сябе не толькі стварэнне аб’яднанняў, але і ўсе іх наступныя дзеянні. Не існуе эфектыўнага спосабу ажыццяўлення такой дзейнасці без доступу да сродкаў.

35. Права праваабаронцаў і праваабарончых арганізацыяў запытваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы спецыяльна для заахвочвання і абароны правоў чалавека і асноўных свабод мірнымі сродкамі замацавана ў артыкуле 13 Дэкларацыі аб праве і абавязку асобных асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды (гл. Дэкларацыю ААН аб праваабаронцах), прынятай Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў 9 снежня 1988 года. Дэкларацыя прадугледжвае спецыяльную абарону для праваабаронцаў, у тым ліку права запытваць, атрымліваць і выкарыстоўваць рэсурсы спецыяльна для мэтаў абароны правоў чалавека (у тым ліку атрыманне сродкаў з-за мяжы).

36. Крыніца нагадвае, што ўлады скасавалі афіцыйную рэгістрацыю Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў 2003 годзе, потым у 2007 годзе, а пасля канчаткова адмовілі яму ў афіцыйнай перарэгістрацыі ў 2009 годзе. Адмова ў рэгістрацыі не дазволіла арганізацыі адкрыць банкаўскі рахунак у Беларусі для таго, каб атрымліваць сродкі на гэты рахунак і аплаціць (або быць вызваленымі ад) падаткі на атрыманыя сродкі. Акрамя таго, Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь строга абмяжоўвае права арганізацый на атрыманне дабрачынных узносаў з-за мяжы, якія могуць быць выкарыстаны толькі для максімальна абмежаваных мэтаў, якія выключаюць праваабарончую дзейнасць.

37. Урад, такім чынам, адсек усе магчымасці для фінансавання праваабарончай дзейнасці арганізацыі. Гэты закон супярэчыць артыкулу 13 Дэкларацыі ААН аб праваабаронцах і парушае артыкул 22 МПГПП. Адпаведна, сродкі, якія выдаткоўваюцца на праваабарончую дзейнасць ПЦ «Вясна», давялося накіроўваць праз літоўскія і польскія банкаўскія рахункі толькі таму, што арганізацыі сістэматычна адмаўлялі ў рэгістрацыі, у парушэнне артыкула 22 МПГПП, і таму, што артыкул 193 (1) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь крыміналізуе дзейнасць «ад імя незарэгістраваных арганізацыяў».

38. Такім чынам, крыніца нагадвае, што вынясенне прысуду і зняволенне сп. Бяляцкага з’яўляюцца адвольнымі, паколькі яны выцякаюць з ажыццяўлення ім агульнапрызнаных правоў чалавека, крыміналізаваных заканадаўствам Беларусі.

## Абмеркаванне

39. Сп. Бяляцкі быў прысуджаны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці ў 2011 годзе, і гэта рашэнне было пакінута ў сіле сёлета. Як заяўляе крыніца, цэнтральнае месца ў справе займаюць заявы сп. Бяляцкага аб тым, што сродкі, атрыманыя на замежныя рахункі, былі часткай кампаніі збору сродкаў для няўрадавай арганізацыі «Вясна», якую ўрад пазбавіў рэгістрацыі і прыняў захады для яе закрыцця.

40. Камітэт па правах чалавека ААН зрабіў пэўныя высновы ў сваім паведамленні № 1296/2004, заявіўшы, што ліквідацыя «Вясны» з’яўляецца парушэннем свабоды аб’яднанняў, гарантаванай артыкулам 22 МПГПП.

41. Спецыяльны дакладчык ААН па пытаннях становішча праваабаронцаў Маргарэт Секаггія, якая займалася разглядам справы, у сваім дакладзе ад 24 лютага 2010 года выклала сітуацыю наступным чынам:

Была выказана заклапочанасць з нагоды таго, што паўторныя і сталыя адмовы ў рэгістрацыі праваабарончай арганізацыі «Вясна» могуць быць звязаныя з яе дзейнасцю ў прасоўванні і абароне правоў чалавека, у прыватнасці, з яе кампаніяй за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі. Акрамя гэтага, была выказана заклапочанасць з нагоды таго, што гэты прысуд, а таксама паўторныя адмовы ў рэгістрацыі арганізацыі з'яўляюцца парушэннем міжнародных стандартаў, у прыватнасці, артыкула 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, удзельнікам якога з'яўляецца Беларусь, і супярэчаць рашэнню Камітэта па правах чалавека ААН і рэзалюцыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (A/HRC/13/22/Add. 1, пункт 140).

42. У дакладзе камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па правах чалавека аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, выкладзена наступнае:

Праваабарончы цэнтр «Вясна» таксама неаднаразова станавіўся ахвярай дзеянняў уладаў. З часу адмены яго рэгістрацыі ў 2003 годзе беларускія ўлады пагражалі старшыні «Вясны» Алесю Бяляцкаму (таксама віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і сябра Беларускай Асацыяцыі журналістаў) крымінальным пераследам за «незаконную дзейнасць ад імя НДА» (Крымінальны кодэкс, артыкул 193.1). Апошняе папярэджанне было вынесенае ў красавіку 2011 года.

Як паведамляецца, 20 снежня 2010 года супрацоўнікі КДБ правялі перагрус у офісе «Вясны», канфіскавалі камп'ютары і дакументацыю, а таксама затрымалі 10 супрацоўнікаў, якія былі вызваленыя у той жа дзень. 4 жніўня 2011 г., сп. Бяляцкі быў зноў арыштаваны, змешчаны ў СІЗА Міністэрства ўнутраных справаў і абвінавачаны ва ўхіленні ад выплаты падаткаў.

24 лістапада ён быў асуджаны судом Першамайскага раёна г. Мінска да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыі маёмасці. Сп. Бяляцкі быў асуджаны за «ўтойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры» (Крымінальны кодэкс, арт. 243.2). Суд пастанавіў, што сп. Бяляцкі наўмысна пазбягаў выплаты падаткаў з грошай, якія ён нібыта захоўваў на банкаўскіх рахунках за мяжой; суд праігнараваў той факт, што гэтыя грошы не былі асабістым прыбыткам Бяляцкага. Ён абскардзіў прысуд, які быў, аднак, пакінуты ў сіле 24 снежня 2012 г. судом горада Мінска. У лютым 2012 года сп. Бяляцкі быў дастаўлены ў Бабруйскую папраўчую калонію № 2. Іншы сябра «Вясны», Валянцін Стэфановіч, быў таксама прызнаны вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і 16 снежня 2011 г. суд у Мінску асудзіў яго да штрафу за ўтойванне прыбыткаў (A/HRC/20/8, пункт 62).

43. У главе IV «Высноваў і рэкамендацыяў» Даклада Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі была зроблена наступная рэкамендацыя:

(е) пакласці неадкладны канец усім формам ціску і рэпрэсій супраць арганізацый грамадзянскай супольнасці, а таксама асобных праваабаронцаў, і неадкладна і безумоўна вызваліць Алеся Бяляцкага і зняць абвінавачванні, вылучаныя супраць яго і іншых праваабаронцаў (A/HRC/20/8, пункт 75).

44. Працоўная група разгледзела прадастаўленыя дакументы, у прыватнасці, інфармацыю ўрада аб рашэннях суда першай і апеляцыйнай інстанцый у дачыненні да сп. Бяляцкага ў 2011 і 2012 гадах. Яна таксама разгледзела інфармацыю крыніцы і прэтэнзіі сп. Бяляцкага пра тое, што сродкі, атрыманыя на замежныя рахункі былі часткай кампаніі збору сродкаў для няўрадавай арганізацыі «Вясна».

45. Працоўная група адзначае, што ў гэтым выпадку не існуе імунітэту для праваабаронцаў у дачыненні да крымінальных спраў такога роду. Тым не менш, дзеянні ўрада павінны паважаць ажыццяўленне правоў чалавека, і ўрады маюць канкрэтныя абавязкі па абароне праваабаронцаў ад розных форм пераследу, з якімі яны могуць сутыкнуцца ў сваёй дзейнасці. Пры наяўнасці прэтэнзій аб парушэнні правоў чалавека ў гэтым кантэксце, у тым ліку карціны пераследу, мясцовыя ўлады і міжнародныя наглядныя органы павінны ўжываць павышаны стандарт ацэнкі дзеянняў урада. Мясцовыя ўлады абавязаны правесці расследаванне, і расследаванне павінна быць незалежным, як у арганізацыйным плане, так і на практыцы, а таксама хуткім.

46. У дадзенай справе не існуе ніякай падтрымкі для правядзення такога расследавання нацыянальнымі ўладамі, нягледзячы на тое, што існуе цесная сувязь паміж бесперапынным пераследам у дачыненні да сп. Бяляцкага і працай яго калег у «Вясне», той факт, што арганізацыя зазнала перашкоды з боку уладаў у ажыццяўленні сваёй дзейнасці. Гэта асабліва кідаецца ў вочы ў святле рэзкай крытыкі, выказанай міжнароднымі органамі, як паказана вышэй, а таксама высноваў Камітэта па правах чалавека, датычных парушэння артыкула 20 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкула 22 МПГПП, у сувязі з ліквідацыяй «Вясны».

47. Судовыя рашэнні, вынесеныя ў дачыненні да сп. Бяляцкага, не ўлічваюць яго сцверджанняў аб тым, што сродкі, атрыманыя на рахункі за мяжой, былі часткай збору сродкаў для дзейнасці «Вясны». Інфармацыя,

прадастаўленая Працоўнай групе ўрадам, таксама не дапамагае ў гэтым сэнсе. Працоўная група падкрэслівае, што крымінальная адказнасць не можа быць заснаваная на папярэдніх захадах урада па адмене рэгістрацыі і ліквідацыі няўрадавай арганізацыі «Вясна» ў парушэнне артыкула 20, пункта 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкула 22 МПГПП. Такія дзеянні ўрада будуць мець непрадказальны эфект у публічным або прыватным праве, і не будуць служыць асновай для далейшай крымінальнай вытворчасці.

48. Акрамя таго, Працоўная група адзначае, што палажэнні крымінальнага заканадаўства ў Беларусі, якія былі выкарыстаны ў справе сп. Бяляцкага, не пералічваюць дзейнасць, звязаную з правамі чалавека, сярод мэтаў, якія дазваляюць вызваленне ад выплаты падаткаў. У сувязі з гэтым Працоўная група падкрэслівае, што ў адпаведнасці з артыкулам 22 МПГПП, дзяржавы-удзельніцы звязаныя не толькі негатыўным абавязальніцтвам не ўмешвацца ў стварэнне аб'яднанняў або іх дзейнасць, але пазітыўным абавязальніцтвам забяспечваць прававую аснову для ўключэння ў такую дзейнасць юрыдычных асоб. На думку Працоўнай групы, такія захады, як садзейнічанне задачам асацыяцыяў шляхам дзяржаўнага фінансавання або дазволу на вызваленне ад падаткаў на сродкі, атрыманыя з-за межаў краіны, уваходзяць у сферу пазітыўнага абавязальніцтва ў адпаведнасці з артыкулам 22 МПГПП. Нарэшце, дзяржавы абавязаны абараняць стварэнне або дзейнасць асацыяцый ад умяшальніцтва з боку прыватных асоб.

49. Працоўная група таксама нагадвае, што ў адпаведнасці з артыкулам 22, пунктам 2 МПГПП, любыя абмежаванні права на свабоду аб'яднанняў павінны ў сукупнасці адпавядаць наступным умовам: (a) яны павінны быць прадугледжаныя законам; (b) могуць быць уведзеныя толькі для адной з мэтаў, выкладзеных у пункце 2, і (c) павінны быць «неабходнымі у дэмакратычным грамадстве» для дасягнення адной з гэтых мэтаў. Урад не ўстанавіў ніводную з гэтых умоваў, каб апраўдаць свае дзеянні па адмове ў рэгістрацыі «Вясны», пераследуючы яе сяброў і перашкаджаючы яе дзейнасці.

50. У гэтых умовах, Працоўная група лічыць, што збор сродкаў, які ажыццяўляў сп. Бяляцкі для мэтаў, якія б дазволілі само існаванне «Вясны» і працяг яе дзейнасці, адпавядалі правам, замацаваным у артыкуле 20, пункце 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкуле 22 МПГПП. Працоўная група з заклапочанасцю адзначае, што палажэнні крымінальнага заканадаўства, выкарыстаныя ў дачыненні да сп. Бяляцкага, не прымаюць пад увагу вышэйзгаданыя стандарты. Працоўная група прыйшла да высновы

аб тым, што вынясенне прысуду і зняволенне сп. Бяляцкага з’яўляюцца парушэннем артыкула 20, пункта 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкула 22 МПГПП.

## Рашэнне па справе

51. У святле вышэйзгаданага, Працоўная група выносіць наступнае меркаванне:

Пазбаўленне волі сп. Аляксандра Віктаравіча Бяляцкага з’яўляецца адвольным, паколькі яно супярэчыць артыкулу 20, пункту 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкулу 22 МПГПП. Затрыманне падпадае пад катэгорыю II сярод катэгорый, якія ўжываюцца пры разглядзе спраў, перададзеных на разгляд Працоўнай групы,

52. З улікам гэтага Меркавання, Працоўная група просіць урад прыняць неабходныя захады для выпраўлення становішча сп. Бяляцкага і прывесці яго ў адпаведнасць з нормамі і прынцыпамі, выкладзенымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і МПГПП.

53. Працоўная група падкрэслівае, што адэкватнымі сродкамі прававой абароны з’яўляецца вызваленне сп. Бяляцкага і наданне яму законнага права на кампенсацыю ў адпаведнасці з артыкулам 9, пунктам 5 МПГПП.

[Прынята 31 жніўня 2012 г.]

Дакумент пададзены ў перакладзе ПЦ «Вясна»

ДАДАТАК 3

## ВЫНІКОВЫ ДАКУМЕНТ
## Працоўнай сустрэчы праваабарончых арганізацый Рэспублікі Беларусь у сувязі з прапановай Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выказаць меркаванне па пытанні нацыянальнай установы па правах чалавека

г. Мінск 16 кастрычніка 2012 г.

Аб запрашэнні Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў (далей — НЦЗПД) зацікаўленым арганізацыям выказаць меркаванне па пытанні нацыянальнай установы па правах чалавека (далей — НУПЧ) нам стала вядома з неафіцыйнай інфармацыі, размешчанай на адным з навіновых вэб-сайтаў. Да абмеркавання не былі запрошаны беларускія праваабарончыя арганізацыі, у тым ліку, тыя з іх, якія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы альтэрнатыўнага даклада ў межах працэдуры Універсальнага перыядычнага агляду (далей — УПА) у 2010 годзе і назіраюць за выкананнем рэкамендацый, прынятых Рэспублікай Беларусь у выніку УПА .

Тым не менш, мы лічым неабходным выказаць сваю пазіцыю па гэтым пытанні.

### Пазіцыя ўдзельнікаў Працоўнай сустрэчы

Прапанаваны фармат абмеркавання пытання НУПЧ не адпавядае патрабаванням паўнавартаснага ўдзелу няўрадавых арганізацый пры выкананні рэкамендацый УПА, прадугледжанага працэдурай агляду.

Мы настойваем на празрыстым, адкрытым і публічным працэсе абмеркавання пытання з роўным уцягваннем ўсіх зацікаўленых бакоў, у тым ліку ПЦ «Вясна», ІПУ «Платформа» і іншых праваабарончых арганізацый.

Мы таксама заклікаем НЦЗПД максімальна канкрэтна вызначыць прадмет абмеркавання, у прыватнасці — прадаставіць канцэпцыю ці праект закона.

У якасці асноўнай папярэдняй умовы дыялога паміж дзяржаўнымі органамі і праваабарончымі арганізацыямі ў пытанні НУПЧ мы патрабуем:

вызваліць усіх зняволеных, асуджаных па палітычных матывах, у тым ліку, праваабаронцу Алеся Бяляцкага;

спыніць усе формы ціску на праваабаронцаў, як, напрыклад, судовае рашэнне ад 9 кастрычніка 2012 аб ліквідацыі ІПУ «Платформа», невыкананне рэкамендацыі Камітэта ААН па правах чалавека аб аднаўленні зарэгістраванага статусу ПЦ «Вясна».

## Рэзюмэ аб мэтазгоднасці стварэння НУПЧ

Рэкамендацыі па пытанні НУПЧ, вынесеныя Беларусі ў працэсе УПА, шмат у чым сталі вынікам сістэмнай шматгадовай дзейнасці праваабарончых арганізацый, якая ўключае прадастаўленне альтэрнатыўнага даклада для універсальнага перыядычнага агляду.

Выяўляючы паслядоўнасць, мы лічым неабходным стварэнне нацыянальнай установы па правах чалавека ў рамках выканання рэкамендацый УПА.

Пры стварэнні ўстановы лічым абавязковым прытрымліванне прынцыпаў, якія тычацца статусу НУПЧ (Парыжскім прынцыпам), зацверджаным рэзалюцыяй Генеральнай Асамблеі ААН № 48/134 ад 20 снежня 1993 года, Мадэльнага Закону СНД аб статусе упаўнаважанага па правах чалавека і Канцэпцыі судова-прававой рэформы 1992 года.

Інфармуем вас аб тым, што пытанне НУПЧ знаходзіцца пад пільнай увагай з боку зацікаўленай грамадскасці, у тым ліку, з боку Працоўнай групы, якая рыхтавала альтэрнатыўны даклад для УПА і ў дадзены момант ажыццяўляе маніторынг выканання рэкамендацый УПА.

Гэты дакумент мае форму адкрытага заявы.

Ад імя Цэнтра прававой трансфармацыі — Алена Танкачова
Вольга Смалянка
Ад імя Рады Праваабарончага цэнтра «Вясна» — Валянцін Стэфановіч
Ад імя Беларускага Дома правоў чалавека — Таццяна Рэвяка
Ад імя ПУ Праваабарончы цэнтр «Прававая дапамога насельніцтву»
Ігар Рынкевіч
Ад імя ІПУ «Платформа» — Андрэй Бандарэнка
Ад імя ППУ «Офіс па правах людзей з інваліднасцю» — Эніра Браніцкая
Праваабаронца — Раіса Міхайлоўская
Ад імя Асветніцка-дабрачыннай установы Камітэт «Салідарнасць»
Іна Кулей

ДАДАТАК 4

АДМІНІСТРАЦЫЯ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР ЗАКАНАДАЎСТВА І ПРАВАВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

вул. Берсана, 1а, 220050, г. Мінск
тэл. (017) 200 12 25
факс (017) 222 40 96
E-mail: center@pmrb.gov.by

АДМИНИСТРАЦИЯ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

НАЦИОНАЛЬНЫЙ ЦЕНТР ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВА И ПРАВОВЫХ ИССЛЕДОВАНИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

ул. Берсона, 1а, 220050, г. Минск
тел. (017) 200 12 25
факс (017) 222 40 96
E-mail: center@pmrb.gov.by

09.11.2012 №06-10/1771

На № 01-09/66 ад 01.11.2012

Просветительское учреждение "Центр правовой трансформации"

ул. Нововиленская, 38-10
220053, г.Минск

О национальном учреждении по правам человека

Национальный центр законодательства и правовых исследований Республики Беларусь (далее – НЦЗПИ) в рамках своей компетенции рассмотрел обращение Центра правовой трансформации (далее – Центр) и выражает благодарность за представленные предложения по вопросу о необходимости создания в Республике Беларусь национального учреждения по поощрению и защите прав человека (далее – НУПЧ).

В рамках универсального периодического обзора по правам человека в Совете Организации Объединенных Наций по правам человека Республикой Беларусь были одобрены следующие рекомендации, высказанные делегациями государств – членов Организации Объединенных Наций:

рекомендация об изучении возможности создания национального института для защиты прав человека, аккредитованного Международным координационным комитетом национальных институтов по поощрению и защите прав человека (Алжир);

рекомендации о рассмотрении вопроса (Египет) и об изучении возможности (Малайзия) создания национального института по правам человека в соответствии с Парижскими принципами.

В этой связи НЦЗПИ изучается возможность создания в Республике Беларусь НУПЧ. НЦЗПИ не располагает соответствующим проектом закона Республики Беларусь о НУПЧ либо концепцией такого законопроекта.

При этом обращаем внимание, что вопросы освобождения заключенных и осужденных, а также отмены судебных решений о

2

ликвидации юридических лиц не входят в компетенцию НЦЗПИ. По вопросу обжалования соответствующих решений заинтересованные лица могут обратиться в компетентные государственные органы Республики Беларусь в порядке, установленном процессуально-исполнительным законодательством об административных правонарушениях, уголовно-процессуальным и хозяйственным процессуальным законодательством.

Директор В.Д. Ипатов

# ЗАЯВЫ, ЗВАРОТЫ, ПЕТЫЦЫІ

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з патрабаваннем неадкладнага вызвалення Сяргея Каваленкі

11.01.2012, Мінск

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае ўлады Беларусі неадкладна спыніць палітычны пераслед актывіста партыі КХП-БНФ Сяргея Каваленкі

19 снежня 2011 г. у г. Віцебску ў сувязі з узбуджэннем крымінальнай справы паводле арт. 415 КК Рэспублікі Беларусь («ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі») быў затрыманы і ўзяты пад варту ў СІЗА актывіст партыі КХП-БНФ Сяргей Каваленка. На дадзены момант ён утрымліваецца ў адзіночнай камеры СІЗА г. Віцебска і 23-ці дзень трымае галадоўку пратэсту. Яго жыццю і здароўю пагражае сур'ёзная небяспека.

Нагадаем, што 14 траўня 2010 г. суд Кастрычнікага раёна г. Віцебска асудзіў Сяргея Каваленку да трох гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Крымінальны пераслед актывіста пачаўся пасля таго, як 7 студзеня 2010 г. ён на вачах у соцень мінакоў вывесіў на 40-метровай вышыні бел-чырвона-белы сцяг, здолеўшы залезці па зборнай металічнай канструкцыі на самую верхавіну галоўнай навагодняй елкі ў Віцебску. Сяргей Каваленка абвінавачаны паводле ч. 1 арт. 339 КК («наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак») і ч. 2 арт. 363 («супраціў работніку праваахоўных органаў пры выкананні ім службовых абавязкаў»).

Праваабарончы цэнтр «Вясна» лічыў і лічыць, што публічная дэманстрацыя і вывешванне Каваленкам нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга ні ў якім выпадку не можа кваліфікавацца як хуліганскія дзеянні, паколькі яны не носяць характару асаблівага цынізму і яўнай непавагі да грамадства і не мелі гэтага на мэце.

Дзеянні Каваленкі з'яўляюцца грамадска-палітычнай акцыяй, здзейсненай у дадзенай форме, і не былі скіраваны на прычыненне шкоды грамадскаму парадку ці праяву непавагі да грамадства.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае паўторнае прыцягненне Сяргея Каваленкі да крымінальнай адказнасці за нібыта ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі як працяг палітычных рэпрэсій у дачыненні да яго і спробу далейшай ізаляцыі актывіста апазіцыйнай партыі.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць Сяргея Каваленку, спыніць крымінальную справу і забяспечыць яму належную і неадкладную медыцынскую дапамогу.

Праваабрончы цэнтр «Вясна» нагадвае прадстаўнікам адміністрацыі СІЗА, кіраўніцтву МУС Беларусі, што адказнасць за жыццё і здароўе Сяргея Каваленкі цалкам кладзецца на іх.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» супраць катаванняў, пагроз, шантажу і іншых недапушчальных спосабаў ціску і ўздзеяння на палітвязняў

25.01.2012, Мінск

Праваабарончы цэнтр «Вясна» катэгарычна пратэстуе супраць катаванняў, пагроз, шантажу і іншых недапушчальных спосабаў ціску і ўздзеяння на палітвязняў.

Асаблівую заклапочанасць выклікае заява жонкі экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава — Ірыны Халіп аб тым, што жыццё зняволенага палітыка знаходзіцца пад пагрозай, у дачыненні да яго ўжываюцца катаванні і бесчалавечнае абыходжанне. Мы ўспрымаем нядопуск адвакатаў да Андрэя Саннікава, які меў месца да апошняга часу, як прамое пацверджанне заявы, зробленай жонкай палітвязня.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» з разуменнем ставіцца да напісання палітычнымі вязнямі заяваў аб памілаванні, тым больш калі яны напісаныя пад пагрозай ужывання катаванняў у дачыннені да іх саміх ці членаў іх сям'і. Мы падтрымліваем любыя захады, скіраваныя на найхутчэйшае іх вызваленне.

Як фактар дадатковага ціску на палітвязняў мы расцэньваем беспадстаўную і незаконную змену рэжыму адбыцця пакарання Мікалаю Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу і Яўгену Васьковічу.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных вязняў і пакарання вінаватых у грубым парушэнні іх правоў, ужыванні катаванняў і незаконай змене рэжыму адбыцця пакарання.

Мы заклікаем міжнародныя арганізацыі і ўрады дэмакратычных краін ставіць абавязковай умовай аднаўлення любых кантактаў з афіцыйнымі асобамі Беларусі неадкладнае вызваленне і рэабілітацыю ўсіх палітычных зняволеных.

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» — за неадкладнае ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі

15.03.2012, Мінск

14 сакавіка бягучага года ў сродках масавай інфармацыі з'явілася інфармацыя аб тым, што Аляксандр Лукашэнка адмовіў у памілаванні Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» шкадуе аб адхіленні памілавання Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву.

Мы лічым абсалютна недапушчальным выкарыстанне такога віду пакарання, як смяротная кара. Сваім рашэннем улады Беларусі дэманструюць непрыняцце агульнапрызнаных прынцыпаў гуманізму і каштоўнасці чалавечага жыцця. Ніякае злачынства не можа быць апраўданнем для здзяйснення забойства нават ад імя дзяржавы.

Беларусь — апошняя краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе захаваўся такі від пакарання, як смяротнае.

Мы звяртаем увагу на тое, што родныя Уладзіслава Кавалёва асабіста звярталіся з заклікам прыняць рашэнне аб памілаванні, а таксама на рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН аб прыпыненні выканання пакарання ў рамках спецыяльнай працэдуры.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» асобна звяртае ўвагу на той момант, што прадстаўнікі рэлігійных канфесій Беларусі таксама выказваліся ў падтрымку памілавання асуджаных да смяротнага пакарання.

Істотна важнай з'яўляецца і думка вялікай часткі беларускага грамадства, якая выказвалася за невыкарыстанне смяротнага пакарання ў дачыненні да Кавалёва і Канавалава. Безумоўна, менавіта ў абавязкі дзяржавы ўваходзіць выхаванне грамадства і набліжэнне яго да агульных прынцыпаў гуманізму, як гэта прынята ў Еўропе. Дзяржава не павінна слепа абапірацца на пазіцыю той часткі грамадства, якая падтрымлівае такі від пакарання, як смяротная кара.

Беларусь павінна падзяляць каштоўнасці, прынятыя ў выключнай большасці краінаў свету.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікае беларускія ўлады не прыводзіць у выкананне прысуд Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь у дачыненні да Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава і неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне ў Беларусі, што будзе расцэньвацца як у краіне, так і ва ўсім свеце, як акт гуманізму з боку ўлады Беларусі.

## Сумесная заява FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» па сітуацыі з Сяргеем Каваленкам

30 сакавіка 2012 г., Парыж-Мінск

Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікаюць улады Беларусі неадкладна спыніць палітычны пераслед Сяргея Каваленкі і забяспечыць яму належную медыцынскую дапамогу.

24 лютага 2012 г. суд Першамайскага раёна г. Віцебска асудзіў апазіцыйнага актывіста Сяргея Каваленку да 2 гадоў і 1 месяца пазбаўлення волі, прызнаўшы яго вінаватым ва ўхіленні ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі.

Нагадаем, што 14 траўня 2010 г. суд Кастрычніцкага раёна г. Віцебска асудзіў Сяргея Каваленку на 3 гады «абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу». Крымінальны пераслед актывіста пачаўся пасля таго, як 7 студзеня 2010 г. ён вывесіў беларускі бел-чырвона-белы сцяг, альтэрнатыўны афіцыйнаму, на верхавіне галоўнай навагодняй елкі ў г. Віцебску. Пры затрыманні супрацоўнікамі міліцыі Каваленка быў сур’ёзна збіты і пазней абвінавачаны па ч. 1 арт. 339 КК («наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак») і ч. 2 арт. 363 («гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні супрацоўніка праваахоўных органаў пры выкананні ім службовых абавязкаў»).

Публічная дэманстрацыя і вывешванне Каваленкам сцяга ні ў якім разе не можа кваліфікавацца як хуліганскія дзеянні; яны з’яўляюцца грамадска-палітычнай акцыяй, не носяць «характару асаблівага цынізму і відавочнай непавагі да грамадства» і не мелі гэтага на мэце.

Паўторнае прыцягненне Сяргея Каваленкі да крымінальнай адказнасці за нібыта ўхіленне ад адбыцця пакарання — непрыхаваны працяг палітычных рэпрэсій у дачыненні да яго і спроба далейшай ізаляцыі актывіста апазіцыйнай партыі.

З моманту арышту Сяргей Каваленка абвясціў галадоўку, якая з перапынкамі працягваецца з 19 снежня 2011 г. Асаблівую занепакоенасць FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» выклікае тое, што медыцынская дапамога Сяргею Каваленку аказваецца ва ўмовах пенітэнцыярнай установы. 26 сакавіка 2012 г. Сяргей Каваленка быў адпраўлены ў псіхіятрычнае аддзяленне на тэрыторыі выпраўленчай калоніі «Віцьба-3». Стан яго здароўя, па атрыманай інфармацыі, крытычны. У гэтых умовах FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказваюць апасенне за яго жыццё, а таксама сур’ёзную занепакоенасць магчымым ужываннем да яго прымусовага псіхіятрычнага лячэння.

FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікаюць беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць Сяргея Каваленку, спыніць яго крымінальны пераслед і забяспечыць яму неабходную і неадкладную медыцынскую дапамогу ў кваліфікаванай медыцынскай установе адкрытага тыпу.

Адказнасць за жыццё і здароўе Сяргея Каваленкі цалкам ляжыць на кіраўніцтве Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, у распараджэнні якога ён зараз знаходзіцца.

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе спынення крымінальнага пераследу Васіля Парфянкова

23.04.2012, Мінск

19 красавіка Першамайскі раённы аддзел Следчага камітэта г. Мінска паведаміў былому палітвязню Васілю Парфянкову пра ўзбуджэнне супраць яго крымінальнай справы за парушэнні ўмоваў прафілактычнага нагляду, устаноўленага судом Першамайскага раёна Мінска ў адносінах да актывіста 5 студзеня 2012 года тэрмінам на адзін год.

Васіль Парфянкоў у лютым 2011 года быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ («удзел у масавых беспарадках») за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж года — памілаваны згодна з указам прэзідэнта. Пасля ўдзелу ў акцыі салідарнасці з палітвязнямі 19 снежня 2011 года быў арыштаваны на 12 сутак, пасля чаго за ім быў устаноўлены прэвентыўны нагляд.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» лічыць крымінальны пераслед Васіля Парфянкова выключна палітычна матываваным, звязаным з імкненнем уладаў спыніць ягоную актыўнасць, а таксама з жаданнем застрашыць іншых палітычных і грамадскіх актывістаў напярэдадні парламенцкіх выбараў. Гэта пацвярджаецца ўстанаўленнем прэвентыўнага нагляду ў адносінах да яшчэ двух былых палітвязняў — Уладзіміра Яроменкі і Паўла Вінаградава.

Васілю Парфянкову пагражае да года пазбаўлення волі, і ў выпадку развіцця справы ў гэтым накірунку Васіль Парфянкоў будзе бясспрэчна прызнаны новым палітычным вязнем.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе:

— неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх палітычных вязняў, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі;

— спынення крымінальнага пераследу ў дачыненні да Васіля Парфянкова;

— зняцця (пагашэння) судзімасці з усіх незаконна асуджаных па падзеях 19 снежня 2010 года, што будзе расцэнена як крок да іх рэабілітацыі і дазволіць такім асобам працягнуць сваю палітычную дзейнасць, у тым ліку — балатавацца ў якасці кандыдатаў на выбарах усіх узроўняў.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды крымінальнага прысуду Васілю Парфянкову

29.05.2012, Мінск

29 траўня судом Першамайскага раёна Мінска грамадскі актывіст Васіль Парфянкоў быў асуджаны на 6 месяцаў арышту па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь («парушэнне ўмоў прафілактычнага нагляду, устаноўленага судом»).

Васіль Парфянкоў у лютым 2011 года быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ («удзел у масавых беспарадках») за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж года — памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

Пасля свайго вызваленьня Васіль Парфянкоў працягваў грамадскую дзейнасць і неаданаразова затрымліваўся за ўдзел у акцыях у падтрымку беларускіх палітвязняў, якія застаюцца за кратамі.

Сённяшні прысуд цалкам звязаны з папярэднім пераследам Васіля Парфянкова і разглядаецца намі як далейшы ціск уладаў на актывістаў, што былі асуджаны па выніках падзей 19 снежня 2010 г., а таксама як спроба запалохвання актыўнай часткі беларускага грамадства.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» з засцярогай і занепакоенасцю адзначае, што прэвентыўны нагляд таксама ўстаноўлены над моладзевымі актывістамі Уладзімірам Яроменкам і Паўлам Вінаградавым, што можа ў далейшым пацягнуць за сабой крымінальную адказнасць за фармальнае парушэнне ўмоў адбыцця прэвентыўнага нагляду.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае прысуд Васілю Парфянкову цалкам палітычна матываваным, а самога Васіля палітычным вязнем з моманту пачатку адбыцця пакарання.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» рашуча патрабуе:

— спынення палітычнага пераследу ўсіх грамадскіх актывістаў;

— неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных вязняў;

— зняцця (пагашэння) судзімасці з усіх незаконна асуджаных па падзеях 19 снежня 2010 года, што будзе расцэнена як крок да іх рэабілітацыі

і дазволіць такім асобам працягнуць сваю грамадскую і палітычную дзейнасць.

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе спыніць незаконныя адміністрацыйныя арышты грамадскіх актывістаў

30.05.2012, Мінск

Праваабарончы цэнтр «Вясна» асуджае незаконнае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе арыштаў моладзевых актывістаў Мускага Міхаіла, Крэменецкага Дзмітрыя, Васільева Рамана, Дземідзенкі Мікалая, Вінаградава Паўла, а таксама праваабаронцу Алега Волчака.

Канстатуем, што ў Беларусі ўкаранілася ганебная практыка прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе адміністрацыйнага арышту грамадскіх актывістаў.

Мы заяўляем, што сістэматычнае асуджэнне грамадскіх дзеячоў на падставе сфальсіфікаваных матэрыялаў аб адміністрацыйным правапарушэнні за дробнае хуліганства з’яўляецца злачыннай формай адвольных затрыманняў. Прыкра, што ў гэты незаконны пераслед уцягнуты не толькі органы ўнутраных спраў, але і суды, якія выносяць прысуды на падставе непраўдзівых матэрыялаў.

Так, Мускі Міхаіл, Крэмянецкі Дзмітрый, Дземідзенка Мікалай агулам толькі за вясну 2012 г. незаконна былі асуджаны на 37 сутак адміністрацыйнага арышту, а Павел Вінаградаў і Алег Волчак двойчы асуджаліся на падставе сфальсіфікаваных супрацоўнікамі міліцыі матэрыялаў.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» лічыць, што ўсе ўзгаданыя асобы незаконна і неаднаразова пазбаўляліся волі на працяглы тэрмін, і таму могуць на перыяд свайго затрымання лічыцца палітычнымі вязнямі. Іх пераслед носіць выключна палітычны характар і звязаны з іх грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» настойліва патрабуе:

— неадкладнага спынення практыкі адміністрацыйнага пераследу і незаконага асуджэння грамадскіх актывістаў па сфальсіфікаваных абвінавачваннях;

— прыцягнення да адказнасці ўсіх вінаватых службовых асоб у незаконных асуджэннях;

— кампенсацыі страты здароўя і маральных пакутаў усім незаконна асуджаным.

## У Беларусі новы палітвязень — журналіст Андрэй Пачобут. Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна»

22.06.2012, Мінск

Праваабарончы цэнтр «Вясна» рашуча асуджае арышт і абвінавачанне ў паклёпе на прэзідэнта журналіста Андрэя Пачобута, расцэньваючы гэта як палітычна-матываваны пераслед за прафесійную дзейнасць і выказванне меркавання. Мы лічым Андрэя Пачобута новым палітычным зняволеным і патрабуем ягонага неадкладнага і безумоўнага вызвалення.

21 чэрвеня 2012 г. у г. Гродна быў затрыманы і ўзяты пад варту журналіст Андрэй Пачобут. Падставай для арышту журналіста стала крымінальная справа па ч. 2 арт. 367 КК Рэспублікі Беларусь («паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»), узбуджаная Следчым камітэтам па Гродненскай вобласці згодна з матэрыяламі праверкі, праведзенай абласным упраўленнем КДБ. Па выніках праверкі ўпраўленне КДБ зрабіла выснову, што ў шэрагу публікацый Андрэя Пачобута на некаторых інтэрнэт-рэсурсах утрымліваюцца «паклёпніцкія выказванні адносна А. Лукашэнкі».

У адпаведнасці з санкцыяй часткі 2 артыкула 367 КК, Андрэю Пачобуту пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Андрэй Пачобут на дадзены момант адбывае пакаранне ў выглядзе 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады згодна з прысудам, вынесеным 5 ліпеня 2011 года судом Ленінскага раёна Гродна за «паклёп у адносінах да прэзідэнта» (частка 1 артыкула 367 Крымінальнага кодэкса).

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае пераслед Андрэя Пачобута як расправу над журналістам за ягоную прафесійную дзейнасць, а таксама дэманстратыўную пагрозу для ўсёй журналісцкай супольнасці напярэдадні правядзення парламенцкіх выбараў. Мы з трывогай адзначаем, што дадзены рэпрэсіўны крок успрымаецца як адназначны сігнал усім грамадска-палітычным суб’ектам, якія падчас выбарчай кампаніі могуць выступаць з крытыкай існуючай улады.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» настойвае на адмене дыфамацыйных артыкулаў у Крымінальным кодэксе, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за паклёп, абразу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншых службовых асоб, дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. Мы глыбока перакананы, што дадзеныя артыкулы знішчаюць свабоду выказвання меркавання, гарантаваную Канстытуцыяй, а таксама выкарыстоўваюцца выключна для палітычна-матываванага пераследу іншадумцаў.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе:

Спыніць крымінальны пераслед у дачыненні да Андрэя Пачобута і неадкладна вызваліць яго з-пад варты.

Неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітзняволеных, якія знаходзяцца пад вартай ці ў месцах пазбаўлння волі.

Прывесці заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне свабоды выказвання меркавання.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў сувязі з пагрозай новага крымінальнага пераследу Дзмітрыя Дашкевіча

17 ліпеня 2012 г., Мінск

Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Дзмітрыя Дашкевіча

Як стала вядома Праваабарончаму цэнтру «Вясна», адміністрацыя папраўчай калоніі № 13 г. Глыбокае, у якой зараз адбывае пакаранне Дзмітрый Дашкевіч, перадала матэрыялы ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь для правядзення праверкі на прадмет магчымага ўзбуджэння крымінальнай справы па ч.1 арт. 411 КК Рэспублікі Беларусь («злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы»). З моманту асуджэння ў сакавіку 2011 г. Дзмітрый Дашкевіч неаднаразова падвяргаўся ціску з боку адміністрацый папраўчых устаноў, у якіх ён адбываў пакаранне: накіроўваўся на працяглыя тэрміны ў штрафны ізалятар і памяшканне камернага тыпу. Дзмітрыю Дашкевічу пагражае да аднаго года пазбаўлення волі.

Дзмітрый Дашкевіч быў узяты пад варту 18 снежня 2010 г. і асуджаны 24 сакавіка 2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Мінска па ч. 2 арт. 339 КК («злоснае хуліганства») да двух гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае асуджэнне Дзмітрыя Дашкевіча як палітычна матываванае. Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала Зміцера Дашкевіча вязнем сумлення.

Варта нагадаць, што ў 2006 г. ён быў асуджаны па арт. 193.1 КК («арганізацыя дзейнасці аб'яднання, фонда ці рэлігійнай арганізацыі, якая не прайшла дзяржаўную рэгістрацыю, ці ўдзел у ёй») да аднаго года і шасці месяцаў пазбаўлення волі. Падчас адбыцця пакарання ў папраўчай калоніі г. Шклова Дзмітрый Дашкевіч быў паўторна прыцягнуты да крымінальнай адказнасці па арт. 402 КК Рэспублікі Беларусь («адмова ці ўхіленне сведкі ад дачы паказанняў») і асуджаны да штрафу ў памеры 60 базавых адзінак. Суд

быў закрытым і праходзіў на тэрыторыі папраўчай установы. Гэтыя працэсы былі расцэненыя беларускай і міжнароднай праваабарончай супольнасцю як палітычна матываваныя.

У сувязі з пагрозай новага крымінальнага пераследу Дзмітрыя Дашкевіча Праваабарончы цэнтр «Вясна» звяртаецца да беларускай і міжнароднай праваабарончай супольнасці з заклікам распачаць кампаніі салідарнасці з Дзмітрыем Дашкевічам, выказвае свой пратэст і ў чарговы раз патрабуе ад уладаў Беларусі:

Спыніць пераслед і ціск на асуджанага Дзмітрыя Дашкевіча, у тым ліку спробы далейшай яго ізаляцыі праз выкарыстанне арт. 411 КК Рэспублікі Беларусь.

Неадкладна і безумоўна вызваліць вязня сумлення і прыняць захады па яго рэабілітацыі.

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе вызвалення Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава

24 ліпеня 2012 г., Мінск

6 ліпеня 2012 года быў затрыманы і ўзяты пад варту ў СІЗА КДБ Сяргей Башарымаў, а 13 ліпеня 2012 года — фатограф Антон Сурапін. 16 і 23 ліпеня адпаведна ім было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 3 арт. 371 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь». Такім чынам КДБ Беларусі расцаніла размяшчэнне Антонам Сурапіным фотаздымкаў меркаванага палёту шведскага самалёта ў беларускай паветранай прасторы. Яшчэ больш абсурднымі выглядаюць абвінавачанні Сяргея Башарымава, які здаваў у арэнду кватэру грамадзянам Швецыі, у спрыянні пераходу дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Варта адзначыць, што арышты Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава адбываюцца на фоне заяў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, якія не пацвярджаюць сам факт перасячэння дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае затрыманне і ўзяцце пад варту грамадзянаў Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава як эскалацыю страху ў грамадстве і спробу перакласці адказнасць за неналежную ахову дзяржаўнай мяжы і паветранай прасторы краіны на звычайных грамадзян.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» адзначае, што расследванне крымінальнай справы ў дачыненні да Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава

вядзецца КДБ Рэспублікі Беларусь у атмасферы поўнай інфармацыйнай ізаляцыі беларускага грамадства: не паведамляецца пра прычыны затрымання ўказаных грамадзян, характар і аб'ём прад'яўлення такіх сур'ёзных абвінавачанняў. Акрамя таго, варта адзначыць, што метады вядзення следства па падзеях 19 снежня 2010 года следчымі КДБ, факты выкарыстання катаванняў у дачыненні да асоб, якія ўтрымліваліся пад вартай у СІЗА КДБ, выклікаюць сур'ёзную занепакоенасць лёсамі гэтых маладых людзей.

У сувязі з гэтым Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуе:

Змянення меры стрымання ў дачыненні да Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава і вызвалення іх з-пад варты з СІЗА КГБ.

Няўхільнага выканання ўсіх гарантый, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, у тым ліку права на абарону і свабоду ад катаванняў і іншых бесчалавечых метадаў абыходжання.

Публічных растлумачэнняў наконт таго, што паслужыла падставай для прад'яўлення абвінавачання Антону Сурапіну і Сяргею Башарымаву.

## Сумесны зварот беларускіх праваабаронцаў на імя Генеральнага пракурора і Старшыні Вярхоўнага суда адносна незаконных прэвентыўных затрыманняў грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў моладзевых апазіцыйных груп

26.07.2012, Мінск

Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь
А.У. Канюку
220030, Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 22
Старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь
В.А. Сукалу
220030, Мінск, вул. Леніна, 28

**ЗВАРОТ**

Мы, беларускія праваабаронцы, звяртаемся да Вас як кіраўнікоў дзяржаўных органаў, да кампетэнцыі якіх адносяцца функцыі нагляду за станам законнасці ў краіне і законнасцю прынятых судовых рашэнняў.

У апошні час у Беларусі рэгулярна напярэдадні масавых мерапрыемстваў ці прыезду высокапастаўленых афіцыйных асобаў замежных дзяржаў адбываюцца незаконныя затрыманні грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў

моладзевых апазіцыйных груп. Звычайна іх абвінавачваюць у дробным хуліганстве, потым на падставе сведчанняў супрацоўнікаў міліцыі суды караюць іх адміністрацыйнымі арыштамі. Відавочна, такія метады выкарыстоўваюцца для прэвентыўнага ізалявання актывістаў на час пэўных грамадска-палітычных падзеяў.

Так, перад прыездам Уладзіміра Пуціна ў Мінск (31.05.2012 г.) трапілі пад адміністрацыйны арышт Амельчанка Іван, Васільеў Раман, Крэмянецкі Дзмітрый, Яроменак Уладзімір, Дземідзенка Мікалай. Перад дзяржаўным святам Днём незалежнасці (03.07.2012 г.) — Васількоў Віталь, Амельчанка Іван, Вінаградаў Павел, Арцыбашаў Аляксандр. Перад прыездам Дзмітрыя Мядзведзева (18.07.2012 г.) — Галіцкая Кацярына, Васільеў Раман, Яроменак Уладзімір, Амельчанка Іван, Ажароўскі Андрэй, Новікава Таццяна, Сухій Ірына, Мацкевіч Міхаіл.

Практыка затрыманняў, якія груба парушаюць правы грамадзян Беларусі, гарантаваныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі абавязацельствамі нашай краіны ў галіне правоў чалавека, набыла сістэмны характар і павінна кваліфікавацца як адвольныя затрыманні. Гэтыя дзеянні ідуць насуперак прынцыпам прававой дзяржавы, уцягваюць супрацоўнікаў міліцыі і суддзяў ва ўдзел у палітычным пераследзе грамадзян.

Просім сустрэчы з Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь, Старшынёй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь з мэтай абмеркавання сітуацыі і спынення незаконай практыкі і прыцягнення вінаватых да адказнасці.

Алег Гулак, старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта

Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна»

Іна Кулей, старшыня Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць»

Алена Танкачова, старшыня Цэнтра прававой трансфармацыі

Раіса Міхайлоўская, старшыня Цэнтра па правах чалавека

## ДАДАТАК

На працягу першай паловы 2012 г. да адміністрацыйнай адказнасці па артыкуле 17.1 КаАП «дробнае хуліганства» прыцягваліся наступныя асобы:

Іван Амельчанка: адміністрацыйныя арышты 15.05.2012, суд Ленінскага раёна г.Мінска; 25.05.2012 — суд Маскоўскага раёна г.Мінска (без вызвалення з ізалятара); 26.06.2012, 17.07.2012 — суд Ленінскага раёна г. Мінска;

Павел Вінаградаў: адміністрацыйныя арышты 30.12.2011, 21.02.2012, 02.03.2012 — суд Маскоўскага раёна г.Мінска; 24.04.2012 г. — суд Савецкага раёна г. Мінска; 21.06.2012 — суд Цэнтральнага раёна г. Мінска;

Раман Васільеў: адміністрацыйныя арышты 21.02.2012 — суд Віцебскага раёна; 26.04.2012 — суд Савецкага раёна г.Мінска; 14.05.2012 — суд Цэнтральнага раёна г. Мінска; 26.05.2012 — суд Маскоўскага раёна г. Мінска; 17.07.2012 — суд Кастрычніцкага раёна г.Мінска;

Уладзімір Яроменак: адміністрацыйныя арышты 21.02.2012 — суд Віцебскага раёна; 27.04.2012 — суд Савецкага раёна г. Мінска; 16.05.2012 — суд Фрунзенскага раёна г. Мінска; 23.05.2012 — суд Маскоўскага раёна г. Мінска; 17.07.2012 — суд Кастрычніцкага раёна г. Мінска;

Мікалай Дземідзенка: адміністрацыйныя арышты 26.04.2012 — суд Савецкага раёна г.Мінска; 14.05.2012 — суд Цэнтральнага раёна г. Мінска;

Міхаіл Мускі: адміністрацыйныя арышты 21.02.2012 — суд Віцебскага раёна; 07.04.2012 г. — суд Ленінскага раёна г. Мінска; 26.04.2012 — суд Савецкага раёна г. Мінска; 11.05.2012 — суд Маскоўскага раёна г. Мінска;

Павел Сяргей: адміністрацыйныя арышты 16.05.2012, 21.04.2012¬ — суд Фрунзенскага раёна г. Мінска;

Дзмітрый Крэмянецкі: адміністрацыйныя арышты 21.02.2012 — суд Віцебскага раёна; 07.04.2012 — суд Ленінскага раёна г. Мінска; 27.04.2012 — суд Савецкага раёна г. Мінска; 14.05.2012 — суд Цэнтральнага раёна г. Мінска; 24.05.2012 — суд Маскоўскага раёна г. Мінска;

Кацярына Галіцкая: адміністрацыйны арышт 17.07.2012 — суд Маскоўскага раёна г. Мінска;

Віталь Васількоў: адміністрацыйны арышт 30.06.2012 — суд Фрунзенскага раёна г.Мінска.

Андрэй Ажароўскі: адміністрацыйны арышт 18.07.2012 г. — суд Маскоўскага раёна г. Мінска;

Таццяна Новікава: адміністрацыйны арышт 18.07.2012 г. — суд Маскоўскага раёна г. Мінска;

Ірына Сухій: штраф 18.07.2012 г. — суд Цэнтральнага раёна г. Мінска;

Міхаіл Мацкевіч: адміністрацыйны арышт 18.07.2012 г. — суд Цэнтральнага раёна г. Мінска.

## Петыцыя супраць зняволення старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага і ўсіх беларускіх палітвязняў

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку
220016, г.Мінск, вул. К. Маркса, 38
Рэспубліка Беларусь

Петыцыя

4 жніўня 2011 г. быў арыштаваны, а затым пазбаўлены волі на чатыры з паловай гады вядомы ў Беларусі і па-за яе межамі праваабаронца Алесь Бяляцкі — віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH), старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна».

Мы лічым асуджэнне праваабаронцы незаконным, звязаным з яго праваабарончай дзейнасцю. Арышт Алеся стаў вынікам шматгадовай, мэтанакіраванай палітыкі беларускіх уладаў у дачыненні да праваабарончых і грамадскіх арганізацый краіны: пазбаўлення ў судовым парадку дзяржаўнай рэгістрацыі, стварэння перашкодаў, у тым ліку на заканадаўчым узроўні, у рэгістрацыі НДА, наяўнасці крымінальнай адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраваных арганізацый, фактычнай забароны і крыміналізацыі замежнай фінансавай дапамогі.

Мы, прадстаўнікі беларускай і міжнароднай супольнасці, патрабуем ад уладаў Беларусі неадкладнага і безумоўнага вызвалення віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, а таксама ўсіх вязняў сумлення, якія дагэтуль знаходзяцца ў турмах Беларусі.

Мы патрабуем ад уладаў Беларусі спыніць ціск і пераслед прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці краіны і праваабаронцаў, а таксама прывесці заканадаўства Беларусі ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне абароны правоў чалавека.

## FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» асуджаюць прысуд, вынесены Дзмітрыю Дашкевічу

31 жніўня 2012 г., Парыж-Мінск

FIDH і яе арганізацыя-партнёр у Беларусі — Праваабарончы цэнтр «Вясна» асуджаюць прысуд, вынесены 28 жніўня Дзмітрыю Дашкевічу,

лідару грамадска-палітычнай арганізацыі «Малады Фронт». Дашкевіч асуджаны за «паўторнае парушэнне патрабаванняў адміністрацыі калоніі» да яшчэ аднаго года зняволення.

Раней, 24 сакавіка 2011 Дзмітрый Дашкевіч быў асуджаны да двух гадоў зняволення паводле абвінавачання ў здзяйсненні злоснага хуліганства напярэдадні дня апошніх прэзідэнцкіх выбараў —18 снежня 2010 года. За час вядзення следства і адбыцця пакарання ён двойчы пераводзіўся ў розныя следчыя ізалятары і чатыры разы — у розныя калоніі. Апошнія месяцы свайго зняволення ён адбываў у папраўчай калоніі № 13 у Глыбокім (Віцебская вобласць). Яго павінны былі вызваліць 18 снежня 2012 года. Па новым прысудзе Дашкевіч можа не выйсці на свабоду да 28 жніўня 2013 года.

Падчас турэмнага зняволення Дашкевіч неаднаразова падвяргаўся фізічнаму і псіхалагічнага ціску ў папраўчых установах, дзе ён знаходзіўся. Паводле атрыманай інфармацыі, яго таксама неаднаразова змяшчалі ў карцар на працяглыя тэрміны, ён перажыў некалькі неапраўданых цяжкіх этапаў і атрымліваў пагрозы фізічнай расправы, пры гэтым яго права на сустрэчы з сям'ёй было незаконна абмежавана.

«Прысуд і новае пазбаўленне волі Дашкевіча да заканчэння тэрміну папярэдняга зняволення — яшчэ адзін сродак у рэпрэсіўным арсенале беларускіх уладаў, — заявіла Суэр Белхасен, прэзідэнт FIDH. — Пераслед, якому ён падвяргаецца, выразна палітычнага характару і супярэчыць міжнародным абавязацельствам Беларусі, у прыватнасці, па недапушчэнні жорсткага і бесчалавечнага абыходжання або пакарання».

«Мы сур'ёзна занепакоеныя станам здароўя Дзмітрыя Дашкевіча і яго ўмовамі ўтрымання», — падкрэсліў Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні ПЦ «Вясна».

FIDH і «Вясна» заклікаюць беларускія ўлады пакласці канец усім відам ціску на Дашкевіча, неадкладна і безумоўна вызваліць яго, а таксама іншых палітычных зняволеных у Беларусі.

## Сумесная заява FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды пагаршэння ўмоў зняволення грамадскага актывіста Дзмітрыя Дашкевіча

1 лістапада 2012 г., Парыж-Мінск

FIDH і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі Праваабарончы цэнтр «Вясна» асуджаюць рашэнне суда Мазырскага раёна аб прымяненні карнага зняволення супраць лідара грамадска-палітычнай арганізацыі «Малады

Фронт» Дзмітрыя Дашкевіча на працягу ўсяго тэрміна ягонага прысуду. Такі від зняволення прадугледжвае адпраўку Дашкевіча ў турму з яшчэ больш жорсткімі ўмовамі, чым у папраўчых калоніях, у тым ліку кругласутачнае знаходжанне ў камеры.

Суд прыняў такое рашэнне, сцвярджаючы, што сп. Дашкевіч парушыў правілы ўнутранага распарадку Мазырскай калоніі, што зрабіла яго «злосным парушальнікам». На дадзеным момант яго месцазнаходжанне невядома, назва новай турмы не раскрываецца.

Дзмітрый Дашкевіч быў першапачаткова асуджаны 24 сакавіка 2011 года да двух гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў «злосным хуліганстве», нібыта ўчыненым напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года. 28 жніўня 2011 года суд Глыбоцкага раёна правёў выязное пасяджэнне ў папраўчай калоніі № 13 у г. Глыбокае і прызнаў грамадскага актывіста вінаватым у неаднаразовым «непадпарадкаванні адміністрацыі калоніі» (частка 1 артыкула 411 Крымінальнага кодэкса). Да тэрміна сп. Дашкевіча быў дададзены яшчэ адзін год, у выніку чаго ён, верагодна, застанецца ў турме да 28 жніўня 2013 года.

FIDH і ПЦ «Вясна» лічаць, што гэтыя рашэнні з'яўляюцца часткай агульнай рэпрэсіўнай тэндэнцыі ў Беларусі. Яны таксама лічаць, што гэта яшчэ адзін эпізод пераследу ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці, накіраваны на прыгнечанне апанентаў рэжыму і прымяненне супраць іх усё большага ціску. Рашэнне суда Мазырскага раёна давяло агульную колькасць палітычных зняволеных, якія адбываюць зняволенне ў турмах з вельмі цяжкімі і рэпрэсіўнымі ўмовамі, да чатырох.

FIDH і ПЦ «Вясна» заклікаюць беларускія ўлады спыніць пераслед супраць сп. Дашкевіча і неадкладна і безумоўна вызваліць яго, як і ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі.

## Заява Праваабарончага цэнтра «Вясна» з нагоды гадавіны зняволення кіраўніка Алеся Бяляцкага і канфіскацыі офіса арганізацыі

26 лістапада 2012 г., Мінск

Зняволенне кіраўніка арганізацыі Алеся Бяляцкага і канфіскацыя офіса не спыняць дзейнасць Праваабарончага цэнтра «Вясна».

24 лістапада — роўна год, як быў вынесены прысуд кіраўніку Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму, асуджанаму на 4,5 гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці па абвінавачанні ва ўхіленні ад уплаты падаткаў, а па сутнасці — за атрыманне фінансавых сродкаў для

дзейнасці арганізацыі. Дадзены прысуд мы адназначна расцэньваем як расправу над вядомейшым беларускім праваабаронцам і спробу спыніць дзейнасць Праваабарончага цэнтра «Вясна». У гэтым жа рэчышчы мы разглядаем канфіскацыю памяшкання, дзе на працягу апошніх 12 гадоў месціўся цэнтральны офіс нашай арганізацыі (г. Мінск, пр. Незалежнасці 78а-48).

За час існавання офіса Праваабарончага цэнтра «Вясна» яго наведалі тысячы грамадзян, якім аказвалася прававая дапамога, збіраліся сродкі для падтрымкі рэпрэсаваных, праводзіліся прэс-канферэнцыі, сустрэчы, трэнінгі і семінары. Мы заўсёды ажыццяўлялі сваю дзейнасць адкрыта, нягледзячы на адсутнасць рэгістрацыі арганізацыі з 2003 года і звязаную з гэтым пагрозу пераследу.

У сваёй дзейнасці Праваабарончы цэнтр «Вясна» заўсёды кіраваўся міжнароднымі стандартамі ў галіне абароны правоў чалавека, палажэннямі Дэкларацыі «Аб праве і абавязку асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды» (Дэкларацыі аб праваабаронцах), зацверджанай Генеральнай Асамблеяй ААН, якая гранатуе права як самастойна, так і групе асоб бараніць правы чалавека, а таксама знаходзіць рэсурсы для такой дзейнасці.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заяўляе:

Зняволенне праваабаронцы Алеся Бяляцкага і наяўнасць палітвязняў — індыкатар крытычна кепскай сітуацыі з правамі чалавека ў краіне.

Рэпрэсіі супраць кіраўніка і сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна», а таксама канфіскацыя маёмасці не спыняць нашу працу, мы не згорнем ніводнага з напрамкаў легітымнай дзейнасці арганізацыі па абароне правоў чалавека.

Усе ахвяры парушэнняў правоў чалавека па-ранейшаму могуць разлічваць на нашу дапамогу і падтрымку.

Мы працягнем адстойваць каштоўнасці правоў чалавека, змагацца за іх выкананне беларускімі ўладамі, інфармаваць беларускае грамадства і міжнародную супольнасць аб рэальным стане з правамі чалавека ў Беларусі.